# ТЭРМАПІЛЫ

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 13** Беласток **2009**

## ЗМЕСТ

Рэдактар
**ЯН ЧЫКВІН**

**Анатоль Кудравец**

# СТАРОНКІ ПАМЯЦІ

Кіламетрах у шасці ад мяжы Клічаўскага і Бярэзінскага раёнаў, на клічаўскім баку, сярод балатоў і разналесся, ёсць невялікая вёска Аколіца. Мая родная вёска. Напісаў "ёсць" і нібы спатыкнуўся: хаця і сёння там жывуць людзі, праўда, засталося іх няшмат, можа, толькі ў пяці ці шасці хатах. Напісаў "невялікая" і зноў запнуўся: не такая ўжо і невялікая – у лепшыя свае часы налічвала сто сорак двароў, сабраных у пяць пасёлкаў: Малахоўшчына, Чырвоны Лес, Гіжгайлаў і сама Аколіца, так званы "Цэнтар", – два меншыя пасёлкі, адзін загнутым крукам упіраўся ў зараснікі лазы і бярэзніку, якія да самага лета плавалі ў вадзе, другі прамы, па цэнтры паміж "крукам" і Малахоўшчынай. "Цэнтрам" ён зваўся таму, што тут размяшчалася праўленне калгаса "Чырвоны прамень", у які ўваходзілі ўсе пяць пасёлкаў.

Наша хата была ў "Цэнтры", пасярод пасёлка. Перад хатай яблыня-пепінка, два кусты смуродзіны, за хатай сад, у асноўным антонаўкі, па другі бок, насупраць вокнаў – двор-агарод, некалькі грушаў-гнілак і маладых яблыняў. Тата пасадзіў іх перад самай вайной. У нейкую снежную зіму, калі гурбы былі вышэй платоў і на санях ездзілі хто дзе хацеў, нехта заблудзіўся ў агарод і палазамі зрэзаў вяршыню адной яблынькі. Дрэўца не прапала, так і расло скалечанае, але вырасла ў сапраўднае дрэва.

Сказаў "балатоў" – і праўда: у які бок ні пойдзеш з Аколіцы – хоць у Коўбчу, ці ў Рэпішча, ці ў Анатолеўку, нават у Максімавічы – трэба прайсці цераз балота, дзе большае, дзе меншае.

Дарога праз Анатолеўскае балота цягнулася метраў на сто, а можа, трохі болей. Але якія гэта былі метры! Адразу пасля вайны бацька працаваў у Клічаве дарожным майстрам – правіў дарогі. Спярша да Бабруйска, а потым на іншых участках. Восень, дажджы, гібласць. Каня, якога яму перадалі партызаны і якога ён падкарміў, забралі ў рэквізіцыю. Узамен пакінулі бяздарную слабенькую кабылку. Аднойчы ён ехаў на ёй з Клічава. У Анатолеўскім балоце яна лягла. Цяпер ужо ён падлазіў пад яе, гаварыў: што ты робіш? Ты губіш сябе і мужыка. Выцягнуў яе на сабе з багны.

І калі ён дабраўся да Аколіцы, а да яе было яшчэ кіламегры два, кінуў кабыле

нейкага сена, у самога ўжо не было сілы. Але яе хапіла, каб сарваць са сцяны стрэльбу і адправіць маму ноччу шукаць па сяле хлеба. У хаце не было нічога, што можна было б з'есці.

І мама пайшла, і прынесла хлеба...

"Разналессе" – зноў жа праўда. За балотам – ці густы хмуры ельнік, ці неспакойны ад шпачына-галчынага граю асіннік, – дзе старыя асіны, там дуплы, а дуплы – гатовае гняздоўе, або калі ісці на Курганок, светлы звонкі сасоннік.

Месца для сяла было выбрана, можа, і не надта прыдатнае, балоцістае, з невялікімі выспамі вышэйшай і сушэйшай зямлі, на якой людзі будаваліся і сеяліся, усё болей пашыраючы прастору свайго ўладарання.

Словы "сярод балатоў і разналесся" мелі свой сапраўдны сэнс на пачатку дваццатага стагоддзя, калі зарадзілася і пачала збірацца ў кучу і забудоўвацца вёска. Пік забудовы прыйшоўся на трыццатыя гады, пару калектывізацыі і адразу пасля яе, калі людзей зганялі з хутароў, заснаваных і абжытых яшчэ з пары сталыпінскай зямельнай рэформы. Якраз тады ўзнік і прышчапіўся парадыйны лозунг: "Калгас – справа добраахвотная". Ні ў кога не пыталіся, хочаш – не хочаш: або пераязджай добраахвотна і табе дапамогуць падводамі і мужчынскай сілай, а не – прыедуць мясцовыя дабрахоты з раённымі ўпаўнаважанымі, сцягнуць страху на зямлю, пакінуўшы хату голай пад выскім небам, і рабі што хочаш. Сам паедзеш, як міленькі.

Чаму назвалі вёску Аколіца? Відаць, таму што шукаць назву далёка не трэба было. Ледзь не ў кожным раёне Беларусі ёсць вёскі з такой назвай. Праўда, у дадзеным выпадку была і свая логіка: вёска была ўбаку ад важных жыццёвых магістраляў, хаця і каля іх, недзе пасярод трохкутніка, створанага гарадамі Мінск – Магілёў – Бабруйск.

Яшчэ на памяці сённяшніх старэйшых людзей раскарчоўвалі дзялянкі ў лесе на вышэйшых мясцінах, каб сеяць проса і каноплі, а каля самых хат і па вуліцах узвышаліся шырокія, як сталы, пні некалі магутных дубоў і ялін.

На пачатку дваццатага стагоддзя ў месцах, дзе перад калектывізацыяй і ў калектывізацыю забудуецца Аколіца, былі тры панскія сядзібы – Язерскія, Мажанскія, Карбановічы. Кожная з дамамі, дварамі, у абсадах, нібы ўзятыя ў кальцо старых дрэў, – Язерскія і Карбановічы – ліпаў, Мажанскія – пірамідальных таполяў. Ва ўсіх былі добрыя яблыневыя сады з абавязковым кутком вішанніку. Сады добра цвілі і добра пладаносілі. У кожнага гаспадара – у каго большыя, у каго меншыя – былі лес, лугі, палі, сажалкі. Паўз сядзібы ішла дарога: праз Коўбчу – на Бярэзань і далей Мінск ці Магілёў, праз Анатолеўку, Турчулоў – на Клічаў і далей – Асіповічы, Бабруйск.

Аселі паны ў гэтых мясцінах з часоў Вялікага княства Літоўскага.

Кудраўцы з'явіліся тут пазней. Адно вядома дакладна, што яшчэ за прыгонным часам (1861 г.) нехта з Карбановічаў выкупіў у падмаскоўнага памешчыка двух братоў Кудрявцевых, прывёз, выдзеліў па некалькі дзесяцінаў прыбалотнай зямлі. Пасяліліся яны недалёка ад пана, паабапал дарогі, што вяла ў Коўбчу, насупраць, можна сказаць, вокны ў вокны.

Як звалі братоў, засталося невядома. З часам Кудрявцевы сталі Кудраўцамі. Відаць, цяжка было мясцовым людзям прамаўляць мудронае нетутэйшае прозвішча. Адзін з братоў быў рослы, другі драбнейшы, меншы, і людзі, каб не блытаць, назвалі аднаго Кудраўцом, другога Кудраўчыкам. Так і пайшлі па ўсёй далейшай лініі паралельна Кудраўцы і Кудраўчыкі, хаця ў дакументах прозвішча заставалася адно – і тыя Кудраўцы, і тыя Кудраўцы.

На аколіцкіх праваслаўна-каталіцкіх могілках у кутку, дзе хавалі Кудраўцоў (Кудраўчыкі займалі свой куток), захаваўся невысокі, пахілены, урослы ў зямлю востразакруглены шэры камень, на якім выбіты два словы: Кудравец Анастасія. Дзядзька Мікола казаў, што гэта камень на магіле ягонай бабкі, а нашай прабабкі. Побач з гэтым каменем яшчэ некалькі гадоў таму стаяў высокі, метры ў тры, абымшэлы дубовы крыж. Зноў жа, дзядзька казаў, што стаяў ён на магіле мужа Анастасіі, нашага прадзеда.

Кудраўцы старэйшага пакалення ўсе сышлі ў магілу, і сёння даведацца што-небудзь новае ці пацвердзіць усё гэта няма каму. Як помню (а гэта, лічы, семдзесят гадоў) крыж заўсёды быў такі шэры, высахлы, абымшэлы, нібыта час не меў улады над ім. Усё-такі знайшоў уладу – нядаўна зваліў.

Па ўсім, апошні пан Карбановіч быў не з ганарыстых, часам запрашаў беднага суседа Хведара на паляванне і нават да сябе ў дом. Здавалася, так будзе заўсёды. Але нечакана здарылася бяда: ці пастухі праспалі, ці так захацелі, але ў згаданы час панскія коні да чарнаты здратавалі дзедаў азімы клін. Дзед пайшоў да пана з прэтэнзіяй, каб той ці сплаціў, ці адмяніў здратаванае поле на сваё засеянае. Відаць, гаворка праходзіла бурна, бо дбайныя служкі вынеслі дзеда з панскіх пакояў на кулаках. Пакачалі так, што той ледзь дабрыў да сваёй хаты. Паляжаў некалькі дзён, пахаркаў кроўю і памёр. Пан Карбановіч прыйшоў развітацца з суседам, пастаяў у галовах ля дамавіны, выдзеліў на жалобны стол бычка са свайго статку. Дзеду Хведару было сорак гадоў. На руках у ягонай удавы Параскі засталося шасцёра: Аўгіння (1901 г), Яўмен (1903), Пятрок (1905), Павел (1907), Паўліна (1909), Мікола (1911). Быў то 1914 год.

Баба Параска была быстрая, рухавая, росту невялічкага, трошкі больш за метр пяцьдзесят, але характар мела дзелавы, актыўны.

Некалькі гадоў малы Павел летам дапамагаў пастухам пана Карбановіча пасвіць свіней, а зімой вучыўся ў школе. Пасля пачатковай школы, аддаўшы

бычка, Параска аддала Паўла вучыцца на шаўца ботаў. У шаўца Павел быў на падхваце: тое падай, тое падрыхтуй – дратву, воск, бярозавае зуб'е... Хаця майстар і не надта кіраваў навукай, маладыя вочы і рукі вучня запаміналі тое, што трэба было ўмець рабіць. Калі праз паўгода майстар ад'ехаў на тыдзень у госці да радні ў Бабруйск, то вярнуўшыся, убачыў свайго вучня ў новых, самім пашытых ботах. Майстар сказаў здзець боты, пакруціў іх у руках, павярцеў, паглядзеў на маладога майстра. "Ну што ж, даражэнькі, бачу: табе няма чаго рабіць у мяне. Што трэба, ты ўмееш. А астатняе – у Божых і тваіх руках".

Малады майстар вярнуўся дамоў. Яму было трошкі болей за трынаццаць. Пятрок працаваў у Бабруйску, неспакойны Яўмен ваяваў у Чырвонай Арміі. Уся гаспадарка была на руках жанчын: мамы Парасکі, дзяўчат Аўгінні і Паўліны. Ды яшчэ малы Міколка.

Чалавек не любіць жыць цесна, яму трэба прастора, і ён адсоўваў лес ад пасёлкаў усё далей і далей, спачатку ўдвух з канём, а пасля ўпрог у гэтую работу машыны. Зараз лес толькі адным вуглом прыпіраецца да сяла – там, дзе пасёлак крукам ныраў у зараснікі і адкуль заўсёды ўзыходзіла сонца.

Праўленне калгаса месцілася ў доме пана Карбановіча – прыземістым, вялізным будынку пакояў на дзесяць, з парадным пад'ездам, упрыгожаным тоўстымі – у добры абхват – пабеленымі дубовымі калонамі-слупамі, на якіх трымаўся дах вынесенага ў бок дарогі ганка. На ўдаленні ад дома былі стайні, кароўнік, ёўня, кузня – усё на высокіх, з вялізных каменняў падмурках. Укруга дома – сад, агароды, сажалкі. Усю забудову, гаспадарку і сад атуляла абсада з высокіх ліпаў, і здалёк сядзіба нагадвала лясісты востраў, які кучаравай галавой узвышаўся над нізіннымі прылеснымі палямі і лазова-альховымі зараснікамі, што ішлі па берагах забалочанай Гарадзечанкі. Гарадзечанка брала пачатак у Язерскім балоце і, папятляўшы паміж пасёлкамі, праз Анатолеўскае балота ўпадала ў Нясяту, тая ў Вольсу, каб вынесці сваю ваду ў Беразіну.

Калі гаварыць пра дзень сённяшні, то лес даўно адступіўся ад вёскі, яго пацiху высеклі, а балоты абязводзілі меліярацыяй. Ды і сама Аколіца абязлюдзела, пабілася на хутары.

Знаходзячыся недалёка ад глухіх Церабольскіх лясоў, Аколіца разам з іншымі вёскамі – Коўбчай, Каўбчанскай Слабодкай, Ганаратавам – стала асноўнай базай клічаўскіх партызанаў у часы Вялікай Айчыннай вайны і была ёю пачынаючы з сорак першага года і да дня вызвалення. Гэта быў партызанскі раён у глыбокім ваенным тыле, і немцы нічога не маглі парабіць з гэтым. Былі часы ў пару блакады, калі Церабольскія лясы давалі прытулак дзесяткам тысячаў партызанаў.

Як птушку да гнязда, як жабу да карча, цягне чалавека ўспомніць сябе малым і перш за ўсё – з чаго ж усё пачыналася, як табе адкрываўся гэты свет.

Самае першае, што засталося ў маёй памяці: лета, акно ад вуліцы вынята, а на падаконніку, на ўсю яго шырыню, ляжыць маснічына – вузейшы канец ля парога, шырэйшы – на падаконніку. Насцілаюць падлогу, дошкі на ўсю даўжыню хаты, і занесці іх усярэдзіну можна толькі праз акно. Сонца збіраецца заходзіць, і чыста адгабляваная залацістая маснічына з магутнай яліны аж іскрыцца пад яго касымі праменнямі. Яліна сапраўды была магутная, на чатыры ці пяць таўстых дошак, якіх, калі іх паклалі адну ля адной, хапіла на добрую трэць падлогі. Пазней, ужо дарослы, я спрабаваў даведацца ў мамы, у якіх гадах, калі гэта было. Яна сказала, што я не магу гэтага помніць: калі слалі падлогу, мне было паўтара года. "Не магу", але ж я помню: лета, сонца збіраецца заходзіць, вынятае акно, а на падаконніку шырачэзная залацістая маснічына...

Помніцца яшчэ такое: вясна, я на падаконніку таго ж акна, уторкнуўшыся носам у шыбіну. Па вуліцы, па яе сярэдзіне, ідзе трактар на жалезным колавым ходу, арэ вуліцу пад дарогу. За ім, як вараннё, бягуць дзеці. Мне таксама хочацца туды да ўсіх, але я не магу: я малы, на дзве трэці акна, у мяне нават штонікаў няма, адно доўгая, ніжэй каленяў, кашуля. Колькі мне – два, тры гады, – не ведаю...

І зноў вясна. Пасля менінгіту я пайшоў на папраўку, і мяне, захутанага ў посцілку, мама вынесла на ганак, пасадзіла ля сцяны. Добра грэе сонца, у небе заліваюцца жаўранкі, ля хлява на дрывотні грабуцца ў трэсках куры з пеўнем. Мне хочацца расхінуць гэтую посцілку і пагнацца за імі, але я вельмі слабы, ногі калоцяцца, і двор мокры. Але жыццё кліча і радуе...

... Восень, дзеці пасвяць коней. У нас кабыла – армія забрала нармальнага каня, а пакінула дурную кабылу з перарэзанымі на нагах жыламі. Паціху з кустоў яна забрыла ў жыта. Разумны чалавек адвярнуў бы... голасам, крыкам. А я – дубцом па нагах, раз, другі. Яна падкінула задам і капытом мне ў лоб... Я і зваліўся. Трохі паляжаў, ачнуўся, убачыў, што на ілбе кроў і на руцэ кроў, і з голасам пайшоў дамоў...

Пачатак вайны ўспамінаецца нечаканасцю, няпэўнасцю. Мужыкі ходзяць па сяле і месца сабе не знаходзяць. То там збяруцца, то там. Шу-шу, шу-шу... Малых хлапцоў не падпускаюць... А тым хочацца ўсё ведаць, усё чуць.

Пасля мужыкі раптам папрападалі. Тут былі, а тут іх не стала. І Санькоў, і Цэдрыкаў, і Ізмераў, і Кудраўцоў. Каго прызваў ваенкамат, хто сам прыхаваўся. Дайшлі чуткі, што многіх з прызваных ваенкаматам немцы загрэблі ў лагер пад

Магілёвам. Бабы пацягнуліся туды. З торбамі, з яйкамі, з салам... Жах што тварылася там. Мужыкі гінулі з голаду, з холаду, ад паносаў пасля вараных буракоў. Трапілі туды і мае дзядзькі Пятрок і Мікола. Цётка Поля, Міколава жонка, ездзіла туды. Вярнуўшыся, яна расказвала пра дрыжачыя рукі, якія цягнуліся праз сетку да кожнага кавалачка хлеба.

Дзядзька Мікола прайшоў фінскую, трошкі разумеў, як выжыць. Ён раздабыў ножніцы, якімі рэжуць метал, падбіў некалькі чалавек да ўцёкаў, сярод іх і свайго старэйшага брата. Яны добра выбраліся за сетку агароджы, дайшлі да Стаялаўскага чыгуначнага пераезду. Думалі, што ўжо дома, пайшлі, не хаваючыся, проста па дарозе. Тут іх і кашануў нямецкі кулямётчык. Міколу раніла ў плячо, Петрака куля прашыла з вуха ў вуха. Ён там і застаўся ляжаць на дарозе. Пахавалі яго мясцовыя людзі. Пазней Мікола ездзіў туды, а жонка Вольга не ездзіла. Чаму – то была яе тайна, ці іхняя з мужам тайна. Вольга была баба ўпартая. З Кавалёнкаў. За аднаго з іх пазней і выйшла замуж. Але гэта ўжо было пасля вайны.

Можна сказаць, што бацька мой быў аколіцкім арыстакратам. У яго была швейная машына "Зінгер", веласіпед. Ён шыў боты, клеіў бахілы і не ўмеў плесці лапці. Думаю, што не так не ўмеў, як не хацеў умець. Словам, меў у вёсцы аўтарытэт. І калі ў калгасе выбіралі загадчыка млына, людзі выбралі Кудраўца Паўла.

Браты былі адчайныя карцёжнікі, прайграваліся да ботаў. Боты не бралі, выганялі з хаты, калі болей не было чым плаціць. Яўменава Галя расказвала, як выгнаны з хаты дзядзька Мікола паказваў у вокны свае ногі, на якіх былі боты з лайкавымі галянішчамі.

А сам дзядзька Яўмен быў "ясянёвы": ад вуліцы да самых сенцаў ягоны ўчастак быў засаджаны маладымі ясенямі. Яны ўзраслі вышэй даху і ўрэшце згнаілі ўсю хату.

Неяк я прыйшоў з рэчкі дамоў і мне сказалі, што дзядзьку Яўмена забілі. Я пайшоў да іх "у крук". У хаце было цёмна, ціха, шмат людзей. Востра смярдзела чалавечым гаўном. Расказалі, што дзядзька быў на рацэ, лавілі рыбу, а па другі бок ракі, ля лесу, нехта ўцякаў і нехта страляў. Дзядзька Яўмен з Габрыэлем Якубоўскім закурвалі. І пасля выстралу Яўмен раптам гаворыць: "А мяне раніла". І ўзяўся за жывот. Рука была ў крыві. У Аколіцу яго прывезлі ўжо нежывога. Адсюль і людзі, і гэты смурод.

Толькі дурні могуць сказаць, што Бога няма. Хітрыя скажуць, што ён ёсць. Яшчэ хітрэйшыя скажуць: можа, яго і няма, але паколькі табе хочацца, каб быў, няхай будзе.

Мяне некалі ўзрадавалі словы майго бацькі, калі аднойчы вечарам да нас завітаў п'янаваты Рыгор Санько і з парога закрычаў: "Ёбтвайгобогамаць!" Бацька ўстаў з-за стала і пайшоў на аднавяскоўца: "Ты майго Бога не чапай!.." Рыгор хуценька знік за дзвярыма. Вось тады я па-сапраўднаму пачаў сумнявацца ў бацькавым атэізме.

Радню па мамінай лініі, па лініі Шпакоў, помню слабей. Прычына простая: Кудраўцы жылі кучна ў Аколіцы, на блізкіх пасёлках, а Шпакі недзе за лесам. "За лесам" – гэта было паняцце нечага далёкага, невядомага. І хоць мама ўвесь час старалася прышчапіць любоў да залеснай радні, прышчэпкі прыраcталі цяжка.

Дзеда Івана, мамінага бацьку, помню цьмяна, як нешта нерэальнае. Ён прыязджаў аднойчы на калёсах, здаецца, нешта прывозіў, нейкія мяшкі. Была на галаве ў яго круглая, з баранняй чорнай аўчыны шапка. Помню, як мама бегала кругом яго са словамі: "Тата, тата..." Бацькі дома не было, ён быў у Клічаве. Лепей помню жонку дзедаву бабу Аўгінню. Высокая, тонкая, стройная. Прыходзіла да нас летам, сама. Аднойчы ішла босая, і яе ўкусіла гадзюка. Яна выціснула яд, перавязала нагу, "загаварыла" ўкус. Усе страхі на тым і скончыліся.

Баба Аўгіння была ў дзеда Івана другой жонкай. Першая памерла, пакінуўшы двое дзяцей – Аркадзю і Лёксіка. У маладой бабы Аўгінні быў хлопец, з якім яны збіраліся пажаніцца, але Аўгіннін бацька рашыў, каб яна йшла за ўдаўца Івана, яна і пайшла, панёсшы з сабой сваю нелюбоў да яго, нарадзіла ад яго пяцярых дзяцей: Лёксу (1901 г.), Мацвея (1903), Веру (1905), Герасіма (1908), Аксеню (1911).

"За лесам" у маім уяўленні палягала недзе ў далёкай невядомасці – і канкрэтнай, і абстрактнай. І тое, што я, Кудравец, маю нейкае дачыненне да Шпакоў, даволі доўга да мяне даходзіла цьмяна. Кудраўцы – гэта зразумела: вось наша хата, побач з ёй, за плотам, хата цёткі Аўгінні, старэйшай бацькавай сястры і старэйшай з Кудраўцоў, у канцы пасёлка – дзядзькі Пятрок і Мікола, на другім пасёлку – дзядзька Яўмен, а на Малахоўшыне – цётка Паўліна. А Шпакі... дзе тыя Шпакі...

Болей за ўсіх помняцца цёткі – Лёкса і Вера – старэйшыя маміны сёстры. Часцей за ўсё яны прыбягалі зімой – вясёлыя, гаваркія, рухавыя. Заўсёды прыносілі яблыкі і гарбузікі – шмат завязаных у хусцінкі гарбузікаў. Гарбузікі – само сабой, а яблыкі, зімой... У іх там, "за лесам", былі свае сады, і яны давалі яблыкі. Чамусьці ўспамінаўся Карбановічаў сад з вялізнымі раскідзістымі дрэвамі. У нас таксама быў сад – маленькія кволыя дрэўцы, год ці два таму пасаджаныя бацькам за хатай і перад вокнамі ля хлява.

… З вайны ўспамінаецца і такое. За Надзінымі соткамі, у іржавым балоце, на купінах, мы з хлопцамі неяк знайшлі блішчастыя патроны. Пазней я зразумеў, адкуль і чаму яны там былі. Іх пакінулі самаабаронцы. У балота не ўкінулі. А ад

сябе адгарнулі. Для такіх дурняў, як я.

Назбіраў цэлую жменю, дадаў украдзеныя ў партызана, можа, сем, можа, восем, і ходзіць па пасёлку, хваліцца. Вечарам кінуў пад ганак. Пераначаваў. А раніцай прыходзіць брацік, Паўлінін Жэня. Яму ўжо было гадоў дзесяць. Мы якраз снедалі. "Дзядзька Павел, а ў вас пад ганкам патроны". – "Не можа быць!" – "Пайшлі, пакажу". Пайшлі. Бацькі доўга не было, а вярнуўшыся, ён зняў з мяне штаны і дубцом, чаго ніколі раней не рабіў, адхвастаў... Па сённяшні дзень бачу тыя бранябойныя з жоўтымі наканечнікамі патроны.

Нам было па чатыры, пяць, шэсць гадоў, калі мы сустрэліся з вайной у самым прамым і страшным сэнсе гэтага слова: з холадам і голадам, са стральбой і са смерцямі.

Дзіўна, але сапраўднага страху тады не было. Была цікаўнасць да ўсяго новага, нечаканага, што раптам накаціла, нават цікаўнасць да смерці. Смерць не была страшнай.

Мы вучыліся страляць, яшчэ не маючы сілы ўдзержаць аўтамат у руках, вучыліся ездзіць на конях, не маючы росту ўзлезці каню на спіну.

Мы праводзілі партызанаў на баявыя аперацыі, мы сустракалі іх, калі яны вярталіся назад. Адны – жывыя і здаровыя, другія – мёртвыя, на падводах, з зямлістымі, назаўсёды застыглымі тварамі.

Мы бачылі забітых аднавяскоўцаў – маладых прыгожых хлопцаў, над якімі, перш чым забіць, немцы і паліцэйскія страшэнна здзекаваліся, – выкручвалі рукі, выразалі зоркі на жывым целе... Гэта было жахліва, але не страшна. І гэта выклікала сваю ацэнку падзей, сваё разуменне таго, што адбываецца. Гэта стварала свой клімат – клімат суровай павагі і захаплення партызанамі, іх бясстрашнай рашучасцю, клімат нянавісці да іхніх ворагаў. Іхнія ворагі былі і нашымі ворагамі і называліся фашысты і паліцаі.

Праз шмат гадоў я напішу апавяданне "Холад на пачатку вясны". Гэта апавяданне пра вясну тых ваенных, далёкіх цяпер гадоў, расказ пра нас – тых малых хлапчукоў, расказ пра партызанаў, якім цяпер пад восемдзесят ці якім было б пад восемдзесят, калі б яны засталіся жывымі.

Суровы партызанскі побыт тых гадоў пранізаў усе поры жыцця нашага народа на доўгія гады, ён адчуваецца яшчэ і зараз. У Беларусі, дзе ў дзікім полымі вайны загінуў кожны чацвёрты чалавек, шмат пішуць пра вайну – і тыя, хто ваяваў, хто прайшоў і перажыў вайну ад пачатку да канца, і тыя, хто не ваяваў, але ведае, як усё было. І гэта зразумела. Ваенныя раны балюча крывавяць і цяпер.

Кожны мастацкі твор – не абавязкова літаратурны – мае тры гарызонты: учарашні, сённяшні, заўтрашні. Учарашні гарызонт уключае ўвесь гісторыка–

эстэтычны вопыт народа. На ім, як будынак на падмурку, як слон на чатырох нагах, трымаецца сённяшні гарызонт, або "я" мастацкага твора. Без учарашняга гарызонта не можа цвёрда стаяць гэтае "я", бо кожны чалавек ёсць на свеце таму, што ў яго быў бацька, дзед, прадзед, і кожны чалавек не можа спакойна адчуваць сябе на гэтым свеце, калі не будзе ведаць, што за ім, як нашчадак, наследнік усяго лепшага, ідзе ягоны сын.

На вялікі жаль, у беларускай літаратуры неправамерна мала гаворыцца пра ўчарашні гарызонт, ён мала даследуецца, вывучаецца і скарыстоўваецца.

У духоўным жыцці, як ва ўсім жывым, ёсць свае капіляры, па якіх ідзе ток крыві ад карэння да галін. Патэнцыя мінулага корміць сённяшняе і закладвае аснову будучага. І калі гавораць "кроўная радня", "мацярынская кроў" – гэта адтуль жа, з самых чыстых і глыбінных крыніц. Асвоіць духоўнае багацце, створанае чалавецтвам, і пусціць яго на службу свайму народу, уплесці голас свайго народа ў хор галасоў сусвету – гэта ганаровая задача мастацтва.

Чаму я пачаў пісаць? Відаць, таму, што не пісаць не мог. Калі б сур'ёзна перабіла нешта іншае – праца з тапаром у руках, ці матэматычныя практыкаванні, ці яшчэ што, – калі б усё гэта было мацнейшае і захапіла ўсяго, можа б, і не пісаў. Хаця не, усё роўна пісаў бы.

Калі чалавека недасведчанага, далёкага ад тэхнікі, прывесці да кучы металу, розных дэталяў і механізмаў і сказаць, што гэта машына і для таго, каб паехаць на ёй, патрэбна зусім нямногае: сабраць у пэўнай паслядоўнасці, звінціць адны часткі з другімі, спаяць, паставіць на колы, "абуць" колы ў гуму, заправіць бак бензінам і маслам – гэта значыць, зрабіць тое, каб кожная з гэтых дэталяў увайшла ў звязку з астатнімі і ўсе яны разам зажылі як адзіны жывы арганізм, – дык вось, калі гэта сказаць чалавеку недасведчанаму ў тэхніцы, ён ніколі не паверыць, што на гэтай кучы металу можна паехаць.

Але калі гэта сказаць вопытнаму механіку аўтагаража, варта яму кінуць вокам на ўсю гэтую груду механізмаў, каб ва ўяўленні ягоным паўстала машына, – прыгожая, лёгкая, паслухмяная, якія тысячамі бегаюць і па нашым Мінску, і па зямлі ўвогуле, ён не толькі возьмецца за работу, а і давядзе яе да канца, і паедзе на той машыне.

У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра неабходнасць фантазіі нават для таго, каб з гатовых дэталяў, блокаў сабраць машыну. Тым болей яна патрэбна пісьменніку для таго, каб з неіснуючых рэальна частачак сілай сваіх пошукаў сканструяваць, прыдумаць, выдумаць, сабраць нешта такое, што людзі чыталі б з цікавасцю і ўспрымалі як рэальна існуючы свет...

А з чаго ўсё пачыналася?.. Можа, з гэтага...

Суботні зімовы вечар. У хаце распаленая да чырвоных бакоў жалезная печка – сушыць нядаўна памытую падлогу. Смалновы пах чыста выскабленых падсохлых маснічын. Ля сцяны, на шырокай канапе – бацька з дзядзькам Міколам. Кураць, ціха гавораць. Ні мамы, ні дзяўчат няма – яны пабеглі ў лазню.

Пад столлю над сталом вісіць лямпа. Паставіўшы кнігу так, каб было лепш відно, стоячы перад сталом, я чытаю "Дрыгву". Стоячы, бо так, па прычыне малога росту, я вышэйшы. Чытаю ўголас, каб чулі бацька і дзядзька Мікола. "Дрыгву" ў другім класе яшчэ не праходзяць, гэта кніга маёй старэйшая сястры Мані, і я ўзяў яе паглядзець. Пачаў чытаць і ўжо не мог адкласці. І мне хочацца, каб і бацька, і дзядзька чулі, пра што тут напісана і напісана так хораша.

"Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну..."

Чытаю, заварожаны магіяй слоў, яны ліюцца плаўна і вольна, нібы нараджаюцца ўва мне самім, нібы гэта я сам усё так складна прыдумаў. Закалыханы сваім голасам, не адразу заўважаю, што перастаў разумець, пра што чытаю. Словы перарастаюць у музыку, і ўжо здаецца, што не маё сэрца ідзе ўслед за пісьменнікам, а ён сам ідзе ўслед за рухам маёй душы і гэтага вечара, і гэтай цішыні, і гэтай цёплай вымытай і падсушанай падлогі...

Спахопліваюся, бо бачу, што бацька з дзядзькам перасталі гаварыць, слухаюць мяне. Гэтае адкрыццё перарывае чытанне, я пазіраю на іх. І тады дзядзька, ускінуўшы галавой, пачынае сам:

Дрэнна маё жыццё,
Усё ідзе не ў лад:
Лезу я наперад –
Асадзі назад...

Гэты знерваваны, успыльчывы, пашчапаны фінскай і гэтай войнамі чалавек, ён і цяпер, праз паўтара года пасля таго, як яго прывезла дамоў шпітальная сястра, прыйшоў з мыліцамі: зноў адкрылася рана на назе. Але як ён чытае?.. Ён не чытае, а расказвае пра сябе. Гэта ў яго, куды ні ткніся, "асадзі назад". Гэта ён і ёсць той мужык, сын бядоты, які недаесць і недаспіць...

І гэта праўда, так і было. Яго бацька, і бацька майго бацькі, да смерці збіты наймітамі пана Карбановіча, памёр у сорак гадоў. Баба Параска засталася адна, на руках шасцёра дзяцей. І яны вымушаны былі пайсці на паклон да таго ж пана Карбановіча, прасіцца, каб узяў на працу, каго парабкам, каго пастушком...

Засталіся жывыя, павырасталі, пажаніліся, разбудаваліся ў Аколіцы на шэсць двароў...

Дзядзька тым часам скалануў яшчэ раз галавой і пачаў трошкі іншае: "Я –

мужык, бядак пахілы, усе ўшчуваюць мужыка..."

І бацька пачаў дапамагаць яму. І зноў гэта нечакана для мяне: я ні разу не чуў, каб ён чытаў вершы. Было ў бацькі ўсяго чатыры класы школы, ён гаварыў пра гэта, але вершы...

Разагрэтыя ўспамінамі мужчыны чыталі далей. З Коласа перакінуліся на Купалу. "Я – мужык-беларус, пан сахі і касы, цёмен сам, белы вус, пядзі дзве валасы..."

Мінулі з таго зімовага вечара многія гады. Сёння няма ўжо сярод жывых старэйшых выканаўцаў таго кароткага імправізаванага канцэрта. Хаця, чаму "канцэрта"? Відаць, тут болей было ад песні, ад раптоўнага душэўнага парыву. І тое, што ішло гэта праз словы Коласа і Купалы, падкрэслівала жыццёвую еднасць паэтаў і простых людзей. А яшчэ гаварыла, што Колас і Купала былі свае ў кожнай хаце. Іх ведалі ўсе – і старыя, і малыя. З іх творамі да кожнага мужыка, нават самага забітага і малапісьменнага, прыходзіла разуменне таго, што і сам ён не проста мужык, а Чалавек, і што ўжо сам факт, што ён, мужык, жыве, і тое, *чым* ён жыве, *як* жыве, як жыў дагэтуль, – ягоная праца, ягоныя песні і казкі маюць непраходзячае, не выпадковае, а няспынна гістарычнае значэнне.

Быў такі вечар у маім жыцці, вечар сустрэчы з мастацкім словам.

Можа, гэтая магія слова, адчуванне яго прастаты, яго звычайнасці і незразумелай сілы ўздзеяння і падштурхнулі мяне да рызыкоўнага кроку самому паспрабаваць нешта напісаць. І не проста напісаць, а напісаць складна, што значыць – вершам.

Недзе неўзабаве за гэтым вечарам здарыўся ў Аколіцы, на нашым пасёлку, выпадак, які абурыў усіх. Знайшоўся ў сяле чалавек, які ноччу, калі гаспадар дома, наш сусед, быў у ад'ездзе, залез на гарышча ягонай хаты і адкруціў галовы дзвюм курыцам. Іх і было толькі дзве ў беднай Шварцавай хаце! Разам з курамі злодзей прыхапіў сухога ліповага палосся на лапці і трохі высушанай табакі – усё гэта вісела там жа, на гарышчы. Палоссе – не страшна, нават табаку можна было б дараваць, а дзве курыцы – гэта ўжо было зладзейства і па ваенным часе не малое. Па маштабе галодных пасляваенных гадоў такое нельга было пакінуць беспакарана, або зрабіць выгляд, быццам нічога не здарылася, хоць злодзея і не злавілі на месцы злачынства.

Пагаворвалі, што тое зладзейства – справа рук аднаго чалавкка, зноў жа, недалёкага нашага суседа Марушкевіча: гэта мог зрабіць толькі ён. Тым болей, што той жа ноччу гаспадыня скрадзеных курэй, якая трошкі запознена выскачыла з хаты, але пайшла па следзе, і след прывёў да хаты гэтага суседа, і праз шчыліну занавешанага акна яна бачыла, як сусед скуб птушак. Але, не ўзяў за руку – не кажы, што злодзей. Так гаварылі дарослыя.

Дзеці пра ўсё гэта думалі па-свойму, з дзіцячым максімалізмам. Тое, пра што дарослыя ведалі, але не хацелі гаварыць адкрыта, для нас было элементарнай аксіёмай: пра зло трэба гаварыць на ўвесь голас, і зло павінна быць пакарана. Чаго маўчаць? Пра гэта павінны ўсе ведаць.

Словам, у грудзях маіх адбыўся нейкі зрух, штуршок, які і павёў маю руку з ручкай па паперы. За нейкія хвіліны быў напісаны вершык пра тое, як хлопцы, мае равеснікі Пеця з Віталем кніжкі чытаюць, а нехта на гарышчы закурыць шукае і г.д. І ўсё гэта з канкрэтнымі дэталямі, імем, прозвішчам... Сваёй паэтычнай удачай я падзяліўся з сястрой Галяй і лёг спакойна спаць. Якое ж было маё здзіўленне, калі назаўтра я ўбачыў, што слава мая як паэта выйшла за межы нашага двара і разышлася па пасёлку. Хлапчукі вывучылі вершык на памяць і чыталі яго ўголас усюды і ўсім, а асабліва тады, калі паблізу паказваўся той незадачлівы курыны забойца.

Само сабой зразумела, што інкогніта аўтара было раскрыта. Спачатку гэта мяне спалохала, але пасля, калі я ўбачыў, што дома ў нас усё ціха, я супакоіўся і нават заганарыўся. Слава – магутны рухавік, хоць і трымалася яна не столькі на нейкай мастацкай вартасці вершыка (якая там вартасць!), колькі на адкрытай, легальнай форме выказвання праўды.

На гэтым можна было б і спыніць расказ пра мой паэтычны дэбют, калі б ён не меў непажаданага для мяне працягу...

А было так. Другі сусед Юрчонак Хведар, ягоная хата была за хатай цёткі Аўгінні, тапіў лазню. Дзень быў суботні, зіма, асаблівай работы ў людзей не было, і яны папрыходзілі ў лазню раней, чым яна была гатова. Чакалі ў хаце: жанчыны ў адной палавіне, мужчыны за дзвюхстворкавымі дзвярыма ў другой.

Зайшоў у хату і я. І як толькі зайшоў у першую палавіну, на мяне адразу накінуліся жанчыны з просьбай: прачытай свой вершык. Было адчуванне няёмкасці ад усіхнай увагі, але бацылы славы ўжо рабілі ўва мне сваю разбуральную работу. І я тут жа, ля парога, прачытаў вершык, прачытаў так, як трэба было б чытаць, калі б я стаяў на сцэне, а ў зале было не меней, як чалавек сто. Крычаў на ўсю хату і сам з задавальненнем слухаў свой голас.

Не паспеў я скончыць чытанне, як раптам рэзка расчыніліся дзверы з другой палавіны хаты і адтуль раззлавана вылецеў мой бацька. Ён рашучым крокам падышоў да мяне, моўчкі ўзяў за вуха і, не выпускаючы яго з сваіх жалезных пальцаў, вывеў на вуліцу, паказаўшы каленам бок, у якім была наша хата. Было крыўдна да слёз, былі і слёзы. Я пайшоў дамоў. Можна лічыць, што гэта было маё першае публічнае выступленне і мой першы зароблены ганарар.

Аказваецца, у другой палавіне хаты мужчыны за сталом гулялі ў карты. Болей таго, Марушкевіч, пра каго і быў мой вершык, быў бацькавым напарнікам па картах, і яшчэ горай – яны прайгравалі. А тут за дзвярыма літаратурны канцэрт з

вершамі пра тое, "як убачыла Сабіна, што закраталась драбіна, выскачыла яна ў двор і пачаўся ў іх спор: – Ты чаго тут, злодзей, ходзіш? Ты курэй са свету зводзіш..."

Не скажу, што першы ганарар мне спадабаўся, але гэта не адвадзіла мяне, скажам далікатна, ад літаратурнай творчасці. Наадварот, з'явілася яшчэ большая цяга да слова, да вершаваных практыкаванняў, сум па нечым трывожным і прыгожам, па тым, што недзе ёсць, але чаго ніхто, акрамя цябе, не бачыць, не адчувае, і толькі ў тваёй волі спаймаць яго, забрытаць, як каня, пераліць у словы і паказаць усім: "Глядзіце, вось яно!.."

Школа ў Аколіцы адкрылася ў 44-м, у год вызвалення. Недзе ўслед за тым, як па ўтравелай зялёнай вуліцы сяла прайшлі стомленыя салдаты-вызваліцелі. Іх і не шмат было. Сяло ляжала ўбаку ад бойкіх дарог, і праход войскаў хутчэй меў сімвалічны сэнс. Нехта з вышэйшага начальства мудра рашыў, што людзі, стомленыя чаканнем, павінны на свае вочы пабачыць вызваліцеляў, каб канчаткова паверыць, што вайна хоць і не скончылася, але адкацілася ад іх.

Чырвонаармейцаў чакалі два дні. Мы залазілі на хаты і хлявы, выглядаючы, ці скора пакажуцца чырвоныя, а іх усё не было. Аб'явіліся яны пад вечар, запыленыя, стомленыя, але спакойныя і таксама ўпэўнена-шчаслівыя. Адразу, як па нейчай камандзе, на вуліцу павыносілі сталы, на сталах былі хлеб і... графіны з самагонкай – тое, чым людзі маглі сустрэць і пачаставаць вызваліцеляў. Гарэлку салдаты не пілі, прасілі вады, і пабылі, можа, з паўгадзіны, адсыпаючы ад сваіх салдацкіх запасаў цукру-пяску кожнаму маломў. Сыпалі на скібку хлеба, а ў каго не было хлеба, насыпалі ў шматкі паперы, дастаючы іх з той жа салдацкай торбы.

У школу спачатку перапісалі ўсіх вучняў, а іх набралася шмат, асабліва пераросткаў, выгадаваных чатырма гадамі ваеннага жыцця. Маларослы нават на свае няпоўныя сем гадоў, я выглядаў дзіцём побач з 10 – 11 – 12-гадовымі дзецюкамі, не гаворачы пра тых, хто пачынаў вучыцца да вайны, а цяпер павінен быў працягваць вучобу ў другім, трэцім ці чацвёртым класах. Але імкненне не адстаць ад "усіх", як інстынкт калектыўнай бяспекі, пасадзіла мяне на школьную лаву побач з гэтымі пераросткамі.

Перапісвалі ў хаце цёткі Аўгінні. Я з мамай сядзеў на шырокай лаве, мае босыя ногі не даставалі да падлогі, і мне ўвесь час хацелася ўзяць сваю нагу ў руку. Мама брала тую маю руку сваёй рукой і апускала пад лаву: што ты робіш, у школе так няможна. Я супакойваўся, але праз нейкі час нага зноў была ў маёй руцэ.

Так я стаў вучнем першага класа Аколіцкай пачатковай школы. Размяшчалася яна ў дзвюх хатах трэцяй брыгады, гэта далёка, за ракой.

Першыя два гады ўсім вучэбным працэсам кіраваў дух партызаншчыны, і панятце школьнай "дысцыпліны" было такое далёкае ад канонаў сапраўднай

педагогікі, што можна толькі дзівіцца, што школа ўсё-такі нечаму вучыла і нечаму навучыла. І навучальны дух гэты трымаў усіх гуртам і кожнаму даваў адчуванне далучанасці да нечага вялікага і значнага. Не, то не быў дух простай стаднасці.

Перад трэцяй брыгадай, ля млына, быў мосцік, насланы цераз рэчку Гарадзечанку. Рэчка брала пачатак недзе ў Язершчыне, а вясной разлівалася так, што мосцік ляжаў на вадзе, а то і хаваўся пад ёй. Вада залівала ўсю нізіну, ад елачак па наш бок, яны раслі купкай паўз дарогу насупраць старой разбомбленай школы, да млына па той бок. Толькі ў добрых ботах, пераскокваючы з купіны на купіну, з гурбяка на гурбяк, можна было перабрацца на той бок.

І вось, калі ўсе збіваліся ў кучу перад вадой, старэйшыя бралі клопат пра меншых. Заціснуўшы, як кацянят, па двое пад пахі, пераносілі на другі бок і вярталіся назад, каб паўтарыць такую ж працэдуру яшчэ з некім, аж пакуль усе не апынаміся насупраць млына... Адтуль, зноў жа гуртам, як авечкі, весела гамонячы, ішлі да школы.

Хлопцы былі такія дарослыя, што маладзенькія настаўніцы і папраўдзе пабойваліся іх.

Адзін з такіх вучняў неяк спазніўся, і настаўніца ўзяла дзверы на зашчапку, каб ён не сарваў урок. Ён пастукаўся. Яму сказалі, каб ён ішоў дамоў... Ён пастаяў, пастаяў, а потым нехта з вучняў убачыў, што ў шчыліну з-пад дзвярэй нешта пацякло. Хлопец пайшоў на акцыю сабачага пратэсту. Бедная настаўніца чырванела, увесь клас хіхікаў... Праўда, больш той смяльчак у школу не з'явіўся.

Дзіцячы вопыт – самы запамінальны. Старэйшыя хлопцы ўжо добра курылі, а як жа не паспрабаваць і нам, меншым. Вядома, добрай табакі не было, але ж можна і моху накалупаць... Як цяпер помню той задушлівы гаркавы смак у роце ад першай такой зацяжкі, і востры кашаль, які ачышчаў лёгкія ад дыму і гаркаты... Можа, той кашаль і стаўся галоўнай прычынай, што курэнне не прычапілася да мяне і я магу спакойна жартаваць, гаворачы пра гэтую прывычку: "Пасля першага класа завязаў..."

Помніцца некалькі школьных момантаў, якія і цяпер, праз столькі гадоў, прымушаюць унутрана чырванець пры адным успаміне пра іх. Але...

Зіма. Да позняга часу я загуляўся ў маіх брацэнікаў – Міколавых Вовы і Шуры. Здаецца, гулялі ў самаробныя шашкі – драўляныя кубікі, расфарбаваныя ў два колеры, на фанерцы, размінаванай на квадраты, як на сапраўднай шашачнай дошцы. Дзядзька Мікола быў у шпіталі, а цётка Поля працавала ў калгасе кладаўшчыцай. У яе ў руках я і ўбачыў хімічны аловак, нават не аловак, – меншую палову яго. Цётка Поля складала нейкую ведамасць, і лічбы і літары такім зайздросным залацістым бляскам адсвечвалі на паперы, што калі яна некуды выйшла, я ціхенька заціснуў гэты аловак у жменю і шмыгнуў за дзверы.

Вярнуўшыся дамоў, я не мог не паспрабаваць пісаць сам і радаваўся, што літары гэтак жа залаціста адсвечваюць і на маёй паперы. Аловак убачыла мама. "Дзе ты ўзяў яго?" – было заканамернае пытанне, на што я адказаў бліжэйшае: "Знайшоў". Дзе і як знайшоў, ніхто дапытвацца не стаў. З тым я і заснуў.

Па пасляваенным часе аловак, ды яшчэ хімічны, быў такой рэдкасцю, што проста так "знайсці" яго было, відаць, цяжэй, чым знайсці залаты самародак дзе -небудзь у Кландайку ці Магадане ў самую залатаносную пару.

Прачнуўся на досвітку ад галасоў. Гарыць лямпа. У хаце цётка Поля. Мама падыходзіць да ложка, дзе мы спім з малодшым братам Жоржам, бярэ мяне за плячук, будзіць: "Сынок, прыйшла цётка Поля, яна ўчора згубіла аловак... Можа, ты бачыў яго? Ёй у кладоўку трэба ісці, накладныя выпісваць..."

Можа, бачыў... Просценькая мацярынская дыпламатыя. Куды тут дзенешся.

Аловак давялося аддаць. Можа, з тыдзень я не паказваў носу ў цётчыну хату, пакуль аднойчы Вова не сказаў: "Пайшлі да нас, пагуляем у шашкі. Не бойся, мама пра аловак і не ўспамінае".

І праўда, і тады, і пазней цётка Поля ні разу ні словам, ні намёкам не напомніла пра той выпадак, пра тое маё "знайшоў".

Дзіцячая наіўнасць, відаць, самае лепшае, што закладзена Богам у душу чалавека. Можна толькі шкадаваць, што яна катастрафічна сціскаецца ў той меры, як чалавек расце і разумнее, ці, іначай кажучы, у той меры, як жыццё абчэсвае яго, і ён сам аббівае бакі аб вузлаватыя карані жыцця.

У школе, у самым дальнім кутку яе замест парты стаяў надзейна склёпаны стол пад квадратным фанеровым верхам. Адкуль і як ён сюды трапіў, сказаць цяжка, але за ім добра было сядзець, на ім можна было раскласці і сшытак, і буквар, і чарнілка не кулялася на ім. Аднойчы зімой сярод урока ў мяне так змерзлі ногі, што я нічога іншага не прыдумаў, як нырнуць пад стол і пачаць пераабувацца. Я ўжо канчаў сваю работу, калі над галавой пачуў здзіўлены голас настаўніцы: "Толя, што ты там робіш?"

Няёмка было вылазіць з-пад стала пад дружны рогат двух класаў, ды што зробіш: холад і голад – рэчы непрыемныя.

І вось неяк прыходжу ў школу, іду ў свой кут, а на месцы "майго" стала стаіць яшчэ большы – аграмадная чорная каракаціца на фігурна вытачаных таўстых, як у слана, раскірэчаных нагах. Нехта з хлопцаў абапёрся аб яго, ногі паехалі ўбакі, і стол з грукатам лёг на падлогу, заваліўшы паўкласа.

Я адразу пазнаў гэты стол. Зусім нядаўна я бачыў яго ў кутку пад фікусам у хаце дзядзькі Міколы. А да дзядзькі ён трапіў ці не з былога дома пана Карбановіча, калі дом расцягвалі на дровы. І калі настаўніца спытала, чый гэта стол, я адразу і вылажыў.

Назаўтра сталы вярнуліся на свае месцы: школьны – у школу, а дзядзькаў – да дзядзькі. І я зноў мог упэўнена раскладвацца на стале са сваімі школьнымі паперамі, не баючыся, што стол можа грымнуць і прышчэснуць ногі. Праўда, дзядзька, сустрэўшы, не ўтрымаўся ад вымовы: "Што ж ты, пляменнічак..." А пляменнічак доўга не мог зразумець толкам, якая была тут ягоная віна.

У Аколіцы была толькі пачатковая школа. Сямігодкі былі ў суседніх, сельсавецкіх вёсках: Коўбчы і Курганні. І туды і туды было аднолькава далёка – кіламетры чатыры, і калі паўстала пытанне, куды ж ісці, бацька сказаў: "Выбірайце". Сказана гэта было мне з сястрою Галяй, толькі мы ўдваіх з нашага пасёлка дабраліся да пятага класа. Усе старэйшыя адсеяліся – хто трапіў у ФЗН, хто пайшоў на працу. Мы выбралі Коўбчу: гэта быў наш сельсавет, а Курганне – чужы. На такое рашэнне паўплываў і факт, які здарыўся незадоўга перад гэтым.

Бацька загадваў калгасным млыном, тым, што стаяў на левым пагорку адразу ж за мосцікам цераз Гарадзечанку. Рухаючай сілай млына быў паравік, удзень там пілавалі дошкі, а ноччу малолі зерне. Гэта быў, па ўсім, адзіны ўцалелы пасля вайны млын на ўвесь раён, і малоць зерне на хлеб і фураж сюды везлі з усяго раёна, а бывала, прывозілі і з суседняга, Бярэзінскага. За паслугу калгас браў рэнту, "фунты", калі не падводзіць памяць, ці не пяць фунтаў з пуда. Цана, безумоўна, не малая, але закон гандлю ёсць закон, і са сваім статутам у чужы манастыр не пойдзеш.

Незадоўга да пачатку навучальнага года прывозіў малоць жыта і дырэктар Курганскай сямігодкі Астроўскі, і з яго, як і з усіх іншых парафіянаў, бацька ўзяў "фунты". Колькі іх было і як там ішлі перамовы, засталося невядома, але, па ўсім, дырэктару гэта не надта спадабалася. Бо калі пайшлі запісвацца ў пяты клас мае аднакласнікі з іншых аколіцкіх пасёлкаў, ён нібыта сказаў: "А Кудраўцовы няхай і не прыходзяць, не прыму". Тлумачыць ён нічога не стаў, але калі тыя словы дайшлі да бацькі, ён мовіў: "Ну, гэта мы яшчэ паглядзім..." І сказаў нам з сястрой: "Выбірайце самі, куды ісці – у Коўбчу ці ў Курганне..."

Мы выбралі Коўбчу і цэлы год бегалі туды ўдваіх. На наступны год да нас дабавілася яшчэ двое, а потым яшчэ і яшчэ...

Цяжка сказаць, што больш уздзейнічае на чалавека: акружаючыя людзі ці акаляючае асяроддзе. Мінаюць гады, чалавек з'язджае з месца, дзе прайшло ягонае дзяцінства, адступаюць у цень, быццам размываюцца ў часе, постаці людзей, з якімі ён жыў, а зямля, мясціны тыя, па якіх ён хадзіў, застаюцца, як жывыя. Нават болей, і іх можа ўжо не быць, час можа знішчыць і іх, але памяць захоўвае іх з такой беражлівасцю, быццам гэта і ёсць тое адзінае, вечнае, што павінна застацца.

Вось загаварыў пра школу, пра мосцік, пра раку Гарадзечанку тых, 1944 – 45

гадоў... Даўно няма ўжо і школы той, час не пашкадаваў... Няма і млына таго, перавезлі ў Коўбчу, і зноў жа час не збярог і яго. Асушылі балоты, і заместа рэчкі засталася прамая канава... Скажы сённяшнім школьнікам, што некалі тут несліся ў разводдзе крыгі, не паверацъ... А ў памяці ўсё гэта жыве. І, бывае, калі-небудзь сасніцца так ясна, так чыста, што, прачнуўшыя, доўга жывеш шкадаваннем пра незваротнасць жыццёвага працэсу, і што не ад цябе залежыць магчымасць яго паправіць.

**Ян Чыквін**

# Г У С А К  І  Г У С Ы Н Я

**(уява на беразе Дубіч Царкоўных)**

## I

1.
На ганак выбег з хаты тата,
Сярдзіты ўвесь. – І дзе ж твой статак?!
Бяжы, – сказаў, – шукаць крылатых,
Каб іх ліхое не забрала!

Адкормлены, што парася,
Адзін гусак чаго сам варты!

А дзе гусак – там рэшта стада!
Жыве так кожная сям’я.
Запомні, сыне, гэта праўда свята!

2.
Нешматгадовы гаспадар іх Коля
Бяжыць, адкрыўшы рот, наўпрост праз поле
Да той вады, дзе колісь мылася Маруся.
Цяпер там, мабыць, патапіліся іх гусі
Ці караблямі у вялікі свет плылі.

“Такі вялікі, а някем такі!
Бяры за ўзор татулю, дзеда:
Не йдзі ў жыцці гусіным следам,
Не лезь у іхні гаўнякі,
Бо будзеш смердам ўсе вякі!
Такую праўду трэба ведаць!”

Так гаварыла Колю поле.
Там быў такі жывы ўзгорак,
Які, калі прыслухацца, меў голас.

Мабыць, пясок так гаварыў
ці камень-цуда
Сваёю моваю спрадвечнай...

Аднак жа чый там голас мовіць,
Не ведалі цяперашнія людзі,
Як і раней ніхто не ведаў.

3.
Калісь Маруся у вадзе стаяла
І жменямі вадою пырскала на грудзі.
Яны былі такія, як у мамы,
І як у мамы – тое між нагамі.

Бліскучая вада сама гарнулася да цела,
Займала ўсю ў палон ласкава,
І з плюскам рук імкліва адступала,
І, зноў іграючы, ў бакі ляцела.
Здавалася, сама гусыня без гусяваў
Уся ў вадзе вадой вадзела.

– Ах, Коля, Коля, ну й свавольнік!
Чаго ж ты так увесь дрыжыш!?
Паглянь, які яшчэ ж з цябе малыш! –
І прытуліла хлопца да сябе нявольна,
Як робяць велькадушныя багі –
От, прыгажун, хоць пад вянец
з табой бяжы!..

4.
На беразе ракі ляжаў, і доўга
Гулі у ім шчаслівінкі трывогі.

Такая прыгажосць вакол бясконцая!
Здавалася, ў вадзе купаюцца два сонцы.
І нешта цьмянае плыло ў вачах, няўлоўнае.

І голас знекуль нечый, як бы ў вуха:
“Як навальніца прыйдзе, як улетку бура,
Тая, што прыйдзе, будзе ў вобразе Марусі.
Ды не спяшайся выйсці за вароты раю...”

5.
Была вясна, якой тут не было ніколі,
І лета разам з ёю гнёзды цёплыя віло,
Паўсюль жывое нешта і бязмернае жыло
І варушылася бязгучна, нібы тое поле.

І побач у затоцы, над вадой
Адпачываў гусак з гусыняй
І чарадою добра рослых гусянят,
Куслівых і крыклівых, як сабакі.
Яны сюды ішлі як на разбой.
Дарослыя баяліся іх, дзеці.
Аднак татуля тое не прыкмеціў –
Ён іх любіў, як ўсё на свеце
І дбаў аб іх, і быў зайздросны, ой!

І вось, наеўшыся рачной смакоты,
Відаць, здрамнулі сёння ад спякоты.
І толькі часам між сабою глухавата
Перадавалі нешта пачародна,
Як бы з маркотай, вінавата.

– Ну, пойдзем, гагаўкі, дахаты!
Патопаем ў парогі родныя!
Там бульбы мятай – поўнае карыта,
І гаспадар з штодзённаю малітвай
Вас прывітае радасна-пагодна.

## II

1.
Быў ранні поўдзень жыцейка святога.
Жыццё расло паўсюль і пнулася ўгору,
І расцякалася па ўсіх сваіх дарогах,
І калыхалася, куды ні глянь, як мора,

Аж дух займала, млела наваколле,
Аж сэрца трапяталася жывое,
І жыць ў жыцці хацелася найболей!

2.
На ганак мажна выйшаў тата,
Нядзельны ўвесь, увесь свяцісты.
– Скажы, суседка Маня, што такое,
Што мой гусак глядзіць ў твой бок,
Праз плот ірвецца, неспакойны,
Не слухае нікога, бы аглох,
І чыніць негусіны рух і чох.

Ці то не ты прываражыла асабіста
Яго сваёй красою або зеллем-лісцем!?
Скажы, скажы, прамілае дзяўчо,
Прызнайся, хоць праз плот, Марыся!

3.
"Такі няўдумны, хоць вялікі! –
Пачуўся голас як бы вязаў, ліпаў. –
Маруся доўга будзе клікаць!
Яна ўся свеціцца, яна ўся маладая!
І поўніцы ў яе без ліку!
Табе, табе яе зіхценне, Коля!
Вада сплыве і больш ніколі
Ужо не будзе тая..."

Марыся у вакне, уся глядзіва,
Плыла ды ўсплывала ў кветах рдзістых
І песню-помніцу пляла у светлае ігранне,
Аж меркла пространь перад гэтым дзівам.

І кінуцца хацелася ў ваду-вадзіцу,
Каб пагасіць агонь прыроды ранняй.

„А ён такі прачысты! Ён – мой свет адзіны!"
Паўсюль самажыццё спявала.

4.
Гусак глядзеў у даль шчымліва
І зрэдку чысціў пух свой лебядзіны.

Як князь у фраку снежна-белым,
Які любуецца старым драўляным плотам,
Ў праходцы велічнай ён ўсцяж штыкецін
Паднятай галавою моўчкі слухаў ноты,
Якія прабіваліся сюды праз хмыз збуцвелы.

Хацелася ляцець вышэй, туды ў нятлены,
Адкуль ішоў пампройны веў у мілагучным руху.

Гусак, здавалася, вось-вось падымецца да лёту –
Здаўна ў ім жыў трапёт жывога духу.

Аднак уверх яго не падымалі крылы,
І ён хадзіў туды-сюды у вязні цела,
Пакуль Маруся ў садзе песню мела.

А сонца поўдня, нібы лямпа Алядына,
Гусыню й гусянят ў збялелае каменне замяніла
І цішынёй празрыстаю па ўсіх накрыла.

І Коля шчыльна абышоў іх з плотам
І зачыніў на засаў іхнія вароты,
Каб дзе якія злыдні не пакралі.

А сам лавіў лятункавасць красотаў,
Якія недзе блізка ў гнёздах сваіх пелі.
І, схоплены ў палон тугой-шчаснотай,
Ляцеў туды, дзе быў адно жывым палётам.

5.
Маруся кветкаю найдзіўнай,
Маруся спеўняю чароўнай
Плыла й плыла па садзе-агародзе,
Аж шавяліліся нябёсы.

– Кліч, кліч, Маруся, гусака ў свае харомы,
Як кліча берагіню да сябе птушыны князь,
Захмелены яе залётам з той пары гусінай!
Ты ўся сама – як сонечная вязь,
А я  даўно расстаўся з хварасцінай.

Паглянь, якая з намі неба сінь.
Зямля для нас ўся свеціцца расою!
І да цябе ідзе з вясцінай,
За сынам йдзе Сцяпанаў сын,
Якога ты пяшчоціла травой-красою
І прытуліла да сябе калісь...

Мая Марусенька, Марысь,
Ствары са мною ноч у дзень!
І дзень у ноч ствары са мною!



**Павал Ляхновіч**

# ІГНАСЬ-ЧАРАДЗЕЙ

1.

Валун на краі поля цёплы, што печ, і вялізны. Сапраўдная скала. Ігнаська распрасьцёрся наверсе. У сінім, без адзінай хмаркі, небе кругамі плавае бусел. Усё вышэй і вышэй. Ігнатавы рукі раськінуты ўшыркі, нерухомыя. Бусьлiныя крылы таксама нерухомыя.

“Глянь ты! Не махае і не падае. Нават падымаецца. Цікава, якая адтуль зямля? Вось бы ўзьляцець як гэты бусел… – думае Ігнаська і з усхліпам уздыхае. – Нават не як бусел, а як крумкач або як ястраб. І зьверху – на Толіка. І дзюбай па галаве!.. Не. Як бусел лепей. Раскінуў крылы, і плывеш, плывеш… А Толіку я таксама добра надаваў! Аж заенчыў. Кусацца, канечне ж, не варта было, але што рабіць – схапіў за шыю, паваліў, наваліўся, што не ўздыхнуць. Справіўся! На два класы старэйшы! Ды яшчэ палку ухапіў! – Памацаў вялікі сіняк на клубе. – Каб не тая палка, невядома чый бы верх быў”.

Валун, аблюбаваны Ігнаськам – на краі поля, што ля Францішкоўскай гары. За полем – Навіны, вёсачка ў адну вуліцу, за ёй – бесава балота, туды Ігнась не ходзіць, баіцца зьмеяў. Хоць ніводнага разу тых зьмеяў не бачыў.

Зьлева, за які кіламетр ад вёскі – лес, а на ўскрайку лесу – хутар. Ігнаська з таго хутара. Сумна яму ў час вакацыяў, таму бегае да навінскіх дзяцей гуляцца. А тут гэты Толік з Мінску прыехаў, задавака. Ходзіць з малымі і зьдзекуецца. І тое яму не так, і гэта не гэтак. І размаўляеце вы няправільна, і апранаецеся, і паравоза баіцёся… Даўся яму гэты паравоз! Ніхто яго не баіцца, хоць і бачылі толькі ў кіно. А сам Толік? Каровы баіцца, індыка баіцца. Гусей. Елкі ад хвоі не адрозьнівае! Грака ад вароны! “*Вада не в студні, студень, эта еда такая, вада в калодцы!*” – “Сам ты – калодка!” Вось і пабіліся…

Кепска, што пакуль Толік не зьедзе, нельга будзе да Паўлюкоў на тэлевізар хадзіць. На Ігнатавым хутары электрычнасьці няма. Можна было правесьці – тата казаў – але за свой кошт, ім ня здужаць.

На ўсе Навіны два тэлевізары – у Паўлюкоў і Харужыкаў. То як фільм які

– паўвёскі ў адных, паўвёскі ў другіх. Неяк глядзелі гімнастыку, спаборніцтвы. Дык Паўлючыха кажа – гэтага не можа быць. Каб людзі такія штукі рабілі. “Гэта, – кажа, – ток!” Паспрабаваў Ігнаська растлумачыць, што гэта спорт такі, што гэта на самой справе, ды дзе там! Ледзьве з хаты не выгнала! Хоць і старая, гадоў сорак, а не ведае нічога...

З тае пары пачаў Ігнат вучыцца на руках хадзіць і сальта круціць. Падаў, сінякі набіваў. Часам нават кроў з носу ішла. Але ж навучыўся! Не так, каб ужо надта добра, але метраў дзесяць прайсьці мог. А сальта – калі з якой-небудзь купіны, то добра, на ногі станавіўся, а калі на роўным, то ўвесь час на “пятую кропку”. Прадэманстраваў Паўлючысе – плюнула: “Ат! Дурнота!”.

Добра тут. Зьверху сонейка грэе, зьнізу камень. Млявасьць ва ўсім целе. Пацягнуўся, ажно хрыбетнік шчоўкнуў, перавярнуўся на жывот. Камень ля самых вачэй цёмна-шэры, шурпаты. Калі прыгледзецца – крупінкі відаць. Шэрыя, жоўтыя, чорныя, розныя. Мурашка сьпяшаецца. Відаць, хоча хутчэй у свой мурашнік трапіць. Барозначкі па паверхні. Яны для мурашкі як канавы глыбокія. Пальцамі па барозначках правёў. Здаецца, гэта літары нейкія. Прыпадняўся на кукішкі. Так, літары. Але ўсё лішайнікам зарасло, і мохам. Не прачытаць. А гэта што? Падобна на сьляды чалавечыя. Быццам стаяў тут, на краі каменнай пляцоўкі босы чалавек, і пакінуў сьляды… Можа калісьці, даўней, гэты камень быў не камень, а… як гліна. А потым закамянеў, як у горне. Ігнась бачыў шмат разоў – дзядзька Жылінскі круціў з мокрай гліны вазоньніцы. Потым высушваў іх і абпальваў у печы адмысловай. І тады гліна станавілася як камень. Толькі крохкая, ад удару б’ецца. Але цьвярдая і ў вадзе не намакае. І гладкая. А камень шурпаты. То, можа, валун гэты даўней быў з іншай гліны, іншага гатунку? І даўнейшы чалавек гадоў можа тысячу таму… не, нават больш за тысячу, мо сто тысячаў, пакінуў на мяккай грудзе адбіткі ног. А груда ляжала ў лесе і здарыўся пажар. І сьляды закамянелі ў пажары, як вазоньніцы дзядзькі Жылінскага ў горне…

Ігнаська ступіў босымі нагамі ў сьляды. У яго – трыццаць сёмага памеру. А сьляды большыя, няйначай саракавога. Пастаяў, паглядзеў уніз, пад камень – ці няма там якіх сукоў, або – барані Бог – бітых бутэлек, расставіў убакі рукі і скокнуў уніз, крутануўшы сальта. Ужо ў паветры пашкадаваў аб неабдуманым учынку. Чакаў моцнага ўдару і болю, але прызямліўся надзіва мякка і неяк запаволена. Рукі быццам трапілі ў ваду – упёрліся ў паветра, раптам пругкае і шчыльнае. А цела, толькі што разагрэтае і млявае, стала лёгкім і паслухмяным. Апусьціў расстаўленыя ўшыркі рукі – і зямля зьнікла з-пад ног, а ён нечакана зрабіў вялізны скачок. Прызямляючыся, інстынктыўна глянуў уніз і пахаладзеў: замест знаёмых кожнай драпінай загарэлых лытак – аранжавыя птушыныя ногі з чатырма расстаўленымі кіпцюрастымі пальцамі. Тры пальцы ўперад, адзін назад. Бусьліныя ногі! І замест рук – белыя з чорным крылы! Хацеў закрычаць – толькі дробна

заляскаў дзюбай.Ператварыўся ў бусла.

2.

“Што за дзень?! – думаў Ігнаська, шпацыруючы вакол валуна цыбатымі нагамі. – З Толікам гэтым пабіўся, цяпер вось зусім нешта незразумелае – як у такім выглядзе дадому заявіцца? Хто паверыць, хто хоць бы здагадаецца, што гэта не звар’яцелы бусел, а – іхны сын, Ігнат Сокал?”

– Ч-ж-ж-ы-рр-к! – пачуўся рэзкі крык, і з травы шустра, нават можна было зблытаць з нейкімі зьвяркамі, выбеглі на чыстае дзьве рабенькія птушкі. Вельмі падобныя, але адна ярчэйшая, з чорнай дужкай на грудзях – Ч-ж-ж-ы-рр-к! Дзеці! Схаваліся!

Курапаткі насьцярожана касілі вочкамі на Ігнаську-бусла.

– Буслы зараз на бесавым балоце – ловяць жаб, мышэй і вужоў для бусьлянятаў! Ты хто? – праціўкала ярчэйшая курапатка. Курапатка-пеўнік, так іх клічуць, бо няма такога слова – “курапат”.

– Я?! – затрашчэў дзюбай ушчэнт зьдзіўлены Ігнаська. – Я Ігнаська. Я што – цябе разумею? А ты мяне – таксама?

– Ч-ж-ж-ы-рр-к! Хі-хі-хі! Мы бачылі, як ты з чароўнага каменя кульнуўся, – дзярпучым высокім голасам прапішчэла курапатка-курачка.

– Не кульнуўся, а скочыў! Сальта зрабіў.

– Хі-хі-хі! Ц-ц-ы-р-р-к! Пачакай, я дзетак зьбяру. Ты не схопіш маіх дзетак? Буслам толькі дай волю – усё, што праглынуць могуць – хапаюць. Абжоры!

– Я не бусел. Я – Ігнаська. Я не ем ні жаб, ні вужоў, ні мышэй. Ні малых курапатак.

– Ц-ц-ы-р-р-к! Дзеткі! Да мяне! – з травы да матулі пабеглі з тузін пушыстых камячкоў, вельмі падобных да куранятаў, толькі зусім малюпасенькіх, і не жоўтых, а пярэстых – каб лацьвей было хавацца ў траве. Палезьлі пад расстаўленыя крылы.

Дачакаўшыся, пакуль апошняе птушаня схаваецца ў матуліным пер’і, пеўнік загаварыў звонкім рэзкім голасам:

– Даўно-даўно, Ігнаська, так даўно, што нават уявіць цяжка, жыў адзін чалавек. Яго клікалі Францішкам, а родам ён быў з места Асізы. Дык гэты Францішак вельмі любіў усё жывое – і расьліны, і птушак, і зьвяроў. Ён ніколі не лічыў іх ніжэйшымі стварэньнямі, а адносіўся як да братоў, з каханьнем і павагай, якой не меў ніводзін чалавек у сьвеце. За гэта птушкі і зьвяры палюбілі яго, і давяралі. Францішак нікому не жадаў благога, і ўсё жывое наўзаем жадала дабра яму. І за сваю любоў ён атрымаў дар разумець мову зьвяроў і птушак, а людзі прызналі яго сьвятым. Тыя сьляды на камені – сьляды ягоных ног. Гэтую вось гару людзі і жывёлы называюць Францішкоўскай – у яго гонар. А гэты валун, дзе некалі стаяў сьвяты Францішак, ён чароўны. Калі наступіць на іх, падумаць або вымавіць, у каго хочаш ператварыцца, а потым перакуліцца праз галаву – то і ператворышся.

Пеўнік скончыў і ганарыста выгнуў грудзі. Курачка ляжала, падціснуўшы

ногі і расставіўшы ўбокі крылы, з-пад якіх то вытыркаліся, то хаваліся ў пер'і галоўкі птушанятаў. З-за гэтага пер'е курапаткі ўвесь час варушылася і яна была падобная на купіну з пажухлай травой, якую разьдзімае ветрык.

– Ага! Значыць, калі я кульнуся зноў, падумаўшы або крыкнуўшы… што я павінен крыкнуць? “Ігнаська”?

– Крыкні “чалавек!” – прымеш выгляд, які меў дагэтуль, станеш самім сабой, – джыркнула курапатка-маці. – Менавіта крыкні, а не падумай, так бясьпечней, бо мала якая думка можа ўскочыць у тваю галаву…

– Дзякуй вам! А то я ляжаў тут на камені, марыў лётаць, як бусел, а калі раптам зрабіўся буслам – спалохаўся, што гэта назаўсёды. Вельмі ўжо нечакана ўсё адбылося!

– Так, Ігнаська. Цікава пабыць у чужым целе, адчуць і зразумець іншых, але найдаражэй заставацца самім сабою. Толькі будзь асьцярожным, Ігнаська. У чужым выглядзе цябе будзе падсьцерагаць шмат небясьпечнага. Асьцерагайся. І не спрабуй ператварыцца ў нешта нерухомае – у расьліну, напрыклад, ці камень. Тады ты не здолееш вярнуцца да валуна і зноў прыняць чалавечы выгляд. А яшчэ запамятай, Ігнаська – калі каму раскажаш пра гэты камень, то для цябе і для таго, каму раскажаш, ён стане звычайным валуном. Ну, удалага палёту! – І сям'я курапатак нырнула ў высокую траву. І яшчэ доўга было відаць, як аддаляючыся яны варушылі травінкі. Ігнаська ўзмахнуў рукамі-крыламі і яго падкінула ўверх. Не пасьпеў махнуць другі раз, упаў на зямлю, спружыніў нагамі, адштурхнуўся, падскочыў, махнуў, яшчэ, яшчэ – і засьлізгаў у паветры. Паляцеў!

“А гэта, аказваецца, нялёгка, – думаў ён, – ніколі б не падумаў, што махаць крыламі – такая цяжкая праца!”

Унізе праплыў луг, пачалося жоўтае жытнёвае поле. І над полем яго раптам панесла ўверх. Ігнаська расставіў крылы, і больш не махаў, адпачываў, а яго падымала ўсё вышэй і вышэй.

“Ага! Вось чаму той бусел, што я бачыў, лежачы на валуне, кружыў над полем! – здагадаўся Ігнаська. – Поле нагрэлася, ад яго нагрэлася паветра. А гарачае паветра заўсёды імкнецца ўверх. Нават у лазьні, дзе парацца, гарачае паветра пад стольлю, а ўнізе – больш халоднае. Так узьнікае вецер – зьнізу-ўверх. Гэты вецер падымае, і не трэба махаць і стамляцца.”

Ён кружыў высока, нашмат вышэй лесу. Калі губляў вертыкальны паветраны паток, што “дзьмуў” з жытнёвага поля, то пачынаў сьлізгаць уніз. Гэта нагадвала сьлізганьне зімой з ледзяной гары на кавалку фанеры. Гэтак жа сьвішчэла ў вушшу і было страшнавата. Але Ігнаська хутка прылаўчыўся кіраваць целам у паветры. Нават не думаючы, як гэта робіцца. І ён сьлізгаў так, каб зноў апынуцца над полем. І яго зноў узносіла ўвышыню.

За лесам выгінастай стужкай блішчыць рака. Вунь туды, дзе да яе з лесу выходзіць сьцежка, Ігнаська і навінскія дзеці ходзяць купацца. Хлопчыкі пабудавалі сабе з дзірвана ўзвышэньне, каб скакаць у ваду. А Ігнаська скакаць не любіць. Пазалетась адпачывалі паблізу хутара “дачнікі” – сям'я з

Мінску, бацька, маці і іхняя дзяўчынка. Малая зусім. Паставілі намёт на беразе і жылі ў ім два тыдні. Падружыўся Ігнаська з дзядзькам Юзікам. Ён трэнер па боксе, паказваў Ігнаську розныя ўдары, расказваў як сілу накачаць. А на разьвітаньне падараваў маску для ныраньня. Надзеў яе Ігнаська, нырнуў, і ледзьве не закрычаў ад захапленьня. Якая там прыгажосьць! Трава – ярка-зялёная, тонкая і доўгая, быццам жаночыя валасы, на плыні палошчыцца. На дне кялбы стайкай стаяць. А пад карчом – шчупак! Дзірка ў беразе – гэта ўваход у бабрыную нару. Іх шмат тут. Паўсюль лаза пагрызеная. Бабры карой харчуюцца. Часам, калі прыходзілася позьнім вечарам ці ўначы на рацэ быць, то чуваць, як яны дрэвы грызуць. Хруп-хруп-хруп-хруп. Валяць таўшчэразныя дрэвы, а потым галіны адгрызаюць і цягнуць пад ваду. Там запасы на зіму робяць. Каб не ўсплылі, у бераг галінкі уторкваюць.

Адзінае, што засмучае Ігнаську ў час ныраньня – толькі нырнеш, трэба выныраць, каб паветра дыхнуць. Добра бабрам, або выдрам – тыя хвілін па пяць могуць за паветрам не падымацца.

Трэба будзе паспрабаваць у бабра ператварыцца або ў выдру. У выдру лепей, бабёр на беразе не вельмі спрытны, а ад таго чароўнага валуна да ракі кіламетра паўтара будзе. Выдрай лепей. А яшчэ трэба ў сокала ператварыцца. Раз ён па прозьвішчу Сокал, то хай пабудзе сокалам. Сапсанам. Ігнаська браў чытаць у бібліятэцы кніжку “Звери и птицы нашей страны”, вельмі цікавая, дык вычытаў, што сокалы – гэта не адна птушка, а цэлая група. Ну, як сабакі бываюць розных пародаў, так і сокалы – ёсьць сапсаны, крэчаты, каршачкі…

Надакучыла Ігнаську над полем кружыць, зьнізіўся, уздоўж Навінаў паляцеў. На выгане хлопцы ў футбол гуляюць. На адну браму. Яна там і ёсьць толькі адна. Другую ставіць паленаваліся. Гэта ж з лесу трэба жэрдкі цягаць, ямы капаць. Паставілі адну браму, пакуль за жэрдкамі для другой у лесісьці, вырашылі крыху мяч паганяць. І ўсё. Больш ніхто не пайшоў. Так і засталася адна брама. Тата сказаў, што няма нічога больш сталага, чым часовае.

Прызямліўся крыху ўбаку ад хлопцаў. Атрымалася лёгка, быццам усё жыцьцё гэтым займаўся – каля самай зямлі ногі крыху ўперад, а крылы ўбакі і вертыкальна, каб затармазіць. І лёгкі ўзмах. Спыняешся, крыху ўверх, і быццам з ганку саскочыў. І крылы скласьці на сьпіне. Зручна так.

Хлопчыкі вясковыя як ганялі мяч, так і ганяюць, а Толік адразу палку ухапіў (што за звычка – як што, за кол хапацца!) і да яго. Прыйшлося адразу ўзьлятаць. Да хутара роднага пехатой з паўгадзіны дабірацца, а тут меней, чым за хвіліну даляцеў. І сеў на даху. Нічога асабліва новага адсюль не відно, і раней тут бываць прыходзілася, хоць тата з мамай забаранілі на дах лазіць. Гонта ламаецца. Толькі сёньня цікава, як бацькі адрэагуюць.

Мама ля ганку бульбу шкрабе. Бульбу, пакуль маладая, чысьцяць, не абразаючы лушпайкі, а шкрабуць. І вараць яе з кропам. Такая смаката!

Асабліва са смажанымі скварачкамі. Або з кіслым малаком. Успомніў Ігнаська, што са сьняданку яшчэ не еў, аж у жываце засмактала. Трэба ляцець да валуна, чалавечы выгляд прыняць. Не есьці ж яму жаб! Уявіў, што жабу жывую глытае. Нічога. А раней дык і званітаваць магло. А мама скосу глянула на яго – яна ж не ведае, што гэта Ігнаська – і тату з хаты кліча: “Бацька! Бацька! – а як выйшаў – Глянь, бусел на хату сеў. Можа, месца для гнязда шукае. Ты б зацягнуў на дах кола, ці барану. Хай гнязьдзяцца. Кажуць, буслы на хаце – прыкмета шчасьлівая…”. “Не, – запярэчыў тата, – Запозна ўжо гнязьдзіцца. У іх маладыя хутка на крыло стануць. Можа проста адпачыць сеў”. І забыліся пра бусла. Пачалі гутарку пра Ігнаську. Сьмешна! Ігнаська ходзіць па вільчыку і слухае, што пра яго кажуць. Падслухоўваць увогуле нядобра, але ж Ігнаська не хаваецца, а значыць і не падслухоўвае…

– Як пайшоў з раніцы на вёску, дык дагэтуль не было. Нават паесьці не прыходзіў. Нешта я ўжо хвалююся, – мама кажа.

– Распусьцілі мы яго! – тата. – Сыходзіць без дазволу! Швэндаецца, колькі хоча! На рэчку без дарослых ходзіць. Далібог, калі прыйдзе зацемна – налупцую!..

О! А гэта ўжо сур’ёзна. Сонца за лес садзіцца, сьпяшацца трэба. Узмахнуў крыламі. “На рэчку без дарослых!”. Дачакаешся, каб вы на рэчку пайшлі… У вас ніколі на гэта часу няма! “Налупцую!”. Тата кажа, што ў выхаваньні дзяцей і сабак часам трэба дапускаць “балявое узьдзеяньне”. Гэта так закавырыста ён лупцоўку называе. А мама – што дзяцей біць нельга! Хоць аднойчы, даўно…

3.

...Было не балюча, а страшэнна сорамна. Спачатку Ігнаська адчуў на сваім каўняры цьвёрдую руку. Потым рука лёгка, бы кацяня, выняла яго з-за парты. Другой рукой Яніна Паўлаўна ўхапіла кіёк, якім папраўлялі дровы ў стаяку і, не выпускаючы каўняра, пачала Ігнасіка моўчкі лупасіць, быццам пыл выбівала з ягонага шэрага пінжачка. Дзеці спалохана прыціхлі. Ад кійка пасьля кожнага ўдару адламваўся кавалачак, і настаўніца спынілася толькі тады, калі ад яго амаль нічога не засталося...

На ўроку працы першакласьнікі (увесь клас – шэсьць хлопчыкаў) вучыліся падшываць насоўкі. А на вуліцы пачыналася вясна. Радасна пахла набрынялымі пупышкамі, захліпаліся шпакі, шкварчэлі быццам раскалены тлушч. За школкай, у рачулцы на пясчаным дне стаялі чародкі сьліжоў і кялбоў. Іх можна лавіць у кош. Адзін ставіць кош упоперак, а другі заганяе... А тут сядзі і корпайся іголкай у кавалку тканіны. Не мужчынская справа... Думкі Ігнасікавы былі там, на вуліцы. І ніякай канцэнтрацыі на справе не было. Таму і ўткнуў нечакана іголку ў палец. Ды так глыбока, балюча, што гучна войкнуў.

Невядома, што такога сьмешнага ў гэтым войканьні, але ўсе зарагаталі.

Абодва класы, бо вучыліся адначасова першы з трэцім. У школцы толькі адно класнае памяшканьне, і адна настаўніца. Яніна Паўлаўна – яна для Ігнасіка толькі ў школе Яніна Паўлаўна, а дома – матуля. Першым часам блытаўся Ігнасік – дзе як называць – а потым нічога, прызвычаіўся. Галоўнае – ну што тут сьмешнага, калі чалавеку баліць? Дык не – рагочуць! І нават пальцамі паказваюць! І Адзік Шульман – сябра называецца! – гучней за ўсіх!

Зашумела ў Ігнатавай галаве, такая злосьць нахлынула, што размахнуўся і ад усяе душы ўрэзаў ляпаса поўху, да каго дастаць здолеў – суседу па парце, Адзіку. Тут і адчуў на каўняры цьвёрдую руку. Нават не думаў, што матуля такая дужая.

– Ты ведаеш, бацька, што наш Ігнасік сёньня ўтварыў? – Паведаміла матуля дома тату. – Даў па твары доктараваму сыну, да канца заняткаў шчака гарэла.

– А мамка мяне палкай набіла! – Пасьпяшаўся Ігнасік. Маўляў рахунак ужо аплочаны. Паўторна разьлічвацца не хацелася. І, каб узмацніць вартасьць расплаты, дадаў: – Біла, біла, ажно палка паламалася!

– Ну, ужо скажаш – палка! Кіёчак, з мезенец таўшчынёй! А інакш – падумаюць, што настаўніца дазваляе сыну дзяцей біць. Ды яшчэ ў антысемітызме абвінавацяць. Ды ў гарана паведамяць...

– А за што ён таго жыдзянятка стукнуў? – Пацікавіўся тата. Спакойна пацікавіўся, значыць рахунак залічаны.

– Рыгор! Ну як ты кажаш! Пры дзіцю! Ігнасік, ніколі не кажы так, як тата. Трэба казаць – яўрэй!

– А чаго ён сьмяецца?! – Ігнасік ужо ўпэўнены, што спагнаньняў больш не будзе. – А што такое “яўрэй”?

– Ну, гэта нацыя такая... Вось Аркадзік – яўрэй. А ты – беларус.

– Адзік – яўрэй? Я – беларус? – Ігнасік на хвіліну задумваецца. – А як гэта?

– Што – “як гэта”? Фармулюй пытаньні дакладней. Ты хочаш спытаць, чым адрозьніваюцца яўрэі ад беларусаў? Ну, вось мы размаўляем па-беларуску, а ў яўрэяў ёсьць свая мова, яўрэйская.

– У Адзіка ёсьць свая мова?

– Ён размаўляе таксама па-беларуску. Бо жыве сярод беларусаў. А зараз запамятай – ніколі не кажы слова, ну, што тата сказаў.

– Жыдзянятка?

– Ігнат! Апошні раз! Яшчэ раз пачую – наб’ю, далібог!

– Кухталя даць шмат розуму не трэба. – Сур’ёзна кажа тата. – Сапсаваць адносіны лёгка. Ты б папрасіў у Адзіка прабачэньня, Ігнась…

...Як гэта цяжка! Перад пачаткам заняткаў Ігнасік з пылаючым тварам перахапіў Адзіка на ганку, і, не ў змозе падняць вочы, прамармытаў:

– Я гэт-та... Не хацеў... Яно неяк само... Давай... Мір?

– А я ўжо не злуюся! – Шырока ўсьміхнуўся Адзік. – Мір!

І, як дарослы, працягнуў руку. Потым, на ўсіх перапынках яны не адыходзілі адзін ад аднаго. А ідучы дадому, Ігнасік паведаміў: “Адзік! Тата казаў, што ты – яўрэй.”

Адзік раптам спахмурнеў і неахвотна выціснуў:

– Ну, яўрэй... Толькі ты пра гэта нікому не кажы... Добра?

– А чаму?

– Так трэба...

– А чаму?

– Ну, трэба так!

Чаму так трэба, Ігнасік спрабаваў дадумацца вечарам. Так і не дадумаўся. Яўрэі, беларусы... У Адзіка – свая мова, не такая, як у яго. Цікава – у птушак і зьвяроў ёсьць свая мова? Агульная на ўсіх? Ці ў кожнай пароды – свая? Думкі блыталіся.

4.

…Кульнуўся з валуна, носам у траву. Устаў, агледзеў сябе. Нармальна прайшло. Во, каб хто ўбачыў, як на валун бусел сеў, а потым праз галаву пачаў кульбіты рабіць! Падумаў бы – ці бусел звар’яцеў, ці ён сам трызьніць.

На сьцежцы курапаткі: “Ч-ж-ж-ы-рр-к, ч-ж-ж-ы-рр-к!” Тыя ж самыя, толькі зараз незразумела, што яны кажуць. Глядзяць недаверліва, але не ўцякаюць. Прысеў, паклікаў: “Ціп–ціп–ціп!”. Падбеглі. Пагладзіў асьцярожна курачку: “Мне дадому трэба, сонца садзіцца, а тата адлупцаваць абяцаў. Бывайце, любыя птушачкі”. І паімчаў праз луг.

– Ну? – Тата хмурыцца, але Ігнаська бачыць, што ён толькі напускае на сябе строгасьць, а на самой справе ледзьве стрымліваецца, каб не заўсьміхацца. (Вось жа звычка ў гэтых дарослых – “нукнуў”, і чакае нейкага адказу. Што я павінен яму казаць? Як стану дарослым, ніколі не буду задаваць такія пытаньні. “Ну…”!).

– Гэт-та… Я не зразумеў…Ты нешта пытаешся?

– Колькі разоў было сказана: дарослым нельга казаць “ты”!

– А як зьвяртацца? “Вы нешта пытаеце, тата”?

– Ну, гэта ўжо залішняе… – Па твары відаць, што тата вось-вось разрагочацца. – Дастаткова так: “Тата нешта пытаецца?” Так! Тата пытаецца… Дзе насіла цэлы дзень ягонага лайдака? Дома хлеба няма ні скарынкі. Заўтра ж сходзіш у Мендыжэчы за хлебам.

Мендыжэчы, гэта вёска за лесам. Туды брукаваная шаша вядзе. Там крама, у хаце бельманаўскай. Хлеб, газа, гумовікі. Раз на тры-чатыры дні Ігнаську пасылаюць туды. Купляць хлеб – ягоны абавязак. І яшчэ ламачча насіць з лесу. У хаце дзьве печы – адна вялікая, з ляжанкай, другая – “стаяк”. У вялікай мама есьці гатуе, яе дровамі паляць. А стаяк – ламаччам з лесу. Калі моцная сьпёка стаіць, то ежу на вуліцы гатуюць. Для гэтага тата з цаглін агмень склаў, яго таксама ламаччам паляць. А стаяк летам

”адпачывае”, таму зараз Ігнасік толькі зрэдку сухія палкі з лесу цягае. А зімою то кожны дзень на лыжы – і ў лес, ён адразу за плотам.

5.

У Мендыжэчах даволі хлопцаў, але неяк так здарылася, што Ігнаська з імі не знаёмы. Бо ў Мендыжэчах свая школа, а Ігнаська ходзіць у іншую, у Кіявецкую. Кіявецкая хоць і далей, але там матуля настаўніцай працуе. І навінскія дзеці ў Кіявецкую ходзяць. Вось і атрымалася, што навінскіх Ігнаська ведае, а Мендыжэцкіх – не.

Кіявецкая школа старая. Там прапрадзед Ігнасікаў вучыўся, Дамінік, і прадзед, Ляксандра, і дзед, Пётрусь, і тата. І вось Ігнасік яе скончыў. Увосень, у пяты клас у Ракаўскую школу пойдзе. Далёка, восем кіламетраў.

Пайшоў за хлебам не шашой, шашой нецікава, а ляснымі сьцежкамі, праз Казіну. Гэты лес, што паміж Мендыжэчамі і хутарам, Казіной называюць. Невядома чаму. Ігнаська пытаўся ў таты, а той толькі плячыма пацiснуў. “Казіна ды Казіна, – кажа, – так заўсёды называлі”.

Ідзе Ігнаська праз Казіну асьцярожна. Пройдзе крокаў трыццаць, спыніцца, паслухае, паглядзіць. Вось вавёрка на елцы зацокала. Выглядае з-за стаўбура адным вокам. Паспрабаваў Ігнаська абысьці елку, каб усю вавёрку ўбачыць – дзе там! Ігнаська вакол дрэва, і вавёрка вакол стаўбура, прыкрываецца ім. Спрытнюга! Што заўсёды дзівіла Ігнаську – гэта, як яны могуць па дрэве галавою ўніз спускацца? Уверх – зразумела, кіпцюрамі чапляюцца за кару. Так нават кошка ўмее. Але кошка з дрэва задам спускаецца, а вавёрка – ўніз галавою. І не падае!

Нешта зашамацела ў лістоце, і вылецеў вехіра, голуб дзікі. Паклаў Ігнаська на сьцежку сетку-авоську і грошы, каб рукі вызваліць, бо ўсё лета нічога не насіў апрача трусікаў, а ў іх кішэняў няма. І палез на ясень, адкуль той голуб вылецеў. Заўважыў у кроне сухіх галінак купку. Можа гняздо? Памалу-памалу – дабраўся амаль да вяршынкі, а там у разгалінаваньні – сапраўды гняздо. І галубка сядзіць, трывожна вочкам паблісквае. Працягнуў Ігнаська руку, каб пагладзіць, як учора курапатку гладзіў, не вытрымала, зьляцела. Шумна так крыламі заляскала. Гэта ў галубоў сігнал трывогі. Не ведае, дурненькая, што Ігнаська нічога кепскага не меўся зрабіць. Зьляцела, а ў гняздзе двое птушанят. Ды якія брыдкія! Голыя, ружовыя, няўклюдныя! Ну, быццам пацучаняты! Няўжо з іх такія прыгожыя галубы вырастуць? Доўга глядзеў на іх Ігнаська і думаў, параўноўваў з малымі курапаткамі, што ўчора бачыў. Тыя, можа з дзень як вылупіліся, а ўжо шустрыя, бегаюць, тату з мамай слухаюць – вунь як зашыліся ў траву, калі бацька схавацца закамандаваў! А галубяняты дык ледзьве варушацца. Або ўзяць зайцаў і трусоў. Здаецца – ну, такія ўжо падобныя! Амаль аднолькавыя. Знаходзіў часам Ігнаська зайчанятаў, маленькіх, на далоні памяшчаюцца – відаць, толькі што народжаных. Дык яны хоць і малыя, а ўжо відаць – зайцы. У поўсьці, вочы глядзяць. А трусяняты народзяцца – ну, быццам гэтыя галубы

малыя – ледзьве варушацца, голыя, сьляпыя, у ружовай тонкай скуры. Чаму так? Зьлез з дрэва і ў задуменьні пайшоў далей. А як дайшоў да крамы, адчуў – чагосьці не хапае…

Ну што за лёс! Грошы і сетку ў Казіне забыўся! Ажно горача стала ад думкі, што нехта там жа пройдзе. Кінуўся бягом назад, пыл закурэў з-пад босых пятак. Прыбег да ясеня з гняздом вехіры – ляжаць там на сьцежцы ягоная авоська і рубель. Пашанцавала. Хоць хто там пойдзе сцежкай, калі дарога побач…

Вярнуўся ў Мендыжэчы, хлеба купіў. Шэсьць боханаў. Рэшту, восем капеек, пад гумку трусоў закруціў. Закінуў авоську за плечы і назад пасунуўся. Цяжкавата. За маслазаводам куча каменнага вугалю насыпана. І з -за яе “абстралялі” Ігнася. Двое хлопцаў пачалі кавалкамі вугалю кідацца. Відаць было, што проста так кідаюцца, не стараюцца пацэліць. Можа пазнаёміцца хочуць. Добра было б, а то ў Навіны хадзіць гуляцца не выпадае, пакуль Толік ня зьедзе. Нагнуўся, падняў кавалак вугалю, ды і шпурнуў у адказ. Нават авоську з сьпіны не здымаў, і не мецілся зусім.

Не, дзень сёньня нейкі няўдалы! Дакладна ў лоб вышэйшаму бамбануў! Каб і хацеў так пацэліць, то не здолеў бы. А тут – на табе! Войкнуў хлопец, схапіўся за твар, і ўпаў за кучай. А другі над ім схіліўся. Што на вайне, далібог! Зараз паранены расчухаецца, і ўдвох яны Ігнаську будуць біць. І хлеб у пыле выкачаюць. Потым бацькі ў разьбіральніцтва ўцягнуцца. Трэба ўцякаць, хоць і сорамна. І нязручна – з такім грузам за сьпіною…

Захэканы і ўспацелы забег у Казіну, азірнуўся. Не, не даганяюць. Відаць, моцна прыклаў тым вугалем. Ну вось, цяпер яму ні ў Навіны, ні ў Мендыжэчы сунуцца нельга. І як цяпер за хлебам хадзіць? А тут што? Ну што гэта за лёс такі?! Гумка раскруцілася, рэшту згубіў, пакуль бег. Дзе ты яе зараз знойдзеш – пяць капеек і тры. Упалі ў пыл, як у ваду.

## 6.

…Распрасьцёрся Ігнаська на “сваім” валуне. Сумныя думкі ягоныя. А раптам таму хлопцу вока пашкодзіў? Не за сябе страшна, за яго. Хоць і за сябе таксама. Можа зьлётаць буслом у Мендыжэчы, разьведаць? Цэлыя вочы ў таго хлопца, ці барані Бог – не. Буслом занадта заўважна. Так разьведку не робяць. На якую птушку мала ўвагі зьвяртаюць? На вераб’я. Але далекавата вераб’ём адсюль да Мендыжэчаў ляцець, малы вельмі. Галкай! На галку ніхто ўвагі не зьверне, а даляцець ёй адсюль – раз плюнуць. Яшка ўзгадаўся. Пазалетась, ці пазапазалетась зграшыў Ігнаська. Злазіў да гнязда, ды малое галчаня дастаў. Ужо ў пер’і было, але яшчэ не лётала. Бацькам салгаў (другі раз зграшыў), што пад дрэвамі знайшоў, выпала маўляў. Галчаня тое крычала ўвесь час, есьці прасіла. Карміў чарвякамі дажджавымі, конікаў у траве лавіў, проста кавалачкамі мяса. Галодным не трымаў, не. Цікава было назіраць, як Яшка расьце. Тыдні праз два пачаў лётаць пакрысе. Усё лепей, лепей. Пад канец лета зусім вырас, у

дарослую галку. Лётаў куды хацеў. Але варта было паклікаць “Яшка-Яшка-Яшка!” – адкуль толькі браўся. Прыляціць, на плячук або на галаву сядзе, і пяшчотна так валасы дзюбай перабірае. А потым зьнік раптам. Можа да сваіх прыбіўся. Але застаўся ў Ігнаськавай душы сум па Яшку. І пачуцьцё віны.

Крутануўся белы сьвет перад вачыма, і паўстала сьцяна. “А-а! Трава ля валуна. Гэта ж я зараз маленькі, што трава для мяне як лес”.

– Ч-ж-ж-ы-рр-к, Ч-ж-ж-ы-рр-к! – О, старыя знаёмыя!

– Гэта ты, Ігнаська? – Пеўнік падбег і стаў побач. – Будзь вельмі асьцярожным. Цябе падпільноўвае шмат небясьпечнага! Увесь час круці галавой! Вельмі ўважліва! Вельмі ўважліва!

Узьляцеў лёгка, адразу адчуў, наколькі ён больш вёрткі ў параўнаньні з учарашнім. У сэнсе – за бусла больш вёрткі. І наўпраскі – у бок Мендыжэчаў.

“Чаму гэта пеўнік прасіў увесь час круціць галавой?” – падумаў Ігнаська і пакруціў. І адразу заўважыў нейкі хуткі прадмет, што імкліва набліжаўся да яго з вышыні. З боку сонца. І пачуў сьвіст крылаў. У апошні момант пасьпеў зрабіць зігзаг, і – ж-жух-х – выставіўшы ўперад кіпцюрастыя лапы, міма прамільгнуў сапсан. Ігнаську скаланула ад жаху, ён замахаў з усяе сілы, імкнучыся хутчэй даляцець да Казіны. Там, сярод лістоты, яму здавалася бясьпечней. Сапсан пасьля выхаду з “пікіраваньня” – падаў на Ігнаську склаўшы крылы – таксама замахаў і пачаў набіраць вышыню. З Казіны выляцела чорная гаманлівая стая і кінулася на сапсана. Галкі, яны там гнязьдзяцца цэлай калоніяй. Зрэшты, ударыць сапсана не насьмельваліся, толькі палохалі.

Калі даляцеў да лесу, прысеў на галінку старой асіны, усыпанай гнёздамі галак і гракоў. Аддыхаўся ад перажытага ўзрушэньня. Жыхары калоніі, адагнаўшы сапсана, вярнуліся назад, і падняўся такі крык, такі лямант, што Ігнаська ледзьве не аглух. Усе сварыліся на яго, што адзін насьмеліўся ляцець праз луг. З усіх крыкаў Ігнаська зразумеў – у галак і гракоў шмат ворагаў. У паветры – сокалы, у паветры і на зямлі – ястрабы, на дрэвах – куніцы і кошкі. “Дык вось чаму яны гнезьдзяцца вялікімі групамі, – зразумеў Ігнаська. – Грамадой лягчэй змагацца з драпежнікамі!”

“Што ж рабіць? – думаў Ігнаська-галка, седзячы сярод лістоты на галінцы. Вакол яго па-ранейшаму з крыкамі мітусіліся “суродзічы”. Вучылі жыцьцю, але крычалі адначасова, так што плёну было мала. – Зараз ясна, што ляцець у Мендыжэчы небясьпечна. Але ж і ляцець назад да валуна – таксама”.

Ігнаська прыгледзеўся ў неба, і высока-высока заўважыў сапсана – таго, ад атакі якога ён шчасьліва ўхіліўся. Ледзьве бачнай кропкай сокал кружыў над наваколльлем, выглядаючы якую-небудзь самотную ахвяру. “Так. Трэба рабіць высновы. – Калі прымаць выгляд мірных птушак і зьвяроў – вельмі проста можна загінуць. Дзякуй курапаткам. Каб не іхняе папярэджаньне

(якім я – трэба прызнаць – скарыстаўся выпадкова, а ўвогуле прапусьціў паўз вушы), то зараз мяне ўжо б ірваў на кавалкі сапсан. Сокал-сапсан зьеў бы Сокала Ігнася. – Разважаў Ігнаська. – Што рабіць? Не сядзець жа тут да ночы. Ды і ўначы невядома што будзе. І мама з татам будуць хвалявацца. Вырашана! Працягваю разьведку!”

Пералятаючы з дрэва на дрэва, увесь час азіраючыся, Ігнаська прамінуў Казіну і сеў на галінцы высокай таполі непадалёку ад кучы з вугалем, дзе некалькі гадзінаў таму трапіў у “перастрэлку”. Прытаіўся сярод лісьця і выглядаў зьверху. Мендыжэчы – вёсачка невялікая, з паўтара дзесятка хат вакол маслазавода, калі той хлопец дзе на вуліцы (а дзе яму яшчэ быць улетку сонечным днём?) – то нідзе не дзенецца. Тым больш – Ігнаська адзначыў пра сябе – зрок у яго стаў нашмат больш вострым. Вось сядзіць сабе на вышыні, а на зямлі дробныя пясшчынкі і каменьчыкі бачыць. Вунь бліснула нешта. Дык гэта ж згубленая рэшта! Зьляцеў, паскакаў па прыдарожным гарачым пяску, узяў у дзюбу пяць капеек. Куды б прыхаваць? Вось – прыкметны куст дзядоўніку ля дарогі. Сунуў манету ў траву пад ім. Цяпер за другой. І тры капейкі – туды ж. Вылез з травы. І тут жа побач – фантанчык пяску. Ад нечаканасьці замахаў крыламі і ўзьляцеў, не разабраўшыся яшчэ ў чым справа. (Нездарма курапаткі папярэджвалі: “Вельмі ўважліва!”). Ага! З-за дарожнага насыпу Ігнатаў “хросьнік” з рагаткай. Ледзьве не пацэліў! Праз галаву павязка белая, ну чыста ранены баец! А вочы цэлыя. Калі з рагаткай выйшаў на “паляўнічую сьцежку”, значыць жыць будзе! Можна за яго болей не перажываць. Зараз галоўнае – без прыгодаў да валуна дабрацца…

7.

…Гопнуўся ў траву ля каменя, ускочыў, і – бягом у Мендыжэчы. За капейкамі, што пад дзядоўнікам схаваў. Грошы невялікія, толькі перад мамай сорамна. Як дзіця малое: “Дзе рэшта? – Згубіў…” Пра “перастрэлку”, натуральна, нічога казаць не стаў. Прамаўчаць – гэта ж не салгаць!

Вецер у вушах, пот вочы залівае, падбягаў ужо. І – на табе! Твар да твару з тым, параненым. Белы бінт праз лоб, кепка брылём назад, за пасам нагавіц рагатка тырчыць. Босы, голае тулава аж чорнае ад загару. Вышэйшы крыху за Ігнаську, і рукі мускуламі як вяроўкаміперавіты. Калі біцца прыйдзецца, кепска. Ой, як жа біцца не хочацца!

– Ігнаська! – працягнуў нечакана для сябе руку. Той, відаць, таксама не чакаў такога жэсту, пацiснуў зьніякавела. – Алег.

– Алег, я не хацеў пацэліць, далібог! Так проста кінуў, ненаўмысна атрымалася! Моцна разьбіў? – затрашчэў Ігнаська. – Ты, гэта… Ты даруй мяне! Чэсна-найчэсна не хацеў!

– Ды нічога, ужо не баліць. Скуру крыху расьсек. Такой бяды! Загоіцца.

– А гэта што ў цябе? Рагатка? Па чым страляеш?

– Ды гэта я так… Куды прыйдзецца. Па мішэнях. Па варонах.

– Не шкада? Птушак?

– Чаго іх шкадаваць? Яны куранят крадуць. Варон нават паляўнічым загадана страляць!

– І шмат варон настраляў?

– Калі чэсна, то ніводнай, – зарагатаў Алег. – Такія хітрушчыя! Нізавошта не падабрацца на стрэл! Вось толькі сёньня да галкі падкраўся, дурная нейкая галка, неасьцярожная. Усё ў траве капалася. Але прамазаў!

– Ну а галку навошта страляць? Яны ж куранят не крадуць! – (Каб ты ведаў, што гэта была за "дурная" галка!) – У мяне пазалетась галка жыла. Такая разумная! Клікаў – прылятала. А потым прапала. Можа, ты яе падстрэліў?

– Не, я ўвогуле ні разу па птушках не пацэліў. Во Валодзя, ну, той, што са мной быў, калі ты мне ў лоб…, дык ён цэлкі стралок. Вераб'ёў страляе. Тыя блізка падпускаюць. Скубе, кашай набівае і гатуе на вогнішчы. А я не, я больш рыбу люблю лавіць.

– І як ловіш? Вудай? – Па-сапраўднаму зацікавіўся Ігнаська. Дагэтуль ён падтрымліваў гутарку, толькі каб адстаяць свае прынцыпы (па жывому страляць нельга!) і працягнуць знаёмства. – Я лаўлю на вуду. Але вялікай рыбы не трапляе, чамусьці. Толькі гаркушы, ну, бывае, што верхаводкі. Яшчэ сьліжоў і кялбоў. Ім чарвяка трэба пад самы нос… А вось тата ўмее ліпеня злавіць, і нават стронга. Толькі ён рэдка вудзіць.

– Я? Я па-рознаму. І вудай таксама. І на жыўца, нанач стаўлю. На шчупака або на стронга. І сеткай па завонях. Ну, не сапраўднай сеткай – на дзьве палкі кавалак тканіны ад мяшка, і цягаем па завонях – ямах, дзе пасьля паводкі вада засталася. Там шмат рыбы бывае. Часам нават шчупакі. А часьцей – карасі. Залацістыя і серабрыстыя… А хочаш – мы зараз пойдзем карасёў лавіць? Можа і ўюны трапяць. Бачыў уюноў? Як зьмеі, і пішчаць!

– Як гэта – пішчаць? – Здзівіўся Ігнаська. – Рыбы? Рыбы не могуць пішчаць. Кажуць жа: "Нямы, як рыба"…!

– Пабачыш. У сэнсе – пачуеш. Пайшлі?

Уюноў не злавілі. Гадзіны са дзьве цягалі па вадзе кавалак мешкавіны, прыбіты да двух палак. Толькі спачатку нагамі добра ўзмуцілі вадаём. Так Алег закамандаваў, каб рыба не бачыла іхняй "сеткі". Брудныя, мокрыя падцягвалі цяжкую снасьць да берага і вывальвалі змесьціва на траву. Там, сярод выдраных з дна водарасьцяў, весела скакалі карасікі з залатой луской. Алег борзьдзенька сабіраў іх у торбу, што вісела на шыі. Лёгкая пена аблокаў у вадзе, моцны пах аеру і балотнай мяты. Залатыя дыскі б'юцца на траве.

– Алег, яны такія маленькія. Можа… Давай выпусьцім? Хай гадуюцца. А як падрастуць – тады яшчэ раз зловім…

– Яны не падрастуць. Гэтая завонь да канца лета перасохне. І карасікаў паядуць качкі з чаплямі. Чым мы горшыя за чапляў? Ведаеш, яны смажаныя такія смачныя! Хрусткія.

– То можна выпусьціць у раку. – Заўпарціўся Ігнаська.

– Не, у рацэ яны не жывуць. Карасі, асабліва залацістыя, бягучай вады не любяць. Ігнась, глянь, яны ўжо ўсе пазасыналі. Шкада табе? А сам жа казаў – ловіш гаркуш, сьліжоў… Таксама малыя. Іх не шкада?

– Не ведаю. Як паглядзеў, яны такія… як залатыя. Спачатку здалося – радуюцца, скачуць. А потым зразумеў – яны задыхаюцца, і таму трапечуць. І нешта так шкада стала… – Ігнаська страсянуў галавой. – Не зьвяртай увагі. Гэта я так…

8.

Каторы дзень стаіць гарачае надвор'е. Тата з мамай прымушаюць насіць са студні ваду на агарод, паліваць. Якая ж гэта нудная праца! Носіш-носіш, ажно рукі балець пачынаюць. Але іначай пасохне ўся гародніна, прападзе. А як агарод паліў, трэба ісьці ў лес шыльніку нагрэбсьці, карову ды парсюка падсьцяліць. І няма калі да Алега зьбегаць. Дамаўляліся жыўцоў наставіць на шчупака ды стронга. Спачатку трэба зрабіць пару дзесяткаў снасьцей. Да тоўстай жылкі прывязваецца сьвінцовае грузіла (грузілаў яны з Алегам ужо адлілі. Сьвінец са старых акумулятараў выплавілі). Потым, крыху вышэй грузіла – на павадку вялікі рыбалоўны гак. І ўсё. Толькі трэба на дошчачку накруціць, каб жылка не зблыталася. Марыць Ігнаська, што прыйдзе ранкам з ракі і аддасьць маме ў рукі цэлы кукан вялікіх шчупакоў і стронгаў. А на сьняданку ўсе будуць есьці смажаную рыбу і… ну, ён не дзеля таго, каб хвалілі, але можа тата ці мама скажуць добрае слова…

Яшчэ не выходзіць з галавы Ігнаськінай чароўны камень. Толькі страшнавата нешта стала пасьля таго сапсана. І вельмі хочацца падзяліцца ўражаньнямі. Асабліва з Алегам. Ну, невыносна хочацца! Але ж курапатка папярэдзіла, што калі раскажа каму – прападуць чары.

У каго пераварнуцца, каб аніякай небясьпекі? У выдру? Пасьля апоўдня навінскія хлопцы на раку ходзяць купацца. І Толік зь імі будзе. То паднырнуць да Толіка дый укусіць яго за мяккае месца. Моцна ўкусіць, зубы ў выдры вострыя! За ўсё – за кпіны, за ганьбу, за бойку. Толькі як ён даведаецца, што гэта помста яму? А-а! Хай сабе і ніяк не даведаецца. Дастаткова, што ён, Ігнаська ведаць будзе…

Ад каменя да ракі з кіламетр-паўтара. Што выдры можа пагражаць? Нічога, здаецца…

9.

Ага, нічога! Луг па траве хутка прабег. Потым краем лесу. Паўз хутара. Да шашы падышоў. Прабраўся на насып, дачакаўся, што ніводнай машыны не відно, ды і шуснуў упоперак праз брук. А тут сабака. Харэвічаў, здаецца. І што ён тут робіць, так далёка ад вёскі? Добра, што ля самай дарогі куча ламачча ляжала. Як зьмяя прашмыгнуў Ігнаська пад кучу – цела ў яго зараз як зьмяінае, гнуткае, вузкае. Толькі поўсьць вельмі густая, горача. Хутчэй

бы да ракі, недалёка ўжо, метраў дзьвесьце, а тут сабака ў двух кроках енчыць, зямлю дзярэ ды палкі зубамі грызе. Хоча да Ігнаські-выдры дабрацца. Крыкнуў на яго Ігнаська як звычайна: “Пайшоў вон!”, атрымалася як ціўканьне птушынае. А сабака яшчэ больш раз’ятрыўся: “А-вой! А-вой! Людзі! Тут зьвер! Выдра! Людзі! Сюды!”

“Вось табе і на, – падумаў Ігнаська. – Што, калі на сабачы брэх і праўда хто-небудзь прыбяжыць? І пойдзе вось гэтае бліскучае футра на шапку каму -небудзь… Не, трэба рабіць нешта!”

Пакрыху перабраўся пад кучай на яе процілеглы бок. Прыслухаўся. Сабака на тым баку капаецца ды сукі грызе, ажно трэск стаіць. Вылез ды, прыкрываючыся стаўбурамі, падростам лясным ды ў зарасьці папараці – і з усяе сілы да ракі. А як засталіся лічаныя метры, пачуў – сабака па сьледзе ідзе: “А-яй! А-вой! Лаві! Уцякае!”. “Лаві-лаві цяпер”, – усьміхнуўся ўнутрана Ігнаська, і ў ваду. Увайшоў надзіва ціха, нават не плюхнуў, ну, можа, толькі ледзьве-ледзьве. А як лёгка плыць! На задніх лапах паміж пальцамі скураныя перапонкі, як у качкі, ці гуся. З-за іх лапа быццам у ласту ператвараецца. На беразе, праўда, не надта зручна было, затое ў вадзе – цуд. І цела, выгінастае, абцякаемае, такую хуткасьць можна разьвіваць! Удыхнуў Ігнаська паветра і нырнуў, бо сабака па сьледзе на бераг ужо прыйшоў. Нырнуў, і пайшоў па цячэньню. Вось гэта кайф! У масцы ныраць – велізарнае задавальненьне, але ніякага параўнаньня з гэтымі пачуцьцямі. Стайка плотак пад карчом стаіць. Убачылі Ігнаську-выдру – пырснулі ва ўсе бакі. Пагнаўся за адной Ігнаська, проста так, дурэючы. Дык можа на якіх пяці метрах дагнаў. Хацеў зубамі схапіць, нешта яго падмывала зрабіць так, але пашкадаваў. І што цікава – плотка тая так ужо “манеўравала”, такім зігзагам уцякала, а Ігнаська зусім лёгка гэтыя зігзагі паўтараў. Ганяўся так за плоткай, потым двух стронгаў знайшоў – за каменем стаялі – і за імі. І толькі праз якіх пяць хвілінаў успомніў, што пакуль наверх не вынырваў, за паветрам. А дыхаць яшчэ не хочацца!

Вынырнуў пад самым берагам, у куст, што галінкі ў вадзе палошча. Прыслухаўся. Сабака далёка ззаду застаўся. Бегае па беразе, злуецца. А ніжэй па рацэ чалавечыя галасы чуваць. Ну, навінскія хлопчыкі купаюцца. Яны кожны дзень усе разам сюды ходзяць. Раней і Ігнаська з імі хадзіў, разам весялей.

Ціха апусьціўся ў ваду – нос нейкім чынам сам замкнуўся, сьмешна, але вада не трапляе – і зноў уніз, дзе купальня. Купальня іхняя – гэта яма, метры два з паловаю-тры ў глыбіню. Ніжэй ямы – пясчаная мель. Так што калі хто з сілаў выбіваецца, трэба толькі крыху ўніз праплыць, а там можна на ногі станавіцца.

Вынырнуў Ігнаська ля супрацьлеглага берагу. Зноў у куст. Каб яго ніхто заўважыць не мог. Высунуў з вады вусатую мордачку і скрозь галінкі цікуе. Гоман стаіць, хоць вушы затыкай! Відаць, усе дзеці навінскія прыйшлі. Дзяўчынак шмат. Раней яны не хадзілі, апошнім часам далучыліся. Скачуць

з дзірвановага ўзвышэньня ў ваду не горш за хлопцаў! Не, усё ж горш. Хлопцы галавой уніз, а той-сёй з усялякімі выкрутасамі, “бомбачкай”, нават сальта спрабуюць круціць, а дзяўчаткі толькі “салдацікам”, нагамі ў ваду. І яшчэ насы пальцамі заціскаюць. Недатыкі! Ваду ў носе цярпець, бачыце, не могуць! А сярод іх Толік круціцца. То штурхне якую, з “тумбы” сьпіхне, то падныpне ды за лыткі схопіць. Вада ў рацэ празрыстая, што крышталь, Ігнаську добра відаць. Пішчаць дзяўчаткі, сварацца, а Толіку хоць кол на галаве чашы! Зазлаваў Ігнась – і за дзяўчатак, і за старую крыўду, і што дагэтуль не можа Навіны наведваць.”Далібог, – думае, – паднырну і ўкушу”. А Толік гэтым часам “ластаўкай” з тумбы нырнуў, і сажнямі па купальні то па цячэньні, то супраць. Потым на сьпіну перавярнуўся, на сьпіне паплыў. Стаміўся, відаць, вырашыў адпачыць. І як яно атрымалася – можа выгнуўся ў паясьніцы замоцна, можа яшчэ што – але накрыла хваляй Толікаў твар і хлебануў ён вады. Перавярнуўся на жывот, вочы вырачаныя, спалоханыя, закашляўся, і яшчэ хлебануў. Узмахнуў адной рукой, і зьнік з паверхні. Дзяўчаты ў адзін голас завішчэлі, але ніхто на дапамогу не кінуўся. Вядома – страшна.

У той момант забыўся Ігнаська, што ён – выдра. Забыўся, што ўкусіць толькі што Толіка зьбіраўся, каб адпомсьціць за нанесеныя крыўды. Нырнуў і што было сілы да Толіка. А той павольна да дна апускаецца. Вочы расплюшчаныя, і кашляе. Ну, грудная клетка тузаецца, і з кожным такім сутаргавым рухам з рота бурбалкі вырываюцца. Імгненна падляцеў да яго Ігнаська, хацеў рукамі за валасы схапіць, ды ўзгадаў, што рук зараз няма. Учапіўся зубамі за трусы і з усяе сілы пацягнуў уніз па цячэньню, на плыткае месца. Цячэньне хоць і не вельмі хуткае, ды крыху дапамагала. Вось і водмель пясчаная. Далей, далей. Так, каб хлопцы ўбачылі. Цягнуў, упіраючыся лапамі ў дно, ажно пакуль трусы не садраў. Тут ногі хлапечыя замільгалі ў вадзе, некалькі хлапчукоў падхапілі Толіка пад рукі, на бераг павалаклі. Ігнаську, здаецца, не заўважылі. Ён зноў пад той куст на супрацьлеглым беразе. Вывалаклі Толіка на бераг – дзяўчаткі зноў у піск. Што за племя, гэтыя дзяўчаты – ну, убачылі чалавека без трусоў, дык чаго вішчэць?! А хлопцы – малайцы, качаць Толіка пачалі. Проста перакочваць па беразе. Кашлянуў Толік фантанам вады, і пачаў дыхаць.

Як дзеці пайшлі і павялі пад рукі Толіка, Ігнаська счакаў крыху, потым выплыў на сярэдзіну купальні. Нырнуў, прайшоўся па дне. Кругом белы пясок, дзе-нідзе плямы рачнога сьмецьця. Правы бераг абрывісты, амаль вертыкальны. У беразе, амаль ля самага дна дзірка. Гэта ўваход у бабрыную нару, яе Ігнаська даўно ведае. Але раней добра разгледзець не хапала паветра. Тут корч ад старога дрэва, карані. І між каранёў чорная адтуліна. Ігнаська прыпаў да дна і разглядаў. Сярод карэньняў некалькі акунёў. Паласаценькія і флегматычныя. Стануць за палкай і думаюць, што іх не відно…

Муць пайшла з нары. Што там? Плыньню воблака муці зьнесла – тар-

чыць адтуль бабёр. Задніца ў адтуліне, а галава, пярэднія лапы, грудзі вытыркаюцца, вісяць над дном. Футра невядома якога колеру – усё ў дробных паветраных бурбалачках, таму здаецца бабёр ртуцьцю абліты. Верхняя губа неяк падціснута, і з-за яе вялізныя два зубы відаць. Шырокія і плоскія, як стамескі. Яны і ёсьць стамескі – імі бабёр драўніну грызе. "Твар" у бабра ад гэтай падціснутай губы і зубоў здаецца вельмі непрыязным. З такім тварам цётка Марыля з Радашковічаў казала Ігнаську, што пасьля прыбіральні трэба ісьці ў ванны пакой рукі мыць. А навошта? Ён на рукі не …

Паглядзелі адзін на аднаго Ігнаська-выдра і бабёр. Потым бабёр вылез, праплыў па крузе над Ігнаськам і лёг перад ім на дно. Носам да носу. І ўсё з тым жа… тварам. Як у цёткі Марылі. Потым разьвярнуўся і паплыў прэч. А заднія лапы ў яго таксама з перапонкамі. Калі штурхае ваду – перапонкі расчыняюцца і атрымоўваецца вялікая лопасьць для веславаньня. А калі нагу падбірае, то яны сьціснутыя і ў вадзе не супраціўляюцца.

Счарнелы ад стомы, вярнуўся пад вечар на хутар. А там мама. Бровы насупленыя, вочы строгія:

– Ты дзе валэндаўся паўдня?

– Так… Па лесе хадзіў. (Не зусім салгаў, быў жа ў лесе. А што казаць? Што пад кучай ламачча ад сабакі хаваўся?)

– На рэчцы быў?

– Ну, скупнуўся крыху. Горача ж… (Ілгаць нельга, тым больш маме.)

– Адзін? (Ну што гэта за допыт? Адзін – не адзін. Ну – так, шмат разоў казана, каб без дарослых на раку не хадзіў. Калі чакаць, каб з дарослымі на раку купацца пайсьці, можна за лета ні разу туды не трапіць)

– Ну – адзін…

– Колькі разоў табе гаворана, каб без дарослых не хадзіў?! Вунь сёньня Толік гэты, з Мінску, ледзьве не патануў. Хлопцы выратавалі. Васіль Трусаў, Жэнік Казюнін і Ясь Бацэвіч. А ты не тое, каб з дарослымі – адзін купаешся. Скажу тату, каб вылупцаваў! (Не скажа… Во – пайшла інфармацыя… Вася Гірэйка, іх усю сям'ю ў вёсцы Трусамі чамусьці клічуць – герой! А сам плаваць не ўмее. Жэнік Трацяк, у яго бацькі няма, а маці мянушку "Казюня" прыляпілі, той плавае, але ж на глыбокае не кінуўся – таксама герой. І Ясік… Эх, што тут скажаш?!)

10.

– Тата, а якія ў нас самыя небясьпечныя зьвяры? – спытаўся Ігнаська за вячэрай.

– Не размаўляй за сталом. Пасьля пагутарым. Пашанцавала табе ў наш час нарадзіцца. Вось каб я малы так за сталом сябе паводзіў, то адразу б лыжкай па ілбе атрымаў. Тата мой, нябожчык, а твой дзед – ото строгі быў! (Ну вось! Па ілбе лыжкай. А сам цэлую гісторыю пра дзеда распавёў. І тое, што за сталом не зашкодзіла.)

– Тата, а табе зараз за гутарку, хто павінен лыжкай у лоб – мама ці я? –

хітра прыплюшчыў вочы Ігнаська, а мама разрагаталася: “Ну што? Атрымаў?”

– Ну, сьпеліся! Пагаварыце ў мяне! – Напусьціў на сябе сур’ёзу тата, хаваючы ў вачах сьмяшынкі.

– Значыць, цікава табе, якія жывёлы самыя небясьпечныя? – Удакладніў тата пасьля вячэры. – Для каго небясьпечныя? Для мышэй вунь наша Кіса-Іна вельмі небясьпечная…

…Ага, для людзей! А навошта гэта табе? Проста, цікава? Ну, Ігнаська, калі сур’ёзна, у нас, у Беларусі практычна няма такіх жывёлаў, каб чалавеку іх баяцца. Можа, толькі зубр… ды мядзьведзь… Але колькі тых мядзьведзяў ды зуброў! Вось я, лічы трыццаць пяць гадоў тут жыву, ніколі ні мядзьведзяў ні зуброў не бачыў. І ваўка – толькі адзін раз, а я ж паляўнічы! Ваўкі – яны такія нашуганыя, што як чалавека пачуе, гатовы са скуры выскачыць, каб толькі не сустрэцца. Чытаў я, што калі ваўкоў становіцца шмат, могуць на людзей нападаць, але толькі на дзяцей, а калі дарослыя – то на нізкарослых. Воўк жывёліна надзвычай разумная, ацэньвае, з кім можа справіцца, а з кім – не. Яшчэ лось можа напасьці, бык, самец значыць, восеньню, калі ў іх вясельлі. У ласёў зрок кепскі, і ў час гону можа пераблытаць чалавека з супернікам. Яны ў гэты час адзін з адным з-за ласіх б’юцца… Што фыркаеш? Сьмешна, што з-за ласіх? Пачакай, можа сам калі з-за дзяўчынкі якой біцца будзеш! Не будзеш? Ну і правільна! Хай яны з-за цябе б’юцца…Яшчэ, Ігнаська, на чалавека дзік можа кінуцца і параніць або нават забіць. Але гэта толькі, калі яго прыперці, каб не было куды ўцякаць. Або паранены. Яшчэ дзікая сьвіньня – калі яенага парася злавіць. Парася пішчыць – матка абараняе. Дык і котка наша кацянят абараняе… І мыш, калі ў кут загнаць, за палец будзе кусаць. Да крыві. Не чапай нікога і цябе не зачэпяць. А да зубра, мядзьведзя, калі ў Налібокі здарыцца трапіць, папросту не падыходзь блізка. У кожнай істоты ёсьць мяжа, якую яна лічыць мяжой бясьпекі. Слабыя жывёлы, калі гэтую мяжу парушаеш, уцякаюць, а такія, як зубры і мядзьведзі – абараняюць. А ўвогуле самае небясьпечнае стварэньне на зямлі – гэта мы з табой… Ну, не канкрэтна я і ты, а – чалавек. Во дзе самы вялікі драпежнік! І ўсё жывое яго баіцца. Ну, за выключэньнем, можа, якіх гадаў у Афрыцы, Паўднёвай Амерыцы. Кракадзілы, удавы, пітоны – яны, як я думаю, не такія мазгі маюць, каб баяцца. Таму і на чалавека могуць паляваць. А ў нас нават гадзюка ад чалавека ўцякае. Не наступі – і не ўджаліць.

– Тата, а ці ёсьць у нас жывёлы, якім ніхто не страшны? На якіх ніхто не нападае? – падаў Ігнаська голас.

– Ну, як мы ўжо высьветлілі, чалавек нападае на ўсіх. Вунь, Акульчыкі – як толькі зьявіцца дзе сьлед дзіка ці казулі, ці лася нават, то за стрэльбы і ў лес. І няма ад іх ратунку зьвярам ні зімой, ні летам. Бо старэйшы сын у іх участковы… А! Дык гэта я не пра тое! Прабач. Хто ж у нас на самым версе?... Цяжкое пытаньне ты мне задаў… Здаецца, і няма такіх. Зноў зубр і

мядзьведзь? Воўк яшчэ. На іх ніхто не палюе… Хіба толькі – пакуль малыя. Дзіцяня кожны пакрыўдзіць можа. Дзік дарослы ад любога драпежніка адб’ецца, лось таксама. З птушак, можа, пугач?... Ды і яго, калі днём дзе заўважаць, вароны зьбіраюцца і ўсёю грамадой атакуюць. Але нічога зрабіць не могуць, толькі прагнаць куды. Беркут? Арлан? Але і іх так мала, што я ніколі не бачыў. Чытаў толькі, што ёсьць недзе ў Беларусі. Так што, Ігнаська, кожная жывёліна мае свайго ворага. Нават малое зубраня, калі дарослыя правароняць, воўк можа зарэзаць. І мядзьведзяня.

– Тата, а хто дужэйшы – мядзьведзь ці леў?

– О-ох, Ігнаська! Ну і пытаньні!... У якім сэнсе? Ну, што ты маеш на ўвазе? Напрыклад, на твой погляд, хто дужэйшы – карова ці воўк?

– Воўк. – Ігнаська зрабіў зьдзіўленыя вочы. Маўляў, што тут незразумелага. – Воўк можа карову зарэзаць і зьесьці… Значыць ён і дужэйшы!

– Ага, вось ты пра што! Пытаньні, Ігнаська, трэба задаваць так, каб было зразумела, пра што пытаешся. Бо я падумаў, што ты пра сілу. Вось калі карову ў калёсы запрэгчы, і ваўка, то атрымаецца, што карова дужэйшая. Яна, братачка, некалькі тонаў грузу пацягне. А воўк – не.

– Ха-ха-ха! – Уявіў Ігнаська запрэжаных у калёсы карову і ваўка.

– Вось табе і “ха-ха”! Карова дужэйшая. Але калі справа да бойкі, то воўк, безумоўна, пераможа. Воўк – ваяр, драпежнік. Адмыслова створаны для таго, каб забіваць. А карова жывёлка мірная. Забіць, натуральна, можа – рагамі запароць або капытамі затаптаць, але гэта не яе “прафесія”.

– Дык хто каго заб’е ў бойцы – мядзьведзь ці леў? – Ігнаську ня проста адхіліць ад “генеральнай” думкі.

– Ніхто, Ігнаська. Дзе на тваю думку яны могуць сустрэцца для бойкі? Ільвы жывуць у Афрыцы. Мядзьведзі – у Еўропе, Азіі, Паўночнай Амерыцы. – Здаецца, гутарка тату пачала надакучаць.

– А калі іх зьвесьці? Выпусьціць у адну клетку?

– Ну ты і “харошы” хлопчык! “Добры”!... Гэта ведаеш, як называецца? Гэта называецца “жорсткае абыходжаньне з жывёламі”. Гэта па Божых законах – грэх, а па чалавечых – злачынства.

– Ну, тата! Я ж не па-сапраўднаму пытаюся! Я ж гэта… тэратычна!

– Ах тэарэтычна! Не “тэратычна”, а “тэарэтычна”!

– Ну, тэрэ…тэарэтычна!

– Нават тэарэтычна я не ведаю. Але ведаю, што кошкі – а львы, хоць і вялізныя, але кошкі – вельмі спрытныя драпежнікі. Думаю, спрытнейшыя за мядзьведзя. Чытаў нават у паляўнічым часопісе, што ў Сібіры, гэта ў Расеі, за Уральскімі гарамі, сібірская тыгрыца даволі лёгка выцягнула за лапу з бярлогі мядзьведзя і імгненна забіла, пракусіўшы чэрап. Так што думаю – леў перамог бы. Але гэта “тэратычна”.

11.

Высока-высока плавае Ігнаська ў небе. Нашмат вышэй, чым тады – буслом. Ён сёньня беркут. Унізе ўся зямля ў рознакаляровых лапіках. Шмат сьветлых прамакутнікаў – гэта палеткі. Цёмна-зялёныя – гэта лясы. Выкручастая нітка – гэта рака. Вёскі, іх шмат, ледзьве бачныя, дамкі, як зярняткі макавыя. Толькі дзіўны зараз зрок у Ігнаські-арла-беркута. Пасярэдзіне зрокавага поля плямка, дзе ўсё быццам праз моцны бінокль відаць. Кружыць Ігнась над зямлёю, ловіць "вертыкальны вецер" ад нагрэтых палёў, разглядае нябачанае дагэтуль відовішча, быццам карту рознакаляровую. А калі ўсю ўвагу ў гэтай плямцы-біноклі сканцэнтруе, нават травінкі асобныя на лузе бачыць. Вось нешта ў траве варухнулася… Ну, што там? Ага! Заяц-шарак ля скошанага поля залёг. Колерам ён такі, што зьліваецца з расьліннасьцю – хоць і шараком клічуць, там і чорны колер, і буры, і брудна-белы. Ну і шэры таксама. Але варухнуў вухам, тут і заўважыў яго Ігнаська-беркут. У гэтай плямцы зрокавай, дзе ўсё павялічаным відаць, нават асобныя шарсьцінкі зайцавага футра бачныя. "Цікава, што шарак рабіць будзе, калі на яго беркут сьпікіруе?" – Склаў крыху крылы і пайшоў зьніжацца. Нічога. Ляжыць шарак у траве, як ляжаў. Не рэагуе. Не меў намеру Ігнаська зайца лавіць, таму перад самай зямлёй, ля зайца ўжо, раськінуў крылы і з шумам узмыў уверх, метраў на дваццаць. Тут толькі дайшло да вушастага! Сарваўся з лёжкі, быццам з рагаткі выпушчаны, двума скачкамі з травы на край поля, там баразна па краі ідзе, і гэтай баразной – лататы да лесу. А зьверху на яго зноў Ігнаська. Лёгка дагнаў, хоць заяц сам што птушка над зямлёй сьцяліўся. Зноў жа – не меў намеру лавіць, дурэў проста. Цікава было і прыемна – гэта ж зайца дагнаць, ого! Тут заяц раптам тармазнуў рэзка, на сьпіну перавярнуўся і ўсімі чатырма лапамі – як замалоціць! Ледзьве пасьпеў Ігнаська з пікіраваньня на ўзьлёт перайсьці. Інакш атрымаў бы кіпцюрастымі лапамі па жываце. Бач ты, заяц, аказваецца таксама ўмее за сябе пастаяць!

Пакуль думаў Ігнаська, пакуль зьдзіўляўся заечай абароне, той да лесу пасьпеў дабегчы. Схаваўся недзе пад хвойкай.

Усё. Дзень хутка заканчваецца, трэба да каменя ляцець. Прайшоў нізка, краем лесу, каля хутара збочыў і на старую вярбу сеў, што недалёка ад ганку расьце. Пад ёю тата стол уладкаваў на ўкапаных у зямлю слупках. І лавы. Часам яны за гэтым сталом абедаюць. Толькі падлятаў да віхлы, яго певень заўважыў. Галаву ўгнуў, бяжыць што сілы пад хляўчук, там шчыліна паміж зямлёй і першым бервяном. Нядаўна паставілі, падмурку яшчэ не зрабілі. Бяжыць і гвалтуе: "Павется! Павется! Усім хавацца! Павется!!" Што пачалося! Куры ўсе, сорак дзьве іх у Сокалаў, такі лямант паднялі, горш, чым тады галкі, калі сапсан па Ігнасіку прамазаў. І – хто куды! Адны пад ганак, іншыя за пеўнем пад хляўчук, адна ў куст ля плоту шчэміцца. Як павар'яцелі! І тут мама на ганак выбягае. І з татавай стрэльбай! Выбегла, пакруціла галавой, Ігнасіка на віхле заўважыла. О-л-лё! Уматваць трэба.

Мама ж не ведае, што гэта Ігнасік. І што беркут – рэдкая птушка, чырвонакніжная. Адштурхнуўся ад сука – замахаў крыламі, і тут – стрэл! Адзін. Добра, што таты дома няма. Ён то, бывае, мажа на паляваньні, але рэдка.

…У мамы правая шчака прыпухлая, і на плячы сіняк вялізны. Страляла ў паветра, не мецячыся, і да стрэльбы няправільна прыклалася. Таму аддачай і насадзіла сабе фінгалаў. А тата, малайчына, мамін аповед выслухаў, і адразу сказаў, што гэта беркут быў, што не варта было страляць.”Дзеля такога выпадку, – кажа, – можна і курыцу ахвяраваць”. І пазайздросьціў маме. Ён беркутаў толькі на фатаграфіях бачыў.

Елкі зялёныя, кім не станеш, паўсюль такія стрэсы! Мала таго, што родная маці страляла, хоць і не мецiла ў яго, дык яшчэ забыўся, і каля калоніі гракоў і галак праляцеў. З аднаго агню ў іншае полымя! Як узмылі чорнай хмарай, як пачалі кідацца!

12.

Нецярпеньне і радасьць на сэрцы Ігнаські. Заўтра ён з матуляй едзе ў Мінск купляць да школы новы касьцюмчык. І боты. У краме, што займае палову бельманаўскай хаты ў Мендыжэчах, можна набыць толькі ватоўку і гумовыя боты. А за сапраўднай вопраткай – трэба на кірмаш у Ракаў або ў горад, у Мінск.

Ігнась ужо быў некалькі разоў у Мінску. Калі дакладна – то тры разы. Два – у цёткі Валі, і адзін – на экскурсіі ў ваенным музеі. Там столькі markрознай зброі! І аўтаматаў, і вінтовак, і пісталетаў, і рэвальвераў... Адзін маленькі пісталет Ігнаська нават хуценька змаляваў на паперку. Потым па гэтаму малюнку выразаў сабе з дошкі. Доўга майстраваў, дзён пяць. Пісталет атрымаўся як сапраўдны. Усе хлопцы зайздросьцілі. Апрача Віцькі Гірэйкі, у яго сапраўдны “Парабелум”, толькі зусім іржавы.

У Мінску – здорава! Першае, што ўражвае Ігнаську – пах. Такога паху больш няма нідзе. Пахне неяк гаркавата, урачыста і радасна. Потым – гукі. Гудзяць аўтамабілі, грымяць тралейбусы. Ці трамваі? Тралейбусы – гэта як тоўсты жук з вусамі, а трамвай – па рэйках. Так, грымяць трамваі. Людзі, шмат, вялізнымі натоўпамі бягуць некуды. І ніхто ні з кім не вітаецца.

У цёткі Валі, матулінай сястры, кватэра на трэцім паверсе пяціпавярховага дома. З балконам. Мінулы раз цётка паслала Ігнасіка тэлевізар глядзець: “Мы з мамай пагутарым, а ты кіно паглядзіш...” Завяла ў суседні пакой. Пасадзіла на стула. Зьняла ў куце абрус з тэлевізара.

– Глядзі, вось. А надакучыць – мяне паклічаш.

На экране зьявілася галава мужчыны і загаварыла нешта малазразумелае. “*…Косміческій корабль, пілотіруемый гражданіном Совет-ского Союза Юріем Алексеевічем Гагаріным…*” Не, гэта не кіно. Нешта зусім нуднае.

– Што, Ігнаська, ня ўразіла цябе тэхніка? Шкада, ніякага фільма няма.

Фільмы толькі вечарамі паказваюць, – сказала цётка. – Я думала, табе цікава будзе. Ты ж яшчэ тэлевізара ня бачыў, Маўглі хутарскі!?

– Чаму гэта не бачыў? – заступілася мама. – Цэлымі днямі ў Навінах прападае. У Паўлюкоў. Туды электрычнасьць правялі… Бачыў!...

Маўглі – гэта хлопчык, які вырас у лесе з ваўкамі. Ігнасік ведае, чытаў. Ён шмат чытае. Тата нават непакоіцца – каб вочы не папсаваў...

У горадзе Ігнасіку заўсёды мама купляе марожанае. І квас. Такая смаката! Горача, а марожанае халоднае, ажно зубы мерзнуць, і матуля забараняе яго кусаць. Можна прастудзіцца. Таму марожанае трэба лізаць. Ды так і лепей – надаўжэй хапае. А квас – у вялізных жалезных бочках на колах – кісла-салодкі, б’е ў нос бурбалачкамі. А яшчэ – газіроўка. Кідаеш у шчыліну тры капейкі і ў падстаўленую шклянку льецца салодкая вада. Таксама з бурбалкамі. А калі кінуць адну капейку, то пальецца не салодкая.

Як павольна цягнецца час! Сонца над навінскім лесам яшчэ высока. А Ігнасіку хочацца, каб ужо быў вечар, каб заснуць і апынуцца ў заўтра. У сем гадзін ідзе аўтобус з Івянца... Кажуць, гэты Івянец блізка, бліжэй за Мінск, але Ігнаська там яшчэ не быў.

...Ох, як не хочацца прачынацца!

– Ігнаська... Ігнась... – Матулін голас ціхі і пяшчотны. – Уставай...

– Мамка... Яшчэ хвілінку... – І раптам, як стрэл, згадка: Сёньня ж – у Мінск! І ўсхапіўся! Матуля ўжо запудрыла сіняк на скуле, зараз фарбуе вусны і сьмешна мажа шыю парфумай. Затыкае пальцам рыльца бутэлечкі, перакульвае, а потым датыкаецца да шыі за вушамі. Ігнаська сьмяецца.

Да брукаванай шашы метраў дзьвесьце. Прыпынку тут няма, але матуля спадзяецца спыніць аўтобус насупраць хутара. Вось ён набліжаецца, і Ігнаська разам з мамай “галасуе”.

– Дзень добры! – Вітаецца Ігнаська з людзьмі ў аўтобусе.

– *Здравствуйте!* – Вітаецца матуля. – *Ігнат, садісь вон на то место. Я сейчас. Білеты возьму. Водітель! Ребёнку девяті лет – полбілета? Нет? Інтересно...! Нам два до Мінска.*

Ігнасіку ўжо амаль адзінаццаць, але не гэтая маленькая мана займае ягоную ўвагу. Яму чамусьці страшэнна сорамна за маму, за гэтую чужую яе гутарку. За незнаёмы напружаны выраз твару. Такое адчуваньне, што мама – гэта не мама. Быццам бы нейкая жанчына, крыху падобная на маму. Ігнасіку так сорамна, так, што не выказаць. “Што гэта са мной? – думае ён. – Нічога ж не здарылася”. Учапляецца пальцамі ў бліскучую парэнчку, што на сьпінцы пярэдняга сядзеньня, прыціскаецца да рук ілбом. Паветра з болем праходзіць праз горла. Сьлёзы ручаём ліюцца з вачэй, і ад гэтага яму яшчэ больш сорамна. Стрымацца няма сілаў. Толькі б ніхто не ўбачыў…

13.

Страшна. Паніка ў сэрцы Ігнаські. Пасьля татавага аповеду пра зьвяроў, што “наверсе”, вырашыў дзіком пабыць. Каб ніякай небясьпекі. І было жа-

даньне, таемнае, нават сабе не хацеў прызнацца – крыху Толіка прыпалохаць. Паглядзець, як ён уцякаць будзе. Калі пеўня ды каровы баіцца, то ад дзіка, можа, нават на дрэва залезе. Каб потым усе ўзгадвалі ды сьмяяліся.

Думаў сапраўдным секачом стаць, з ікламі-кінжаламі, а стаў падсьвінкам. І ніякіх іклаў. Хто такога баяцца будзе? Нават сабакі могуць справіцца, калі тры-чатыры зьбярэцца. Зусім не цікава быць у скуры дзіка–падлетка. Уразіла толькі тое, што столькі пахаў адразу разьлічаць пачаў! І слых. Такі слых, што пачуў, як у Навінах Казюня з Харужычыхай сварыцца. Куры Харужыкавы ў Казюнін агарод залезьлі, ці што. Пашвэндаўся па пасадцы на Францішкоўскай гары ды і назад, да каменя. І тут зразумеў, якую памылку зрабіў… Камень вялізны, круты, і залезьці наверх, каб у сьляды сьвятога Францішка стаць, капыты не дазваляюць. Сьлізгаюць. І з аднаго боку, і з другога спрабаваў. Скакаў – і з месца, і з разгону. Марна. Толькі пабіўся. Эх! Каб у якога горнага барана ці казла ператварыўся. Але Ігнаську толькі мясцовыя зьвяры-птушкі цікавяць. Ды і асьцярожнасьць не перашкодзіць – убачыць хто-небудзь таго ж дзіка – ну, дзік і дзік, невялікае дзіва. А калі б якога тэка ўбачылі ці тура, от было б балбатні! Маглі б якую аблаву арганізаваць. Ды злавіць, барані Бог, ды ў клетку…

…Змарыўся ўшчэнт, бакі аб камень пааббіваў, адыйшоўся ўбок, у траву залёг. Плакаць захацелася. Не так, як тады ў аўтобусе, тады нешта незразумелае зь ім зрабілася, а ад бясьсільля. І ад разуменьня, што сам вінаваты – так хацелася Толіка напалохаць, што іншых думак у галаву не прыйшло. Напрыклад – як ён будзе ў чалавечы выгляд вяртацца.

– Ч-ж-ж-р-р-к! Ч-ж-ж-р-р-к! – Курапатка-пеўнік сям’ю зьбірае. Павылазілі на сьцежку дзеці. Вялікія ўжо. Амаль бацькоў дагналі. Ігнаськава шчаціна бурая, не бачаць у пажухлай ад сьпёкі траве Ігнаську. Устаў. Малыя адразу ф-р-р-р, на крыло, і адляцелі крыху ўбок, а пеўнік адбег і прыглядаецца.

– Дзень добры! – рохнуў Ігнаська. Гэта я, не палохайцеся. Гэта я, Ігнаська. Во трапіў, дык трапіў! Не магу на камень узлезьці. Няўжо астатак жыцьця прыйдзецца ў сьвіной скуры хадзіць?

– Думай, думай. Змагайся, Ігнаська. Пакуль жывеш – думай. – Працыркаў пеўнік. – Думай! Дзічыхі для парасятаў цэлыя кучы травы ды галінак зьбіраюць, гнёзды будуюць. Капаць умеюць. Думай, Ігнаська! Не здавайся!

І курапачая сям’я з трэскам паднялася ў паветра. Паляцелі ў некалькіх метрах над зямлёй. Шэрыя курапаткі высока не лётаюць. І на дрэвы садзіцца не ўмеюць.

“Думай, Ігнаська, думай… Лёгка сказаць… Тут выць хочацца, ад роспачы зямлю есьці! Як што – думай! І тата, і мама, і зараз вось гэтыя, пярнатыя… Стоп! Што там пеўнік пра дзічыху казаў? Што гнёзды будуе? Сапраўды – калі нацягаць да каменя сукоў, травы, каменьняў. Вунь якраз крушня непадалёку. Я ж, мабыць, і зямлю лычом капаць магу… Во, са-

праўды магу! Зрабіць побач кучу з усяго, што здолею паднесьці, а потым з кучы – на камень!”...

14.

…Ой-ёй-ёй! Як усё цела баліць! І рукі-ногі, і скабы, што не дыхнуць. Нават нос! Учора гадзіны дзьве ля валуна завіхаўся. Галінкі, траву ў зубах цягаў, каменьні з крушні лычом падкатваў, зямлю капаў. Так страшна было дзікам застацца! Дадому вярнуўся ледзьве жывы ад стомы. Мама ў час вячэры: “О-о, Ігнаська! Ды ты ўжо сьпіш! Давай, сынку, мый ногі і ў ложак”. Як не хацелася ісьці ногі мыць, каб хто ведаў! Ой, як баліць! І ўставаць не хочацца. Можа, ну яго, не ставіць сёньня з Алегам жыўцы? Паспаць яшчэ? Не. Дамаўляліся, Алег чакае. Нельга не прыйсьці. Тата кажа, што калі хочаш, каб да цябе адносіліся добра, трэба ва ўсім быць пу…, слова забыўся, ну… рабіць тое, аб чым дамовіліся, не спазьняцца, выконваць абяцаньні. А мама: “Як хочаш, каб адносіліся да цябе, так і ты павінен адносіцца да іншых”. Трэба ўставаць.

– Мама-мама-мама! – аўтаматнай чаргой выстрэльвае Ігнаська. Маму такі зварот сьмешыць, і яна тады нашмат больш згаворлівая. – Можна, мы сёньня з Алегам на рыбу пойдзем? Да раніцы? Гэта мы дамовіліся жыўцоў наставіць з вечара, а ранічкай, на самым сьвітанку праверыць. Можна, мам?

– Чаму гэта да раніцы? Што – дома нельга пераначаваць ды падняцца ўраньні? Ночы халодныя ўжо, памерзьнеце. Яшчэ захварэеце, барані Бог.

– Мама, мы дамовіліся ўдзень шалаш пабудаваць на беразе. Потым карасікаў налавіць для насадкі. Потым, у канцы дня – жыўцоў па рацэ наставіць. І ўжо каб па цемры дадому не ісьці, мы ў шалашы пераначуем. Сена туды нацягаем. Вогнішча раскладзем. Не зьмерзнем! Ну, мама… – заканькаў Ігнаська, убачыў, што мама непрыхільна ссунула бровы. – Ну залаценькая… Ну гэта ж так цікава! Я ж не адзін, я з Алегам. Ён старэйшы. Ён дужы, знаеш які! Адной рукой на турніку падцягваецца!

– Рыгорка! – Клікнула са двара тату. – Ведаеш, што наш мужычок прыдумаў? Просіцца з Алегам, дырэктаркі маслазавода сынам, нанач на рыбалку. Што скажаш?

– Што скажу? Пара ўжо крыху самастойным станавіцца. А не памерзьнеце? Начамі халаднавата… Дроў паболей нацягайце, каб хапіла. Спаць вам відаць не ўдасца, будзеце ўсю ноч вогнішча паліць. А ты, маці, ссабойку харошую зьбяры. Сала, цыбулі. Паляндвіцы вэнджанай урэж. Ну, сама лепей ведаеш. На вось, Ігнаська, мой сьцізорык, жыць на прыродзе без нажа нельга. Толькі асьцярожна – вельмі востры. І не згубі. Ты ж у нас майстра што-небудзь згубіць... (Зараз пра трусы будзе казаць. Дасталі з тымі трусамі!). – Ты ж нават трусы згубіў! Гэта ж трэба – трусы згубіць!... Неверагодна! “Воўк зьеў!” (Ну, сапраўды, было. Але даўно-даўно, гадоў пяць таму. Ці нават шэсьць? Яны тады ў іншым месцы жылі. Далёка адсюль. Так даўно, так далёка, што ўжо можна і забыцца было б. Дык не – то мама,

то тата пры выпадку ўзгадваюць. Думаюць так у ім беражлівасьць выхаваць.)

Ігнаська тады яшчэ плаваць не ўмеў. Якраз тады і вучыўся. І навучыўся. Хадзіў са старэйшымі хлопцамі на раку. Тыя з разгону – бултых у ваду! Ігнаська за імі, не зважаючы, што не плавае. Рукамі па вадзе б'е, бурбалкі пускае, захлёбваецца, тоне ўвогуле. Тут хто-небудзь са старэйшых падплыве і выцягне. Паляжыць Ігнаська на беразе, адкашляецца і зноў – бултых! Ізноў нехта выцягне. І так штодзённа. А прыйдзе дадому – мама: "Дзе быў? На рэчцы? У кут! Мы што табе казалі – на рэчку не хадзіць!". Пастаяў Ігнаська пару разоў у куце і пачаў маме ілгаць – маўляў, не быў на рэчцы. А мама на такія словы – цоп за трусікі, а яны мокрыя. І зноў – у кут. Ды на яшчэ большы тэрмін – за двайную правіну, за рэчку і за ману. Але ж і Ігнаська не дурны! Калі так, то будзем прыходзіць у сухіх трусіках. І пачаў ён скакаць без трусікаў, пакідаў на беразе. Балазе дзяўчынак у кампаніі той не было. Выключна мужчынская кампанія.

І так некалькі разоў прайшло, паверыла мама, што на рачулцы не быў, што па вёсцы шпацыраваў. Можа і далей бы так працягвалася, але…

Неяк скокнуў Ігнаська і пачаў, як звычайна, ваду глытаць, рукамі малаціць, паветра часам хапаць – ужо зьяўляліся першыя навыкі на вадзе трымацца – ніхто яго не выцягвае. Неяк даплюхаўся да плыткага, вылез на бераг, а там ужо няма нікога. Пакуль змагаўся, уцяклі ўсе. А можа проста – пайшлі. Ігнаська там самы малы быў, асэнсоўваў, што ён не раўня астатнім, што яго толькі цярпяць. Таму і не пакрыўдзіўся амаль. Пайшлі і пайшлі. І яму час дадому ісьці. Толькі вось трусікаў на месцы, дзе пакінуў – няма! Ігнась туды, Ігнась сюды – не, няма! Доўга шукаў, а потым хмызамі, агародамі, за парканам – дахаты. Зьяўляецца перад мамай і татам у першабытным выглядзе, тыя, натуральна яго пытаюцца наконт адсутнасьці трусоў, маўляў, а дзе трусікі, Ігнаська? Апусьціў Ігнаська ад сораму вочы долу: "Няма…" – і тут як чорт за язык тузануў: "Воўк зьеў…"

Зарагаталі тата з мамай, так зарагаталі, што зразумеў Ігнаська – уцэліў адказаць. Не будзе ніякага спагнаньня. Ой, лепей бы не ўцэліў! Лепей бы ў куце пастаяў. Бо ўжо колькі гадоў, як што – "ты нават трусы згубіў!", "што? воўк зьеў?".

15

Дзень прамільгнуў як бліскавіца. Спачатку шалаш рабілі. Атрымаўся так сабе, не вельмі. Нізкаваты і цесны. Потым сена туды нацягалі з капы. Потым прыбег дзядзька, гаспадар тае капы і пачаў сварыцца, што ягонае сена скралі. Абзываўся па-усялякаму, пагражаў бацькам паскардзіцца, нават дубцом пабіць. Алег малайчына. На пагрозы ніякай увагі, а спакойна папрасіў прабачэньня і паабяцаў, што сена назад у капу верне, і капу паправіць. Дзядзька супакоіўся і пайшоў. Бурчэў, праўда, нешта незадаволена.

Потым, як дзядзька пайшоў, ламачча з лесу цягалі. Шмат нацягалі.

Абалона ракі нешырокая і адразу на ўзвальлі стары хвойнік. Ламачча колькі заўгодна і блізка. Павінна на ўсю ноч хапіць.

Налавілі ў бліжэйшай завоні карасікаў. Каб не паснулі, у вядро з вадой зьмясьцілі і ў ценю паставілі.

Як сонца за лес сьхілілася, пайшлі жыўцы ставіць. Аказваецца, гэта проста зусім. Гак акуратна прадзяецца карасіку пад жабры і мацуецца ніткай ад вушка да вастрыя. Карасік застаецца непашкоджаным, а з гака сасьлізнуць не можа. Потым закідваецца ў вір ці яму рачную, пажадана, каб недалёка карчы былі, там шчупакі хаваюцца. Грузіла на дне ляжыць, а карасік з гакам на павадку плавае побач. Выйдзе шчупак уначы на паляваньне, а тут яму пачастунак…

Другі канец жылкі жыўцовай трэба прывязаць за што-небудзь на беразе. Так, каб незаўважна было чужым, але каб і самому не згубіць. Алег каля жыўцоў галінкі кустоўя надломваў. Пройдзе чужы чалавек, убачыць зломаную галінку і нічога не зразумее, зломаная ды і зломаная. Мала чаго зламаць маглі. Можа, проста дурэліся. А яны з Алегам будуць ведаць – побач жывец стаіць…

Дваццаць жыўцоў паставілі. Кіламетры са два ракі абышлі. На зьмяр-каньні да шалаша вярнуліся, вогнішча распалілі. І толькі тут успомнілі, што цэлы дзень не елі нічога. Забыліся за клопатамі. Але ж і прыемныя клопаты!

Ссабойкі павыцягвалі, што мамы сабралі. І якая гэта смаката, ля вогнішча есьці! Трэба ўзяць сырую алешыну, завастрыць. Сырую – каб не гарэла. На яе накалоць скрылёк сала, потым лустачку хлеба, потым памідор, потым зноў сала і хлеб. І трымаць над полымем. Менавіта над, а не ў полымі. У полымі ўсё абвугліцца і сапсуецца. Трэба трымаць і патроху пакручваць, каб з усіх бакоў падсмажылася. Хлеб пачынае карычневай скарынкай пакрывацца, сала топіцца, тлушч часткова на хлеб капае, часткова на вугольлі. Памідор моршчыцца і дзе-нідзе лопаецца. Ад тлушчу, што на вугольле капнуў, смачны пах у паветра падымаецца. Сліны поўны рот і ў жываце забурчэла. Як хлеб ужо цёмна-буры – значыць, гатовая страва. Здымаеш усё з ражончыка, толькі асьцярожна, каб не апячыся, і раскладаеш на ліст дзядоўніка ці хрэну. А як астынуць крыху, каб у рукі можна браць, то на хрусткую лустачку хлеба кладзеш памідор падсмажаны, акуратна яго расьціскаеш і соліш. І потым у той памідор скрылёк сала мачаеш і – у рот. Сала ў роце расплываецца, а ты хлебам печаным, духмяным-духмяным, і хрусткім – прыкусваеш. І яшчэ агурком. Агурок толькі раніцай з градкі, шурпаты, сьвежы. Смачна! Нават размаўляць не хочацца. Так добра! Адзінае – камары перад заходам сонца азьвярэлі. Адной рукой ежу тры-маеш, другой прыходзіцца адбівацца. Добра, што мама прымусіла на ры-балку нагавіцы надзець і кашулю. Каб у адных трусіках быў, відаць, зьелі б.

Сьцямнела хутка і пахаладнела. Камары зьніклі. На траве раса выпала. Залезьлі ў шалаш, на сена. Не сьпіцца нешта. Праўду мама з татам казалі – ночы ўжо халодныя. Дарэмна швэдар не ўзяў, мама спрабавала і яго

пакласьці, але днём гарачыня стаяла, здавалася – так увесь час будзе. Аж не – прайшло пасьля заходу якіх дзьве гадзіны і глядзі ты – холадна. Адыйшоўся па патрэбе – ногі ад расы ажно зводзіць пачало. І Алег не сьпіць. Вылез, у вугольлях алешынай корпаецца. Твар у чырвоным сьвятле засяроджаны. А цемра навокал чорная-чорная. Толькі вогнішча, Алегаў твар і цемра наўкола. Конікі ў траве стракочуць. А ў лесе недзе недалёка – "Ф-в-у -у-у!" – пяшчотны такі гук. Алег галавой закруціў, прыслухоўваецца. Відаць, не ведае, хто крычыць. Гэта сава, Ігнаська часта чуе вечарамі. Калі на ганак хутара выйсьці ў гэткі прыкладна час, то і пачуеш. Гэтак совы сваю тэрыторыю азначаюць, каб чужыя не ўлезьлі. Драпежнікі – найчасьцей жывёлы тэрытарыяльныя, свае дзялкі абараняюць.

Холадна. Эх, дарэмна маму не паслухаўся, швэдар не ўзяў! Вылез да вогнішча. Алег, аказваецца, бульбу ў вугольле закапвае. Малайчына, бульбы ўзяў.

Зноў сава закрычала.

– Ведаеш, хто крычыць? – Ігнаську хочацца перад Алегам "пафікстуліць". – Гэта сава. Я іх бачыў часта. Невялікая такая, з грака. Толькі галава вялізная, круглая. Часам прылятае да нас на вярбу, і крычыць. А лётае ціха-ціха! Аднойчы ў мяне ля самай галавы з цемры праляцела, можа ў метры, дык я толькі ўбачыў яе на фоне неба, але нічога не пачуў, ніякіх узмахаў.

– А гэта хто? – Вочы Алегавы шырокія і глядзяць нікуды. – Чуеш?

"Ц-к! Х-р-рк! Х-р-рк! Х-р-рк! Ц-к!" – то высокі, то як рыпеньне чаравіка.

– Ого! Не можа быць! – Ігнаська зьдзівіўся. – Гэта слонка! У канцы лета! Я думаў, яны толькі ўвесну так "хоркаюць". І "цыкаюць". Можа, які звар'яцелы? Пераблытаў лета і вясну!

– Што за "слонка"? Ніколі не чуў такой назвы. – Алег па-сапраўднаму зацікаўлены.

– Лясны кулік. Вялікі, з галуба. У траўні пад вечар дык над нашай хатай іх процьма лётае. Тата нават паляваць спрабаваў. Проста з ганку. Але мама насварылася і забараніла...

І яны доўга размаўляюць. Пра лясных зьвяроў і птушак, пра рыбалку. Пра фатаграфію. Алег мае фотаапарат і павелічальнік, і сам робіць фатаграфіі. "Мяне навучыш?" – загараецца Ігнаська. "Навучу." – усьміхаецца Алег. Ён зараз здаецца Ігнаську вельмі родным. Хочацца прылегчы побач, пакласьці руку яму на плечы і глядзець у твар. Але Ігнаська саромеецца гэтага раптоўна ўзьнікшага пачуцьця. Яшчэ яму вельмі карціць распавесьці, як ён часам лётае над гэтымі мясьцінамі, як нырае ў гэтай рэчцы, але стрымліваецца.

Неба над хлопчыкамі мігціць мільёнамі дыямантаў. Блакітных, чырванаватых, белых, жоўтых. Некаторыя сьвецяць роўным сьвятлом, але такіх мала.

– Алег, а ты ведаеш якія-небудзь зоркі? – Пытаецца Ігнаська. – Ну, як

называюцца. Тата казаў, што кожная зорка мае сваё імя, але ён іх не ведае.

– Не. Зорак не ведаю. Ведаю вунь тое сузор'е. Называецца Вялікая Мядзьведзіца. Бачыш? Сем зорак. На коўш падобнае. Вунь – раз, два, тры – гэта як ручка выгнутая, а тыя чатыры – як коўш. Знайшоў?

– Знайшоў...

Гутарка ўрэшце сыходзіць, Алег кладзецца сьпіной да вогнішча і пачынае ціха пасапваць. Холадна. Ігнаська падкідвае ў вогнішча ламачча, агонь разгараецца і пачынае пячы. Алег, хоць і сонны, адпаўзае. Прыходзіцца круціцца. Той бок, што да вогнішча, грэецца, а другі – мерзьне. Ігнаська трасе галавой, спрабуючы адагнаць сон.

16.

Во цемра! Вочы хоць і прывыклі крыху, усё роўна валун ледзьве знайшоў. Хоць бы месяц узыйшоў. Няма! Увесь край поля аббегаў. Нагавіцы ў расе вымачыў. Раса сьцюдзёная, але не холадна ўжо, угрэўся бегаючы. Алег там ля вогнішча. Сьпіць. Нічога, тата ж казаў – у Беларусі няма для чалавека небясьпечных драпежнікаў. Апрача самога чалавека.

Залез на камень, намацаў сьляды. Рукі ўшыркі, скачок, рукі ўніз, згрупіравацца – "Воўк!" – У ваччу ўспыхнула, быццам ліхтар запалілі і асьвятлілі навакольле. І пахі. Тысяча пахаў уварвалася ў сьвядомасьць. Пастаяў, прывыкаючы да новага стану, прыслухоўваючыся да новага цела. Цемра зьнікла! Ігнаська бачыў, як днём. Толькі "дзень" гэты быў чорна-белы, як фатаграфія, як экран тэлевізара. І добрая бачнасьць была метраў на дзьвесьце, далей прадметы расплываліся невыразнымі плямамі. Затое пахі! Ігнаська падняў галаву і прынюхаўся да паветра. Лёгкі ветрык цягнуў з боку іхняга хутара, і ён адразу адчуў пахі, на якія раней папросту не зьвяртаў аніякай увагі. Пахла мамай і татам, вельмі падобна, але мамін пах утрымліваў сьлед парфумы. Пахла агародам, Ігнаська мог бы назваць расьліны – агуркамі, памідорамі, буракамі, кропам… Пахла курамі, каровай і парсюком. Халадніком са шчаўя. Варанай бульбай. Значыць, мама згатавала ўчора ўлюбёную татаву страву.

Ён пабег знаёмай сьцежкай у бок Навінаў. Ад сьцежкі пахла зайцамі. Ігнаська не ведаў чаму, але быў упэўнены – так пахнуць заечыя сьляды. Праз якую хвіліну гэта пацьвердзілася: насустрач спакойна – кульдыц, кульдыц – рухаўся шарак. Ігнаська імгненна спыніўся і лёг, дзівячыся сваёй рэакцыі. Ляжаў і з цікаўнасьцю назіраў. Заяц набліжаўся павольна. Спыняўся, нешта нюхаў на сьцежцы, скусваў сьцябліны палыну, станавіўся "слупком" і, наставіўшы вушы, рабіў некалькі крокаў на задніх лапах. Вяртаўся назад, зноў набліжаўся. А потым зрабіў вялізны скачок убок ад сьцежкі і пакаціў па траве, толькі вушы замільгалі.

Сам не ведаючы дзеля чаго, прабег навінскай вуліцай. Сабакі як па камандзе адразу паднялі лямант: "А-яй! Чужы! Воўк! Воўк! Беражыцеся! А-вой!". Заварушыліся, замыкалі каровы ў хлявах. Дзе-нідзе загрымелі клямкі,

ля ганкаў запаліліся лямпачкі, павыходзілі людзі. Ігнаська ведаў, што сярод навінцаў няма паляўнічых, таму спакойна бег па бруку, з асалодай успрымаючы дагэтуль невядомыя магчымасьці нюху, начнога зроку, пружыністага, бадзёрага цела.

А вось за гэтым, здаецца, вакном сьпіць ягоны крыўдзіцель, з-за якога ён не можа зараз зьявяцца ў вёсцы. Пераскочыў высокі паркан, узрадаваўшыся лёгкасьці скачка. Сабака на падворку адразу перастаў гарлаць і рваць ланцуг. Заенчыў і шмыгануў у будку. Падышоў да вакна, устаў на заднія лапы. Зазірнуў унутр. Адразу за шклом ложак, і пад коўдрай нехта сьпіць, захінуўшыся з галавой. Прынюхаўся. Пахне чалавекам, але кім – невядома. Стукнуў кіпцюрастай лапай па шкле. Там адразу запалілася лямпачка і ў шыбе ўзьнік заспаны твар Любы Галабурды, Толікавай цёткі. Віск адкінуў Ігнаську ад вакна. Ачомаўся толькі на беразе.

Зайшоў у ваду, папіў – лык, лык, лык, лык… Пабег да іхняга з Алегам “табара”. Вогнішча амаль згасла – пад шэрым прысакам ледзьве чырванелі вугольчыкі. Алег, скруціўшыся клубком, ляжаў амаль на гэтых вугольлях. Відаць, зьмерз і сонны інстынктыўна запоўз на цёплы попел. Быў увесь перапэцканы ў ім. Ігнаська засьмяяўся, але замест сьмеху вырваўся гарлавы гук, нейкае гырканьне. Алег падняў галаву, няўцямна паўглядаўся, потым ляніва прамармытаў: “П-шоў! Вон!”, і пачаў мацаць вакол сябе. Нічога не намацаў і зноў заснуў. Ігнаська-воўк асьцярожна адгроб ад яго вугольле. Проста, лапай…

…На ўсходзе заружавела. Ігнаська, скінуўшы мокрыя ад расы нагавіцы, накідаў на апошнія вугалёчкі ламачча і чакаў, каб яно разгарэлася. Ламачча дымела, дым выядаў вочы, але гарэць не сьпяшалася.

“Дзіўная справа, – думаў Ігнаська, – куды ні сяду, мяне паўсюль дым знаходзіць. А Алег дрыхне і яму нічога, і дым на яго не ідзе…”

Сухія хваёвыя сукі падымелі-падымелі, ды і разгарэліся. Полымя нясьмела спачатку іх аблізала, а потым шуганула ўверх, прымусіла Алега адпаўзьці. Ад Ігнаськавых нагавіцаў, разьвешаных на двух алешынах, уторкнутых у зямлю, пайшоў пар.

Рака ціхенька плюхала і зьвінела хвалямі. Ад яе, як і ад нагавіц падымаўся лёгкі туманок. Золак працяў Ігнаську, але нягледзячы на холад, страшэнна захацелася спаць. Ён зьняў кашулю, трусікі, голы ўвайшоў у раку. Дзіўна! У вадзе было цяплей, чым на паветры. Паплёхаўся, ськінуў сон. Полымя скакала па дровах, але было ўжо не такое яркае, як уначы. Ігнаська пакруціўся насупраць, высах, сагрэўся. Апрануўся, потым штурхнуў Алега:

– Пад’ём, рыбак! Пара!

– Яшчэ рана, рана… – замармытаў Алег не расплюшчваючы вачэй. – Яшчэ пасьпім крыху…

– Хопіць спаць. Вунь, сонца ўжо ўзышло.

Насамрэч сонца яшчэ было не відно з-за лесу. Але ўжо зусім разь-

віднела, магчыма, яно там ужо выкацілася.

– Ну, якое сонца? Дзе ты бачыш сонца? – захныкаў Алег. – Толькі што заснуў, усю ноч не спаў. Нейкія сабакі тут швэндаліся. Глянь – харчы нашы не пакралі?

– Ага! Не спаў! Ажно арэшнік тросься – так хроп! Падымайся. Паглядзі на сябе – увесь у попеле! Распранайся, і ў раку. Не паверыш – такая цёплая! Як малако.

…Жылка першага жыўца аказалася заблытанай вакол карча. Алег з разгарэўшыміся вачыма Ігнаську не пусьціў разблытваць, кінуўся сам. Як быў – у кашулі і нагавіцах. Доўга плюхаўся, нырай пад корч. Нарэшце вылез з пустой снасьцю, сумны: “Нешта вялікае было. Заблытаў аб корч і сарваўся… Відаць, пушчак”. Алег замест “шчупак” кажа “пушчак”, яму так здаецца весялей.

Другі жывец таксама быў заблытаны, і ў крышталёва празрыстай вадзе хлопцы заўважылі шчупака – стомлена стаяў упёршыся рылам у падводны корань. Не такі ўжо каб вельмі вялікі, але здаўся гігантам.

Ігнаська памкнуўся было ськінуць вопратку – як-ніяк была ягоная чарга лезьці ў ваду, ды Алег, уздымаючы фантаны, ужо быў там. Не прайшло і хвіліны, як ён, трыумфуючы, падняў над водою за жылку шчупака з разяўленай пашчай. І ганарова, бы маршал на парадзе, панёс да берагу. Алегаў твар сьвяціўся ад шчасьця.

Заставалася тры крокі. І тут шчупак сабраў, відаць, апошнія сілы, выгнуўся ў адзін бок, другі і – саскочыў з гака. Плюхнуўся ў раку. Вады там было па костачкі, таму зьверху на яго плюхнуўся жыватом і Алег. З вырачанымі вачыма ён мацаў пад сабою і мычэў: “М-м-м! Ы-ы-ы! Т-т-трымаю!” Потым тузануўся і з роспаччу уткнуў твар у пясчанае дно…

– Эх, ты! Чувырла! (“чувырла” Ігнаська ўжываў замест “расьцяпы”, адкуль слоўца ўзялося, не памятаў, але яно яму вельмі падабалася.) – За жабры трэба было! Чаго палез? Мая чарга! – Алег толькі вінавата маўчаў. Нават агрызацца не спрабаваў.

Лезьці ў ваду правяраць наступнага жыўца не прыйшлося. Ігнаська пацягнуў за жылку і выцягнуў нечапанага снулага карасіка. “Бачыш, – сказаў Алег, – карасі ў бягучай вадзе не жывуць. Ці, можа, ім яна захалодная?”

Чацьвёрты таксама быў нечапаны. “Усё, – нясьмела нагадаў Алег, – я два праверыў, ты два. Далей давай па аднаму?”

– Ага, які хітранькі! – Амаль закрычаў Ігнаська. – Я таксама хачу даставаць! Рыбу! А ты зноў упусьціш!

– Не ўпушчу больш. Я думаў – ён добра на гак сеў, а ён, відаць толькі крышачку зачапіўся. Можа – гак тупы? Ну і ўзяў за павадок, а трэба было пад жабры пальцы засунуць. Вось я табе абяцаю: больш ніколі не буду рыбу на жылцы трымаць, калі можна ўзяць у рукі.

Наступныя некалькі снасьцяў былі без карасікаў, але пустыя. На восьмым

мітусілася невялікая стронга. Даставаў Ігнаська, з берагу, бо карчы былі далекавата і зацягнуць туды цяжкое грузіла рыба не здолела. Выбіраў і з заміраньнем адчуваў удары на тым канцы… Выцягнуў і доўга любаваўся яркімі чырвонымі і чорнымі кропкамі па баках.

Дадому сунуўся як стары дзед. Ногі не ідуць, галава цяжкая і ўсё навокал нерэальным здаецца. Дзіва што – суткі не спаў! Таму татава і маміна хвала, якой так прагнуў, прайшлі неяк не так, як чакалася. А хваліць было за што – на лазовым дубцы матляліся тры ўвесістыя шчупакі і стронга.

Засынаючы, падумаў: вось як бывае – так марыў прыйсьці з сапраўдным уловам, не драбязой, і прыйшоў. І – што? Хацеў дадумаць – што, але ўжо прагна спаў.

17.

Так і прадрых увесь дзень. Спаў бы і далей, але мама пабудзіла: “Уставай, Ігнаська. На закаце няможна спаць, уначы заснуць не здолееш… Паеш, я табе рыбу пасмажыла, не еў жа колькі.!” І на стол патэльню са стронгай. Не хацелася есьці спачатку, а як пакаштаваў кавалачак – смаката! – то і ўплёў усю рыбіну.

Пасноўдаўся па двары крыху, тут і сьцямнела. Лямпу газавую запаліў. Спачатку трэба пахукаць унутр лямпавага шкла, каб запацела, потым запхаць туды пакамечаную газету і круціць. Шкло становіцца чыстым, і сьвятло ад лямпы – яркім. Не такім, як ад электрычнай, але літары добра відаць. Стаў падручнікі новыя праглядаць. Пахнуць прыемна. Трэба іх абгарнуць, каб не пэцкаліся.

Мама расказвала, што ў пятым класе ўсё інакш, не так, як у пачатковай школе. Кожны прадмет будзе весьці асобны настаўнік. Будзе нямецкая мова. І руская. Геаграфія. Гісторыя.

… Ну што з таго, што не спаў на закаце? Круціцца Ігнаська другую гадзіну ў ложку, а заснуць не можа. Прыкметы гэтыя – пра тое, што нельга на закаце спаць – лухта. Забабоны.

За сьцяной тата пахропвае. Камар над вухам зьвініць. Ігнаська і так ляжа, і гэтак, і пад коўдру з галовой – не ідзе сон.

Вакно ля ложка сьвятлее. Падняўся, на пальчыках да вакна, зашчапку ціха-ціха – мама ото чуйна сьпіць! – па міліметру адшчапіў, раму гэтак жа, па міліметру. Хвілін мо дзесяць адчыняў, але адчыніў ціха. Праз падваконьнік – на вуліцу. Холадна. Трэба было хоць нагавіцы з кашуляй захапіць, але позна ўжо.

На небе маладзічок танюсенькі. Заходзіць ужо. Малады месячык рана, засьветла ўзыходзіць і заходзіць да сьвітанку. Тата казаў. Тата шмат чаго ведае. Пра пугача неяк распавядаў – здаецца, уначы яму ніякай небясьпекі няма. Ну, калі на зямлю не садзіцца, дзе лісы ды ваўкі. Вырашана. Сёньня – пугачом. І пабег да каменя. Бег і думаў – чаму ўначы лягчэй бегчы?

Здаецца, зараз так імкліва бяжыць, ніхто б не перагнаў. Удзень такога пачуцьця ніколі не бывае… Ці, можа, гэта толькі здаецца?

…Зрок аказаўся нават яшчэ лепшы, чым мінулай ноччу, як ваўком быў. І слых – таксама. Здаецца, колькі таго сьвятла ад гэтага чэзлага маладзічка? Аж не – пугачынымі вачыма бачыць Ігнаська наваколье быццам днём. І палёт у яго зараз ціхі. Такі ціхі, што чуваць, як мышы ў траве размаўляюць.

Прыляцеў у Казіну, сеў на хваёвы сук. Побач з калоніяй грачынай. Гракі і галкі маладыя ўжо даўно на крыло сталі, але нанач усё роўна на тыя дрэвы, дзе гнёзды, прылятаюць. Аблепяць дрэвы, што аж чорна.

Загаманілі. Можа, пачулі, як садзіўся. Пугач – птушка самавітая, цяжкая. Куды б зьлётаць? Можа, да школы ў Кіявец? Разьвітацца. Цікава – што там уперадзе, як складзецца ў Ракаўскай, але ж і сумна. Як-ніяк чатыры гады жыцьця аддаў. І з сябрамі – Адзікам, Колем – разыходзяцца сьцежкі. Яны ў Падневіцкую школу дакументы падалі, бліжэй да Івянца…

Над лесам уздоўж дарогі – і не заўважыў, як ужо Кіявец. Добра ўсё ж паветрам перамяшчацца. Не тое, што пехатой клыпаць.

Рачулка ўнізе, мост, хаты. Школа ля рачулкі. А побач, на ўзгорку, царква. Даўней, калі тут Домка і Ляксандра вучыліся, прапра– і прадзед, школа царкве належала.

Ну чаму людзі ўначы так бачыць не могуць? Зайздросна. Ваўку і пугачу сьвятла месяца і зорак хапае, а людзі ў гэты час быццам сьляпыя. “Хацелася б мне мець такі зрок?” – падумаў і адразу адказаў сам сабе: “ Не, усё ж не бачыць колераў кепска. Вось, каб удзень глядзець па-чалавечы, з колерамі, а ўначы – як совы!”

Хацеў на дах школы прысесьці ды пачуў, як нешта затрашчэла за царквой. Нячутна, як цень, узьляцеў вышэй і на крыж сеў. Пакруціў галавой (дзіўна – галаву можна лёгка назад павярнуць – такая шыя стала рухавая!), агледзеўся. У двары царкоўным аўтамабіль стаіць, “козьлік”. Побач людзі мітусяцца. Чацьвёра дзядзькаў. Трое звычайныя, а чацьвёрты – міліцыянер. Дзьверы царкоўныя ломікамі выламваюць. Размаўляюць ціха. Нешта незразумелае: “*Парційны каміцет… Секрэтар… Опіум для народу…*” Сьмяюцца. Дзьверы трашчаць, але не паддаюцца пакуль.

“Што да чаго?” – падумаў Ігнаська. – “Каб былі хлапчукі, то зразумела больш-менш. Мы ж таксама з Колем і Адзікам пад капліцу ў сутарэньне лазілі. На могілках паблізу Люцінкі. Цікава было. І страшна. Праўда, нічога там не знайшлі, перапэцкаліся толькі. А гэтым што тут трэба? Ды яшчэ ўначы? Можа, зладзеі, але што ў царкве скрасьці? Не, якія зладзеі, што гэта я? Тут жа міліцыянер.”

Пакуль думаў ды пытаньні безадказныя сам сабе задаваў, зламалі замкі. Адчынілі і ўнутр увайшлі. Па шыбах блікі забегалі – ліхтарыкамі сьвецяць. Пачалі кнігі выносіць, у “козьлік” складваць. Вялізныя кнігі, цяжкія, у скураных вокладках. Відаць, вельмі старажытныя. Зараз такіх не робяць. Пасьля загрымела ў царкве, забухала. Цікава стала Ігнасіку, спланіраваў і на

дзьверы сеў. Нахіліўся, каб бачыць, што там грыміць. Ого! Ды яны там ламаюць усё, што пад руку трапляе! Ломікамі жалезнымі па абразах, па падсьвечніках, па жырандолі. Твары ашчэраныя, дзікія. Такога нават днём сустрэнеш – спалохоешся. Хвілін пяць "папрацавалі" – быццам вайна прайшлася.

– Хопіць! Сыходзім! – закамандаваў міліцыянер, і ўсе подбегам кінуліся да выхаду. А Ігнаська зьляцець не пасьпеў, толькі крылы расставіў – і ў промень ліхтарыка трапіў. Ажно закрычалі ўголас. А ў аднаго дык ломік з рук бразнуўся. Ігнасік ляцеў ужо і пачуў, як міліцыянер ушчуваў: "Чаго гэта вы? Савы не бачылі?" (Ха! Быццам сам з пярэпалаху не закрычаў!).

Ляцеў над лесам і бачыў – па шашы ў мінскі бок "козьлік" імчаў. А з яго вокнаў аркушы вылятаў. Усю дарогу да хутара ўсеялі. Далей не глядзеў. Ночы яшчэ кароткія. Трэба дахаты пасьпець, пакуль мама карову даіць не паднялася.

…Прачнуўся ад надакучлівай мухі. Яны ўвогуле непрыемныя стварэньні, а ў жніўні дык яшчэ і злымі становяцца, кусачымі. Спачатку спрабаваў ад яе пад коўдрай хавацца, але там горача, доўга не вытрываць. Прыйшлося вылазіць, а муха зноў тут. Які тут сон? У пярэднім пакоі мама нешта ўсхвалявана тату расказвае. Прыслухаўся.

– Бабы навінскія галосяць, як па нябожчыку! Ходзяць уздоўж дарогі і аркушы ад сьвятых кніжак зьбіраюць…

– Бу-бу-бу – татаў голас неразборлівы.

– Кажуць – ніводнага абраза не пакралі, паламалі толькі ўсё. І кніжкі парваныя ўздоўж дарогі ажно да Міхалова параськіданыя. Участковага з Яршэвічаў выклікалі. І яшчэ з Валожына міліцыю чакаюць… Як думаеш – знойдуць?

Ох і цяжка трымаць язык за зубамі!

18.

З месяц правучыліся, а потым заняткі спынілі і сталі кожны дзень вазіць-выбіраць бульбу. І буракі. А старэйшыя класы – хмель.

Заняткі ў сярэдняй школе гэта не тое, што ў пачатковай. Кожны прадмет асобны настаўнік выкладае. Ну, і самыя сьмелыя сталі з некаторых урокаў зьбягаць. Гэта называецца "хадзіць у філоны". Напрыклад, не зрабіў ты хатняга заданьня па арыфметыцы і за гэта табе двойка пагражае. А ты замест урока арыфметыкі ідзеш у хвойнік, што за школай. Хто там будзе правяраць, ці быў ты на папярэднім уроку? Аднакласьнікі скажуць, што ты ўвогуле сёньня не прыйшоў. Мо захварэў, а мо радоўку пасеш…

З урокаў зьбягаць Ігнаська не рызыкаваў. Ды і не было патрэбы. А калі на бульбу сталі езьдзіць, на другі ж дзень у філоны пайшоў. Набраў поўныя кішэні бульбы і хмызамі – у лагчыну. Проста дзень быў такі сонечны, прыгожы, павучыньне ў паветры лётала. Лясы наўкола пазалаціліся. А тут корпайся ўвесь дзень у зямлі! І яшчэ вельмі хацелася да каменя чароўнага…

…Лагчынай дабраўся да лесу, потым лесам да ракі і далей лукамі ўніз, куды рэчка цячэ. З гадзіну ішоў, стаміўся. Сабраў ламачча, вогнішча запаліў, бульбы напёк, паеў. І далей. Хутар родны Казіной абышоў, тата з мамай на працы, але хто яго ведае… Кажуць – беражонага Бог беражэ. А яшчэ – Бог не цяля, бачыць круцяля.

І не думаў, што так усё акажацца… Як дабраўся Казіной, хмызамі, хвойнікам на сьхіле францішкоўскай гары да каменя, тут і ўбачыў: камень з месца ссунуты, зямля ўся ўзадраная гусеніцамі трактарнымі. Відаць, поле ворнае пашыралі і валун ім перашкаджаў. Метраў на пяцьдзесят адсунулі. А галоўнае – перакулілі яго. Сьляды сьвятога Францішка ўнізе апынуліся. І тут як маланка ў галаву: “Сам вінаваты! Забыўся, пра што курапаткі казалі?”

У іхным пятым “вэ” адны толькі дзеці з вёсак, што вакол Ракава. Ніхто нікога не ведаў спачатку. Ну і пачалі хлопчыкі адзін перад другім “выабражаць”. І Ігнаська ў гэтае спаборніцтва – хто больш значны – убіўся. Асабліва хацелася, каб на яго ўвагу Тамара Патаповіч зьвярнула. Бялявая, тоненькая, гнуткая, як лаза. І калі на белліце Марыя Іванаўна заданьне дала распавесьці, хто як лета правёў, тут і распушыў хвост Ігнаська. Нехта кажа: “Я з бацькам сена нарыхтоўваў” – во дзіва! Або: “Кароў пасьвіў” – яшчэ лепей! “У піянерлагеры быў” – ну, нічога сабе так… А Ігнаська як пачаў аповед, усе раты паразіналі – распавёў, як лётаў, як Толіка выратаваў, як ваўком цётку ягоную налякаў, як ад сокала ўхіліўся… Далей бы распавядаў, але дзеці хіхікаць пачалі, а Марыванна кажа: “Ты, Ігнат, сапраўдны Усяслаў -чарадзей! Быў даўней у Беларусі князь, у Полацку. Ён – так у летапісе сказана – мог у розных зьвяроў ператварацца”. Тут дзеці зашумелі, загаманілі, а Сяргей Пашкевіч ляпнуў: “Ігнась-чарадзей!” І ўсё, прыліпла. “Чарадзей”, “Чарадзей” – толькі так і клікаць пачалі. Але пакрыху скарацілася мянушка. Зараз ужо проста “Чар”.

– Што рабіць? – круцяцца ў галаве Ігнаські. – Можа, упрасіць трактарыста? Не, там два трактары патрэбны… Хто будзе слухаць хлапчука? Пасьмяюцца толькі.

“Эх, ты! – гучыць быццам чужы голас у Ігнаськавай галаве. – Ніякі ты больш не Чарадзей, нават не Чар. Балбатун ты!”

19.

– Чар, ты пра што будзеш пісаць? – шэпча сусед па парце, Валерка Кашалеўскі. – Я пра тое, як буду пракурорам. Пракурора ўсе баяцца, ён садзіць у турму.

– Пра машыну такую… Доўга казаць… Адчапіся. – Ігнаська мачае ў чарніліцу пяро, асьцярожна страсае лішняе чарніла, нахіляе галаву і піша:
“Тэма сачыненьня: Мая мара.

Як я вырасту і вывучуся, я хачу вынайсьці такі апарат, каб можна было, падключыўшыся да любой жывой істоты, адчуць тое, што адчувае яна. Такі апарат можна выкарыстоўваць паўсюль. Напрыклад, доктар можа

падключыцца да хворага і адчуць, што ў яго баліць, бо сам чалавек не заўсёды ўмее правільна распавесьці пра сваю хваробу. Або ветэрынар гэтак жа можа зразумець, на што хварэе жывёла.

Гэты апарат могуць выкарыстоўваць нават вайскоўцы. Ляціць бусел над умацаваньнямі немцаў, ці лепей пугач, бо пугач лётае ўначы і яму хапае сьвятла зорак, каб усё бачыць, а нашы навялі на пугача апарат і бачаць усё, што і ён. Атрымоўваецца разьведка.

А яшчэ, калі чалавек шчасьлівы, да яго могуць падключыцца іншыя…

Я назаву гэты апарат “Усяслаў”!

**Сяргей Кавалёў**

# ПАЦАЛУНАК НОЧЫ

П’еса-казка ў 2-х дзеях

АСОБЫ:

Р ы г о р к а – хворы хлопчык
Л е р а – хворая дзяўчынка
К л о у н К л а у с – проста з Нямеччыны
С а н т а – белы пацук
М а т ч ы н а Д у ш а
С м е р ц ь
Х в а р о б а
Б о л ь ш ы П а ц у к,
М е н ш ы П а ц у к – служкі Х в а р о б ы
А л х і м і к
Д в у х г а л о в ы,
Ч а т ы р о х р у к і – памочнікі Алхіміка
М а л п а
В а р т а ў н і к С а д а
М е д с я с т р а
Д з е ц і ў б о л ь н і ц ы

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З’ява першая

Ноч. Бальнічная палата. На ложках неспакойна спяць хворыя дзеці.

1-ы Х л о п ч ы к. Мне баліць! Баліць!
2-гі Х л о п ч ы к. Хачу вады! Хачу ўбачыць белы снег!
Д з я ў ч ы н к а. Мама, забяры мяне дадому!

Між ложкаў узнікае постаць жанчыны ў чорным убранні. Гэта сама Смерць. Яна ўважліва аглядае хворых дзяцей, потым нахіляецца над 1-ым Хлопчыкам і цалуе яго ў лоб.

2-гі Х л о п ч ы к (*трызніць*). Чорныя дрэвы, чорны снег… Пацукі! Вялізныя шэрыя пацукі!
Д з я ў ч ы н к а (*праз сон*). Я вып’ю ўсе лекі, якія загадаеш, мама. Толькі не пакідай мяне адну.

Смерць нахіляецца над 2-ім Хлопчыкам і цалуе яго. Потым накідае сабе на галаву капюшон плашча і ціха адыходзіць.

Д з я ў ч ы н к а (*плача*). Мне страшна! Забярыце мяне адсюль!

### З’ява другая

Раніца. Бальнічная палата. З’яўляецца Медсястра, яна вядзе за сабой Рыгорку. Спыніўшыся каля аднаго з вольных ложкаў, Медсястра кладзе Рыгоркавы рэчы на тумбачку.

М е д с я с т р а. Вось твой ложак, хлопча. (*Гладзіць Рыгорку па галаве*). Не журыся. Заўтра табе зробяць аперацыю і ты паправішся.

Медсястра мяняе на ложку пасцель. Рыгорка насцярожана аглядае палату.

Д з я ў ч ы н к а (*высоўваецца з-пад коўдры*). Новы? (*Да Медсястры*). А дзе хлопчык, які спаў на гэтым ложку ўчора? (*Аглядае палату*). І дзяўчынка з суседняга ложка?
М е д с я с т р а (*схаваўшы вочы*). Іх перавялі ў іншую палату. Цяпер тут будзе спаць Рыгорка.
Д з я ў ч ы н к а. А чаму іх перавялі ў іншую палату?
М е д с я с т р а (*раздражнёна*). Перавялі, бо так трэба было. (*Да Рыгоркі*). Пазнаёмся, Рыгорка: гэта Лера. Добрая дзяўчынка, але... занадта цікаўная.

Д з я ў ч ы н к а (*задзірыста*). Проста я хачу ведаць праўду, а тут ніхто праўду не гаворыць!

М е д с я с т р а (*ненатуральна бадзёрым голасам*) Дзеці, вас чакае сёння сюрпрыз. Да вас проста з Нямеччыны прыехаў клоун Клаус. Ён пакажа вясёлыя цыркавыя сцэны, а потым кожнаму дасць падарунак.

Д з я ў ч ы н к а (*да Рыгоркі*). Падумаеш, клоун! Мы з татам шмат разоў бачылі іх у цырку. А твае бацькі вадзілі цябе ў цырк?

Р ы г о р к а (*ціха*). Не. Я ніколі не бачыў сапраўдных клоунаў.

Дзверы адчыняюцца і ў палату працісквaецца клоун Клаус з пакункамі і торбамі. На ланцужку ён цягне за сабой вялізнага белага пацука, празванага Сантай.

К л а у с (*весела*). Hallo!

Д з я ў ч ы н к а (*спалохана*). Пацук! (*Хаваецца пад коўдру*).

К л а у с. Nein, nein! Гэта незвычайны пацук. Па-першае, ён белы. А па-другое, выхаваны і адукаваны. Hoppla! (*Клоун пстрыкае пальцамі і пацук кланяецца*). Мяне завуць Клаус. А майго пацука – Санта. А разам мы: Санта Клаус. Праўда, смешна? Калі нямецкія дзеці чуюць нашыя імёны, яны адразу ўсміхаюцца. А калі нас з Сантай бачаць – проста рагочуць.

Медсястра хмыкае, але хуценька спахопліваецца. Дзяўчынка вылазіць з-пад коўдры.

М е д с я с т р а (*строга*). Якія нявыхаваныя дзеці!

К л а у с (*пагаджаецца*). Ja**,** нявыхаваныя**.** І зашмат глядзяць тэлевізара. Але добрыя. Гэта яны сабралі падарункі для хворых беларускіх дзетак.

Клаус здымае з шыі пацука ланцужок і аддае яму ў лапкі.

К л а у с. Hoppla!

Санта скача праз ланцужок як праз скакалку. Медсястра і дзеці пляскаюць у далоні. Клаус тым часам вымае з торбы бубен і вялізныя кубікі, на якіх намаляваныя лічбы і літары.

К л а у с. Санта ўмее не толькі скакаць праз ланцужок, але і хадзіць на пярэдніх лапках. Hoppla!

Клоун пстрыкае пальцамі і пацук, кінуўшы ланцужок, ходзіць на пярэдніх лапках.

К л а у с. О, гэта вельмі разумны пацук. Яшчэ ён умее пісаць. (*Пстрыкае пальцамі*). Санта, складзі слова… (*Шэпча пацуку нейкае слова*).

Санта падбягае да кубікаў і складае слова.

К л а у с. Хто з вас, дзеці, умее чытаць?

Дзеці падымаюць рукі.

К л а у с. Gut. Якое слова склаў Санта?

Дзеці маўчаць. Клоун стаіць да кубікаў спіной і таму не бачыць напісанага слова. Медсястра шматзначна пакашлівае. Клоун паварочвае галаву і бачыць кітайскія іерогліфы.

К л а у с (*сканфужана*). Санта, па-беларуску!

Пацук хуценька мяняе кубікі і складае патрэбнае слова.

Д з е ц і  і  М е д с я с т р а (*разам*). Ма-ма!

Медсястра пляскае ў далоні.

Д з я ў ч ы н к а (*да Рыгоркі*). Просты фокус! У цырку гэта рабіў сабака.
К л а у с. А яшчэ Санта ўмее лічыць. Hoppla! (*Пстрыкае пальцамі*).

Пацук сядае і бярэ ў лапкі бубен.

К л а у с. Санта, колькі ў пацука лапак?

Пацук б’е ў бубен чатыры разы.

Д з я ў ч ы н к а. Зусім просты фокус!
М е д с я с т р а (*паглядзеўшы на Дзяўчынку*). Сапраўды. Можа ён палічыць нешта больш складанае?
К л а у с. Gut. (*Падміргвае пацуку*). Санта, колькі зорак на сцягу Еўрапейскага Саюзу? (*Паказвае сцяжок*). Wieviel?

Пацук як заведзены лупіць у бубен, выбіваючы пры гэтым гімн Еўрасаюзу.

М е д с я с т р а (*закрыўшы вушы*). Усё, дзецям трэба рыхтавацца да працэдур!
К л а у с. Gut. Тады апошняе пытанне: простае, але вельмі важнае. Санта, колькі падарункаў мы прынеслі?

Пацук б’е ў бубен тры разы.

М е д с я с т р а. Ой, я забылася папярэдзіць… (*Падыходзіць да клоуна і нешта шэпча яму на вуха*).

К л а у с. Mein Gott! Ja, ja, разумею…

Клоун вымае з пакунка вялізную ляльку і аддае Леры.

К л а у с. Гэта табе, дзяўчынка. Bitte.

Д з я ў ч ы н к а (важна). Увогуле, я ўжо дарослая. Але лялька мне падабаецца. Зусім як жывая. (*Занепакоена да Медсястры*). Яе не перавядуць у іншую палату?

Клоун вымае з наступнага пакунка пажарную машыну і працягвае Рыгорку.

К л а у с. А гэта табе, хлопчык.

Р ы г о р к а (*хавае рукі за спіну*). Я не хачу пажарнай машыны. Я хачу ліхтарык.

К л а у с (*здзіўлена*). Ліхтарык? Taschenlampe? Такая дробязь… (*Пакапаўшыся ў торбе*). Але ў мяне няма з сабой ліхтарыка.

М е д с я с т р а (*строга да Рыгоркі*). Які яшчэ ліхтарык? Навошта ён табе?

Р ы г о р к а. Я баюся цемры. Бабулька заўсёды клала мне ў ложак ліхтарык.

Д з я ў ч ы н к а. Хі-хі!

К л а у с (*разводзіць рукамі*). Tut mir Leid.

Клоун разгублена глядзіць на Рыгорку, на Медсястру, на пацука Санту. Пацук таксама зазірае ў торбу і разводзіць лапкамі.

К л а у с (*да Рыгоркі*). Заўтра раніцай мы ад’яжджаем дадому, у Нямеччыну. Але калі ты хочаш…

М е д с я с т р а (*перапыняе клоуна*). У больніцы ліхтарыкі не дазволены. (*Хапае з рук у Клауса пажарную машыну і аддае Рыгорку*). Бяры пажарную машыну. (*Загадным голасам*). Усё, цырк скончаны, час развітацца. Дзеці, падзякуйце нашаму госцю за падарункі.

Д з е ц і (*нясмела*). Дзя-куй…

Санта спрытна збірае кубікі ў торбу, клоун прымацоўвае да шыі пацука ланцужок. Забраўшы торбы і трэці, неаддадзены пакунак, Клаус і Санта адкланьваюцца.

К л а у с. Хутчэй выздараўлівайце, дзеці! Мы да вас яшчэ прыедзем. Tschüs!

Медсястра ветліва, але настойліва выштурхоўвае гасцей з палаты.

М е д с я с т р а (*да дзяцей*). Зараз будзе сняданак. (*Знікае за дзвярыма*).

Д з я ў ч ы н к а (*да Рыгоркі*). Ты яе не бойся, яна толькі ўдае, што строгая. (*Разважліва*). Такая ў яе праца.

Р ы г о р к а (*пакрыўджана*). Я нічога не баюся. Толькі цемры... крышачку.

Д з я ў ч ы н к а (*уважліва разглядае Рыгорку*). Ты мне падабаешся. Бо не надзімаешся, як іншыя хлопцы.

Р ы г о р к а. Дзякуй. З табой таксама можна вытрымаць... (*Паспешліва папраўляецца*). Я хацеў сказаць – сябраваць.

Д з я ў ч ы н к а *(строга)*. Толькі давай дамовімся: ніколі не хлусіць адзін аднаму.

Р ы г о р к а. Давай. Я ніколі не хлушу. (*Шчыра*). Амаль.

Д з я ў ч ы н к а. Добра. Я мушу адкрыць табе страшную таямніцу, Рыгорка. (*Шэптам*). Хлопчык, які спаў на тваім ложку і ягоная суседка – іх не перавялі ў іншую палату. Яны памерлі.

**З'ява трэцяя**

Ноч. Бальнічная палата. На ложках спяць хворыя дзеці.

Д з я ў ч ы н к а (*абняўшы ляльку, праз сон*). Не бойся, я цябе нікому не аддам.

У палаце з'яўляецца Матчына Душа. Яна набліжаецца да ложка, на якім спіць Рыгорка, і нахіляецца над хлопчыкам.

М а т ч ы н а Д у ш а (*ціха*). Рыгорка, хлопчык мой, прачніся.

Р ы г о р к а. Бабуля?.. Я не хачу ўставаць, мне ўсё баліць.

М а т ч ы н а Д у ш а. Я прынесла табе лекі, сынок. Яны ўратуюць цябе ад Смерці.

Р ы г о р к а. Якія лекі? (*Працірае вочы*). Ты не бабуля?

М а т ч ы н а Д у ш а. Вазьмі гэты Срэбны Лісток з Чароўнага Сада. І што б ні здарылася – не выпускай яго з рук. (*Кладзе соннаму хлопчыку ў руку Срэбны Лісток*).

Р ы г о р к а. Хто ты? Твой голас такі знаёмы…

М а т ч ы н а Д у ш а (*усхвалявана*). Яна набліжаецца! Памятай, што б ні здарылася – не выпускай з рук Срэбны Лісток.

Матчына Душа знікае. Рыгорка засынае, заціснуўшы ў кулачку Срэбны Лісток. Праз нейкі час дзверы ў палату прыадчыняюцца і крадком уваходзяць клоун Клаус з пацуком Сантай.

К л а у с (*шэптам*). Стой ля дзвярэй, Санта. Каб толькі не разбудзіць Медсястру. Пакладзем ліхтарык хлопчыку пад падушку і хуценька знікаем.

Клоун нахіляецца над Рыгоркавым ложкам, каб ціхенька пакласці ліхтарык пад падушку. Нечакана пацук з пранізлівым віскатам хаваецца пад Дзяўчынкін ложак.

К л а у с. Што такое? Нас заўважылі? Scheiße! (*Хаваецца за Рыгоркаў ложак*).

У палаце з'яўляецца Смерць. Яна падыходзіць да Дзяўчынкі, нахіляецца над ёй і цалуе ў лоб. Потым накіроўваецца да Рыгоркі. Наблізіўшыся, нахіляецца над хлопчыкам, але раптам адскоквае нібы аблітая кіпенем. Пацук Санта вішчыць ад страху, клоун Клаус запальвае ліхтарык. Рыгорка прачынаецца і сядае на ложак.

С м е р ц ь. Гэтага не можа быць! (*Глядзіць на сціснуты хлопчыкаў кулачок*).

Р ы г о р к а. Хто тут?

К л а у с (*уражаны*). Mein Gott! Гэта сама Смерць!

С м е р ц ь (*уладным голасам*). Ціха! Досыць віскатаць, неразумнае стварэнне! (*Пстрыкае пальцамі*).

Санта паслухмяна вылазіць з-пад ложка.

С м е р ц ь (*да Клауса*). А ты патушы свой ліхтарык, блазен. (*Узмахвае рукой, ліхтарык гасне, а палата напаўняецца таямнічым зялёным святлом. Да Рыгоркі*). Пакажы, што ў цябе ў руцэ, хлопчык.

Рыгорка расціскае кулачок і здзіўлена глядзіць на Срэбны Лісток. Потым працягвае Срэбны Лісток Смерці. Смерць спалохана адыходзіць на некалькі крокаў назад, не зводзячы вачэй з Лістка.

К л а у с (*зрываецца з месца*). Verschwinde! Verschwinde! Прэч, пачвара! Пакінь хлопчыка ў спакоі!

Клоун спрабуе стаць паміж хлопчыкам і Смерцю, але Смерць робіць знак рукой і Клаус нерухома застывае на месцы.

С м е р ц ь. Супакойся, блазен. Пакуль у ягоных руках гэты лісток – Смерць яму не страшная. (*Недаверліва*). Падумаць толькі, сапраўдны Срэбны Лісток з Дрэва Жыцця, якое расце ў Чароўным Садзе. Даўно я не бачыла яго ў гэтым свеце. (*Да Рыгоркі*). Адкуль ён у цябе?

Р ы г о р к а. Не ведаю. (*Разглядае Лісток у сваёй руцэ*). Свеціццца як ліхтарык.

С м е р ц ь (*задумліва*). А я, здаецца, ведаю.

Смерць робіць ледзь прыкметны знак рукой. З’яўляецца Матчына Душа.

С м е р ц ь. Ты гэта зрабіла?
Д у ш а  М а ц і (*са страхам*). Так.
С м е р ц ь. Разумееш, што цябе за гэта чакае?
Д у ш а  М а ц і (*плача*). Так. Смерць без збавення.
С м е р ц ь. І не шкадуеш?
Д у ш а  М а ц і. Не. Рыгорка – мой сын.
С м е р ц ь. Што ж, хадзем. Ты зрабіла свой выбар.

Смерць з Матчынай Душой адыходзяць, але нечакана Смерць вяртаецца.

С м е р ц ь (*да Клауса*). Паслухай, блазен. (*Робіць знак рукой у бок клоуна*). Я даўно за табой назіраю і мне вельмі смешна. Але не ад тваіх бяздарных жартаў і фокусаў. Я ведаю, хто ты ў сапраўднасці і адкуль твой клопат пра хворых дзетак. Твая спагада і падарункі ім не дапамогуць. Але я дам табе шанец выкупіць сваю віну. (*Паказвае на дзяўчынку*). Гэтая дзяўчынка памерла.

Клоун інстынктыўна робіць некалькі крокаў у бок Дзяўчынкі.

С м е р ц ь. Але калі ты згодны памяняць сваё жыццё на яе – яна ажыве. Яна зноў будзе смяяцца, гуляць з лялькай, спяваць бязглуздыя песенкі.

Смерць махае рукой. Дзяўчынка ўздымаецца з ложка і пачынае спяваць, абняўшы ляльку.

Д з я ў ч ы н к а: Разбудзіце маму!
З ёй пайду я ў краму,
Там куплю для мамы
Аж тры кілаграмы
Пернікаў мядовых,
Вішанек цукровых.
Толькі б сёння маму
Мне завесці ў краму![1]

Р ы г о р к а (*усхвалявана*). Яе завуць Лера. Яна добрая дзяўчынка, хоць і задавака. Не трэба яе нікуды забіраць!

*Д з я ў ч ы н к а :* Лю-лі, лю-лі, гушкі
Спі, мая дачушка.

[1] Верш Галіны Багданавай.

Коўдрай накрывайся,
Хутка папраўляйся.
Лю-лі, лю-лі, трэба спаць
Каб здаровенькаю стаць.
Пойдзем мы на двор гуляць,
Будзем кветачкі збіраць…

С м е р ц ь (*да Клауса*). Твой адказ, прафесар.

К л а у с (*разгублена*). Так раптоўна… я ж зусім яе не ведаю… а іншыя дзеці… а мой фонд міласэрнасці…

С м е р ц ь (*пагардліва*). Усё зразумела: і з табой, і з тваёй міласэрнасцю.

Смерць узнімае руку, але нечакана пацук Санта падбягае да дзяўчынкі, вырывае ў яе з рук ляльку і працягвае Смерці.

С м е р ц ь (*усміхаецца, зразумеўшы прапанову Санты*). Не, такі абмен немажлівы. Але ты мне падабаешся, наіўнае стварэнне. Буду рада вітаць цябе ў сваіх уладаннях.

Спалоханы пацук хаваецца за клоуна. Смерць робіць знак рукой і дзяўчынка нежывая падае на ложак.

К л а у с (*бездапаможна*). Пачвара, ненавіджу цябе, ненавіджу! Du Ungeheuer!

Р ы г о р к а (*да Смерці*). Ты злая. Навошта ты загубіла Леру?

С м е р ц ь. Ты памыляешся, Рыгорка. Яе загубіла Хвароба. Я толькі выконваю сваю працу. Павер, у маіх уладаннях ёй будзе лепш, чым на бальнічным ложку. А потым…

Р ы г о р к а (*нечакана*). Хочаш, я аддам табе Срэбны Лісток? А ты вярні Леру.

М а т ч ы н а Д у ш а (*адчайна*). Не!

С м е р ц ь. Я не магу яго ўзяць, хлопча: ён мне не належыць. І ён не выратуе Леру, бо твая маці сарвала яго для цябе. (*Сурова*). І цяпер дорага за гэта заплоціць.

Р ы г о р к а. Але я яго вярну! Каму я магу яго вярнуць, скажы?

М а т ч ы н а Д у ш а (*плача*). Не! Не трэба!

С м е р ц ь. Ты можаш вярнуць яго ў Чароўны Сад. Срэбны Лісток пакажа табе дарогу. (*Задумліва*). Але гэта вельмі небяспечны шлях: праз уладанні Хваробы, праз сховішча Алхіміка… Наўрад ці ты дойдзеш, Рыгорка.

К л а у с. Не вер ёй, хлопчык! Яна хлусіць, яна заваблівае цябе ў пастку!

С м е р ц ь. Дзіўныя людзі… Не я вінаватая ў тым, што адбываецца. Я толькі выконваю сваю працу і… (*Пазяхае*). І нават стамілася. Бывай, Рыгорка.

Смерць разам з Матчынай Душой знікаюць з палаты.

Р ы г о р к а (*пасля працяглага маўчання*). Жанчына, якая прынесла мне Срэбны Лісток… Гэта была мая маці!
К л а у с. Ты яе не пазнаў?
Р ы г о р к а. Я ніколі яе не бачыў.

**З’ява чацвёртая**

У пакінутым людзьмі доме. На падлозе валяюцца старыя газеты і часопісы, некалькі парожніх бутэлек. Праз незачыненыя дзверы ўлятае Срэбны Лісток. Услед за ім уваходзяць клоун Клаус, Рыгорка і пацук Санта. Пацук падазрона прынюхваецца.

Р ы г о р к а. Нікога няма ў гэтым доме.
К л а у с. Нікога няма ва ўсім горадзе. Людзі пакінулі яго, ратуючыся ад хваробы.
Р ы г о р к а. Жахлівае месца!
К л а у с. Ja, непрыемнае. Але Срэбны Лісток прывёў нас акурат сюды.

Рыгорка працягвае руку і Срэбны Лісток апускаецца яму на далонь.

Р ы г о р к а (*стомлена*). А цяпер ён хоча адпачыць з дарогі.
К л а у с (*зірнуўшы на хлопчыка*). Я зусім забыўся, мой хлопчык, што ты хворы. Застанемся тут на начлег. (*Скідае заплечнік і ладзіць са старых газет і часопісаў месца для начлега*).
Р ы г о р к а. Я баюся спаць у пакінутым людзьмі доме.
К л а у с. Не бойся. Санта будзе ахоўваць наш сон.

Клоун пстрыкае пальцамі і падзывае да сябе пацука. Вымае з кішэні свісток на бліскучым ланцужку і вешае на шыю Санце.

К л а у с. Санта, застанешся за вартаўніка. Калі адчуеш небяспеку, свішчы як мага ў гэты свісток. Pfeife darauf!

Пацук з цікавасцю разглядае свісток. Клаус і Рыгорка ўладкоўваюцца спаць на газетах.

Р ы г о р к а. А ліхтарык?
К л а у с. Augenblick! Вось ён.

Клоун вымае з заплечніка ліхтарык і аддае хлопчыку. Праверыўшы, ці працуе літарык, хлопчык кладзе яго побач з сабой.

Р ы г о р к а. Цікава, што цяпер робіць мая бабуля?

К л а у с (*зірнуўшы на гадзіннік*). Спадзяюся, што спіць.

Р ы г о р к а. А, можа, зноў плача? Апошнім часам яна шмат плакала, асабліва ўначы. Думала, што я сплю і не чую.

К л а у с. Ты зусім не памятаеш сваіх бацькоў?

Р ы г о р к а (*пасля працяглага маўчання*). Здаецца, я памятаю матчын голас.

К л а у с (*пагладзіўшы хлопчыка па галаве*). Гэта вельмі важна для чалавека – помніць матчын голас.

Р ы г о р к а (*прытуліўшыся да Клауса*). Дзякуй, што вы з Сантай пайшлі разам са мной шукаць Чароўны Сад. Без вас я не дам рады.

К л а у с. Глупства. Ты – адважны і кемлівы хлопчык і цудоўна справіўся б без нас. Дзякуй, што дазволіў нам цябе праводзіць. (*Сумна ўсміхаецца*). Даў мне мажлівасць адчуць сябе выканаўцам нейкай важнай місіі, патрэбным і вартым чалавекам. Пасля той жудаснай ночы ў шпіталі… (*З болем у голасе*). Падумаць толькі: я мог уратаваць маленькую дзяўчынку, а выбраў уласнае, нікчэмнае жыццё!

Р ы г о р к а. Не трэба, Клаус.

К л а у с (*задумліва*). Кожны з нас аднойчы трапляе ў сітуацыю, калі трэба выбіраць: ратаваць жыццё іншага чалавека ці сваю ўласную скуру. Найчасцей мы проста не паспяваем зрабіць належнага выбару. А потым да смерці пакутуем і просім у Бога толькі аднаго: каб сітуацыя паўтарылася і тады… На жаль, дублі здараюцца толькі ў кіно.

Р ы г о р к а (*сонна*). Я вельмі люблю кіно.

К л а у с. Спі, Рыгорка. Не слухай старога дурня. Ты адразу зрабіў правільны выбар. Gute Nacht!

Рыгорка, а ўслед за ім і Клаус засынаюць. Санта знаходзіць стос нейкіх часопісаў і, уладкаваўшыся ля сцяны, з цікавасцю іх гартае.

Нечакана ў падлозе адчыняецца люк і адтуль вылазяць два шэрыя пацукі, узброеныя трызубцамі. Захоплены чытаннем, Санта занадта позна заўважае з’яўленне шэрых сваякоў. Ён хапаецца за свісток, але бачыць прыстаўлены да горла трызубец.

Б о л ь ш ы П а ц у к. Шы-шы-шы-шы! (*Што, мусіць, азначае:* “Не рабі глупстваў!”)

Санта паслухмяна аддае свісток Большаму Пацуку.

М е н ш ы П а ц у к. Ці-ці-ці-ці! (*Што, пэўна, перакладаецца:* “Малайчына. Вітаем цябе ва ўладаннях Хваробы!”).

У пакоі з’яўляецца Хвароба, ледзь праціснуўшыся праз дзверы. Гэта

надзвычай агіднае стварэнне, надзьмутае, бы паветраны шар. Пабачыўшы Хваробу, Санта дранцвее ад жаху.

Шэрыя пацукі накідваюцца на клоуна і хлопчыка і спрытна звязваюць іх вяроўкамі па руках і нагах – раней, чым яны паспяваюць як след прачнуцца.

Р ы г о р к а. Пусціце нас! Навошта вы нас звязалі?

Х в а р о б а. Вітаю вас у маіх уладаннях, неабачлівыя падарожнікі!

Р ы г о р к а. Ты хто?

Х в а р о б а. Не пазнаеш? А я даўно цябе ведаю, Рыгорка. (*Падыходзіць бліжэй*). Я – Хвароба.

К л а у с (*успамінае*). Смерць казала, што дарога ў Чароўны Сад вядзе праз уладанні Хваробы.

Р ы г о р к а (*прыгадвае*). Здаецца, я цябе бачыў некалі ў сне… Але тады ты была меншая.

Х в а р о б а (*задаволена*). Так, з таго часу мая магутнасць вырасла ўдвая. (*Ляпае сябе па баках*). Я знішчыла гэты горад, а неўзабаве знішчу ўсю вашу краіну, увесь свет.

Б о л ь ш ы П а ц у к. Шы-шы-шы-шы!

Х в а р о б а (*пагаджаецца*). Так, застануцца толькі пацукі.

М е н ш ы П а ц у к. Ці-ці-ці-ці!

Х в а р о б а. Увесь свет будзе заселены пацукамі.

Шэрыя пацукі капаюцца ў клоунавым заплечніку. Знаходзяць там бутэрброды з сырам і ўсчыняюць за іх зацятую бойку.

Х в а р о б а. Што за вэрхал?

У час замяшання асмялелы Санта неўпрыкмет падбірае з падлогі Срэбны Лісток і хавае за спіну. Шэрыя пацукі разрываюць пакунак з бутэрбродамі на дзве часткі і імгненна з’ядаюць разам з абгорткавай паперай.

К л а у с (*да Хваробы, іранічна*). Відаць, у тваім войску не важна з дысцыплінай.

Х в а р о б а (*да Клауса*). Маўчаць! (*Да пацукоў*). А вам толькі сыры ды кілбасы ў галаве. Знайшлі што цікавае?

Большы Пацук адмоўна круціць галавой і паказвае на кавалак бутэрброда ў сваіх лапках.

Х в а р о б а (*да Рыгоркі і Клауса*). Прызнавайцеся, што прывяло вас у мёртвы горад? Усе ўцякаюць ад мяне, а вы самі прыйшлі.

Р ы г о р к а. Мы…

К л а у с (*паспешліва*). Мы збіліся з дарогі. Wir sind vom Weg abge-

kommen!

Х в а р о б а (*да Рыгоркі*). Што ты хацеў сказаць хлопчык?

Р ы г о р к а. Ты… Ты страшная, праз цябе памерла Лера і шмат іншых дзяцей! Але не радуйся: людзі ўсё роўна перамогуць цябе!

К л а у с (*да хлопчыка*). Маўчы, Рыгорка.

Х в а р о б а. Люблю дзяцей, кажуць тое, што думаюць. (*Пагардліва*). А ты ведаеш, дурненькі, што людзі самі спарадзілі мяне? Табе з сябрам усё роўна не выбрацца адсюль жывымі, таму адкрыю вам адну таямніцу. Недалёка адсюль знаходзіцца сховішча Алхіміка, які пабудаваў цудоўную Машыну. Яна ператварае ваду ў золата, але разам з тым губіць прыроду і выклікае ў людзей хваробу. А ты кажаш, людзі мяне перамогуць.

Р ы г о р к а. Калі я вырасту, я стану лекарам і тады пабачым!

Х в а р о б а. Але ты ніколі не вырасцеш, хлопчык. Ты застанешся назаўсёды ў гэтым доме разам са сваім спадарожнікам, пакуль вы не памраце з голаду і не ператворыцеся ў два шкілеты, прывязаныя адзін да аднаго. Мае служкі паклапоцяцца пра гэта.

Б о л ь ш ы  П а ц у к. Шы-шы-шы-шы!

Х в а р о б а (*перакладае*). Пацучызм – новы гуманізм! (*Зірнуўшы на Санту*). А гэта што за гібрыд?

М е н ш ы  П а ц у к. Ці-ці-ці-ці!

Х в а р о б а. Мой новы служка? (*Незадаволена*). Прыгледзьцеся да яго ўважліва, нешта ён не выклікае ў мяне даверу.

Б о л ь ш ы  П а ц у к. Шы-шы-шы-шы!

/*Разам*/

М е н ш ы  П а ц у к. Ці-ці-ці-ці!

Х в а р о б а (*да Рыгоркі і Клауса*). Што значыць: няхай жыве наша гаспадыня! (*Да пацукоў*). Пільнуйце іх як след, яны зашмат ведаюць, каб заставацца ў жывых.

Хвароба пакідае дом, з цяжкасцю прасунуўшыся праз дзверы. Санта падбягае да шэрых пацукоў і пачынае ім нешта горача даказваць.

Р ы г о р к а (*з пагардаю глядзіць на Санту*). Санта здрадзіў нам!

К л а у с. Ты думаеш? Можа, ён таксама не меў часу на выбар? (*Прыслухоўваецца да перашэптвання пацукоў*). Цікава, цікава… Na, gut, Санта: скажы сваім сваякам, што Хвароба іх проста падманвае. Спачатку яна знішчыць людзей, а потым возьмецца за іншыя жывыя стварэнні. Дойдзе чарга і да пацукоў.

Р ы г о р к а (*здзіўлена*). Ты разумееш мову пацукоў?

К л а у с. Крыху. (*Сумна ўсміхаецца*). Апошнім часам маім суразмоўцам быў пераважна Санта, і мы шмат адзін у аднаго навучыліся.

Б о л ь ш ы  П а ц у к (*падыйшоўшы да людзей*). Шы-шы-шы-шы!

К л а у с. Ja, ja, людзі выкарыстоўваюць пацукоў для доследаў, труцяць

іх і ставяць на іх пасткі. Але растлумач ім, Санта, што разам з людзьмі знікнуць не толькі атруты і пасткі, а і шмат прыемных рэчаў. Напрыклад, сыры і кілбасы.

М е н ш ы П а ц у к (*паслухаўшы Санту, жаласліва*). Ці-ці-ці-ці!

К л а у с. Не будзе эры пацукоў: тыя пацукі, якія не памруць ад хваробы, загінуць з голаду. Так што няхай выбіраюць: альбо суседства з чалавекам, альбо… den Tod.

Параіўшыся, шэрыя пацукі развязваюць Рыгорку.

Р ы г о р к а. Што яны робяць?

К л а у с (*радасна*). Яны надумалі цябе адпусціць.

Р ы г о р к а. Мяне аднаго?

К л а у с. Ja. Хуценька ўцякай, Рыгорка!

Санта аддае хлопчыку Срэбны Лісток.

Р ы г о р к а. Срэбны Лісток! Ты проста малайчына, Санта! (*Усхвалявана*). Але растлумач сваім сябрам, што без вас з Клаусам я не дайду да Чароўнага Сада!

К л а у с. Няпраўда, Рыгорка!

Р ы г о р к а. Лепей я ўжо застануся з сябрамі, бо адзін усё роўна загіну.

Санта горача пераконвае шэрых пацукоў. Нарэшце, большы Пацук ківае галавой на знак згоды, але паказвае лапкай на Санту. Санта пагаджаецца.

Меншы Пацук вызваляе Клауса. Санта забірае ў Большага Пацука свісток і аддае Клаусу.

Р ы г о р к а. Што яны сказалі?

К л а у с (*расчулена*). Я таксама магу быць вольны, але Санта застанецца з імі.

Р ы г о р к а. Нельга іх угаварыць?

К л а у с. Ausgeschlossen. Гэта катэгарычная ўмова. (*Гладзіць Санту па галаве*). Бывай, дружа. Я пакідаю цябе, бо мушу дапамагчы хлопчыку. Але спадзяюся, што мы з табой яшчэ сустрэнемся. Bis nachher.

Клоун і Санта развітваюцца.

Б о л ь ш ы П а ц у к. Шы-шы-шы-шы!

М е н ш ы П а ц у к. Ці-ці-ці-ці! /*Разам*/

К л а у с. Хутчэй, Рыгорка. Пацук давядзе нас праз падземны ход да ўладанняў Алхіміка! (*Збірае параскіданыя рэчы ў заплечнік*).

Р ы г о р к а. Бывай, Санта!

Рыгорка і Клаус у суправаджэнні Меншага Пацука спускаюцца ў патаемны лаз. Большы Пацук і Санта застаюцца ў доме. З вачэй Санты цякуць слёзы. Большы Пацук здзіўлена глядзіць на сваяка, які ўмее плакаць.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява пятая

Сховішча Алхіміка, якое нагадвае завадскі цэх на адкрытым паветры. На заднім плане знаходзіцца аграмадная Машына, што працуе на ўсю моц. На пярэднім плане двое памочнікаў Алхіміка – Двухгаловы і Чатырохрукі – гуляюць у косці. Стаўкай у гульні – залатыя зліткі, складзеныя ў два стосы каля кожнага з гульцоў. Недалёка ад Чатырохрукага стаіць пустая тачка.

Ч а т ы р о х р у к і (*кідае косці*). Дзесяць.

Д в у х г а л о в ы (*кідае косці*). Адзінаццаць. Я выйграў. (*Забірае сабе адзін злітак са стоса Чатырохрукага*).

Ч а т ы р о х р у к і (*гэтым разам кідае косці іншай рукой*). Чатырнаццаць.

Д в у х г а л о в ы (*кідае косці*). Пятнаццаць. Зноў я выйграў.

Ч а т ы р о х р у к і (*злуецца*). Не разумею. Я кідаю з чатырох рук, а ты – з двух. Чаму ты ўвесь час выйграеш?

Д в у х г а л о в ы (*забіраючы выйграны злітак*). Бо важна не колькі ты маеш рук, а колькі галоў.

Ч а т ы р о х р у к і. Хочаш сказаць, што ў Алхіміка ты таксама б выйграў? (*Трасе косці*).

Д в у х г а л о в ы. Алхіміку я напэўна б прайграў, бо ён – мой гаспадар.

Ч а т ы р о х р у к і. Нічога не разумею. (*Кідае косці*).

Д в у х г а л о в ы. Вось таму ты – мой падначалены, а не я твой. Таму ты цягаеш тачку, а я працую на помпе.

Ч а т ы р о х р у к і (*радасна*). Васемнаццаць! Фул!

Д в у х г а л о в ы (*паглядзеўшы на косці*). Праўду кажуць: дурням шанцуе.

Ч а т ы р о х р у к і (*нецярпліва*). Кідай!

Двухгаловы неахвотна бярэ косці і пачынае няспешна іх трэсці, зірнуўшы на насценны гадзіннік. Натужліва раве сірэна, Машына спыняе працу.

Д в у х г а л о в ы. Скончыўся цыкл, трэба ісці да Машыны.

Ч а т ы р о х р у к і (*пагрозліва*). Кідай!

Д в у х г а л о в ы (*кінуўшы косці*). Таксама васемнаццаць! (*Усхоплі-*

*ваецца і робіць колькі паспешлівых крокаў убок Машыны*). Хадзем працаваць! Вернецца Алхімік – абодва атрымаем!

Ч а т ы р о х р у к і. Д'ябал, каб так не шанцавала! (*Хапае тачку і бяжыць з ёй да Машыны.)*

Двухгаловы вяртаецца і хуценька змешвае косці.

Д в у х г а л о в ы (*задаволена*). Перамагае той, хто ўмее лічыць, а не той, хто лепш кідае.

Двухгаловы падыходзіць да панелі кіравання Машыны і ўключае водную помпу. Чатырохрукі складае ў тачку залатыя зліткі, выробленыя Машынай. Нечакана помпа адключаецца.

Ч а т ы р о х р у к і (*адрываецца ад працы*). Што здарылася?

Д в у х г а л о в ы. Няма вады. На сёння праца скончана.

Двухгаловы падыходзіць да калегі і з цікавасцю зазірае ў тачку.

Ч а т ы р о х р у к і. Мала. Гаспадар будзе незадаволены.

Д в у х г а л о в ы. Склад і так перапоўнены. (*Сквапна*). Ты не задумваўся, навошта Алхіміку гэтулькі золата?

Ч а т ы р о х р у к і (*строга*). Наша справа – працаваць, а не думаць. Давай завязем золата на склад і працягнем гульню. Я адчуваю, шчасце само ідзе мне ў рукі. (*Робіць рухі адразу чатырма рукамі*).

Д в у х г а л о в ы. Спачатку трэба ўзяць у гаспадара ключ ад склада.

Памочнікі Алхіміка коцяць тачку на склад.

Праз нейкі час у сховішча залятае Срэбны Лісток, за ім з'яўляюцца Рыгорка і Клаус. Рыгорка падстаўляе далонь і Лісток апускаецца на яе. Хлопчык асцярожна кладзе Лісток у кішэню.

К л а у с. Вось яна, Машына Алхіміка. (*Падыходзіць да Машыны*).

Р ы г о р к а. Я хачу піць! Мы ішлі цэлы дзень і не сустрэлі ні возера, ні рачулкі, ні крыніцы.

К л а у с (*разглядае канструкцыю Машыны*). Бо Машына працуе на вадзе, яна высмактала ўсе азёры і рэчкі навакол. Вось чаму засох і счарнеў лес, загінулі звяры і птушкі, вось чаму хварэюць і паміраюць людзі.

Р ы г о р к а (*падыходзіць бліжэй да Машыны*). Пра гэтую Машыну казала Хвароба? Яна вырабляе золата?

К л а у с. Машына можа вырабляць розныя рэчывы. Цяпер яна вырабляе золата. Банальна, але выгодна для яе гаспадара.

Р ы г о р к а (*спалохана глядзіць на Машыну*). Праз гэтую Машыну столькі няшчасцяў у свеце. Які злы чалавек яе прыдумаў?

К л а у с (*з цяжкасцю*). Ты не паверыш, Рыгорка. Гэтую Машыну прыдумаў…

На пляцоўцы, што над Машынай, з’яўляецца Алхімік. За спінамі Клауса і Рыгоркі вырастаюць постаці Двухгаловага і Чатырохрукага.

А л х і м і к (*самазадаволена*). Гэтую Машыну прыдумаў я. Я матэрыялізаваў мару старадаўніх мудрацоў пра філасофскі камень. Я – Алхімік.

Р ы г о р к а (*глядзіць на Алхіміка ва ўсе вочы*). Праз цябе гінуць лясы і рэкі, паміраюць дзеці ў больніцы!

А л х і м і к. Так, паміраюць. Бо яны слабыя, не прыстасаваныя да жыцця ва ўмовах сучаснай цывілізацыі. Затое паглядзіце, якія дасканалыя стварэнні нараджаюцца, дзякуючы працы маёй Машыны. Я б сказаў, людзі будучыні. (*Паказвае на сваіх памочнікаў*).

Р ы г о р к а (*азірнуўшыся, заўважае Чатырохрукага і Двухгаловага*). Клаус, страшыдлы!

Рыгорка інстынктыўна спрабуе схавацца за Клауса, але Чатырохрукі спрытна хапае хлопчыка. Двухгаловы ў гэты час прыстаўляе клоуну да скроні пісталет.

А л х і м і к. Вам пашанцавала: вы першыя, хто пабачыў маю Машыну! (*Нядобра ўсміхаецца*). На жаль, вам давядзецца заплаціць за гэта жыццём. Ніхто не можа даведацца пра маю таямніцу.

Д в у х г а л о в ы. Што загадаеш з імі зрабіць, гаспадар?

Ч а т ы р о х р у к і (*хапае з-за пояса адразу некалькі кінжалаў*). Пасячы іх на кавалкі?

Д в у х г а л о в ы. А можа апусціць іх у бочку з кіслатой, каб не засталося ніякіх слядоў?

К л а у с. Пачакайце. Гэты чалавек хлусіць. (*Паказвае на Алхіміка*). Ein Verbrecher.

А л х і м і к (*здзіўлена*). Што?

Ч а т ы р о х р у к і (*пагрозліва*). Ты абражаеш нашага гаспадара?

К л а у с (*спакойна*). Ваш гаспадар – ашуканец. Гэта я прыдумаў Машыну.

Д в у х г а л о в ы.<br>Ч а т ы р о х р у к і. (*Разам*). Ты?

Р ы г о р к а.

К л а у с. Ja, гэтую жахлівую Машыну, якая адно рэчыва мяняе на іншае, праз якое гіне ўсё жывое на Зямлі, прыдумаў я.

А л х і м і к (*разгублена*). Прафесар? (*Спускаецца ўніз да Клауса*). Як вы тут апынуліся? (*Уважліва разглядае Клауса*). І чаму ў клоунскім касцюме?

Р ы г о р к а (*дрыжачым голасам*). Клаус, гэта праўда?

К л а у с. Tut mir Leid,  Рыгорка. Я не меў адвагі прызнацца табе раней.

Д в у х г а л о в ы (*падазрона*). Растлумачце, гаспадар. Ён кажа праўду?

А л х і м і к (*неахвотна*). Не зусім. Ідэя Машыны сапраўды належыць яму. Формулы, чарцяжы. О, гэта быў геніяльны вучоны. Але недалёкі чалавек. Ён спалохаўся свайго вынаходніцтва і знішчыў усе паперы.

К л а у с (*сумна*). Выходзіць, не ўсе. Мой найлепшы вучань паспеў зняць копіі.

А л х і м і к (*задаволена*). Так, я зняў копіі і пабудаваў Машыну. Я – яе стваральнік.

Ч а т ы р о х р у к і (*да Алхіміка*). Не разумею, ён што – вар'ят?

Д в у х г а л о в ы (*глядзіць на Клауса*). Табе не патрэбна золата?

А л х і м і к. Вядома, вар'ят. Зірніце, як ён выглядае.

К л а у с. Ihr seid verrückt! Зірніце, у што вы ператвараеце Зямлю! Успомніце пра цара Мідаса: ён загінуў, бо ўсё, да чаго дакранаўся, адмянялася на золата. Трэба знішчыць Машыну пакуль не позна!

Ч а т ы р о х р у к і. Сапраўды, вар'ят.

Д в у х г а л о в ы. І вельмі небяспечны. Трэба хутчэй апусціць яго ў бочку з кіслатой.

Р ы г о р к а (*вырываецца*). Не чапайце яго! Ён кажа праўду. Праз вашу машыну загінула Лера!

Ч а т ы р о х р у к і (*моцна трымае хлопчыка*). І гэтага выкрутня разам з ім. Як загадаеш, гаспадар?

А л х і м і к (*да Клауса*). Я, вядома, паважаю ваш талент, прафесар. (*Нядобра ўсміхаецца*). І ўдзячны вам за навуку. Але нашыя шляхі разышліся… (*Робіць знак памочнікам*).

К л а у с. Адпусціце хаця б хлопчыка.

А л х і м і к. Не. Ніхто не павінен ведаць пра Машыну.

Ч а т ы р о х р у к і. Хадзем, небарака. (*Цягне Рыгорку за сабой*).

Д в у х г а л о в ы (*да Клауса*). Ты свой шанец змарнаваў. Сам вінаваты.

К л а у с (*раптоўна*). Augenblick!  Машына спынілася, бо скончылася вада?

Ч а т ы р о х р у к і (*здзіўлена*). Адкуль ён ведае?

А л х і м і к (*асцярожна*). Часова скончылася.

Д в у х г а л о в ы (*незадаволена*). Давядзецца перабірацца на новае месца.

К л а у с (*наўмысна абыякава*). А чаму б вам не выкарыстаць паветра?

Ч а т ы р о х р у к і (*да Алхіміка*). Ён жартуе ці здзекуецца з нас? (*Штурхае Рыгорку*). Хадзем.

А л х і м і к. Чакайце! (*Усхвалявана*). Прафесар, вы сапраўды ведаеце, як адмяніць паветра на золата?

К л а у с. Ja. Адпусціце хлопчыка, а я пакажу вам, як запраграмаваць Машыну.

Р ы г о р к а (*вырываецца*). Не, Клаус! Не кажы ім!

А л х і м і к (*павагаўшыся*). Згода. (*Да Чатырохрукага*). Пусці малога.

Ч а т ы р о х р у к і (*да Двухгаловага*). Пра што гэта яны дамаўляюцца?

Д в у х г а л о в ы (*схаваўшы пісталет*). Не трэба болей перавозіць Машыну з рэчкі да рэчкі. Будзем рабіць золата проста з паветра.

Чатырохгаловы адпускае Рыгорку, хлопчык падбягае да клоуна і туліцца да яго. Алхімік адводзіць Чатырохрукага ўбок.

А л х і м і к (*гучна*). Правядзеш хлопчыка да межаў нашых уладанняў і адпусціш яго. (*Шэптам*). Гэта значыць – заб’еш. (*Гучна*). Зразумеў загад?

Ч а т ы р о х р у к і. А як жа, гаспадар. (*Нядобра ўсміхаецца*). Выканаю найлепшым парадкам.

А л х і м і к (*да Двухгаловага*). А ты застанешся пільнаваць Прафесара.

Р ы г о р к а. Як ты можаш, Клаус? Гэта … здрада!

К л а у с. Не бойся, Рыгорка. (*Непрыкметна перадае хлопчыку свісток Монікі*). Sorge dich nicht! Sei glücklich! (*Да Алхіміка*). Калі, не дай Бог, з хлопчыкам нешта здарыцца…

А л х і м і к (*пакрыўджана*). Слова навукоўца! Бярыся за працу, пра хлопчыка мы паклапоцімся.

Чатырохрукі хапае Рыгорку і цягне яго за сабой.

Р ы г о р к а (*крычыць*). Не рабі гэтага, Клаус! Ты не можаш так зрабіць!

К л а у с. Усё будзе добра. Рыгорка! Усё будзе добра. (*Праводзіўшы Рыгорку позіркам*). Дык вы хочаце адмяняць паветра на золата? (*З нядобрай усмешкай*). Gut, калегі!

### З’ява шостая

На ўскраіне чорнага лесу, у якім знаходзіцца сховішча Алхіміка. З’яўляюцца Рыгорка і Чатырохрукі.

Ч а т ы р о х р у к і. Вось мяжа нашых уладанняў. Першы загад свайго гаспадара я выканаў. А цяпер выканаю другі. (*Вымае з-за пояса кінжал*).

Р ы г о р к а. Твой гаспадар даваў слова!

Ч а т ы р о х р у к і. Колькі разоў! І колькі разоў сваё слова парушаў. (*Паўтарае ўлюбёнае выказванне Алхіміка*). Навука вымагае ахвяраў, хлопчык.

Рыгорка падносіць да вуснаў свісток і з усяе сілы свішча ў яго.

Ч а т ы р о х р у к і (*зацікаўлена*). І што будзе? Прыбяжыць міліцыянер? (*Адбірае ў Рыгоркі свісток і таксама свішча*). Дзе там, адкуль яму ўзяцца ў

гэтым лесе. (*Падымае над Рыгоркам кінжал*).

Нечакана з-за дрэў з'яўляюцца ўзброеныя трызубцамі пацукі на чале з Сантай.

Р ы г о р к а (*радасна*). Санта!

Ч а т ы р о х р у к і. Утрох на аднаго? Пабачым, чый будзе верх! (*Хапае з -за пояса яшчэ тры кінжалы*).

Б о л ь ш ы  П а ц у к (*агрэсіўна*). Шы-шы-шы-шы!

М е н ш ы  П а ц у к (*ваяўніча*). Ці-ці-ці-ці!

Р ы г о р к а (*да пацукоў*). Асцярожна, ён вельмі небяспечны!

Пацукі адважна змагаюцца з Чатырохрукім, але відавочна саступаюць яму ў баявым майстэрстве. Чатырохрукі раніць Меншага Пацука, той падае.

Ч а т ы р о х р у к і (*задаволена*). Было тры пацукі, засталося два!

Большы Пацук раніць Чатырохрукага ў руку. Чатырохрукі выпускае адзін кінжал.

Р ы г о р к а (*пераможна*). Было чатыры рукі, засталося тры.

Ч а т ы р о х р у к і (*злосна*). Ах так? Ну, трымайся, пацучынае насенне.

Меншы Пацук уздымаецца з зямлі і працягвае бойку. Але Чатырохрукі робіць спрытны выпад і працінае кінжалам Санту. Санта падае.

Р ы г о р к а (*пранізліва*). Санта! (*Кідаецца да Санты*).

Раптам паветра скаланаецца ад магутнага выбуху, усе падаюць на зямлю.

Ч а т ы р о х р у к і. Машына! (*Усхопліваецца на ногі*). Ён сапсаваў нашую Машыну!

Чатырохрукі бяжыць у той бок, адкуль прагучаў выбух. Рыгорка і пацукі нахіляюцца над Сантай.

Р ы г о р к а. Санта, не памірай! Прашу цябе, Санта!

Нечакана пацукі з віскатам уцякаюць. З'яўляецца дзіўная працэсія. Наперадзе ідзе Смерць, услед за ёй, злева рухаюцца Алхімік і Двухгаловы, справа крочыць Клаус. Алхімік і Двухгаловы – у цёмных накідках, Клаус – у светлай.

Р ы г о р к а. Клаус! (*Узіраецца*). Клаус, гэта ты?

С м е р ц ь. Ц-с-с! Ён не чуе цябе, Рыгорка. Твой сябар памёр.

Р ы г о р к а (*не разумее*). Як памёр?

С м е р ц ь. Загінуў, падарваўшы Машыну Алхіміка. Прызнацца, не чакала ад яго такога ўчынку. (*Падыходзіць да Санты*). Смешнае стварэнне таксама памерла з годнасцю. Добрыя ў цябе сябры, Рыгорка.

Смерць нахіляецца да пацука і дакранаецца да яго рукой. Санта ўздымаецца з зямлі, Смерць апранае яго ў светлую накідку. Пацук займае месца ў працэсіі побач з Клаусам.

Р ы г о р к а (*у роспачы*). Але ж яны – не жывыя, таксама як злы Алхімік з ягоным памочнікам. Што з імі цяпер будзе?

С м е р ц ь. Алхімік і Двухгаловы застануцца ў маіх уладаннях назаўсёды, а клоун з пацуком… Мажліва, ты з імі яшчэ сустрэнешся. Дарэчы, што ты збіраешся рабіць далей?

Р ы г о р к а (*няпэўна*). Шукаць Чароўны Сад.

С м е р ц ь. А, можа, лепш вернешся дадому, да бабулі? Машына знішчана, Хвароба пераможана… У цябе ёсць Срэбны Лісток – будзеш жыць доўга і шчасліва.

Р ы г о р к а. Адпусці маю Маці!

С м е р ц ь. Я ўжо казала, што не магу гэтага зрабіць. Твая Маці выкрала Срэбны Лісток з Чароўнага Сада і мусіць несці пакаранне. (*Робіць знак памерлым і адыходзіць на чале дзіўнай працэсіі*).

Р ы г о р к а (*услед*). Дзе гэты Чароўны Сад? Ці далёка яшчэ да яго ісці?

С м е р ц ь. Не ведаю, ніколі там не была.

Рыгорка застаецца адзін. Вымае з кішэні Срэбны Лісток і падкідае ў паветра. Лісток ляціць у супрацьлеглы бок ад таго, куды пайшла працэсія Смерці.

Р ы г о р к а. Няма ў мяне больш сяброў. Толькі ты застаўся, Срэбны Лісток. Вядзі мяне ў Чароўны Сад, дружа.

Рыгорка адыходзіць за Срэбным Лістком. Праз нейкі час на тым самым месцы з’яўляецца Хвароба. Яна ўдвая меншая, чым была раней, мае зацкаваны і пануры выгляд.

Х в а р о б а (*сыпіць*). Знішчылі цудоўную Машыну, узбунтавалі маіх верных служак… Выгналі мяне з гарадоў і вёсак… Думаеце, перамаглі Хваробу, пазбыліся мяне назаўсёды? Не, мае даражэнькія. Я запаўзу ў гушчар, адляжуся ды пачакаю, пакуль з’явіцца новы Алхімік. Я да вас яшчэ вярнуся… (*Знікае ў глыбіні чорнага лесу*).

### З’ява сёмая

У Чароўным садзе. На пярэднім плане – срэбная яблынька, або Дрэва Жыцця. На заднім плане гуляюць дзеці, якіх мы бачылі раней у бальніцы. Недалёка ад іх уладкаваліся на траве клоун Клаус і пацук Санта. Клаус трымае ў руках кнігу і натхнёна зачытвае з яе Санце нейкія фрагменты, махаючы пры гэтым рукой.

Да яблынькі падлятае Срэбны Лісток, за ім з’яўляецца Рыгорка. Хлопчык са здзіўленнем разглядаецца навакол, заўважае дзяцей і сярод іх – Леру.

Р ы г о р к а. Лера! (*Робіць колькі крокаў у бок дзяцей)*. Гэта я, Рыгорка! *(Махае дзецям рукой*).

Дзеці не заўважаюць Рыгоркі. Чуваць Клаусаў голас.

К л а у с. Жывым істотам не дадзена ведаць, як насамрэч выглядае Рай. Таму ў іх уяўленні паўстае ідылічны малюнак Чароўнага Сада, дзе бесклапотна гуляюць дзеці і вызваленыя ад штодзённых праблемаў дарослыя…

Р ы г о р к а (*узрадавана*). Клаус! Санта! (*Робіць колькі крокаў і быццам натыкаецца на невідочную сцяну*). Гэта я, Рыгорка!

За спіной Рыгоркі ўзнікае Малпа.

Р ы г о р к а (*расчаравана*). Яны мяне не чуюць.

Рыгорка працягвае руку да сяброў, на далонь яму апускаецца Срэбны Лісток.

М а л п а. Хто дазволіў табе парушаць спакой Чароўнага Сада?

Р ы г о р к а (*убачыўшы Малпу*). Ты хто?

М а л п а (*важна*). Я – Гаспадар Чароўнага Сада.

Р ы г о р к а (*здзіўлена*). Гаспадар?

М а л п а. А ты чаго круцішся тут, хлопчык? (*Падазрона*). Можа, надумаўся ўкрасці Яблык з Дрэва Жыцця?

Р ы г о р к а. Не. (*Працягвае Малпе Срэбны Лісток*). Я прынёс Срэбны Лісток.

М а л п а (*паспешліва хавае лапу за спіну*). А… Лісток… І што ты хочаш наўзамен? Яблык?

Р ы г о р к а (*здзіўлена глядзіць на Малпу*). Я хачу выратаваць сваю Маці. (*Усхвалявана)*. Прашу цябе, даруй ёй: яна зрабіла гэта дзеля мяне.

М а л п а (*абыякава*). Значыцца, ты ўва ўсім вінаваты?

Р ы г о р к а. Так, Маці выкрала Срэбны Лісток, каб ўратаваць мяне ад Смерці. За гэта Смерць забрала яе з сабой, хаця мая Маці памерла даўно і…

(*Замаўкае*).

М а л п а (*здзеклiва*). I?

Р ы г о р к а (*разгублена*). … I я не зусiм гэта разумею. Дакладней, я нiчога не разумею.

М а л п а. Прызнацца, я таксама мала што разумею з твайго аповяду. (*Ласкава*). Але, бачу, ты – сумленны хлопчык, вярнуў украдзены Лiсток i заслужыў узнагароду. Можаш сарваць з Дрэва Яблык i з'есцi.

Р ы г о р к а. Яблык? Пры чым тут яблык? Я хачу дапамагчы Мацi.

М а л п а. А пры чым тут твая мацi? Яна ўкрала, ты вярнуў. Табе належыць узнагарода. Ты хоць ведаеш, што гэта за Яблык?

Р ы г о р к а (*абыякава*). Не.

М а л п а. О, ён мае яшчэ большую сiлу, чым Срэбны Лiсток. Калi ты з'ясi яго – будзеш жыць вечна.

Р ы г о р к а. А што будзе з маёй Мацi?

М а л п а. Паслухай, ты пачынаеш мяне раздражняць. Можа ты i сумленны хлопчык, але наўрад цi разумны. (*Хiтра*). Добра, давай так: ты зрываеш Яблык з Дрэва, а я вяртаю ў Чароўны Сад тваю мацi.

Р ы г о р к а (*узрадавана*). Мама! Я пабачу сваю Мацi! (*Робiць колькi крокаў да срэбнай яблынькi, але раптам спыняецца*).

М а л п а (*нецярплiва*). Давай, давай! Што здарылася?

Р ы г о р к а. Я не ўпэўнены, што раблю добрую справу. Што маёй Мацi гэта спадабалася б.

М а л п а. Ты хочаш з'есцi Яблык цi не?

Р ы г о р к а. Так. (*Падумаўшы*). Не.

М а л п а (*не вытрымлiвае*). Тады сарвi яго для мяне.

Р ы г о р к а. Калi ласка. (*Уздымае руку, але раптам апускае яе i абарочваецца да Малпы*). Для цябе? Але чаму ты не сарвеш яблык сама? А можа… гэта не твой Сад?

З'яўляецца Вартаўнiк Сада, убачыўшы Малпу замахваецца на яе рукой.

В а р т а ў н i к. Прэч! Прэч адсюль, аблуда!

М а л п а (*да Рыгоркi, злосна*). Ты яшчэ пашкадуеш, хлопча! (*Уцякае з сада*).

В а р т а ў н i к. Нiяк яе не пазбыцца. Хоць ты мур узвядзi.

Р ы г о р к а. Ты – Гаспадар Чароўнага Сада?

В а р т а ў н i к. Што ты, Рыгорка! Я ўсяго толькi сцiплы вартаўнiк.

Р ы г о р к а. А Гаспадар?

В а р т а ў н i к. Ц-с-с! (*Робiць таямнiчы знак*). Ты прынёс Срэбны Лiсток?

Р ы г о р к а. Так.

Рыгорка падае Вартаўнiку Лiсток. Вартаўнiк прымацоўвае Срэбны

Лісток да яблынькі.

В а р т а ў н і к (*задаволена абглядвае галінку*). Нібыта ніхто яго ніколі і не зрываў.

Р ы г о р к а (*нясмела*). А што з маёй Маці?

В а р т а ў н і к (*паказвае рукой у той бок, дзе гуляюць дзеці*). Там.

Рыгорка абарочваецца ў той бок, куды паказвае Вартаўнік і бачыць, што разам з дзецьмі гуляюць цяпер Санта, Клаус і ягоная Маці.

Р ы г о р к а. Мама!

Рыгорка кідаецца да Маці, але натыкаецца на невідочны мур.

Р ы г о р к а (*запытальна глядзіць на Вартаўніка*). Я не магу да яе падысці?

В а р т а ў н і к. Не.

Р ы г о р к а. Яна мяне не бачыць і не чуе?

В а р т а ў н і к. Не. Але Гаспадар дараваў ёй і прыняў назад у свой Сад.

Р ы г о р к а. А я? Я магу тут застацца? Разам з Клаусам і Сантай, разам з маёй Маці?

В а р т а ў н і к. Можаш. (*Памаўчаўшы*). Але тады ты назаўсёды застанешся маленькім хлопчыкам і не выканаеш свайго абяцання.

Р ы г о р к а. Якога абяцання?

В а р т а ў н і к. Стаць лекарам і перамагчы Хваробу.

Р ы г о р к а. Але ж Клаус падарваў Машыну Алхіміка…

В а р т а ў н і к. Хвароба затаілася і чакае з’яўлення новага Алхіміка. (*Азіраецца*). А яшчэ гэтая надакучлівая Малпа… (*Паспешліва*). Вядома, ты можаш выбраць: застацца тут ці вярнуцца ў свой небяспечны свет.

Р ы г о р к а. Я хачу вярнуцца. Толькі не ведаю як. Цяпер у мяне няма Срэбнага Лістка. (*Уздыхае*). І няма побач верных сяброў.

В а р т а ў н і к. Я дапамагу табе. Заплюшчы вочы і ўяві сябе…

Р ы г о р к а (*узрадавана*). У бабульчыным доме?

В а р т а ў н і к. На жаль, не. Мусіш вярнуцца ў тое самае месца, якое пакінуў. У больніцу.

Рыгорка на ўсе вочы глядзіць на дзяцей, на Клауса з Сантай, на сваю Маці.

В а р т а ў н і к (*спагадліва*). Ты надумаў застацца?

Р ы г о р к а. Не. Проста… так цяжка заплюшчыць вочы. (*Заплюшчвае вочы*). Усё, я гатовы.

В а р т а ў н і к. Бывай Рыгорка. Хай Гаспадар дапамагае табе на тваім нялёгкім шляху.

Вартаўнік робіць таямнічы знак і Чароўны Сад знікае.

**З'ява восьмая**

Раніцай у бальнічнай палаце. На сваім ложку спіць Рыгорка. Уваходзіць Медсястра.

Р ы г о р к а (*праз сон*). Няма сілаў адплюшчыць вочы. Усё.

М е д с я с т р а. Дзень добры, Рыгорка. Бачу, ты прачнуўся?

Р ы г о р к а (*расплюшчвае вочы*). Так. (*Аглядае палату*).

М е д с я с т р а. Як адчуваеш сябе пасля аперацыі?

Р ы г о р к а (*здзіўлена*). Пасля аперацыі? (*Зразумеўшы*). Добра.

М е д с я с т р а. Малайчына! Зараз прыйдзе лекар на агляд, а пасля абеду цябе наведае твая бабуля.

Р ы г о р к а (*зірнуўшы на ложак, дзе ляжала Лера*). А Леру… перавялі ў іншую палату?

М е д с я с т р а (*адвярнуўшыся*). Як звычайна. (*Бадзёрым голасам*). Але ёсць добрыя навіны: сёння хворых дзяцей не прывозілі. Нашы лекары кажуць, што хвароба адступіла.

Р ы г о р к а (*задумліва*). Калі мне рабілі аперацыю, значыцца… (*Раптам*). Скажыце, што здарылася з Клаусам? З тым клоунам, што ўчора да нас прыходзіў.

М е д с я с т р а (*разгублена*). А чаму ты думаеш, хлопча, што з ім нешта… здарылася?

Р ы г о р к а (*пераканана*). Бо я ведаю.

М е д с я с т р а. Не павінна табе гэтага казаць, але калі ты сам спытаўся… (*Вымае з кішэні газету)*. Клаус загінуў учора ў аўтакатастрофе. Разам са сваім маленькім сябрам. (*Расчулена*). Душэўны быў чалавек, хоць і немец. (*Працягвае газету Рыгорку*). Вазьмі, у газеце змешчаны яго фотаздымак.

Медсястра выходзіць з палаты. Рыгорка разгортвае газету і доўга-доўга глядзіць на фотаздымак Клауса. Хлопчыку пачынае здавацца, што ў палаце гучыць голас клоуна.

Г о л а с К л а у с а (*весела*). Hallo! Мяне завуць Клаус. А майго пацука – Санта. Паверце мне, гэта вельмі смешна… (*Сумна*). Кожны з нас аднойчы трапляе ў сітуацыю, калі трэба выбіраць: ратаваць жыццё іншага чалавека ці сваю ўласную скуру. Найчасцей мы проста не паспяваем зрабіць належнага выбару. А потым да смерці пакутуем і просім у Бога толькі аднаго: каб сітуацыя паўтарылася і тады… (*Голас абрываецца*).

*Заслона*

## *Юстына Каролька*

***

Чырвоныя ружы
мігцяць у флаконе:
адна – шчасцем,
другая – каханнем,
трэцяя – ціхмянай пакорнасцю,
а сёмая – маім жыццём.

***

Разрываюся
паміж двума палюсамі:
стомленым поўднем
і шчаслівай поўначчу.

***

Ты – наш дыямент кахання.
Жыццё
прыдасць форму табе,
адшліфуе,
выгладзіць,
пакуль не знойдзеш сваю
шурпатую палавіну
з залатым пярсцёнкам.



## *Юрка Буйнюк*

***

Мабыць, яны ідуць з народам.
Аднак перад маладым пакаленнем
Закрываюць дзверы да гаю будучыні,
Бо бачаць у ім іскру ісціны,
Якая можа ўспыхнуць агнём праўды.
Лепш патушыць незагарэўшаеся
Сухім пяском зайздрасці!
Сонца гісторыі высушыць той хлус
І развеіцца гай ісціны,
І разгарацца старыя дровы,
І астанецца толькі попел па вашым сухастоі,
Якому ніколі не расці ў новым стагоддзі.

### ДАЛЁКА

*М.Ч.*

Дзесьці далёка ты...
Клавіятурай дакранаю тваіх валасоў
Ясных як промні сонца світанку
На маніторы сустракаю твае вочы
Ясныя як блакіт пагодлівага неба
У навушніках адчуваю
Чароўныя ноты твайго голасу
Як радасную песню жаваранка над раннем
Па плячах плывуць дрыжыкі
Як кроплі цёплага летняга дажджу
І гэта ты.

Аднак да сустрэчы
Жывых слоў
Обдыму плячэй
Спаткання вуснаў
Дотыку далоняў

Тысячы кіламетраў.
А ці разам
Пачулі б гармонію пачуцця
Ці сэрца заспявала б
Такую ж мелодыю
Без ніякага фальшу нотаў
Зайграных і выспяваных
Спантанна і ад сэрца
Як песня пачутая над раннем
І напоўненая доўгім чаканнем

Няўжо каханне застанецца
У руках бяздушнай тэхнікі
Якая какетуе два адзінокія сэрцы
З дзвюх краін свету?

## ЛІСТЫ ЖАЛЮ

Стараемся маліцца да Бога...
Хоць цяжка паскладаць
З рассыпаных учарашніх лістоў жалю,
Слоў вясёлкавых дыван малітвы,
На алеі дня заўтрашняй восені раскладзены,
Што да яе завядзе простай дарогай.
Што ж, пачуццяў попел папяросы спаленае варты,
Кінуты на зямлю, прытаптаны.
Нікому не патрэбны крык нямога.
Як ветразя палатнянае сэрца раздзёрта,
Якое вятры правяваюць на ўсе бакі.

Усё шукаю веры, натоўпам забытай,
Нібы лясной капліччкі ў гушчары думак,
Пры зарослай сцежцы праўды.
Можа яна дапаможа выйсці з лабірынту болю,
Заспакоіць смагу летнім дажджом.
Таго прашу Цябе, Усявышні.



## *Жэня Мартынюк*

***

Марыцца мне
на пёрыстых аблоках –
белагрывых конях
прамерацць прастор
зорыстай дарогай.

Адсюль ужо
бліжэй да Бога
і далей да мяне –
зямной і нямоглай.

***

У рытмах разагрэлых сэрцаў
прытуляемся да сябе,
вусны перадаюць словы-цукеркі,
рукі перамацваюць вузлы жыцця.
А шлях пераліваецца ў шлях
ад сябе і да сябе,
з мінулага ў будучыню.
У рытме жывых сэрцаў
расце і знікае няпэўнасць.

***

вокам не акінеш
рукамі не абнімеш
нагамі не абыйдзеш
розумам не зразумееш

бязмежнай рэчаіснасці
тваёй і маёй.

*Лідзія Маліноўская*

# ЖУРАЎЛІ

### Поўдзень

Апоўдні пагодлівае неба пакрылася скрозь яркім бляскам з распаленага, дружалюбнага лету сонца. Уціхаміраны вецер дыхае па разгалістых дрэвах і стварае сакрэтнасць.

Наўкол жывыя, насычаныя свежасцю кветкі, а ў прыцемненай алеі жанчына, якая блукае па ўласнай сцежцы. Яна ўжо не помніць сябе, свайго імя. Яе багатае мінулае ператварылася ў адзінокую хвіліну.

У глыбіні душы адчуваю кіпень – ад спякоты, ад пачуцця радасці, якую стварае навакольная краса свету, і аднолькава ад боязі. Пазіраю ў далёкае будучае, у старасць.

### Вечар

Сонца хавае сваю магутнасць за высокімі, аблітымі зеленню, дрэвамі. Надвор'е адпачывае. Летні вечар далікатна ахінае ўвесь свет. Мякка стомленым подыхам гамоніць вецер, раздзьмухваючы серабрысты месяц, які ўсплыве з разагрэтай на працягу дня зямлі. Трэляць салаўі.

На астываючым сінім небе клубяцца воблакі. Прывялыя кветкі чакаюць вады, каб напіцца. Мусяць набраць сілы на сустрэчу з наступным спякотным днём.

З свежа выкашанай травы на газоне высоўваюцца ружовыя стакроткі і белыя галоўкі канюшыны. Духмянасць язьміна, ляўконіі, півоні прыносіць асалоду змярканню. Мушкі і камары танцуюць у картэжах і тнуць скрозь неміласэрна.

Яшчэ апошнія промні сонца акварэльна залоцяць галіны дрэў і кустоў. Надвор'е цямнее, цямнее... Узыходзіць першая зорка. Агарод хіліцца да сну.

## Ноч

Цёплы вечар зараджае сярэдзіну душы. Чуваць звон сэрца. Цёмна-сіняе неба пачынае запальваць свае яркія аганькі. Серп месяца ў нахлынаючай цемры свеціць усё мацней. Пеўчыя птушкі артыстычна аздабляюць чароўнасць ночы. Перамагаюць салаўі.

Палымнее агародні ліхтарык. На светлым яго фоне прыкметна блытаюцца камары. Кажаны пасля дзённага адпачынку выконваюць у паветры хуткасныя петлі. Па шыбах дзынькаюць начныя матылі, прабуюць дастацца да запаленага святла ў хаце.

Агарод наведаў вожык.

## Раніца да поўдня

Раніца... Святло разбуджанага сонца адбіваецца ад жывой прыроды, зямлі. Будзіцца са сну жыццё. Ноч адыходзіць... Куды?

Світанак, як штодзень, цікавы новых падзей, адкрывае шырока вочы. Лёгкі, цёплы, летні подых ветру бярэ яго ў ахапкі. Час уцякае...

Тут ужо і абед. Сонца падняло свае крылы высока ў насычанае блакітнасцю неба. У рытм птушыных канцэртаў узносяцца каляровыя матылі. Блукаюць у паветры, кружацца. Пах разнародных кветак і траў багаціць надвор’е. Вецер гуляе з песняй, якую стварае пялёсткавы шум. Садовыя кветкі ператвараюцца ў ягады і фрукты, некаторыя з іх стаюцца спелыя. Клічуць нас...

## Навальніца

Вялікае неба – прасторная плынь разнаколерных воблакаў, як адлюстраванне дзён нашага людскога жыцця.

Яны мяняюцца безупынна, беззваротна. Ніколі не прымаюць аднолькавай формы ні прызначэння. З цёмных хмар ідзе, як слёзы з нядольнага існавання, праліўны дождж з праблёскам усмешкі, з промнямі залатога, яркага сонца.

Навальніца, як хвароба, разбурае, ломіць, стамляе, раніць – і пакідае надзею, што ўсё-такі праясніцца, зноў уздыхнем з палёгкай. Толькі не заўсёды маем сілу, каб пратрываць, часам не хапае нам паветра. Тады кідаем усё на волю лёсу.

## Буслянка

Густы, вясновы туман. Кусок прырэчча, асветленага месяцам і зоркамі, дзе відаць калыханне высокіх траў. За безупынным дажджом не паспелі іх выкасіць. Там застаўся начаваць самотны бусел, якому бура разваліла буслянку.

Яна даўным-даўно месцілася на тэлефонным слупе паблізу сяла. Ён быў непрыдатны і стаяў толькі таму, што быў фундаментам буслінага кубла. І ён, відаць, моцна знізу падгніў. Калі сарвалася бура, вецер яго паваліў разам з гняздом. Добра, што яшчэ не прыляцела бусліха і не склала яек. Самец прылятае заўсёды першы.

Наш сусед, добры чалавек, пашкадаваў буслоў, зрабіў ім рыштаванне на сваёй клуні.

**Баранюся**

Заўсёды хапае мне сіл,
каб глыбокім подыхам
перамяшчаць дажджлівыя хмары.
Баюся не стаць ахвярай
праліўнога дажджу,
які можа заліць свет
і глыбіню маёй прамяністай душы.

Баранюся перад навальніцай,
маланку лаўлю голымі рукамі
пад Богаваю Страхою.

**Не хапае**

Расстаўляю шырока рукі,
Хачу ўвесь свет абняць –
Даўжыні маіх рук не хапае.

Паміж расстаўленымі пальцамі
З маіх далоняў юнацтва ўцякае,
А прытрымаць яго не магу.

Раскрываю шырока душу,
Каб памагчы знямоглым –
Аднак людзі праходзяць побач.

**Мяжа**

Неба ззяе сонечнымі ланцугамі падзей на прастор красы – даспяванай нівы. Пакрывае яе крайняй пазалотай. Вецер далікатным подыхам шасціць усёй паўнатой калосся, быццам стужкай шчасця.

На мільгаючым блакіце ў вышыні чутна разліваюцца ноты адданых марам жаваранкаў.

І мяжа – аддзяленне падрастання ад спеласці... Мяжа поўная разнародных кветак-самасеек – як ручнік вышываны матчынымі рукамі ў дарогу паўна-лецця, дзе можам адшукаць кветку свайго лёсу.

**Жураўлі**

У прыцемках асенняга неба, на фоне маркотных промняў пасляпаўднёвага сонца, бачны жураўлі і чутно іх жаласнае гагатанне. Яны прымушаюць задумацца – колькі ў іх бескаманднай дакладнасці, смеласці і сілы, каб увесь час ваяваць за сваё існаванне.

І я – як той журавель, што адбіўся ад стаі?

**Начная сінява**

З небакраю, цьмяным ценем імглы, быццам каралеўскі карабель у схваляванай далі, плыве начная сінява. Паўсюдна рассейвае срэбныя росы, вырашаным лёсам ночы...

Напаўняе свежымі спадзяваннямі пагоні, кахання, мар і сноў.

Будзіць нас золак.

**Спакой ночы**

Цішыня нябесная... Ночка вечарэе. Светлыя хмары па цёмна-сінім фоне неба плаваюць, быццам каралеўскія белыя лебедзі па возеры.

Месяц з усмешкай утуліўся ў хмарныя пярыны і лічыць узыходзячыя на небе зоры, як пастух сваіх авечак. Яны адна другой падміргваюць яркімі агеньчыкамі. Багацяць красу неба і асвятляюць зямлю.

**Пакаянне маладосці**

Шлях у старасць,
з каменным, вечным крыжам –
пакаяннем маладосці.

І боязь
свайго адлюстравання і ценю.

Уласнае рэха гучыць,
як века ад дамавіны.
Штосьці прыемнае пачуць –
ужо немагчыма.



**Радзім Гарэцкі**

# Жыццёвы меланж працягваецца…

Непрыкметна і чамусьці зусім нечакана падкралася да мяне 80-годдзе, але жыццё, а разам з ім і жыццёвы меланж[1] у маім успрыманні працягваюцца…

У такі юбілей азіраешся на жыццёвы лёс бацькоў і асэнсоўваеш свой. Мой Тата, акадэмік Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, пражыў як бы два жыцця: адно – у якасці эканаміста, другое – геолага. Сам жа ён у сваім жыцці вылучаў тры кругабегі: 1) беларускі (вучоба і праца эканамістам у Беларусі – 30 гадоў), 2) пераходны (у "архіпелагу ГУЛАГу", праца геолагам у розных мясцінах Савецкага Саюзу – 38 гадоў), 3) менскі, беларускі (праца геолагам у Беларусі – 20 гадоў). У мяне таксама можна вызначыць тры этапы: 1) расейскі – станаўленне, гартаванне (Беламорска-Балтыйскі канал і эвакуацыя з маці ў час вайны, вучоба ў Нафтавым тэхнікуме і Нафтавым інстытуце ў Маскве – 20 гадоў), 2) маскоўскі (праца ў Геалагічным інстытуце АН СССР – 20 гадоў), 3) менскі, беларускі (праца ў Інстытуце геахіміі і геафізікі АН Беларусі – 40 гадоў). Кожны этап па-свойму цікавы, павучальны і запамінальны, але і ў бацькі, і ў мяне самыя шчаслівыя і плённыя – апошнія менскія, калі родная зямля Бацькаўшчыны натхняла, давала сілы і, нягледзячы на змрочныя моманты антыбеларушчыны, захоўвала надзею на лепшую будучыню.

### Максім Гарэцкі і Васіль Быкаў

12 чэрвеня 2008 года ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася прэзентацыя аўдыёкнігі, якая ўключае два творы Максіма Гарэцкага "На імперыялістычнай вайне" і "Літоўскі хутарок" (рэжысёр, музычнае афармленне і выканаўца Алег Вінярскі, гукарэжысёр Ігар Пісыгін, дызайнерская ідэя Вольга Гваздова, рэалізацыя праекта Кастусь Антановіч).

Алег Вінярскі спачатку прачытаў невялікі ўрывак з "На імперыя-

[1] Радзім Гарэцкі, Жыццёвы меланж навукоўца // Тэрмапілы. 2008, № 12. С.99–125.

Амаль сыходзяцца над галавою
пруткі маліны з гнуткай крапівою,

і ягады – нібыта ўзнагарода
за ўсё, што страціў чалавек,
і набыла прырода.

***

І мне ізноў
як Феніксу паўстаць
у зорны вечар
над расколінай бяздоннай,
і мне ізноў
той попел пазбіраць,
што так урэшце і не стаў зямлёю,
мне -
распачаць з бялюткага ліста,
забыць пра ўсё і ўсё ізноў успомніць,
і – ўдалячынь,
дзе болей не дагнаць
ні поглядам, ні словам, ні стралою.

Так прамінуць імгненні,
як вякі,
даруючы магчымасць адраджэння,
і будуць зноў дзве мужныя рукі
падхопліваць ля самае магілы.
Што за анёл нязведаны такі
мне пасылае словы суцяшэння?
Перад вачыма –
новыя радкі
і птушкі сілуэт
над горным схілам.

***

Аднойчы,
неверагодна цёплым вечарам,
калі над Нёманам узыдзе маладзік,
я прайду праз ігольнае вушка
і тады…
Кім стану я?

Не так ужо і важна.
Галоўнае, я стану незаўважнай.

І я вярнуся ў той далёкі лес,
дзе богі гуляюць кедравымі шышкамі,
а промні сонца такія пругкія,
што па іх можна караскацца
як па канатах,
дзе над нябеснай паверхняй возера
гайдаюцца мае сёстры дрыяды,
а я магу заўважыць іх усмешкі
і прашаптаць:
“Прашу вас,
не памірайце разам з дрэвамі,
жывіце вечна…
Мы будзем разам збіраць жывіцу
і абараняць птушанят”.

З чарнічніку паглядаюць лясныя духі,
нязменныя за тысячагоддзі,
а мне дадзена так мала часу,
каб зразумець,
але дастаткова, каб адчуць.

***

развітайся са мною
лета
твае птушкі выраслі
і ведаюць
што такое неба
твае фарбы яшчэ не высахлі
а карціны ўжо прададзены
і ніякімі фотаздымкамі
не перадаць духмянасці лесу
гукі жнівеньскага палудня
запаўняюць свядомасць
некалькі дзён для натхнення
не так ужо і мала
непатрэбнае будзе спалена
сядзібу замкнём
але ў любым выпадку
у мяне застануцца два крыла

***Ars Poetica***
і
***Ars Amandi***

цалую цябе пяшчотна

***

Мая свядомасць трансфармуе час
у рысачкі даўно забытых твараў,
у маляванне леташніх вяргіняў,
у мячыкаў стракатых весялосць,–
прыходзіць дзень як нечаканы  госць,
прыходзіць ноч – крылатая багіня,
дзеля таго, каб памяці пачварам
не даць на поўны голас закрычаць.
Яны сыходзяць у нядоўгі сон,
але натхнення вобразны адбітак
высвечваецца на блакітным шоўку
і вызваляе ў будучыню рух,
і кожную світальную зару
я сустракаю прывітаннем звонкім:
вазьміце найкаштоўнейшы здабытак,
адзіны праўджаны жыццёвы плён.

***Мара пра чалавека***

Не дзеля славы свету пустога,
не дзеля ўлады, не дзеля грошай,
хто ён,
з абліччам анёла святога,
хто
так спакойна і ўпэўнена крочыць?

Той,
хто стварае дом ці краіну,
той,
хто стварае дарогу ці песню,
той,
хто кладзе за цаглінай цагліну,
той,
хто паперу ўпартую крэсліць,

той,
хто адольвае супраціўленне
масы інертнай натоўпу ці гліны,
той,
хто не проста верыць натхненню –
верыць таксама абранай сцяжыне,–

рацыю мае

той,
хто стварае.

## Не бінарная апазіцыя

Сумна нават не тое,
што жыццёвая пазіцыя
на самай справе
аказваецца апазіцыяй,
сумна,
калі гэтая апазіцыя –
не бінарная
і нават не траічная –
яна, як высвятляецца,
суцэльная.

Сапраўды,
хіба можна скласці
некалькі бінарных апазіцый
з адным і тым жа суб'ектам
у якасці адной з частак?

Ну што ж,
бываюць інтэлектуалы –
і нашым, і вашым.
Бываюць інтэлектуалы –
то нашым, то вашым.
Але ёсць і такая катэгорыя,
што ні вашым, ні нашым.

Ні нават іхнім.

А каму?..

### *Ваксал. Дзень наступны*

*Rails qui ligotez les nations*
G.Apollinaire*, Liens*

Гэтая станцыя на рэйках
захад – усход,
гэтая станцыя на рэйках
поўдзень – поўнач,
не прымае ў падарунак
нават звычайную ружу вятроў,
баючыся паблытаць яе
з геральдычнай.
Ну і што – Нацыя і Нацыя,
ну і што – рукі і рукі,
раз’яднаныя,
не зважаючы на ўсе дамовы.
І я не ведаю, ў які бок крычаць,
бо крыкнеш на захад –
вецер нясе на ўсход,
бо крыкнеш на поўдзень –
вецер нясе на поўнач.
А нашай мовы не жадаюць чуць
ні там ні там –
так зручней.
Але мы не маўчым.
Мы пішам на ўсіх скрыжаваннях
зямлі,
што ўзгадавала нашых бацькоў:
Беларусь Беларусь Беларусь

Б-Е-Л-А-Р-У-С-Ь

Каб не забыліся.

Калі-небудзь мы ўсе пойдзем у першы клас
і навучымся чытаць.



**Уладзімір Мархель**

# Працэнты памяці

(Працяг, пачатак гл.: № 9, 11)

На след Барана і Рамановіча яшчэ доўга не траплялі. Аблавы не прыносілі вынікаў: выйсце знаходзілася не толькі ў лясных схованках, але і ў нечаканых месцах на хутарах, дзе, думаецца, была адладжана пэўная сігналізацыя, без усякага тэлефанавання. Таму была прадуманая акцыя ўкаранення свайго чалавека ў лагер бандытаў. Паколькі Пузаткін быў жанаты з швагеркаю сястры Барана, то для зблiжэння з сваякамі стварылі легенду, быццам Пузаткін, працуючы нейкім дырэктарам у Наваградку, зрабіў растрату і ўцёк. Аднак у “праштрафаванага дырэктара” так ці інакш надаралася магчымасць здабываць гранаты, пісталеты, аўтаматы і патроны. Бандыты вельмі доўга не дапускалі Пузаткіна да сябе. Баран заўсёды з ім дужаўся, каб непрыкметна абмацаць, ці няма ў яго зброі, хоць зрэдку браў яго на “дзела”, але ніякай зброі не даваў, толькі трымаў на варце.

Аднойчы майму бацьку трэба было ехаць у Нясвіж, і ён пра гэта камусьці сказаў. Назаўтра з’яўляецца Пузаткін і настойліва просіць даць яму веласіпед і, па сутнасці, вырывае яго з рук. Позна вечарам ён вярнуўся, але на тым веласіпедзе немагчыма было ехаць. Бацька два дні правошкаўся з дашчэнту звахтаваным роварам. Але як высветлілі пасля, на лясной дарозе, праз Вінклераўшчыну, Баран і Рамановіч чакалі майго бацьку, відаць, не з лепшымі намерамі.

Час ад часу бандыты забывалі пра сваю пільнасць, і ў адзін з момантаў гэта выкарыстаў Пузаткін. Паспрабую ўзнавіць усё па магчымасці на аснове непасрэднага ўдзельніка падзеі. Калісьці, яшчэ ў часе майго студэнцтва, Пузаткін, едучы ў машыне ў нашыя Жыгалкі, распавёў мне наступнае: “Стаяў я ля зямлянкі. Баран і Рамановіч пачалі спрачацца, каму з іх прынесці скрынку цукерак, што стаялі ў будане непадалёку, і ўрэшце пайшлі абодва. Рукі іх былі занятыя. Больш зручнага выпадку магло не быць. Таму я выхапіў пісталет і выстраліў Рамановічу проста ў лоб. Ён схапіўся за галаву і ўпаў. Баран паспрабаваў дастаць сваю зброю, але я трохкутнікам стрэліў у яго грудзі. Баран таксама ўпаў. Адсюль я

стрымгалоў кінуўся наўцёкі. Трэба было дабегчы да сельсавета, каб пазваніць энкавэдзістам. Калі тыя прыехалі, ляжаў адзін Рамановіч. Барана не было. Знайшлі яго на процілеглым канцы лесу. Там паранены Баран спыніў падводу з снапамі жыта, павярнуў яе, сказаў: "Едзем у бальніцу! Давай у сельсавет!" Потым дастаў нейкія паперы і грошы, спаліў іх – і выстраліў сабе ў рот".

Позна ноччу нам у дзверы настойліва пагрукаліся. Я прачнуўся і пачуў, пра што гавораць у калідоры. Хтосьці з энкавэдзістаў сказаў: "Запалі ліхтар. Ідзём, пакажу забітага Барана". Пузаткіна тут не было. Бацька моўчкі выйшаў з імі. Пасля, калі машына ад'ехала, ён ціха прамовіў маці, што побач з забітымі ў кузаве сядзела Баранова сястра. З раніцы ў Гавязне, каля сельсавета, ляжалі забітыя. І тыя, хто прыходзіў туды, доўга не стаялі, многія маліліся.

Аднак, ідучы за падзеямі, мы храналагічна пасунуліся ўперад, да 1949 года, не закрануўшы ранейшы час.

***

На нейкія святы, вядома, рэвалюцыйныя, у школе парты былі пасунуты да сцяны перад дошкаю, а з другога боку ўтваралася прастора, да якой прыставілі колькі казлоў і накрылі іх дошкамі. Гэта была сцэна, прыкрытая з боку гледачоў даматканымі коўдрамі і нават кулісамі. Тамсама знаходзіўся рэжысёр, ён жа суфлёр. Падмосткі атрымаліся даволі хісткія, і ў кожную хвілю можна было праваліцца або пайсці юзам на гледачоў, таму ўдзельнікі выступалі асцярожна, пасоўваючыся. І вось пачынаецца "дзейства". Маці мая з бацькам у першым радзе. Перад знаёмымі людзьмі, якія ўспрымаліся ўжо як гледачы, мне давялося выступаць упершыню. Адказваць перад вучнямі, асабліва калі ведаеш урок, не было складанасці, а вось публічнае выступленне перад бацькамі не тое што наганяла страх, а выклікала нібыта ўнутранае адранцвенне. Але я ўсё роўна пайшоў выступаць. Чытаў я верш Якуба Коласа, напісаны пад уплывам (як даведаўся пазней) Івана Нікіціна:

Восень наступіла,
Падаюць лісты,
І стаяць пахіла
Голыя кусты.

Вянуць і жаўцеюць
Травы на лугах,
Толькі зелянеюць
Нівы на палях…

Пасля маці мне сказала, што выступаў я хораша, але не было чутно.

***

У час перапынкаў мы гулялі, звычайна, пры школьным двары. Аднойчы зімою, снежнай ды з гурбамі, мы пабеглі ўсім хлапечым гуртам на Цупруновую горку, якая як быццам чакала нас на самым версе з вялікімі санямі. Мы так захапіліся катаннем, што не заўважылі, як мінуўся адведзены нам час. Калі вярнуліся ў школу, пачаўся ўжо іншы ўрок. Але мяне ўразіла не тое, што мы спазніліся, а іншае: са стрыжанай галавы майго суседа Алёшы (значна пазней у часе студэнцтва ён называў сябе ўжо Саша) ішла пара. Неяк падумалася, што з галавы Алёшы выпараецца розум.

***

На трэцім годзе вучобы нам давялося праводзіць у армію нашага першага настаўніка. На праводзіны сабралася вялікае застолле. Не памятаю, паклікалі мяне туды як аднаго з лепшых вучняў ці, можа, таму, што я сваяк. Ва ўсякім разе, мяне прымусілі выступіць, ужо другі раз – прынародна. Утрапенне было такое ж, як і ўпершыню, але я паспрабаваў нешта нават сказаць ужо больш гучна. Думка зводзілася да таго, што Міхася Мікалаевіча мы адпраўляем не ў войска, а на вайну…

***

У пяцідзесятым годзе мне двойчы выпадала развітвацца з блізкімі людзьмі: вясною мы праводзілі ў войска настаўніка, а позняй восенню – бацьку, якога адпраўлялі, паводле рашэння "тройкі", на вольнае пасяленне, хоць больш дакладна – у ссылку на шэсць гадоў. Мяне паклікалі з школы. У пярэднім пакоі былі незнаёмыя людзі, двое, здаецца, пры форме, у фуражках, якія не здымаліся і ў хаце. Бацька збірае тое-сёе з яды, бялізну. Маці падказвае яму ўзяць з сабою медалі і нейкія даведкі пра яго дапамогу партызанам. Але ў Баранавічах, дзе быў абласны цэнтр, нейкі начальнік выкінуў усё гэта ў шуфляду, сказаўшы: "Можаш і надалей паказваць!"

Урэшце бацька апынуўся ў Іркуцкай вобласці, што паводле сібірскіх мерак, недалёка ад Бадайбо ў Усць-Лугоўцы. Спачатку ён працаваў брыгадзірам пілярамы, пазней жа стаў загадчыкам швейнай майстэрні. У далёкую Усць-Лугоўку маці пасылала яму перш за ўсё часнок, каб не даць развіцца цынзе, а таксама сушаныя яблыкі і мёд. Бацька гаварыў, што ў Сібіры былі харошыя людзі, сапраўдныя.

З цягам часу прасвятлілася карціна бацькавага выгнання. Аказваецца, энкавэдзісты заходзілі да ўсіх па чарзе і палохалі ці пагражалі, прымушаючы распісацца на гатовым ужо даносе, бо, па-першае, план даводзіўся і тут, і яго нельга было не выканаць, а, па-другое, такім чынам сцвярджалася "сацыялістычная законнасць". Аднак адзін сусед усё-такі падпісаў данос на майго бацьку, папаўшыся на тым, што гэтая папера магла быць выкарыстана супраць яго самога. Урэшце асоба тая была ўстаноўлена. Але Бог яму суддзя.

Ніхто ні з дарослых, ні з дзяцей не папракнуў мяне за тое, што мой бацька ў выгнанні. Толькі аднойчы, калі мы вучыліся ў пятым класе, гэта ўсё-такі здарылася. Кожную раніцу я заходзіў па аднакласніцу Анцю і мы кіраваліся ў Падзерычы. Я прыходзіў звычайна раней, каб даць сяброўцы магчымасць перапісаць тое, што яна не змагла выканаць па хатнім заданні. Але адзін раз я запазніўся, і перапісаць хатнія практыкаванні ў яе не хапіла часу. Па дарозе ў школу мне было нагаворана шмат чаго, а ў давяршэнне нават кінута: "Ты будзеш там, дзе твой бацька!" З таго часу я не даваў Анці спісваць у мяне нічога…

Навучанне ў трэцім класе завяршыў іншы настаўнік – Міхаіл Іванавіч. Напярэдадні першамайскіх святаў нас, чалавек з дзесяць (Падамацька, Шкода, Ярашэвіч, я, а ўсе астатнія былі Мамонькі) адправілі ў лес наламаць бярозавых галінак і дзеразы, каб уквеціць школьную браму. Шлях наш пралягаў па ўезджанай сцежцы, справа ад якой была агромністая камяніца, скінутая пераважна з поля Гароіма, знакамітага тым, што ён адзін у нашай вёсцы, хто не ўступіў у калгас. Зямля Гароіма была апрацаваная і ўробленая, але яе да самых вуглоў абрэзалі і далучылі да калгаснай. Гароім з Лэхтаю неяк жылі на дзялцы ўсярэдзіне двара пры невялікім садзе, куды мы часцей, чым у іншыя сады, лазілі. Можа таму, што яны нечым адрозніваліся ці ад таго, што былі скупыя. Ды ў галаў не прыходзіла: а на якія ўраджаі яны жывуць?..

Вяртаючыся з нарабаванымі ў лесе трафеямі, мы не маглі не ўзабрацца на камяніцу, гэтаксама як не маглі не збегаць да сеялкі, што стаяла на пачатку поля, ужо засеянага. Аднак нам трэба было спяшацца, каб яшчэ прывесці да святочнага ладу браму. Таму неахвотна мы пацягнуліся да сцежкі. Я ішоў побач з Алёшам. Раптам бачым – у пяску блішчыць манета. Алёша падняў яе. Мы здагадаліся – золата. У школе Міхаіл Іванавіч паглядзеў на нашу знаходку і прапанаваў зрабіць з яе маятнік для ходзікаў. Але Алёша вырашыў паказаць золата свойму бацьку. На гэтым інцыдэнт быў вычарпаны. За вырučаныя грошы бацькі купілі Алёшу добры лямпавы радыёпрыёмнік.

У наступным годзе нас вучыла Таццяна Мікалаеўна. Чацвёрты клас я скончыў на адны пяцёркі. Пазней жа адзнакі здараліся розныя, але вельмі часта ўзровень маіх адказаў залежаў ад маіх сімпатый да настаўніка, якія зыходзілі найперш ад таго, як настаўнік ставіўся да мяне.

***

Наступны этап маёй вучобы – сямігодка ў Падзерычах. У пяты клас мы хадзілі значна меншым натоўпам. Большая частка вучняў пад уплывам, найперш, бацькоў думала, што вучоба была, відаць, лішняй, бо ўсе, бачыце, вучонымі не стануць, а каб працаваць на зямлі, дастаткова і чатырох класаў. У Падзерыцкую школу нас пайшло чацвёра жыгальскіх вучняў, гэта, можна мовіць, была "дэлегацыя" нашай вёскі.

Ішлі мы нацянькі, паўз любкаўскія хутары, прабягалі невялікую кладку праз ручай, узнімаліся на горку, дзе да нас далучаўся Міша Ярашэвіч або яшчэ хто з любкаўцаў, і мы пры дарозе каля лесу крочылі да Гавязнянкі, якую пераходзілі па кладцы з двух жэрдак і парэнчы. Аднойчы, зімою, калі мароз апускаўся амаль да дваццаці градусаў, я пакаўзнуўся і ўпаў у незамерзлую плынь. Але мая вушанка ўберагла мяне, як выратавальны круг, і я ў вопратцы, набрынялай ад вады, выпаўз на бераг. Адтуль бег да хаты не спыняючыся, і трохкіламетровы крос уратаваў мяне – хваробы неяк не падступіліся.

Зваротны шлях – ад Падзерыч да Жыгалак – праходзіў не зусім па простай лініі, а праз розныя заходы ў лес, дзе восенню мы заўсёды знаходзілі баравікі, казлякі і рыжыкі, якіх, здаецца, цяпер ужо не відаць. Па дарозе, на павароце каля рэчкі, побліз кладкі, пад размышыстымі вербамі мы, здаралася, бачылі выдру, а ў лесе аднойчы я нечакана наткнуўся на прыгожую рысь. Яна сядзела на заснежаным дрэве і напружана пазірала ў мой бок. Дзякуй Богу, яна не кранулася з месца. Ваўкі ж нярэдка сустракаліся прыцемкам пры лесе ці ў полі, больш пад піліпаўку.

Поле таксама прыносіла свае нечаканасці, толькі іншага характару. Жыта і пшаніца выраслі сцяблістыя і роўныя. Гледзячы з горкі на ледзь ускалыханае мора амаль даспелага жыта, здавалася, што можна ўпасці і плысці на ягоных хвалях. Але калі збіралі і змалочвалі жыта, то чамусьці атрымлівалася не болей, як пяць цэнтнераў з гектара. І дзе ж дзяваўся ўраджай? Або ўсхадзіліся сеяць кок-сагыз, дзікую расліну з далінаў Цянь-Шаня. Нешта нават узышло. Але ўсё так і засталося на тым самым узроўні, не пайшло ў рост. Зямля, па сутнасці, была зглумлена…

***

Падзерычы ў пазамінулым стагоддзі мелі дачыненне да беларуска-польскіх літаратурных стасункаў. Будынак, у якім месцілася наша школа, належаў калісьці арандатарам.

Праца ж над гісторыяй культурных стасункаў у Беларусі вывела мяне да родных мясцінаў. У паўднёвым канцы Стаўбцоўскага раёна, праз вёску Жыгалкі, дзе мне давялося нарадзіцца, несумненна, праязджалі Уладзіслаў Сыракомля і Зоф'я Манькоўская, калі гасцявалі ў Падзерычах, тых самых, куды я хадзіў у семігодку. На пачатку пяцідзесятых гадоў дзевятнаццатага стагоддзя, едучы з Залуча з-пад Міра, Сыракомля спыняўся на гасціну ў падзерыцкіх знаёмых Быхоўскіх ці Сідаровічаў. Затым ехаў у Дарагавіцу, адкуль паходзіў яго швагер Антон Раецкі, і да Манькоўскіх праз Андрушы і Бабоўню, таму не мог абмінуць тую дарогу, якая пралягала менавіта праз грэблю і мост на Перакопшчыну і Жыгалкі. Гэтаксама Зоф'я Манькоўская, пляменніца Раецкага, кіруючыся ў Падзерычы, праязджала па тым самым шляху ў адваротным напрамку. Пазней Зоф'я Манькоўская прыгадвала: "Чула я аднойчы аповед, першы прыезд песняра да нас адбыўся досыць

арыгінальна. Прыехаў ён вярхом на якімсьці скалечаным кані і такі быў змучаны, што вымушаны былі ссадзіць яго і аднесці ў ложак. Не памятаю цяпер, выехаў ён з Тулёнкі ці з Падзерыч, дзе жыў Канстанты Быхоўскі, а потым Сідаровічы. Ва ўсякім разе, ад Залуча была гэта адлегласць у некалькі міляў".

Пад час навучання ў прыватным пансіёне Францішкі Клячкоўскай у Вільні Зося Манькоўская была і ў Падзерычах і тым болей у доме Сыракомлі, які ў красавіку 1853 года перабраўся ў падвіленскую Барэйкаўшчыну. Гутаркі з "вясковым лірнікам" паступова адкрывалі ў ёй не толькі ўдзячную слухачку, але і дапытлівую суразмоўніцу. Паэт угадаў неардынарны Зосін талент. Таму ў адказ на яе прачытанныя вершы Сыракомля напісаў прысвячэнне "Да панны Зоф'і Манькоўскай":

О, вінавайка! Увесь май пад ззяннем
Дрэвы зяленіць і ў квет прыбірае;
Хай цябе так атуляе спрыяннем
    Зоф'я Святая!

Неба ў хмурынах, бо наш лёс пануры,
Ды сонца воблакі ўжо прабівае:
Маліся, хай пражане тыя хмуры
    Зоф'я Святая!

Талент, які ў цябе – гэта дар Божы,
Хай сабе ў песні радзімай яўляе;
Хай жа складаць Табе песні паможа
    Зоф'я Святая…

Сыракомлева прадбачанне спраўдзілася. Зоф'я Святая вывела колішнюю пансіянерку на бездакорнае паэтычнае ўспрыманне свету. Паэтка, памятаючы Сыракомлеў наказ быць пасля яго лірнікам роднай зямлі, у 1871 годзе ўдзячна адказала:

Няхай на тваім, пеўча, светлым кургане
    Людзям мая песня зазвоніць,
Калі ж гук аціхне і сілы не стане,
    Твой дух мяне крыллем заслоніць.
Адна ў мяне просьба: хай песня дзяўчыны
    Палюбіць вясковыя стрэхі,
Хай бляск не аслепіць, не будзе прычыны,
    Хай сэрцам збалелым уцехі
І душам сумніўным надзею прыносіць,

Агню зачарпнуўшы у сонца,
Хай птушкай вясновай дабро разгалосіць,
Каб шчасце трывала бясконца.

У 1890 годзе яна мела ўжо сваё сталае літаратурнае імя – Адам М-скі, запазычанае ад імя і прозвішча бацькі – Адама Манькоўскага. Менавіта ў гэты час стаяла ўжо вострая патрэба ў разводзе з мужам, тым болей, што вярнуцца з Ноўгарада на радзіму вымушалі гаспадарчыя праблемы: не было каму ўзяць у рукі Дарагавіцкі маёнтак. Зоф'я Манькоўская ўсё часцей прыязджала на радзіму, памяць вяртала яе ў ранейшы час, да сваёй маладосці. Вершы паэткі набывалі настальгічны характар. "Я вельмі доўга не быў у краі, – пісала Манькоўская да Зенона Пшасмыцкага. – У апошнія гады, калі часцей туды езджу, на тых старых бацькоўскіх парогах – штохвілю нейкая здань з'яўляецца, абуджаюцца якіясьці даўно змёрлыя сілы. І не толькі ўласныя ўяўныя ўспаміны; была там нас цэлая грамада! І той, каго [не чытэльна] замардавалі, і другі, што збег у Судан у ролі місіянера і памёр у Каіры, хто звар'яцеў, хто павесіўся, іншыя збіліся з дарогі. А жанчыны – якія ж яны цудоўныя, памятаю! Прыгожая Ідалька, Стэфка, чарадзейка Анюта, паэтка Броня, непапраўная летуценка Зося – і ўсё гэта ў магіле або пацярпела крах. Большасць з гэтага кола старэйшыя за мяне, але я разумеў і адчуваў іх, і стаяць яны вечна ў маёй памяці. Сумна вяртацца на руіны".

Сярод сяброўак Зоф'я Манькоўская называе непапраўную летуценку Зосю, гаворачы пра сябе ў трэцяй асобе. Вершы яна прысвяціла прыгожай Ідальцы, названай паводле прыдомка Афрадыты ("З успамінаў"), а таксама паэтцы Броні – Браніславе Сідаровіч ("Браніславе С."), якая паходзіла з Падзерыч і вучылася ў пансіёне Францішкі Клячкоўскай.

А па верасах, дзе бегаў дзіцем,
Хаджу я пакрыёма,
І здаецца мне, што бачу быццам
Сляды істот знаёмых.

Цераз верасы вядуць сцяжыны
Ажно ў бор зялёны,
Паўстаюць у памяці карціны
Падзей і з'яў мінёных.

Поле бацькава і бацькі хата
Нібыта ў засяленні –
І пад кожнай ліпай расахатай
Ёсць постаці-ўяўленні.

Прыезд на радзіму вярнуў Зоф'і Манькоўскай імкненне размаўляць па-беларуску. Яна перакладала з польскай мовы Тэафіля Ленартовіча, Марыю Канапніцкую, Яна Чачота (захаваліся чатыры пераклады) і пісала арыгінальныя творы. Адзін з якіх – "Беларуская малітва" – інтанацыйна і змястоўна нагадваў пазнейшую "Малітву" Наталлі Арсенневай. Ды Зоф'я Манькоўская ўсё-такі не дайшла да "Нашай Нівы".

***

Аднак вернемся ў сярэдзіну XX стагоддзя. Класы ў Падзерыцкай школе цягнуліся з аднаго боку, з адным доўгім калідорам, па бакавушках жа знаходзіліся дырэкцыя і настаўніцкая. У школу хадзілі ў дзве змены: пяты – сёмы класы вучыліся да абеду, а пачатковыя – па абедзе. Дзе быў гардэроб ці, як гаварылі яшчэ, пачакальня, не памятаю. З часу, калі ў нас з'явілася насценная газета, здаецца, "Піянер", мяне выбіралі яе рэдактарам: можа таму, што я збольшага складаў радкі ў рыфму і ўжо назапасіў ажно тры сшыткі, але згадваецца чамусьці адна, так бы мовіць, паэма, штосьці накшталт Коласавых "Міхасёвых прыгодаў".

Не ведаю, ці дзед мне параіў, ці я навёўся на здагадку, але паехалі мы з дзедам на кані, якога трымалі пры краме. У свержаньскую МТС, дзе, як мне здавалася, друкавалася палітаддзельская газета "Уперад да камунізма". Яе рэдактарам быў Аляксей Пысін, паэт, вядомы па публікацыях. Але яго не было, ды і рэдакцыя знаходзілася ў памяшканні раённай газеты "Голас селяніна". Давялося ехаць праз шашу і мост у другі канец горада, каля станцыі. Нічога, дзед не наракаў, хоць на ўсё выпала патраціць значна больш часу. Цікава было ведаць, што з майго паходу ў рэдакцыю атрымаецца. Што думаў мой дзед, калі пазіраў услед унуку? Пастукаўшыся, я пераступіў парог пакоя. Над сталом з паперамі стаялі двое, адзін з іх, у светлым плашчы, падняў чубатую галаву і глянуў на мяне адкрытымі добрымі вачыма. Але як адбывалася далейшая сустрэча з Аляксеем Пысіным, ніякім чынам не магу ўзнавіць: відаць, утрапенне пераймала ўсе іншыя ўражанні. Ва ўсякім разе мае вершы былі прыняты да друку.

Прайшоў месяц. Аднойчы, калі я вярнуўся са школы, у пярэднім пакоі за сталом сядзелі леснікі. Яны кожны месяц прыходзілі сюды адзначаць свой заробак, тым болей, што крама была побач, праз калідор. Адзін з леснікоў, здаецца, Войніч, амаль урачыста заявіў: "Наш паэт прыйшоў!" – і падаў "Голас селяніна" з маім вершам. Я хутка прабег радкі – прыемна было ўсведамляць сябе надрукаваным, але ў апошняй страфе ў вочы кінуліся асобныя змены. Гэта крыху збянтэжыла мяне, але святочны настрой усё-такі застаўся…

***

Маё першае вершаванае выступленне ў раённай прэсе адбылося ў 1954 годзе. Між тым як ранейшыя падзеі былі абмінуты. Таму, каб прытрым-

ліваццa храналогіі, мне давядзецца вярнуцца да восені 1951 года. Тады здарыліся два выпадкі, якія маглі скончыцца для нашай сям'і трагічна.

Была непралазная гразь. Дождж не пераставаў ісці. Стаяла ўжо начная восеньская цемень і дзверы былі замкнёныя. Мне пад шум дажджу, відаць, моцна спалася, і я не чуў таго, што адбывалася па-за маёй свядомасцю. У бабулі ўзнікла патрэба схадзіць па ваду. Калодзесь стаяў у нашым двары, і да яго трэба было прайсці праз трое дзвярэй. Выцягнуўшы вядро з калодзеся і пераліўшы ваду ў іншае вядро, бабуля пачула за сваёй спіною голас: "Бяры вядро і ідзі перада мною!" Пад ваконным водблікам бабуля краем вока ўлавіла, што чалавек той у бушлаце і з капюшонам на галаве здаўся знаёмым. Праўда, ён трымаў перад сабою пісталет. Як толькі бабуля пераступіла парог першага калідора, яна нечакана рванула клямку на сябе, хоць той, хто ішоў за ёю, таксама пацягнуў клямку, але бабуля паспела накінуць крук на пятлю. Бандыт вылаяўся і выстраліў у дзверы. Бабуля закрычала, а дзед ускочыў і тут жа кінуўся ў калідор з сякераю.

Бабуля апярэдзіла бандыта, яна аказалася больш увішнай і на нейкія долі секунды больш дужай. Гэта нас уратавала, бо бандыт у капюшоне напэўна быў са знаёмых і наўрад ці каго ён пашкадаваў бы. Але паколькі рабаўнікам не ўдалася першая спроба, то можна было чакаць наступнага іх прыходу, бо на месца няўдалага злачынства злачынцы абавязкова вяртаюцца. Так яно і здарылася.

Глыбокай восенню, калі снегу яшчэ не было, але зямля ўжо прымерзла, а чыстая бязвоблачная ноч роўна клалася на паверхню груда, я спрасоння пачуў шэпт мацеры і дзеда. Змест яго зводзіўся да таго, што да нас праз дах праніклі "госці", бо дзед чуў, як адрываліся цвікі са столі. Трэба было высветліць, што адбываецца і пайсці не ў дзверы, дзе мог прытаіцца бандыт, а пралезці ў вакно, праз бакоўку. Спачатку пад вакном апынуўся я, але дзед мяне адкінуў і скочыў першы, за ім я, а там і маці. Я пралез праз плот, прашмыгнуў паўз школьную агароджу, а адтуль па-пластунску папоўз праз агароды да цёткі Алімы.

Дзед жа з мацер'ю ўжо стаялі на вуліцы насупраць нашай хаты і бачылі, як праз шчыліны стаўняў крамы прабіваецца святло. Таму маці пачала лямантаваць, клікаць людзей на дапамогу, а з-за вугла суседняга хлява выглянуў бандыт і выстраліў. Чутно было, як над маёй галавою прасвістала куля. Гэтага было дастаткова, каб я ўзняўся на поўны рост і рынуўся ўперад, не бачачы, што перада мною калючы дрот. Маё сутыкненне з перашкодаю прыпала на ўзровень грудзей, і я, не адчуваючы болю, вылузаўся з тых дратоў, пакінуўшы на іх парваную майку. Не абуты і без майкі я ўскочыў на ганак Алімінай хаты. Там мяне чакалі і ўпусцілі за дзверы.

Маці ў час стрэлу на нейкі момант змоўчала, але потым пачала крычаць, здаецца, мацней. Бандыт, забраўшы з сабою напарніка, што саскочыў з даху, выстраліў у наш бок яшчэ раз, і яны падаліся далей, за гумно. З людзей ніхто не выйшаў на гвалт, хоць суседзі сачылі.

Раніцою мяне не пусцілі ў школу. У хаце былі следчыя і міліцыя. На прылаўку ў краме ляжалі недагарэлыя смалякі (і як не згарэла хата?), пад дахам, на столі валяліся розныя рэчы, не захопленыя рабаўнікамі. Следчыя, відаць, нешта супастаўлялі, і ці не было ў іх варыянта пра тое, што ўсё тут рабілася сумысля. Можа таму мой дзед папрасіў мяне падняць кашулю і паказаць дзве глыбакаватыя раны. Як глядзелі на гэта следчыя ці міліцыя – не ведаю. А мне было няёмка!..

***

У пятым класе мяне прывабіла батаніка, прытым больш з практычнага боку. З пачуццём вялікай адказнасці я паставіўся да развядзення бульбы "вочкамі". А паколькі торфаперагнойных горшчочкаў не было, то падумалася, што ў якасці пачатковага матэрыялу можна выкарыстаць звычайныя тарфіны, якія кожнае лета мы наразалі на тарфяніках. З часам сцябло падрасло і вясною я змог некалькі каліў высадзіць на прышкольным участку. Самае цікавае было не ў тым, каб дадаваць угнаенні, а па магчымасці часцей акучваць пасадку. Урэшце, цяжка паверыць, ураджай маёй бульбы, пасаджанай "вочкамі", складаў дзвесці дваццаць цэнтнераў з гектара. За гэта мяне нават прэміявалі кнігаю П. Паўленкі "Степное солнце".

Тым часам я захапіўся яшчэ і высаджваннем вішань і чарэшань вакол паўднёвай часткі дома. Акрамя таго, мне хацелася выводзіць новыя яблыкі і грушы. Як робяцца прышчэпкі, даволі падрабязна распавялі мне нашы лепшыя садаводы – Ярашэвіч і Вэзьга. Мне захацелася пасадзіць на арабіне грушу. Для гэтага я выбраў дрэва і прышчэпку і правёў калязаванне па ўсіх правілах: разрэзаў у сярэдзіне камля маладую арабіну літарай Т з невялікім верхнім надрэзам, адлучыў па баках і прыклаў выразаны кавалак почкі да раскрытага надрэзу, памазаў прапалісам і шчыльна прыціснуў, абкруціўшы валакном. Праз нейкі час почка пачала паволі распускацца, а к восені ператварылася ў сцяблінку. Я быў упэўнены, што груша на арабіне пойдзе ў рост, і мы калі-небудзь пакаштуем новы гатунак.

Карова у нас была, але дзед развёў яшчэ і коз. І вось аднойчы ранкам у вераснёўскую нядзелю я выйшаў на ганак і гляджу, як малады казёл стаіць каля арабіны і ўжо ўпэўнена і, відаць, з асалодаю трушчыць маю прышчэпку.

***

І як мы ні стараліся вучыцца, усё роўна выскачыць падчас перапынку ў двор і там круціцца на перакладзіне або катацца на гушкалках было і цікавей і рабілі мы гэта з большым імпэтам.

З самога ж навучання запомніліся адкрытыя ўрокі. Пераважна па матэматыцы. У гэтым выпадку Кацярына Эдуардаўна Валовіч выклікала мяне да дошкі для рашэння задач. Першае тлумачэнне вершаваных памераў данесла мне выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Алена Уладзі-

міраўна Абрамовіч.

Праўда, з настаўнікам рускай літаратуры ўзніклі пэўныя складанасці. Калі мы праходзілі “Мцыры” Лермантава, нам было зададзена не толькі прачытаць паэму, але і вывучыць фрагмент напамяць. Я прачытаў урывак некалькі разоў, і здалося, што яго запомніў. Выкладчык жа паклікаў мяне працытаваць зададзеную частку паэмы напамяць. Спачатку ўсё ішло нібыта гладка, ды праз некалькі радкоў я пачаў хібіць: “Но в горло я ему воткнул и там два раза повернул…” З гэтымі словамі выкладчык рэзка спыніў мяне: “Ещё никто так не искажал Лермонтова, как ты! ” – і паставіў мне “адзінку”.

***

Але надыходзіў тэрмін нашага паступлення ў камсамол. Для гэтага мы павінны былі засвоіць камсамольскі статут, напісаць аўтабіяграфію і запоўніць карту з анкетнымі дадзенымі. А вось з днём маіх народзін паўстала праблема. У якім годзе я нарадзіўся, было вядома. А пра дату і месяц – трэба было высветліць. Таму была наладжана сямейная нарада, у часе якой удалося даведацца, напрыклад, як пры хрышчэнні змянілася маё імя. Хросным бацькам Антаніне Мамонька і Канстанціну Давойна было наказана пахрысціць немаўля ў Эдварда. Але праваслаўны святар адмовіўся называць мяне гэтым імем, паколькі яно не праваслаўнае. Вяртацца дамоў з няхрышчаным дзіцём не выпадала. Спрэчку вырашыў хросны бацька: “Назавём малое Валодзем, бо і ў мяне ёсць сын Валодзя!” Мае бацькі не пярэчылі: як назвалі, так назвалі. Тым не менш дакументы аб маім хрышчэнні ў Кунасе ўсё-такі згубіліся, і да мінулых падзей трэба было вярнуцца агульнымі намаганнямі. Пакрыху карціна збольшага ўзнавілася. Маці была ўпэўнена, што мяне яна нарадзіла ў суботу перад Вялікаднем. А бабуля ўнесла ўдакладненне: “Валодзя з’явіўся на свет у Вербную суботу”. З гэтым удзельнікі нарады пагадзіліся. Нарэшце і дзед заглянуў у свой кандуіт, можа, там ёсць якія запісы. Сапраўды, усе дзедавыя ўнукі і ўнучкі былі ўпісаны, але мяне там не было. Больш таго, у пэўных графах значылася, калі бегала цялушка, калі павінна ажарабіцца кабыла ці апарасіцца свіння. У мяне штосьці накшталт крыўды засталося, але адначасна была ўпэўненасць, што дата маіх народзін устаноўлена. І хоць ва ўсіх дакументах дата майго нараджэння пазначана (паводле Вялікадня 1954 года) 28 сакавіка, я ўсё-такі прыйшоў на свет, як было вызначана пазней валожынскім святаром, 20 красавіка 1940 года.

***

У першай палове сёмага года навучання мы сталі камсамольцамі. Дзеля гэтага трэба было ісці ў самыя Стоўбцы, праз васемнаццаць кіламетраў і чакаць з раніцы і амаль да вечара.

Летам маці знайшла магчымасць адправіць мяне ў піянерскі лагер пад Гарадзішчам. Там я зноў трапіў у рэдкалегію, напісаў нейкі гумарыстычны

вершык, пасябраваў з Марыкам Пікусам. Удзельнічаў у лагерным чэмпіянаце па шашках. Заняў першае месца, і мяне ўзнагародзілі кнігаю Пятраса Цвіркі “Земля-кормилица”, праўда, чамусьці за першае месца па шахматах. Таму мне давялося тэрмінова навучыцца да канца лета шахматным гульням.

*Антаніна Хатэнка*

# У СЬВЕЦЕ ШКЛЯНЫХ ІЛЮЗІЙ

## ЗЬ ВЕЙКІ ВЕКУ

Ішоў бадзяка. Дарога бегла.
Плылі аблокі. Мігцеўся час.
Сьпяшаў бадзяка. Віражыў бераг.
Вада навела. Цьвіла раса.

Прыстаў бадзяка –
самлела сонца,
сьвятло застыгла
ў мурах нябёс,
сьцяло дыханьне
вятрам і марам,
збалела песьня
ў зямных грудзях…

Сьвет повен барваў
усходаў, руху,
пакуль бадзякі,
як цені-Духі,
ідуць і жывяць
цяплом Шляхі.

***

…Куды і навошта гадзіны сьпяшаюць бяз озірку?
Куды і навошта бягуць пуцявіны быцьцёвыя?
Няўжо сапраўдыператворыцца зорнасьць любоўная
ў бяспомнага попелу жменю астылую, горкую?
Няўжо я сыду ў апраметную стыню пылінаю стомнаю
і ноч па-за сьветам ня спраўдзіць сьцяжыны шуканае,

і папараць-кветка ніколі цьвісьці не навучыцца,
а нашыя мары з каляднай начы да купальскае
мільгнуць бліскавіцай – растануць, нязбытныя, цёмныя?..
А, можа, ціхутка ўпаду незабыўлівым жолудам
ва ўлоньне зямное, што гушкае стромкія парасткі,
і ў плыні вячыстай успыхну
зварожанай зоркаю,
сабе – у мінуласьць і ў прышласьць –
праменячы водсьвет здаля…

***

Золак – усходзяць твае вочы,
дзень – чаруе тваё слова,
вечар – віруюць твае далоні,
ноч – анёліць тваё дыханьне.
Час – хада твайго сэрца.
Лёс – пуціна тваёй думы.
…Галодная адзінота дзяўбе сны.

***

Праз акуляры ветравога шкла
ЁН утрапёна ўглядаўся ў неба.
Вагніста заходзіла сонца,
ніспадаючы долу космамі сьвятарнай цішыні.
Зьнянацку крануўшы плячук суседкі,
усклікнуў радасна:
“А з-пад полымя зорыць другое сонца – Сэрца Сусьвету,
і паўсюль – прасьветла”.
Жанчына расьсьвятлелася й сама.
Ды ў сьпіну таўхануўся вокліч:
“Чаго лезеш са сваім сонцам?”
…У ІМ жальна страпянуліся два сэрцы.
Побач хіснулася бяссэрцаўе –
і… растала ў сонечнай залеве.

***

Думаў маіх пералётныя лёгкія птахі
зноў засьпяшалі ад роднае хаты – у вырай.
Зноў журавінавы край мой
залоціць-самоціць дзівосьніца-восень.

І чарада маіх думаў прысела
на покуці цёплай расстайна, праменна.
Думаў маіх жураўліных крылатую прагу
не наталіла дарога зямная –
раскрыжаваліся думы
над восеньскім небам ахвярна.
…Думы мае, як лістота, ляцяць і зьнікаюць,
я прыручыць іх памкнулася, выткаць аснову –
і ў прыгаршчы ссыпаць праменьне.
…Думаў маіх пералётныя птахі
у вырай памкнулі – сьвітаюць.

***

Сёньня за ноч пасівела зямля, пабялела.
Болем пранізьлівым
плача лісьцё на расстаньні –
і жыцьцядайна згарае, сыходзіць на попел.
Некалі з гэтага прысаку цёплага
вымкне пачатак-сьцяжына.
Гэтак і я адгару,
адпалаю любоўю –
і перайду за мяжу небакрайную ў вечнасьць.
Шле ліставаньні з надсьвету старая таполя,
да ваканіцаў прымружаных лісьце
пяшчотна спадае.
Жаліцца? Плача?
Замольвае лёсы людзкія
ад халадэчы, бязьвер'я і вогніку здрады.
Восень лістоту ссыпае,
ссыпае да долу,
распальвае помныя сьветы ў прасторы,
каб над пуцінай маёй ад учора да заўтра
сьвяцілі заранкі.

***

Дзень узышоў над зямлёю –
збылося зямное ўзьнясеньне.
Сонца мне ўшчыр дасылае лагоду й спагаду –
не дакарае мяне,
беспрытульную ў сьвеце.
Я да зямлі прыпадаю

адчайна, люботна, балесна.
Слухаю тупат Пагоні,
ваярскае песьні галосьсе
і мройную цішу.
Ганак, як прывід, у цемраве хіжым бялее.
Быццам карэньне вякоў прамінулых,
да продкаў прыступкі…
Лесьвіцы… Лесьвіцы –
сьцежкі, гасьцінцы, узьлёты й адлёты.
Ціха ступаю, сьцярожка…
Лесьвіцы згубаў, сягненьняў,
сумневаў і веры правечнай
вышэюць над Краем.
Зь іх узыходжу, як парастак
з дайнае глебы.

**Жанчына**

Я – травіна, струна, нэрвіна.
Я – ніціна ў сувоі дзён.
Я – кужэльная тканка сьвету.
Я – аснова зьяўленьня й скону.
Да мяне ўсе шляхі зьлятаюць
у памкненьні ўскружліць у Вышу,
прасьвятлеўшы ўва мне –
дарозе, што вядзе ад Сябе ў Сябе.
Я – наступнасьць, уздых, трымценьне.
Я – мінуласьць, я – цемра.
Я… – даланя, на якой малюе
век вялікую праўду шляху.
Чую: б’юцца ўва мне вытокі,
з рук маіх сонца ўе вянкі.
Ад мяне, як з калыскі ціхай,
каласуе Сусьвету ніва.
З маёй поўні – наканаваньні,
з майго ўлоньня – насеньне зорак.
Я – жанчына, канва сузор’яў,
вечнасьць я над зямным чалом.
Я тулю да грудзей дзяціну –
тку працягу-праСЬЦЯГУ ўсход…

## Прыпавесьць

Жыла-была Вялікая вада,
бязьмежная, бясконцая вада –
ня ведала супыну й супакою,
пляскалася ў бяскрайнасьці-бясчасьсі.
Бяспомная жыла-была вада.
…Шугаў Вагонь над быстраю вадою.
Бяздомна, беспрытульна, у бясьсьвецьці
кіпеў вагонь над шэраю вадою.
Вада й вагонь – дзьве згубленыя сілы,
у безгняздоўі, у цямноце скрухі
часьцінкі неажылыя жыцьця.
…Аднойчы Кроплі ў хаатычным руху
крануліся сьвятлом адна адное –
Вагню Жаданьне і Вады Жаданьне
памкнуліся адважна да Зьліцьця.
Дзьве Волі страпянуліся ў трымценьні –
і кроплі набылі свае абліччы,
пачулі пульсу дрогкае біцьцё…
Дзьве кроплі Волі
ў сьвеце валадараць,
дзьве кроплі Волі жывяць нашы ўзьлёты.
Усё жывое з выбару ўзыходзіць
і Воляй асьвячонае жыве.

***

Хацела, каб ты Быў.
А ты – здаесься,
хісткі прывід спадзевы ўчарашняй.
Хацела, каб ты Зьявіўся.
А ты зьнікаеш у зыбучым тумане сну.
Хацела, каб ты Ўзьняўся.
А ты ў пустэльную бездань зьлятаеш.
Хацела, каб ты Застаўся.
А ты адплываеш
у стынныя хвалі ўсясьветнага вар’яцтва.
Хацела, каб ты Спраўдзіўся
ў цёплым суквецьці пяшчоты,
што гушкае дзіця тваё.
Але ты схаваўся
ў вязьніцы сьляпой бяспомнасьці…

***

Ад травіны да сьцябліны
ад каменя да крушні,
ад камяніцы да палацу –
гісторыя.
Ад расіны да кропліны,
ад кроплі да хвалі,
ад хвалі да мора –
гісторыя.
Ад ускрыку да ўдыху,
ад кроку да шляху,
узьвіў і… бясконцасьць –
гісторыя.
А мы паселі на ўцьвілым радне
і галосім – па жывой гісторыі …

**На таку**

Рабачаі цапамі
па залатых галовах калосься б’юць.
Зярняты, як зубы малочныя, выпадаюць,
з гнёздаў вышчэрбваюцца,
ды чэпка памяць трымаюць
у скасьцянелым малацэ поля:
у сховах чаканьня
берагуць хрыбтова Веду –
чым былі, чым сталіся,
ШТО наліваць-высьпельваць заўтра.
Жорны, праз муку,
адных на муку зжуюць**,** у пыл сьцёршы, –
і сонцава ўзыдзе на стол
хлеб, Пан-мякіш,
сьвятлом Жыцьцё нажывіць.
Іншыя ж ніц ахвярна ўпадуць –
на ток-умалот.
Жыцьцязварот.
…На таку й краіна мая,
пакорліва долу схілёная,
бяззуба-ўсьмешная.
З галоў залатых калосься
выбіваюць зацята цапы
зерне помнае мысьляў.
Мякіньне засьціць сьвет.

## Купальле

Вагонь усходзіць да Вады, Вада ўжыўляецца ў Вагонь – Купальле, Крыльле, Крыўскі знак… Сусьвет калыша чорну ноч у ночвах зорнасьці сьвятой – Купальле, Вечнасьці рака… Гаворыць зь Берагам Быцьця таемнай моваю Трава, у нетрах папараці квет цьвіце-прасьвечвае Вякі – Купальля сьпеўныя вянкі…

Вянчаньне Неба і Зямлі, Змаганьне Ліха і Дабра, да Вышы праведнае Шлях – Купальле, Росаў чысьціня… У цемры дум і мар узьлёт, Прыроды вызвалены ўздых -- і поўны Сьвет гаючых слоў, і поўны Бор чароўных дзей, і Душы поўныя сьвятла…

Багіня белая скрозь ноч, скрозь эры правядзе Жыцьцё – і ўсё памрэ ў вагні-вадзе, каб з новай моцаю паўстаць, наноў Гасьцінцы высьцілаць… Як Сьвятаянна туманы сплываюць-спавіваюць боль – адлекавана п’е Зямля Ваду Жывую на спамін…

Купальле – дрэвам, зёлкам гімн, маленьне, клятва, зор уздым, спрадвечных скарбаў адкрыцьцё, любоў, заслона і давер. Купальле – Мост ад нас да НАС, ад нематы да Цішыні, ад забыцьця да Ўсёзьліцьця, ад бездарожжа ў Лад-Спакой…

Купальле – сьлед часоў былых, у Космас Узьнясеньне-сьпеў, Вяршыня Духу, Звон эпох і Павяртаньня Глыбіня…



*Людміла Кебіч*

# КАБ ГОЛАС ТВОЙ ГАЮЧЫ ЧУЦЬ

## УПЕРШЫНЮ

Упершыню па вуліцы вясновай
іду, а не лячу настрымгалоў,
і вуліца мая здаецца новай
у квецені каштанаў і  садоў.

Упершыню ацэньваю цвяроза
каштоўнасць чалавечага быцця,
ўва мне апафеозна, грандыёзна
гучаць матывы першаадкрыцця.

Сады, будынкі, лавачкі і скверы –
зусім як на англійскай авеню! –
не даючы вачам уласным веры,
я адкрываю вас упершыню.

Перабіраю сонечныя блікі,
што пад нагамі арфаю дрыжаць.
Ах, у жанчын ужо не твары – лікі!
Як быццам ім Збавіцеляў раджаць.

О, колькі тут абцасікаў счасана…
Цяпер канец мільганню і нуцьбе…
Асанна, мая вуліца, Асанна! –
Я толькі сёння ўбачыла цябе.

***

Свет распусны,
І здрадны свет…
Што дарэмна падлічваць згубы?
Я прыйшла,
Каб пакінуць след.
Ты прыйшоў наслядзіць, мой любы.

## БЫЦЬ ВЯСНЕ

Няўжо не скончыцца зіма
Ў маёй душы ніколі,
Няўжо навек яе турма
І не відаць мне волі?

Няўжо не пырскне дзень з каўша
Вясновым гойным брызам,
Каб страпянулася душа,
Завісла над карнізам

Майго жыцця, што з небыцця
Імкнецца да нябёсаў
Без дабрыні, без пачуцця
Між ветругоў-гундосаў.

Крышталь халодны ледзяша,
Сляза – вугельчык болю,
Ты не была, мая душа,
Такой яшчэ ніколі.

Чаго згарнулася, скажы,
У стоме і знямозе,
Звіняць, ты чуеш, капяжы,
На злосць перасцярозе.

А гэта значыць – быць вясне,
Бялець вясельнай рутай,
І быць табе, нібыта ў сне,
Свабоднай і раскутай.

## АЛЬТ

Бягу, абцасікі збіваю
Аб мокры снежаньскі асфальт,
Рукой шчасліва абдымаю
Стары, самотны, добры альт.

Ён не патрэбен стаў нікому –
Другія песні ў маладых –
Але  нясу яго дадому
І чую струн трывожны ўздых.

Ты не маркоцься, мой харошы,
Аддай мне лёс свой напавер,
Ні за якія, чуеш, грошы
Я не прадам цябе цяпер.

Няхай сусвет у іншых рытмах
Ляціць у снежаньскую муць.
Мы з майстрам вытрымалі бітву,
Каб голас твой гаючы чуць.

Хоць ты зусім не Страдзівары,
На срэбны куплены дукат,
Мяжа маёй жаданай мары –
Старэнькі, добры, дзедаў альт.

Як шчасце, прадчуваюць пальцы
Наканіфолены смычок.
Па мокрым снежаньскім асфальце
Рытмую музыку – цок-чок!

## ВОСЕНЬСКАЕ

А Бо! Якая прыгажосць лягла навокал!
Гарыць апошняе лісцё пад кожным крокам.

Прыселі стомлена вятры на клён вячысты.
Мне дворнік: “Ногі абатры! Ідзі, дзе чыста”.

О, каб магла я абысці  па тратуары
Той чорны дзень, што шалясціць, як мемуары.

Таму напоперак іду перасцярозе
Па…– а на радасць ці бяду? – сваёй дарозе.

На плечы цісне небасхіл і колер шэры,
І гэты вогненны насціл казыча нервы.

І хтосьці ясна мне: “Жыццё – паркаль стракаты,
Тут кветка яркая гарыць, а побач – латы”.
І мы, як гэты будні дзень, заўжды на ўзмежку…

**СТРЫЖЫ**

Да цябе стрыжамі ўвішнымі
думкі мройныя ляцяць,
вусны сонечнымі вішнямі –
іх бы прагна смакаваць! –
пацалункаў зачакаліся –
два пякельных рубяжы –
дакраніся – і атравішся,
і нікуды не збяжыш.

Сок пунсовы перастоены,
перабраджаны ў віно…
гэты свет жахліва скроены –
міг адзін – стаўчэ на дно
прагі сэрца несуцішныя,
неўтаймоўныя гады…
ды ляцяць стрыжы ўвішныя
да цябе – цераз гады.

***

Ніхто мне нічога
не дасць, не папросіць.
Адна ўсю зіму,
ўсю вясну,
усю восень,
Я – гэткая летняя,
цёплая, мягкая…
А тое, што сэрца знясілена тахкае,
ушчэнт раскрамсана душа
і знявечана, –

не чутна,
не бачна,
нікім не засведчана.

## НА ЗОЛКУ

Бязлістая крамяная галінка
на золку дакранулася да шкла.
Душа – безабаронная націнка –
да пят перапалохана дайшла.
З-за страху, што працяў калючай стрэмкай,
бязмоўна, як набраўшы ў рот вады,
зырчэла праз пашыраныя зрэнкі,
чакала немаведамай бяды.

Калі ж затым памалу ачуняла,
заззяла, здагадаўшыся, яна –
галінкаю крамянаю вітала
яе на золку ранняя вясна.



*Ала Нікіпорчык*

# У ЦЯРНОВЫ ЧАС

***

б’юць словам – святлею духам
б’юць каменем – ацаляюся целам
у халоднай прасторы сусвету
саграюся цяплом Тваім Божа

***

абудзіцца дух і пастукае ў сэрца
абудзіцца дух і куды ўжо падзецца
абудзіцца дух і дарога пачнецца
іспытаў і выпрабаванняў
з якой не сысці
і не вымаліць іншай

о дай Божа сілы
і дай мне надзеі
яе не зрачыся

***

дух ачышчаю пакорай і болем
дух ачышчаю надзеяй і воляй
о не! не на зямное – ужо

***

сонца ўпала
на шэры гмах дому
але ён не перастаў быць ад гэтага
шэрым

***

шляхі выпадаюць
шляхі ападаюць
як лісце пад ногі
а мы толькі ставім
крокі на іх

***

я ўмела толькі гаварыць
але Гасподзь мне паказаў глыбіню пакуты
цяпер я ўмею толькі маўчаць

***

поўня – над садам
поўня – над светам
не над жыццём – маім

***

*Паэт не патрабуе доўга жыць…*
А.Барскі

і хоць узрост твой
быў не Ісусавым
Вянок твой усё ж быў цярновым

гэта потым будуць крычаць “Асанна!”
і ўзнясуць у вышыні
(як лёгка ўзносіць у вышыні тых
хто ўзнёсся сам)
адзінае
чым цешуся Максіме
– даруй мне маё кашчуннае цешанне –
што не напаткаў цябе лёс
Вацлава Ластоўскага
ці Максіма Гарэцкага
любоўю да Айчыны – распятых

***

у цярновы час маёй Айчыны
і шлях мой цярновы

***

мой Божа
ці можаш мне дапамагчы
адна сярод начы
чытаю боль чужы
і плачу
мой Божа
ці можаш перайначыць
трагічнасць лёсаў на святло
а ці святла і так замнога?..

***

*памяці М. Цвятаевай*

давер Цвятаевай
згарае сонцам ў небе
апошняга жніўня ў яе жыцці
Расія мроілася вяртаннем
паўстала смерцю
ніхто не ўмее забіваць так
як Радзіма

***

*Я ж, дачка краіны крыжоў…*
Э. Ажэшка

я – дачка краіны крыжоў
і кругоў
і крыгаў – Нёманавых
і зёлак – амаль што нябесных
сэрцаў вольных
і доляў цесных
бо інакш
ці стала б я
Перамогай

***

*Галіне Тварановіч*

мне Беласток зіяе
залацістым шарам
падараваным – навагоднім
і – зямным

на валасок ад згубы і бяды
трымціць ў сусвеце
нібы нашы душы
у спляценні
зямных пакут і мрояў

мне Беласток ўсміхаецца
залацістым – навагоднім
і – зямным
мне Беласток журбуецца

***

о Радзіма бяссоння!
о Радзіма расстання!
о Радзіма падзелу
на слова і не –

дзень аблятае нязбыўнымі
мроямі
боль чарнее начнымі
фарбамі

***

Белая Русь – мая Атлантыда
усё менш і менш застаецца цябе
Белая Русь – мая Атлантыда
станеш легендай і плачам
Белая Русь – мая Атлантыда
болем – асвечаным ў вечнасць



# БЫЦЬ ЗЬ ЛЮДЗЬМІ ЦІ БЯЗЬ ІХ: ПРАБЛЕМА АДЗІНОТЫ Ў РАЗУМЕНЬНІ ФІЛЁСАФАЎ І ПАЭТАЎ

Фармаваньне ў чалавека самасьвядомасьці азначала зьяўленьне ў яго аднаго невырашальнага пытаньня. Гэтае пытаньне можна сфармуляваць розным чынам: якое месца чалавека ў неабсяжным Сусьвеце, што такое чалавечыя ўзаемастасункі, наколькі жахліва заставацца сам-насам з сабою... Калі ж схапіць самую сутнасьць, то застанецца адзінае: што такое чалавечая адзінота?

З сусьветнага календара зьляталі ды працягваюць зьлятаць адно за адным аркушыкі цывілізацыяў ды дзяржаваў, а чалавечыя думкі працінаюцца імкненьнем спазнаць сэнс адзіноты. Кожная эпоха нараджае сваіх выразьнікаў-мысьляроў, што мусяць данесьці свае здагадкі да недасьведчаных. Праходзячы праз непаразуменьні, задзіночанасьць, усемагчымыя віхуры лёсу, яны ўпарта матэрыялізуюць уласныя думкі ў літары, каб падзяліцца імі з астатнім чалавецтвам.

Немагчыма ахапіць усе здабыткі філясофскай думкі, але неабходна вылучыць самых яскравых асэнсавальнікаў людской адзіноты. Найперш гэта Аўгусьцін Аўрэлій, Блез Паскаль, Генры Тора, Марцін Бубер, Хасэ Артэга-і-Гасэт. Марцін Хайдэгер, Жан-Поль Сартр... Але ёсьць яшчэ бясконцы сьпіс славутых філёсафаў, псіхолягаў, антраполягаў і іншых навукоўцаў, што нейкім чынам, няхай нават і апасяродкавана, дасьледуюць зьяву адзіноты, ды безьліч нікім не прызнаных мысьляроў, якія сутыкаюцца з адзінотай штодня.

У нашым распараджэньні маюцца разнастайныя тэорыі.

Творы А. Аўрэлія – пошук месца чалавека ў сьвеце. Хістаньні чалавечай істоты паміж патрэбамі душы й цела, паміж царствамі Сьвятла й Змроку робяць яе няўстойлівай, згубленай у адвечных сумненьнях.

У вадрозьненьне ад антычных ды сярэднявечных мысьляроў, Блез Паскаль імкнуўся акрэсьліць ня толькі сувязі чалавецтва з усеахопным Сусьветам, але й чалавека з супольнасьцю гэтакіх сама істот. Французскі мысьляр усьвядоміў, што людзі баяцца ўласнай нікчэмнасьці ў адносінах да магутнага Сусьвету, якому дастаткова аднаго нязначнага руху, каб за паўімгненьня зьнішчыць ушчэнт усё чалавецтва. Непрадказальнасьць Сусьвету й прыгнячае чалавечую сьвядомасьць.

Баючыся навіслай пагрозы з боку Космасу, кожны канкрэтны чалавек баіцца яшчэ й самаго сябе. Адсюль людзі імкнуцца ўсяляк разнастайніць сваё жыцьцё: распачынаюць войны, выдумляюць забаўкі (накшталт інтрыгаў, баляў, паляваньняў) – абы не заставацца сам-насам з сабою.

На думку філёсафа, чалавек, сьціснуты з двух бакоў, проста вымушаны ствараць сабе размаітыя заняткі, Сам жа Б. Паскаль цалкам не прымае мітусьлівых людскіх паводзінаў і самаўпэўнена заяўляе: "Амаль усе нашыя няшчасьці прыходзяць да нас праз няўменьне заставацца ва ўласным пакоі!"

Адлюстраваньне асабістых перажываньняў мы бачым у творах яшчэ аднаго вялікага француза – паэта-філёсафа Шарля Бадлера. Ягонае жыцьцё ў XIX стагодзьдзі мы бачым сёньня ў "Маленькіх паэмах у прозе" – уражаньнях, зашыфраваных у перапляценьні словаў. Часта рэчаіснасьць пісьменьніка падаецца нам мудрагелістасьцю спалучэньня салодкіх мараў ды марнай публічнасьці.

Ш. Бадлер спрабуе адначасова асэнсаваць сваё існаваньне ды існаваньне іншых людзей, яскрава супрацьпастаўляючы дзьве згаданыя зьявы.

Найперш, у дачыненьні да сябе творца неадступна сьцьвярджае пра наяўнасьць двух магчымых спосабаў быцьця. Першы зь іх – дзённы, у грамадскім асяродку, дзе пануюць празьмерная мітусьлівасьць ды шалёны бег часу. Другі – сам-насам з сваімі думкамі, жарсьцямі, дзе душа й цела атрымліваюць усё жаданае. Другі спосаб быцьця Ш. Бадлера немагчыма назваць абсалютнай адзінотай. Гэта, хутчэй, адасобленасьць ад усіх і ўсяго, што замінае паглыбленьню ва ўласны ўнутраны сьвет. Гэта паўнавартаснае жыцьцё. У такім жыцьці няма нават згадкі пра іншых людзей. Для Ш. Бадлера задзіночанасьць і адасобленасьць ад людзей – шчасьце. Любое ўмяшаньне ў ягонае жыцьцё – гэта разбурэньне мрояў. Такое ўмяшаньне пісьменьнік атаясамляе зь сіламі Пекла. Гвалтоўнае вяртаньне ад другога быцьця да першага заўжды працятае нясьцерпным болем. Існуючы сярод людзей і адчуваючы ўсю агіднасьць гэтага, у сьвядомасьці пісьменьніка заўжды прысутнічае схаваная думка пра пазбаўленьне ад такога існаваньня.

У той жа час, назіраючы вонкавую адчужанасьць іншых людзей ад грамадскасьці, Ш. Бадлер сьхільны ўспрымаць яе як няшчасьце. Гэта датычыцца тых, хто мае нічым незаменную патрэбу ў прызнаньні й увазе з боку сяброў ці нават ворагаў. Адзінота для такога чалавека – гэта несупадзеньне ягонага духоўнага стану з духоўным станам іншага, неадабрэньне якіхсьці дзеяньняў, нежаданьне вонкавага сьвету падтрымліваць зносіны. Вымушаныя пазбавіцца сваёй звычайнай паўсядзённасьці, людзі пакутуюць, хваравіта жадаючы вярнуцца да свайго заўсёднага стану.

Што да Ш. Бадлера, то ён гатовы амаль абыякава мірыцца зь існаваньнем людзей падобнага кшталту пры адзінай умове: калі іх быцьцё аніяк не перасячэцца з ягоным быцьцём. У гэтым засяроджана нязьменная сутнасьць незвычайнай пісьменьніцкай асобы.

Але, мабыць, наяўнасьць ды спалучэньне вымушанай не-адзіноты й жаданай адчужанасьці – неабходная ўмова для нараджэньня творчасьці.

Амерыканскі філёсаф Генры Тора правёў рэзкую мяжу паміж адмоўнай адзінотай і станоўчым задзіночаньнем. Мысьляр лічыў, што кожны чалавек мусіць сам выбіраць месца задзіночаньня, і тым ня менш самым карысным зьяўляецца далучэньне да прыроды, якая адзіная дае магчымасьці адчуць еднасьць з космасам. Натоўп жа – гэта асяродак, дзе людзі спатыкаюцца адно аб другога, губляючы ўзаемную павагу.

Зьява чалавечай адзіноты падверглася грунтоўнаму асэнсаваньню Марцінам Буберам. Чаго варты хаця б адзін ягоны трактат "Праблема чалавека". У ім сумясьціліся аналіз поглядаў мысьляроў-папярэднікаў ды асабістыя тэарэтычныя дасягненьні габрэйскага філёсафа. М. Бубер упарта й настойліва сьцьвярджае, што паўнавартаснае спасьціжэньне праблемы адзіноты магло адбыцца толькі ў XX стагодзьдзі, бо сама адзінота пачала яскрава адчувацца чалавекам менавіта ў гэты час. І ён не застаецца галаслоўным, прыводзіць тлумачэньні.

Чалавек быў агаломшаны распадам колішніх грамадскіх утварэньняў: размаітых рамесьніцкіх саюзаў, сельскіх ды гарадскіх абшчынаў. Клюбы, прафсаюзы, партыі не змаглі стаць іхняй заменай. Чалавеку пагражала створанае ім самім: сьфера тэхнікі ды эканамічныя адносіны. Творца патрапіў у залежнасьць ад уласнага твору. Чалавек адчуў на сабе выт разбуральных сілаў, што нараджаюць войны, палітычных сілаў, што стаяць па-за межамі розуму й правакуюць усеагульнае зьнішчэньне.

У такіх жахлівых умовах людзі пачынаюць адчуваць сябе адзінокімі. Але адзінокі чалавек можа мець пэўную перавагу над іншымі. Менавіта ён здольны вырашьшь пытаньне ўласнай сутнасьці. Для гэтага трэба, каб чалавек, пазбавіўшыся адзіноты, пакрочыў у абноўленае існаваньне, тым ня менш захаваўшы ў сабе напружанасьць былой адзіноты. Без выкананьня такой умовы разуменьне немагчымае.

Разам з тым, заблукаўшы ў лябірынтах жыцьця, чалавек можа сьціравацца да выратавальных, на ягоны погляд, індывідуалізму альбо калектывізму. Асобы, якія выбралі індывідуалізм, перакананыя, што ўсьвядоміць і праславіць сябе можна толькі адасобіўшыся ад сувязяў з іншымі. Дзеля ўнутранага апраўданьня індывідуалісты паэтызуюць уласную адзіноту. Тым асобам, якія абралі для сябе калектывізм, падаецца, што цяпер іхняе пакаленьне вырашыць усе ўзьніклыя праблемы. Жыцьцё ў непасрэднай рэальнасьці аддаляе чалавека ад боязі Сусьвету, які цяпер здаецца далёкім і недасягальным. У грамадзе чалавек усяляк падаўляе ўсьведамленьне ізаляванасьці, але сама гэтая ізаляванасьць застаецца, і ў пэўны момант можа вырвацца вонкі, разбураючы ўсе чалавечыя мроі. Тым самым М. Бубер запэўнівае, што калектывізм усяго толькі апошняя заслона чалавека, якой ён жадае адасобіцца ад непазьбежнай сустрэчы з самім сабою.

Выйсце ёсьць. Яно, на думку мысьляра, ня ў выбары індывідуалізму ці калектывізму. Яно – трэці шлях, гэта значыць, "сапраўдная рэалізацыя". М. Бубер дорыць нам паказальнік да згаданага трэцяга шляху. Ягоны сэнс у

тым, каб істота асэнсоўвала іншае як *іншае*, як менавіта *гэтую*, пэўную, іншую істоту, зь якой неабходна злучыцца ў сьферы, што знаходзіцца па-за межамі іхніх асабістых сьфераў. Акрэсьленая філёсафам сьфера стане носьбітам міжчалавечага субыцьця, якое нарэшце выратуе чалавека ад гнятлівай адзіноты.

Унёсшы свае роздумы ў скарбніцу філясофіі, М. Бубер пераканаўча сьцьвердзіў, што адзінота можа быць пераможанай, і падаў чалавецтву надзею на выратаваньне.

Што да сьветапогляду Хасэ Артэга-і-Гасэта, то гішпанскі мысьляр даказваў, што чалавек першапачаткова адзінокі. Займаючы сваё канкрэтнае месца ў сьвеце, кожны бачыць гэты сьвет па-свойму. Нават заняўшы "чужое" месца, чалавек ня зможа азіраць наваколле вачыма свайго папярэдніка.

Сусьветы двух розных людзей ды й усіх людзей наогул ніколі ня змогуць супасьці паміж сабою. Таму й пануе ўсеагульная разрозьненасьць.

Марцін Хайдэгер здолеў заўважыць у адзіноце толькі станоўчае. У ягоным разуменьні, толькі дзякуючы магчымасьці быць аднаму чалавек зможа застацца самім сабою, тады як скопішчы людзей зьнішчаюць усялякія асаблівасьці любога, хто да іх далучаецца.

Паводле Жан-Поля Сартра адзінота непарыўна зьвязаная з свабодаю й адказнасьцю. Чалавек на працягу ўсяго жыцьця, зусім ня ў згодзе з уласным жаданьнем, мусіць рабіць свабодны выбар. Тым самым Ж.-П. Сартр падводзіць да таго, што асоба заўжды абсалютна адзінокая ў сваім выбары, а, значыць, і непазьбежна адказная за яго. Нікому няма апраўданьня за ягоны выбар. Іншыя людзі са сваёй свабодаю могуць чыніць асобе толькі перашкоды, таму задзіночаньне – бадай ці не найвялікшая каштоўнасьць.

Праз свае мысьлярскія сьхільнасьці да філёсафаў далучыліся літаратары. Нямала горка-непазьбежнага пачуцьця адзіноты ў радках беларускіх паэтаў XX стагодзьдзя.

Максім Лужанін яскрава адмоўна адносіўся да стану адзіноты. Ён ніяк не атаясамляў яе з шчасыдем. У разуменьні гэтага паэта асоба, што мае сяброў альбо мела іх і захавала пра тое найлепшыя ўспаміны, ніколі ня будзе адзінокай. Свае перакананьні паэт падмацаваў сьцьверджаньнем: толькі гуртам робяцца справы – ад побытавых неабходнасьцяў да ўзвышаных дзеяў.

У нізцы сваіх вершаў Сяргей Грахоўскі балюча перажываў шматкроць згаданую адзіноту. Упершыню адчуў яе, калі пераступіў стаптаны парог хаты й аддаўся пошукам шчасьця. Пасьля сьмерці маці пачуцьцё невыпраўна азмрочылася. Душа паэта часта пакутавала ў адзіноце – праз успаміны, жаданьне вярнуць мінулае ды, мабыць, імкненьне выправіць гнятлівыя памылкі. Менавіта праз вечныя разьвітаньні чалавек становіцца сіратлівым, вымушаным сноўдацца па сьвеце, а ў думках падарожнічаць у сьферы незваротнага.

Анатоль Вярцінскі сьхільны бачыць у адзіноце ў першую чаргу магчымасьць цалкам аддацца творчасьці й згадкам пра ўласную маладосьць.

Без такой "радасьці пакутнай" чалавек-творца ня можа існаваць, бо тады жыцьцё зробіцца для яго пакутамі бяз радасьцяў.

Зусім інакшае адценьне мае адзінота для Зьміцера Марозава. Страта людзей, зь якімі лучыла роднасьць душаў, штурхае чалавека да змрочнага суму, штодзённых вяртаньняў у мінулае. Такая адзінота абяскрыльвае чалавека. З. Марозаў называў адзінокага чалавека чаўном бяз вёслаў – лёс можа бесьперапынна насіць яго па хвалях і вірах альбо нават выкінуць на бераг. І тады невядома, што лягчэй перанясе душа: вечнае бяссэнсоўнае бадзяньне ці поўны разбуральны спакой. Адзіны паратунак бачыўся паэту-філёсафу ў сустрэчы з іншым чалавекам.

Душа Алеся Пісьмянкова патанала ў адзіноце разам з думкай пра ўласную згубленасьць у сьвеце, пра сваю ды й усечалавечую часовасьць існаваньня на Зямлі.

Адзінота завалодвае душою тады, калі няма спагады, цеплыні, зносінаў з прыродаю й блізкімі людзьмі. Яна выклікае толькі боязь, што неадступна вярэдзіць чалавека.

Ад нараджэньня знаёмы з вясковым побытам, паэт аказваўся ў адзіноце сярод гмахаў, павуціньня асфальтаваных вуліцаў. Сродак выкараскацца з гэтага жахлівага стану – хаця б у думках ці на самай справе апынуцца ў родных мясьцінах, у "квадраце двара" – зноў-такі адасобіцца, але на гэты раз ад усяго лішняга.

Ёсьць і ўзвышаная адзінота. З ёй знаёмы той, хто можа паўнавартасна ацаніць велічнасьць прыроды, адчуць адзінства, зьліцца зь ёй ды ў рэшце рэшт перастаць быць адзінокім.

Дзякуючы здабыткам філёсафаў і паэтаў мы можам ашчадна траціць свае сілы ў вывучэньні вызначанай агульначалавечай праблемы. Гэта можа дапамагчы нам пазьбегнуць некаторых псіхалягічных цяжкасьцяў, жыцьцёвых сумненьняў. Спазнаўшы сутнасьць з'явы, можна вызваліцца з-пад яе ўплыву й самому стаць яе валадаром.

***Міхась Сьлямнёў**, доктар філясофскіх навук,*
***Кастусь Карпекін**, старшы навуковы супрацоўнік*
*Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці,*
*г. Віцебск*

# Шарль Бадлер

## МАЛЕНЬКІЯ ПАЭМЫ Ў ПРОЗЕ

### 1. А першай гадзіне ночы

Нарэшце! Адзін! Чуваць толькі грукат некалькіх спозьненых ды змардаваных брычак. На некалькі гадзін мы апынемся ў цішыні, гэта значыць, адпачнем. Нарэшце! Уладарства чалавечага аблічча зьнікла, і я буду пакутваць толькі з-за сябе самога.

Нарэшце! Мне дазволілі ачуняць у зносінах з змрокам! Адразу ж – падвойны паварот у замку. Мне здаецца, што рух ключа павялічыць маю адзіноту й умацуе муры, якія цяпер адзьдзяляюць мяне ад сьвету.

Брыдкае жыцьцё! Брыдкі горад! Падсумуем дзень: я пабачыў многіх пісьменьнікаў, адзін зь якіх запытаўся ў мяне, ці можна ехаць у Расію сухапутным шляхам (без сумненьня, ён прымаў Расію за выспу); адважна паспрачаўся з рэдактарам аднаго з часопісаў, які на кожнае пярэчаньне адказваў: “Гэта меркаваньне сумленных людзей,” – і гэта азначала, што ўсе іншыя выданьні былі створаныя махлярамі; прывітаўся з дваццаткай асоб, зь якіх пятнаццаць былі мне незнаёмымі; раздаў рукапацісканьні столькім сама асобам, да таго ж бязь мераў засьцярогі – без пальчатак; каб скараціць час, у лівню зайшоў да танцоркі, якая папрасіла мяне намаляваць ёй строй *Венеры*; наведаў дырэктара тэатра, які, адпускаючы мяне, сказаў: “Мабыць, Вы зрабілі б добра, зьвярнуўшыся да Z…, гэта самы марудлівы, самы дурны і самы знакаміты з маіх аўтараў. Магчыма, зь ім Вы змаглі б прыйсьці да чагосьці. Пабачцеся зь ім, а потым будзе бачна”. Пахваліўся (навошта?) шматлікімі ўчынкамі, якіх ніколі не рабіў, і баязьліва адмаўляў некаторыя зладзействы, якія я зьдзейсьніў з радасьцю – учынкі выхваляньня – злачынства супраць людской павагі; адмовіў сябру ў няцяжкай паслузе і даў пісьмовую параду поўнаму нягодніку. Ух! Няўжо гэта ўсё?

Незадаволены ўсім і незадаволены сабою я хацеў бы адпакутаваць і хоць трошкі ганарыцца сабою ў цішыні й адзіноце ночы. Гэй! Душы тых, каго я кахаў, душы тых, каго я ўславіў, умацуйце мяне, падтрымайце мяне, праганіце ад мяне Ману й разбэшчлівыя выпарэньні сьвету, а Вы, Пан Бог, падарыце мне дазвол стварыць некалькі цудоўных вершаў, якія б даказалі

мне самому, што я не апошні зь людзей і што я ня горшы за тых, кім я пагарджаю!

## 2. Гадзіньнік

Кітайцы вызначаюць час па вачох катоў.

Аднойчы адзін місіянер, гуляючы па прыгарадзе Нанкіна, заўважыў, што забыўся свой гадзіньнік, і запытаўся ў маленькага хлопчыка, колькі часу.

Хлапец з Паднябеснай імперыі спачатку запнуўся, а потым, спахапіўшыся, адказаў: “Зараз я Вам гэта скажу”. Празь некаторы час ён прыбег, несучы ў руках вельмі тоўстага ката і, паглядзеўшы на яго, як кажуць, ва ўпор, без ваганьняў зазначыў: “Яшчэ не зусім полудзень”. Гэта была праўда.

Што датычыцца мяне, то калі я нахіляюся да чароўнай Коткі, так цудоўна названай, якая таксама зьяўляецца гонарам свайго полу, гонарам майго сэрца й водарам майго розуму, будзе гэта ноч альбо дзень, пры яркім сьвятле ці ў непрагляднай цемры, то ў глыбіні яе чароўных вачэй я заўсёды выразна бачу час, заўжды той сама час – працяглы, урачысты, вялізны, як прастора, безь дзяленьня на хвіліны ды секунды – нерухомы час, які не адзначаны на гадзіньніках, але таксама лёгкі, быццам уздых, хуткі, як позірк.

І калі б які-небудзь назола прыйшоў бы мяне патурбаваць у гэты час, калі мой позірк адпачываў на гэтым дзівосным цыферблаце альбо які-небудзь нядобрасумленны й нецярпімы Дух, які-небудзь Дэман перашкоды прыйшоў бы мне сказаць: “На што ты там глядзіш з такой заўзятасьцю? Што ты шукаеш у вачох гэтай істоты? Ты бачыш у іх час? Гэй, ты, марнатраўны й гультавы сьмяротны!” Я адказаў бы без ваганьняў: “Так, я бачу час, ён – Вечнасьць!”

Ці ня праўда, спадарыня, вось цудоўная вестка, сапраўды годная, а таксама напышлівая, як і Вы самі! Па праўдзе кажучы, я меў столькі задавальненьня прыхарошваць гэтую самазадаволеную далікатнасьць, што нічога не запатрабую ў Вас наўзамен.

## 3. Двайны пакой

Пакой, падобны да мрояў, пакой сапраўды *нематэрыяльны*, дзе нерухомая абстава зьлёгку афарбаваная ў ружовае й блакітнае.

Тут душа прымае лянотныя ванны, аздобленыя шкадаваньнямі й жаданьнямі. – Гэта нешта змрочнае, блакітнаватае й ружаватае – мара пра асалоду ў час *заняпаду*.

Мэбля мае выцягнутыя, распрасьцертыя, расслабленыя формы; у мэблі – летуценны выгляд; казалі, што яна надзеленая лунатычным жыцьцём, быццам расьліна ці мінерал. Тканіна размаўляла на нямой мове, нібыта

кветкі, нябёсы, захад сонца.

На няісных сьценах – мастацкае бязладзьдзе. У адносінах да сапраўднага сну, неасэнсаванага ўражаньня – канкрэтнае й пазітыўнае мастацтва – гэта блюзьнерства. Тут усё мае дастатковую й чароўную няяснасьць гармоніі.

Лёгкі водар самага далікатнага адбору, да якога прымешваецца зусім сьціплая вільгаць, плавае ў атмасьферы, дзе дрымотны розум закалыханы адчуваньнем цяпла.

Перад вокнамі й ложкам шчодра спадаюць карункі; яны разьліваюцца сьнежнымі вадаспадамі. На гэтым ложку ляжыць Стод – валадар сноў. Але як ён апынуўся тут? Хто яго прыцягнуў? Якая магічная сіла разьмясьціла яго на гэтым троне летуценнасьці й асалоды? Ці ня ўсё роўна? Вось яна! Я пазнаю яе.

Вось вочы, чый агонь працінае змрок; гэтыя пранізьлівыя й грозныя вочы, якія я пазнаю па іхняй жахлівай насьмешлівасьці! Яны вабяць, яны падпарадкоўваюць, яны паглынаюць позірк таго неасьцярожнага, які іх сузірае. Я часта разглядаў іх, гэтыя чорныя зоры, што выклікаюць цікавасьць і захапленьне.

Якому добразычліваму дэману я абавязаны за тое, што абкружаны таямнічасьцю, цішынёю, спакоем і духмянасьцю? О, шчасьце! Тое, што мы называем жыцьцём, нават самае шчасьлівае ў сваім праяўленьні, ня мае нічога агульнага з гэтым вышэйшым жыцьцём, зь якім я цяпер знаёмы і якім я цешуся кожную хвіліну, кожную секунду!

Не! Ня йснуе болей хвілін, няма больш секундаў. Час зьнік; цяпер пануе Вечнасьць – вечнасьць асалодаў!

Але пачуўся жахлівы, цяжкі грукат у дзьверы, і нібыта ў страшных снах, мне падалося, што я атрымаў выт кіркай у жывот.

Затым увайшоў Прывід. Гэта вартаўнік прыйшоў катаваць мяне ад імя закону; брыдкая сужыцелька, якая пачынае прыбядняцца й дадаваць будзённасьць свайго жыцьця да майго смутку; альбо хлопчык-рассыльны якога-небудзь рэдактара газеты патрабуе працягу рукапісу.

Райскі пакой, стод, валадар сноў, *Сільфіда*, як казаў вялікі Рэнэ – усё гэтае чарадзейства зьнікла пад жорсткім вытам, нанесеным Прывідамі.

Жах! Я памятаю! Я памятаю! Так! Гэты бярлог, гэтае жытло вечнага суму – менавіта маё. Вось недарэчная, запыленая, пабітая мэбля, камін без агню й без вугольляў, запэцканы языкамі полымя, самотныя вокны, на якіх па пылу малюе штрыхамі дождж, пакрэсьленыя альбо недапісаныя рукапісы, каляндар, дзе аловак вылучыў няшчасныя даты!

А водар іншага сьвету, ад якога я п’янеў праз сваю чульлівасьць, на жаль, дасканалую! Ён быў выцесьнены агідным пахам тытуню, зьмяшаным невядома зь якой моташлівай цьвільлю. Цяпер тут дыхаюць горыччу маркоты.

У гэтым цесным, але настолькі запоўненым расчараваньнямі сьвеце

мяне вабіла адна-адзіная знаёмая рэч – пляшачка з опіем – старым і грозным сябрам, на жаль, як і ўсе сябры! Багаты на ліслівасьць і падступнасьць.

Авой! Так! Час зноў зьявіўся, цяпер Час пануе паўнаўладна, і з брыдкім старым вярнулася ўся ягоная страшэнная сьвіта Ўспамінаў, Шкадаваньняў, Сутаргаў, Жахаў, пакутніцкіх Неспакояў, Абурэньняў і Раздражненьняў!

Я запэўніваю вас, што цяпер секунды важна й урачыста паскорыліся, і кожная, рынуўшыся з гадзіньніка, кажа: “Я – Жыцьцё, невыноснае, бязьлітаснае Жыцьцё!”

Ёсьць толькі адна Секунда ў чалавечым жыцьці – тая, чыё назначэньне – паведаміць пра *добрую навіну* – пра добрую навіну, якая ў кожнага выклікае незразумелую боязь.

Так! Час валадарыць, ён аднаўляе сваё жорсткае адзінаўладзьдзе. І ён падганяе мяне сваім раздвоеным вастрыём, быццам калі б я быў валом”: “Но! Упарты! Наперад, раб! Жыві, пракляты!”

## 4. Порт

Порт – цудоўнае жыльлё для душы, стомленай ад змаганьняў жыцьця. Прастора неба, зьменлівая форма воблакаў, пералівістыя колеры мора, мігценьне маякоў – гэта надзвычай чыстая прызма, якая забаўляе вочы й ніколі не стамляе іх. Сьпічастыя абрысы караблёў са складанай аснадай, якім хвалі перадаюць зладжаныя ваганьні, спрыяюць падтрымцы ў душы адчуваньня рытму й прыгажосьці. Дый, верагодна, для таго, хто больш ня мае ні цікаўнасьці, ні прагі посьпеху, зьяўляюцца разнавіднасьцю таямнічага й далікатнага задавальненьня, лежачы на пляцоўцы ці абапершыся на падмурак, назіраць усе перамяшчэньні тых, хто адыходзіць, і тых, хто вяртаецца – тых, у каго яшчэ ёсьць сіла хацець, жаданьне падарожнічаць ці ўзбагачацца.

## 5. Вячэрні змрок

Завяршаецца дзень. Вялікае заспакаеньне ўзьнікае ў бедных душах, стомленых цяжарам дня. І цяпер іхнія думкі набываюць пяшчотныя, няпэўныя колеры змроку.

Тым часам зь вяршыні гары цераз празрыстыя вячэрнія воблакі да майго балкона даляцеў гучны енк, складзены з процьмы нязладжаных гукаў, праз што прастора зрабілася змрочным сугуччам енкаў, падобным да шуму блізкага прыбою альбо да шуму ўзбуджанай навальніцы.

Што гэта за няшчасныя, з-за якіх не заспакойваецца вечар, якія, падобна да соваў, выбіраюць надыход ночы для пачатку шабашу? Гэты злавесны енк савы даляцеў да нас зь цёмнага сховішча, разьмешчанага ў гарах. Увечары, палячы й сузіраючы адпачынак бязьмежнай даліны, усеянай хаткамі, кожнае вакенца якой сьцвярджае: “Вось дзе зараз мір, вось дзе радасьць сям’і!” – у

той час, як уверсе шумеў вецер – я мог бы песьціць дзіўную думку пра гэтае перайманьне гукаў пекла.

Змрок выклікае звар’яцеласьць. Я памятаю, што ў мяне было два сябры, якіх змрок зрабіў зусім хворымі. Увечары адзін не прызнаваў ніякіх адносін сяброўства й ветлівасьці, а першага сустрэчнага абражаў, нібыта дзікун. Я бачыў, як ён кідаў у твар гаспадару гасьцёўні цудоўнае кураня, у якім ён меркаваў бачыць невядома які зьневажальны знак. Вячэрні час – прадвесьнік моцных асалодаў – псаваў яму самыя яркія рэчы.

Іншы, паранены ганарлівец, з завяршэньнем дня станавіўся больш кіслым, змрочным, задзірлівым. Яшчэ памяркоўны й таварыскі ў дзённы час, ён быў жорсткім увечары, і ягоная змрочная хвароба люта адбівалася ня толькі на іншых людзях, але таксама й на ім самім.

Першы памёр звар’яцелым, няздольным пазнаць уласную жонку й дзіця, другі носіць у сабе неспакой вечнай хваробы, і калі б ён быў надзелены ўсімі ўзнагародамі, якія могуць даць рэспубліканцы й прынцы, то, мяркую, змрок яшчэ запаліў бы ў ім пякельнае жаданьне такіх нечуваных пашанаў. Ноч, якая прыносіла зацьменьне ў ягоны розум, робіць прасьвятленьне ў маім – як бы дзіўна ні было бачыць адну прычыну, што нараджае два супрацьлеглыя наступствы. Я заўсёды быў зацікаўлены й занепакоены гэтым.

О, ноч! О, асьвяжальны змрок! Для мяне вы зьяўляецеся заклікам да ўнутранага сьвята, вы – пазбаўленьне ад суму! У бязьлюдзьдзі раўнін, у камяністых лабірынтах сталіцы, вы, мігценьне зорак і бляск ліхтароў – агні мастацтва багіні Свободы!

Змрок, які ты мякькі й пяшчотны! Слабыя ружовыя водбліскі, што яшчэ трымаюцца на гарызонце, нібыта скон дня пад пераможным націскам ночы, агні ліхтароў, якія вылучаюцца плямамі засмучанай чырвані на апошнім зьзяньні захаду, цяжкія драпіроўкі, якія нябачная рука заваблівае з глыбіняў Усходу, падобныя да ўсіх складаных пачуцьцяў, якія змагаюцца ў сэрцы чалавека ва ўрачыстыя гадзіны жыцьця.

Калісьці казалі пра адну зь незвычайных сукняў танцоркі, празрыстацёмная тканіна якой дазваляла прыкмеціць зьмякчаны бляск яркай спадніцы – быццам з-пад чорнай цяпершчыны праціналася вабная мінуўшчына, а зіхатлівыя золатам і срэбрам зоркі, якімі яна была ўсеяна, нагадваюць агні мрояў, што яскрава зіхацяць толькі пад глыбокай жалобай ночы.

## 6. Адчай бабулькі

Зморшчаная бабулька адчувала сябе напоўніцу радаснай, гледзячы на цудоўнае дзіця, якога кожны сустракаў весела, якому ўсе жадалі падабацца. Гэтая цудоўная істота такая сама кволая, як і яна, маленькая бабулька, і як яна, без зубоў і без валасоў.

І яна наблізілася да яго, жадаючы ўсьміхнуцца й зрабіць прыемны выраз твару.

Але дзіцё, жахнуўшыся, забілася пад ласкамі добрай лядашчай жанчыны й напоўніла дом сваім віскатам.

І вось добрая старая адасобілася ў вечную адзіноту і плакала ў куце, прыгаворваючы: “Вох! Для нас, няшчасных старых жанчын, мінуў час падабацца нават немаўляткам, і мы наводзім жах на маленькіх дзяцей, якіх жадаем любіць!”

## 7. Чужаземец

– Загадкавы чалавек, скажы, каго ты любіш больш за ўсё? Бацьку, маці, сястру ці брата?

– У мяне няма ні бацькі, ні маці, ні сястры, ні брата.

– Сяброў?

– Зараз вы ўжылі слова, чый сэнс да сёньняшняга дня заставаўся для мяне невядомым.

– Сваю радзіму?

– Я ня ведаю, у якіх шыротах яна знаходзіцца.

– Прыгажосць?

– Я ахвотна палюбіў бы яе – боскую й бесьсьмяротную.

– Золата?

– Я ненавіджу яго гэтаксама, як Вы ненавідзіце Бога.

– Авой! Што ж ты любіш, незвычайны дзівак?

– Я люблю аблокі, якія плывуць...туды...туды...дзівосныя аблокі!

## 8. Вочы жабракоў

Ах! Вы жадаеце ведаць, чаму сёньня я ненавіджу Вас. Несумненна, Вам будзе цяжэй зразумець мяне, чым мне Вам гэта сама растлумачыць, бо, мяркую, Вы зьяўляецеся самым яскравым прыкладам жаночай непранікальнасьці, які толькі магчыма сустрэць.

Мы правялі разам адзін доўгі дзень, які падаўся мне кароткім. Мы сапраўды паабяцалі адно аднаму, што ўсе нашыя думкі будуць для нас агульнымі: для аднаго й для другога, і што цяпер дзьве нашыя душы будуць складаць ня болей як адну – гэта мара, у якой, у рэшце рэшт, няма нічога незвычайнага, калі гэта ўсяго толькі жаданае ўсімі мужчынамі, але нікім не ажыцьцёўленае.

Увечары, крыху стомленая, Вы пажадалі прысесьці перад новай кавярняй, якая ўтварала рог новага бульвара, усё яшчэ перапоўненага будаўнічым сьмецьцем, але ўжо велічна праяўляючага сваё незавершанае хараство. Кавярня зьзяла. Тут нават газ паказваў увесь запал пачатку і з усяе сваёй моцы асьвятляў асьляпляльныя ад бялюткасьці муры, зіхоткія роўнядзі люстраў, золата рэяк ды брыжоў, служкаў з поўнымі шчокамі, якіх цягалі сабакі на ланцужках, сьмяшлівых паннаў з сокаламі, пасаджанымі на кулакі,

німфаў ды багіняў, што несьлі на сваіх галовах садавіну, печыва й дзічыну, Геб і Ганімедаў, падносячых у працягнутых руках маленькую амфару з жэле альбо двухкаляровую гару перамяшанага марозіва, – усю гісторыю й усю міфалогію, аддадзеную ў служэньне прожарству.

Акурат перад намі на бруку стаяў нейкі прыстойны саракагадовы мужчына з стомленым тварам і сівеючай барадою, які трымаў за руку маленькага хлопчыка й нёс на другой руцэ драбнюткую йстоту, занадта слабую, каб ісьці. Ён выконваў абавязак нянькі й вывеў сваіх дзяцей падыхаць вячэрнім паветрам. Усе былі ў лахманах. Гэтыя тры твары былі надзвычай сур'ёзнымі, а шасьцёра вачэй уважліва разглядалі новую кавярню з аднолькавым захапленьнем, але з адценьнямі, нададзенымі ўзростам.

Вочы бацькі мовілі: "Як гэта прыгожа! Як прыгожа! Кажуць, усё золата простага народу адправілася на гэтыя муры." Вочы маленькага хлопчыка ўсклікалі: "Як цудоўна! Як цудоўна! Але ў гэты будынак могуць заходзіць толькі людзі, не такія, як мы." Што да вачэй самага маленькага, то яны былі празьмерна зачараванымі, каб адлюстроўваць нешта, акрамя бессэнсоўнай і моцнай радасьці.

Сьпевакі сьцьвярджаюць, што радасьць робіць душу добрай і зьмякчае сэрца. У гэты вечар словы песьні спраўдзіліся на мне. Я ня толькі быў расчулены гэтай сям'ёй вачэй, але й адчуваў сябе крыху прысаромленым праз нашыя келіхі й графіны – большыя за нашую смагу. Я накіроўваў свае позіркі да Вашых, мая даражэнькая, для таго, каб прачытаць тут *свае* думкі, я паглыбляўся ў Вашыя вочы, такія чароўныя й такія дзівосна пяшчотныя, у Вашыя зялёныя вочы, заселеныя Непастаянствам і натхнёныя Месяцам, – як раптам Вы сказалі мне: "Гэтыя людзі такія невыносныя з сваімі парасчыненымі, нібыта вароты, вачыма! Ці не маглі б Вы папрасіць гаспадара кавярні выдаліць іх адсюль?"

Вось як цяжка разумець адно аднаго, мой дарагі анёл, і наколькі непадобныя думкі нават у тых людзей, якія кахаюць адно аднаго!

## 9. Гераічная сьмерць

Фансіуль быў цудоўным блазнам і ледзьве не адзіным сябрам Князя. Але для асобаў, сваім становішчам прызначаных для камічнага, сур'ёзныя рэчы маюць згубнае прыцягненьне, і хаця б магло здацца дзіўным, што думкі пра радзіму й свабоду поўнасьцю авалодалі розумам блазна, аднойчы Фансіуль уступіў у змову, створаную некалькімі незадаволенымі дваранамі.

Паўсюль знойдуцца добразычліўцы, каб выдаць уладзе асоб злоснага нораву, якія жадаюць ськінуць уладароў і, не параіўшыся зь імі, ажыцьцявіць перабудову грамадства. Згаданыя спадары былі затрыманыя, гэтаксама як і Фансіуль, і асуджаныя на непазьбежную сьмерць.

Я ахвотна паверыў бы, што Князь быў амаль засмучаны, знайшоўшы свайго ўлюбёнага камедыянта сярод бунтароў. Князь быў ні лепшым, ні

горшым за якогасьці іншага, але ў мностве выпадкаў празьмерная ўразьлівасьць рабіла яго больш жорсткім і ўладарным за ўсіх падобных да яго. Горача закаханы ў мастацтва, цудоўны знаўца яго, ён быў па-сапраўднаму ненажэрным у задавальненьнях. Даволі абыякавы ў адносінах да людзей і маральнасьці, сам сапраўдны артыст, зь небясьпечных ворагаў ён ведаў толькі Смутак, а своеасаблівыя намаганьні, якія ён прыкладаў, каб выратавацца ці каб перамагчы гэтага сусьветнага тырана, безумоўна, выклікалі б на яго ад імя якога-небудзь суворага гісторыка мянушку *пачвара*, калі б у ягоных уладаньнях было дазволена пісаць пра штосьці іншае, акрамя таго, што прыносіць толькі задавальненьне ці зьдзіўленьне, што зьяўляецца адной з самых вытанчаных формаў задавальненьня. Вялізным няшчасьцем гэтага Князя было тое, што ён ніколі ня меў сцэны, дастаткова прасторнай для свайго таленту. Ёсьць маладыя Нероны, якія задыхаюцца ў занадта цесных межах, і будучыя стагодзьдзі абавязкова зьнішчаць іхнія імёны ды жаданьні. Непрадбачлівы Лёс даў гэтаму чалавеку паўнамоцтвы, больш значныя, чым ягоная Дзяржава.

Нечакана разьнесьліся чуткі, што ўладар жадае зьлітавацца над усімі змоўшчыкамі, а прычынай такіх чутак была аб’ява пра ўрачыстае прадстаўленьне, дзе Фансіуль павінен быў іграць адну з сваіх галоўных і лепшых роляў, і на якім, як казалі, прысутнічалі б нават асуджаныя дваране. Як дадавалі недалёкія людзі, гэта зьяўлялася відавочнай прыкметай высакародных памкненьняў зьняважанага Князя.

Згодна са словамі аднаго чалавека – незвычайнага, як паводле сваёй прыроды, так і паводле ўласнага жаданьня – усё было магчымым: нават дабрачыннасьць, нават міласэрнасьць, асабліва калі б можна было спадзявацца знайсьці тут нечаканыя задавальненьні. Але для тых, хто, як я, здольныя прабрацца далей у глыбіні такой дзіўнай і хворай душы, было бясспрэчна верагодней тое, што Князь жадаў меркаваць пра годнасьць сцэнічных талентаў чалавека, асуджанага на сьмерць. Ён хацеў скарыстаць момант, каб правесьці фізіялагічны досьлед *асаблівай* значнасьці й праверыць, да якіх межаў звычайныя магчымасьці артыста маглі быць сапсаванымі ці зьмененымі незвычайнай сітуацыяй, у якой ён знаходзіўся. Але ці йснаваў акрамя гэтага ў ягонай душы намер хоць неяк праявіць дабрачыннасьць? Гэтае пытаньне ніколі ўжо ня зможа быць высьветленым.

Нарэшце, вялікі дзень надышоў, нікчэмная сьвіта паказала ўсю сваю раскошу, і было б цяжка ўявіць сабе, хіба толькі пабачыць, што прывілеяваны клас маленькай Дзяржавы з абмежаванымі грашовымі запасамі можа паказаць раскошу дзеля сапраўднага сьвята. Яно было ў падвоенай ступені сапраўдным: найперш праз дзівосы выяўленай раскошы, потым – праз духоўную й таямнічую падставу, з якой яна была зьвязаная.

Спадар Фансіуль асабліва вылучаўся ў нямых ці мала абцяжараных словамі ролях, якія часта зьяўляюцца галоўнымі ў феерычных драмах, чыя мэта – сімвалічна паказаць таямнічасьць жыцьця. Ён узышоў на сцэну лёгка,

з бездакорнай натуральнасьцю, якая садзейнічала ўзмацненьню думкі пра дабрыню й дараваньне сярод высакароднай публікі.

Калі кажуць пра камедыянта: “Вось добры камедыянт,” – карыстаюцца фармулёўкай, азначаючай, што ў персанажы яшчэ магчыма прасачыць актора, гэта значыць, мастацтва, намаганьні, жаданьне. Такім чынам, калі б камедыянт дасягнуў быцьця ў адносінах да персанажа, якога ён мусіць адлюстроўваць – чым былі лепшыя статуі антычнасьці, надзіва адухоўленыя, жывыя, рухавыя, відушчыя, адносна галоўнай і няўлоўнай ідэі прыгажосьці – то, без сумненьня, гэта было б выключным і зусім непрадбачаным выпадкам. У гэты дзень Фансіуль быў беззаганным увасабленьнем ідэі, якую нельга было не прызнаць жывой, магчымай, сапраўднай. Гэты блазан хадзіў туды-сюды, сьмяяўся, енчыў, торгаўся з неразбуральным зьзяньнем вакол галавы – зьзяньнем, нябачным для ўсіх, але бачным для мяне – дзе ў дзіўным сплаве злучаліся промні Мастацтва й слава Пакутніка. Фансіуль уносіў, невядома з чыёй асаблівай літасьці, боскае й звышнатуральнае ў самыя недарэчныя ўчынкі. Калі я імкнуся апісаць вам гэты незабыўны вечар, маё пяро дрыжыць, а на вачох наварочваюцца сьлёзы заўжды прысутных пачуцьцяў. Фансіуль рашуча й неабвержна даказваў мне, што захапленьне Мастацтвам здольнае больш, як усё астатняе, хаваць жах перад безданьню, што геній нават на краі магілы можа іграць камедыю з радасьцю, якая замінае яму бачыць гэтую магілу, згубленую ў раі, выключальным усялякую думку пра сьмерць і разбурэньне.

Уся публіка, настолькі сытая й легкадумная, якая толькі можа йснаваць, у хуткім часе зьведала ўсемагутную ўладу актора. Ніхто больш ня думаў ні пра сьмерць, ні пра жалобу, ні пра пакараньне. Кожны без хваляваньня паддаўся ўзрастаючай асалодзе, якую дае сузіраньне шэдэўра жывога мастацтва. Выбухі радасьці й захапленьня некалькі разоў узрушвалі скляпеньні будынка з моццу бесьперапынных грымотаў. Сам захоплены Князь далучыў свае воплескі да апладысьментаў сьвіты. У той жа час для пранізьлівага позірку ягонае захапленьне не было чыстым. Ці адчуваў ён сябе пераможаным у сваёй уладарніцкай моцы? Прыніжаным у сваім мастацтве прыводзіць у трапятаньне сэрцы й скоўваць розум? Падманутым у сваіх надзеях і абсьмяяным у сваіх меркаваньнях? Такія разважаньні, дакладна не абгрунтаваныя, але й не зусім не апраўданыя, працялі маю сьвядомасьць падчас таго, як я сузіраў твар Князя, на якім новая бледнасьць безупынна дадавалася да звычайнай бледнасьці, як сьнег далучаецца да сьнегу. Ягоныя вусны сьціскаліся ўсё больш і больш, а вочы зьзялі ўнутраным полымем, падобным да агню зайздрасьці й злосьці, нават у той час, калі ён дэманстратыўна пляскаў у далоні таленту свайго старога сябра, дзіўнаму блазну, які так цудоўна высьмейваў сьмерць. У нейкі момант я ўбачыў, як Яго Вялікасьць нахіліўся да маленькага служкі, што стаяў за ім, і сказаў яму нешта на вушка. Гарэзьлівы твар прыгожанькага дзіцяці зазьзяў усьмешкай, і потым яно хуценька пакінула княскую ложу, быццам для таго,

каб выканаць тэрміновае даручэньне.

Празь некалькі хвілін пранізьлівы й працяглы сьвіст перабіў Фансіуля на адным зь ягоных лепшых момантаў, і адначасова катаваў слых і сэрцы. А з таго месца залы, адкуль хлынула гэтае нечаканае неадабрэньне, з прыглушаным сьмехам імчала ў калідор дзіцяці.

Узрушаны Фансіуль, ачуняўшы ад сваіх мрояў, спачатку заплюшчыў вочы, потым амаль адразу ж расплюшчыў іх празьмерна павялічанымі, затым адкрыў вусны, быццам для таго, каб сутаргава ўздыхнуць, хістнуўся крыху ўперад, крыху назад, а потым мёртвы зваліўся на падлогу

Няўжо сьвіст, хуткі, быццам меч, сапраўды раззлаваў ката? Ці разгадаў сам Князь усю сьмертаносную моц уласнай хітрасьці? Ці дазваляльна ў гэтым сумнявацца? Ці пашкадаваў ён свайго дарагога й непараўнальнага Фансіуля? Прыемна й правамерна было б думаць пра гэта.

Вінаватыя дваране ў апошні раз атрымалі асалоду ад сьпектакля-камедыі. Гэтай самай ноччу яны былі пазбаўленыя жыцьця.

З таго часу шматлікія мімы, справядліва ацэненыя ў розных краінах, прыязджалі іграць перад сьвітай, але ніхто зь іх ня змог ні нагадаць пра лепшыя таленты Фансіуля, ні ўзвысіцца да гэтакіх сама *літасьцяў*.

## 10. Стары блазан

Паўсюль забаўляўся, радаваўся, весяліўся на вакацыях народ. Гэта было адно зь сьвятаў, на якіх на працягу доўгага часу меркаваліся блазны, акрабаты, дрэсіроўшчыкі жывёлаў ды вандроўныя крамнікі, каб пакрыць усе кепскія часы за год.

У гэтыя дні мне здаецца, што народ забываецца на ўсё: нягоды й працу – ён становіцца падобным да дзяцей. Для малых гэта выхадны дзень, гэта боязь перад школаю, адкладзенай на дваццаць чатыры гадзіны. Для дарослых – гэта замірэньне, заключанае з злоснаю магутнасьцю жыцьця, перапынак ва ўсеахопных напружаньні й барацьбе.

Нават сьвецкі чалавек і чалавек, заняты духоўнаю працай, зь цяжкасьцю пазьбягаюць узьдзеяньня гэтай народнай радасьці. Не жадаючы таго, яны паглынаюць сваю долю атмасьферы бесклапотнасьці. Што да мяне, то я, як сапраўдны парыжанін, ніколі не марнаваў выпадку ажыцьцявіць агляд усіх балаганаў, якія красавалі ў гэты ўрачысты час.

Яны на самай справе стваралі адно аднаму жахлівае супрацьстаяньне: яны крычалі, сьпявалі, лямантавалі. Гэта было зьмяшэньне крыкаў, выбухаў духавых інструментаў і ўспышак ракетаў. Скамарохі й блазны скажалі рысы сваіх твараў – загарэлых, счарсьцьвелых ад ветру, дажджу й сонца: з сама-ўпэўненасьцю камедыянтаў, перакананых у сваёй уплывовасьці, яны выкідвалі вострыя слоўцы й жарты камічнага жанру, цьвёрдага й цяжкага, як жанр Мальера. Асілкі, гордыя агромністасьцю сваіх канечнасьцяў, бяз лба ды глуздоў, як арангутангі, велічна адпачывалі пад майкамі, вымытымі

напярэдадні для дадзенага выпадку. Танцоркі, цудоўныя, нібыта феі альбо прынцэсы, скакалі й гарэзьнічалі пад агнямі ліхтароў, што абсыпалі іхнія спадніцы іскрамі.

Паўсюдна былі толькі сьвятло, пыл, крыкі, радасьць, мітусьня; адны трацілі, іншыя зараблялі – адны й другія аднолькава радасныя. Дзеці чапляліся за спадніцы сваіх матуль, каб атрымаць некалькі цукерак, альбо ўзлазілі на плечы бацькоў, каб лепей убачыць штукара, асьляпляльнага, нібыта бог. І паўсюль распаўсюджваўся, пераважаючы над астатнімі водарамі, пах смажыва, што зьяўляўся быццам фіміямам гэтага сьвята.

У канцы, у самым канцы шэрагу намётаў, як быццам прысаромленага, самавольна задзіночанага ад усёй гэтай пышнасьці, я ўбачыў нейкага беднага блазна, згорбленага, лядашчага, старога – разваліны чалавека – абапертага на адзін з слупоў сваёй хаціны – будынка больш убогага, як жытло дзікуна, больш занядбанага, дзе два недагаркі сьвечак, плавячыся й куродымячы, усё яшчэ занадта добра асьвятлялі галечу.

Паўсюль – радасьць, прыбытак, празьмернасьць, паўсюль – упэўненасьць у заўтрашнім дні; паўсюль – неўтаймаваныя ўспышкі жыцьця. А тут – поўная галеча, бяднота, апранутая, у давяршэньне ўсіх нягодаў, у недарэчныя лахманы, дзе менавіта нястача, а не мастацтва ўвяла кантраст. Ён не сьмяяўся, няшчасны! Ён ня плакаў, ня таньчыў, не махаў рукамі, не крычаў, ён не сьпяваў ніякіх песень, ні вясёлых, ні жалобных, ён ня клікаў на дапамогу. Ён быў маўклівым і нерухомым. Ён выракся, ён адступіўся. Ягоны лёс зьдзейсьніўся.

Але якім глыбокадумным і незабыўным позіркам ён блукаў па натоўпе й агнях, чыя рухавая плынь спынялася ў некалькіх кроках ад ягонай жахлівай галечы! Я адчуў, як маё горла сьціснула жудасная рука істэрыі; мне здалося, што мой позірк быў зацемнены непакорлівымі сьлязьмі, якія не жадалі капаць.

Што рабіць? Навошта пытацца ў няшчаснага, якую дзівасію, якое дзіва ён мог паказаць у гэтым смуродным змроку за пашкуматанай фіранкай? Па праўдзе кажучы, я не адважыўся, і павінен довадам сваёй зьбянтэжанасьці прымусіць вас сьмяяцца, але я прызнаюся, што баяўся яго прынізіць. Нарэшце я рашыўся, праходзячы побач, пакласьці некалькі манет на дошку, спадзеючыся, што ён разгадае мой намер, як раптам агромністая плынь народа, выкліканая, ня ведаю, якім узрушэньнем, зацягнула мяне далёка ад яго.

І, азірнуўшыся, апантаны ўбачаным, я спрабаваў вытлумачыць свой раптоўны смутак і сказаў сабе: “Я толькі што ўбачыў вобраз старога пісьменьніка, які пражыў пакаленьне, цудоўным падманшчыкам якога ён быў; старога паэта безь сяброў, безь сям’і, безь дзяцей, заняпалага праз сваю галечу, усеагульную няўдзячнасьць, у хаціну якога натоўп больш не жадае заходзіць!”

*Пераклад з французскай мовы Кастуся Карпекіна*

# НІНА МАЦЯШ

**1943 — 2008**

## "ГАРНУСЯ ДА ВАС УДЗЯЧНАЙ ДУШОЮ"

(*Лісты Галіне Тварановіч, Яну Чыквіну)*

31 жніўня, 80
Белаазёрск

Мілая, слаўная!

Мне ж таксама было вельмі добра ад тваёй прысутнасці, разам з Ларысай, у маёй хаце. Нават калі б філіжанкі паразбіваліся – было б на шчасце!

Я еду ў Сакі: нечаканая пуцёўка з 7 верасня. Шостага буду ў Карласа. Ведаю ад яго пра прыезд Алёшы: радуюся Ларысінай радасці, поўнюся ёю. Калі ўбачыш яе – мой пацалунак ёй.

Цалую цябе. *Ніна.*

4 лістапада, 80

Мілая Галінка,

Дзякуй за пісьмо – ты пішы мне! Хоць можа я і не ў пару адкажу! Дзякуй за віншаванне і ўсіх маіх блізкіх. Зычу і табе – зычаць Мацяшы ўсе! – пагодлівага неба над тваёй галавой. І няхай марыцца і жадаецца – каб потым было чаму спаўняцца! Вітанне і найлепшыя зычэнні Ларысанцы. Хай толькі яна не хварэе!!! А ўсё астатняе нейкім чынам наладзіцца. У мяне работа не йдзе пакуль. У суботу сяброўкі клеілі залу шпалерамі. Стала цямней, але, па -мойму, утульней. Прыязджай у госці разам з Ларысай! Цалую.

*Ніна. Белаазёрск*

24. 09. 84 Галечка,

Дзякуй за сардэчнасць! Былі і сябры, і кветкі, і віно – і сонца. Была нават карэктура зб-ка "Жнівень"! Да сакавіка, магчыма, выйдзе. А да Новага Года чакаю "Планету людзей". Цалую –

*Ніна*

29 сакавіка, 85
Белаазёрск

Галечка, дарагая! Калі адзін творчы чалавек хораша цікавіцца творчасцю другога, дык на гэта не патрэбен нейкі спецыяльны дазвол, ці ж не так? Я не маю анічагуські супраць таго, каб Турбіна перакладала мае вершы, абы толькі праца была ўдалая! Тым болей, што добрых рускіх перакладчыкаў у мяне няма. “Не гучу” я па-руску, адзін шкілет сухарэбры застаецца ад маіх вершаў!..

Збіраюся ў Мінск 6-га красавіка. Студэнты ін’яза (III курс, нямецкі фак-т) запрашаюць. Сустрэча запланавана а $18^{00}$ гадзіне 6. 04. Мяркую прыехаць.

Цалую цябе – *Ніна.*

17 верасня, 85
Белаазёрск

Даражэнькая, слаўная мая Галіначка!

Дзякуй табе за сардэчнае віншаванне, за падарункі, якія атрымала ледзь не ад першай цябе! Радуе, цешыць, грэе і твая зычлівая памяць: дзякуй! Яшчэ болей парадуюся, калі раптам возьмеш ды прыедзеш хоць на суткі! Можа і Ларыса калі вырвецца. Яна азывалася і да мяне з Крыма. Радуюся, што яна, здаецца, навучылася адольваць цяжкасці, прынамсі, не зусім пасуе перад імі.

Ад усёй душы віншую цябе з паспяховай абаронай дысертацыі, – я ў тваім поспеху і не сумнявалася! Сіл табе на ўсё далейшае, у якім зычу табе паболей святлінак.

Я паслала ў “ЛіМ” нізку вершаў, дужа сумных, але з дарожачкай у прасвет, так што гэтак і ўспрымай, калі яшчэ надрукуюць той змрок.

Цалую цябе –

*Ніна*

2 сакавіка, 88
Белаазёрск

Мілая Галіначка!

Дужа ўдзячна табе за ўсе навіны. Роза прыслала паштоўку і мне, паведаміла пра нараджэнне Міхаэлы. Дай бог ім долі-шчасця! Сёння напісала лісток-паштоўку Ларысе. Сорамна, што рэдка гаманю з вамі, але іначай не атрымліваецца. Была ў Брэсце, выступала ў спецшколе, усё было хораша. Трэба напісаць водгук на вершы Сахарчука, рэкамендаваць у СП, а тут – свята, паштоўкі, лісты... Цалую цябе, і хай часцей ахоўнае бярэ цябе пад сваё крыло радасці!

*Ніна.*

Мо кава раств. ёсць? Хоць банку–дзве...

23 сакавіка, 88
Белаазёрск

Галечка, дзякуй табе, дарагая, за Ларысін маналог. Яна не прысылала яго мне, і я разумею яе: сіл няма гаварыць пра такое і табе, і мне. А за тваё пасрэдніцтва яна, я ўпэўнена, не пакрыўдзіцца. Я ж толькі ўдзячна, бо глыбей спазнаю і Ларысу, і цябе, і, у рэшце рэшт, сваю ўласную душу.

Атрымала ліст ад Розы. Яна шчаслівая! Вось ужо, сапраўды, не бывае такога смутку, каб ён хоць як-небудзь, хоць калі-небудзь не ўраўнаважыўся светлынёю.

Я збіраюся на пленум СП. Меўся ён адбыцца 30–31 сакавіка, але, кажуць, перанесены на 5 красавіка. Дакладна яшчэ не ведаю. Званіла сёння Вярцінскаму, а ён на партсходзе, так што не пагаварылі. У любым выпадку, спадзяюся на хуткую сустрэчу і з табой.

Вось пакуль і ўсё. Цяпер буду глядзець рэдактарскія заўвагі на палях “Марусі Чурай” – прыслала Тулупава, да 4 крас. павінна вярнуць.

Цалую. *Ніна*

17. 04 88 Дзень добры, Га́люся!

Прыгадаўся твой ранейшы ліст, дзе ты казала пра справы з даказваннем бацькоўства Міхася. Ці быў суд, і які вынік? Атрымала паштоўку ад Лары і новы адрас. Напішу. У мяне ўсё звычайна, будзённа. Душа або захліпаецца, або – часцей – маўчыць.

Цалую цябе. *Ніна*

26. 04. 88

Галіначка, віншую цябе з надыходам Мая: хай светла табе і ўтульна будзе ў ім! Калі кавы яшчэ не купіла, то і не шукай: сястра з мужам прыехалі ў водпуск, прывезлі. Спадзяюся на сустрэчу на пленуме. Цалую – *Ніна*.

1 жніўня, 88
Белаазёрск

Мілая Галечка!

Дзякуй табе, слаўная, за прывітанне з ГДР: і з Дрэздэна, і з Мінска ўжо. Атрымала тваю пасылачку, званіла сёння, але ты, мабыць, у вёсцы, ці проста ў горад выйшла. Адчуваю, што ўражанні твае добрыя, светлыя, дый ты сама пісала пра гэта. Вось і падзарадзілася, набралася моцы, праўда? Ну й добра.

У мяне была Маша Новік, на два дні завітала пазаўчора. Праз тыдзень яшчэ заскочыць. Чакаю Ніну Аксёнчык з Мазыра, ты не ведаеш яе, здаецца, выкладае бел. мову і літ-ру ў педінстытуце. Мы з ёю збіраліся ў санаторый,

аднак і жнівень пачаўся, а пра пуцёўку маўчаць. У верасні ж паехаць ужо не змагу, не будзе з кім. Але гэта не засмучае, мне ўжо зноў нікуды не хочацца ехаць, удома, у сваім кутку спакайней, дый нікога ад сваіх спраў адрываць не давядзецца.

Заўтра Ілля, калі будзе сонца – паеду дадому на хутар. І пара – даўно! – за пераклады брацца.

Цалую цябе з цёплай удзячнасцю. *Ніна*

14 верасня, 88

Галіначка, я ў санаторыі на Гомельшчыне была, вось вярнулася, а тут – твая паштоўка. Як і што было ў Маскве? У мяне – звычайныя будні. Трэба больш працаваць, я нейкая размагнічаная.

Цалую цябе. *Ніна*

25 верасня, 88

Галечка, сардэчна ўдзячна за добрыя, цёплыя віншаванні і табе, і Алегу, бо ведаю, што за гэтым – шчырая прыязнасць і душэўная падтрымка. Мне дорага ўсё гэта. Так і скажы Алегу. Дваццатага, хоць я загодзь і не запрашала, госці ўсё ж сабраліся – і радня, і сябры, і суседзі. Было ўсім утульна, а мне, пэўна, найсвятлей.

Цалую цябе. *Ніна*

2. X. 88

Галечка, хай будзе ў цябе свята і хай цвітуць у сэрцы макі! Учора ў клубе ініцыятыўная група дамаглася стварэння культ-асветніцкай сябрыны “Агмень”.

Будзем працаваць.

*Ніна.*

21. XII. 88 Галечка!

Няхай увесь наступны год сьвецяць табе і грэюць зоркі радасьці і плёну! Буду на гэта спадзявацца і я. Ачуньваю. Зьміраюся. Спакайнею. Шчасьця табе ў хату!

Цалую. *Ніна.*

4. 03. 89

Галечка! Хай блакітная лагода гаюча ахіне цябе, каб сьвята доўжылася, колькі захочаш сама ты. Віншую: з публікацыяй у “ЛіМе”, малайчынка! У

мяне – усяляк. Зрэшты, нармальна.

Цалую – *Ніна.*

3. XI. 89

Галечка, хачу падарыць табе кветкі – на павітаньне. У мяне тлум: сяброўства, рына, усялякія выступленні. А яшчэ – Шымборская, буду ўжо яе перадрукоўваць. Лары часам пішу, часам званю: на большае не здатная. І ўласнае сэрца трошкі выпадае з добрага рытму. Сьвятла табе, міленькая! Цалую. *Ніна*

15 сьнежня, 89

Мілая Галечка!

А што гэта азначае – атрымаць 2-х-месячную стыпендыю Іва Андрыча? Няўжо – магчымасць 2 месяцы жыць у Югаславіі?! Калі так, то гэта – проста цуд, велізарная радасць, і я шчасьлівая тваім шчасьцем!

У мяне – звычайныя будні. Езьдзілі за 40 км выступаць з "Агменем", наладзілі людзям літаратурна-музычную вечарыну. Стварылі раённую суполку ТБМ. Я ад кіраўніцтва адмовілася, выбралі наст. бел. мовы зь Бярозы. Цалую.

27 кастрычніка, 90
Белаазёрск

Дарагая Галіначка!

Ты і не магла знайсьці мяне 8-га ў Белаазёрску, бо я 29-га верасьня зь’ехала ў Цярнопаль аж на тры тыдні. Усё шукаю лекаў. Пакуль ніякай рады не знаходжу. Вярнулася з усялякімі рэкамендацыямі, што рабіць: банкі, кампрэсы, адвары траў, гімнастыка. Праз месяц, у дваццатых чыслах трэба зноў ехаць. Пажадана на месяц. Але гэтулькі часу ніхто не можа там быць са мной: усе на рабоце, ва ўсіх сем’і. Не ведаю, што выйдзе, каго знайду хоць тыдні на два. А пакуль душа толькі прымірае, суцішана і сумна прымаўкае. Вынік "блуканьняў у сабе" таксама. Усё жыцьцё нешта шукала, шукаю, лаўлю, а ў руках – адно паветра, нават не бурбалкі мыльныя, а – пустата. Не пішу, не перакладаю. Пакуль здаволю патрэбы цела, дык ні сіл, ні жаданьняў. Зусім слабею фізічна. Ужо сама не магу падняць сябе ў пасьцелі, змушана штораніцы прасіць чужой дапамогі. І самае горкае, што гэтая акалічнасьць забівае і маё каханьне, нават яно ўжо страціла свой сэнс. А я нават сказаць пра гэта не магу чалавеку, бо аднойчы паклялася сабе, што ніколі не выльлю на яго свайго чарноцьця душэўнага...

Балючыя ў цябе вершы, Галю. Але пакуль душа хоча гаварыць, хай выказваецца. Дай бы табе і ў сабе разабрацца, і да людзей не астыць. А

работа неяк зробіцца, абавязкова.

Цалую цябе. *Ніна*

30. XI. 90

Галіначка, дзень добры! Не дзівуйся, што на гэтай паштоўцы вітаюся з табой: хачу, каб ты яшчэ раз асьвяцілася сонейкам таго свайго побыту ў Югаславіі. Дзякуй за Алегаву “Санату поўні”: гэта Сапраўднае! Я ўжо напісала Алегу. Але ці змагу быць яму хоць трохі карыснай?

У мяне цяпер хваляваньні перад аўтарскім вечарам 8-га сьнежня. Ужо даймаюць думкі: і навошта мне ён?! Навошта ўся гэтая мітусьня?! Не суцяшае нават тое, што, кажуць, білеты ўжо купляюцца...

Цалую цябе. *Ніна*.

27. 12. 90

Ці не пра жураўля ў небе гамоняць сінічкі?.. Ва ўсякім разе, ім добра, утульна і ў лесе... Хай добра, утульна, сьветла будзе табе, Галечка, сярод людзей. Хай пішуцца вершы, хай будуць сілы на працу, на песьню. З Новым! З Калядамі!

Цалую. *Ніна*

24 красавіка, 91
Белаазёрск

Добрага дня Вам,
дарагі Спадару Яне!

Дзякуй Вам за ліст, які сьветлым промнікам уляцеў у мой суток. Мне папраўдзе прыемна, што Вам дадушы прылегла мая тая кніжачка. Няблага было б рыхтаваць ужо і наступную – з улікам таго, што яна можа ўбачыць сьвет не раней, як праз тры гады – у лепшым выпадку. Але натхненьне маё ўсё не вяртаецца з выраю, мо ўжо і загінула дзе, бедненькае!.. Рыхтую зборнік перакладаў з паэзіі французскай Плеяды, паўтара аркуша ўжо адаслала ў выдавецтва, каб трапіць у план 93-га. Астатнія паўтары-два аркушы яшчэ трэба перакласьці. Хай бы май паспрыяў у гэтым!.. Пакуль маю іншы клопат: падарыць белаазёрцам, адвыклым ад культуры, безуважным да духоўнага спажытку, паэтычна-музычную вечарыну з удзелам Алега Лойкі і барда Алега Атаманава. Квіткі пакуль не дужа разыходзяцца, а сустрэча намечана на пасьлязаўтра, 26-ае красавіка, угодкі Чарнобыля...

Зь вялікай цікавасьцю прачытала падараваны Вамі зборнічак. Што найбольш уражвае – дык гэта незвычайная вобразнасьць, маляўнічасьць, адухоўленасьць Вашага сьвету. Не магу толькі пагадзіцца з думкай аўтаркі

прадмовы, што Вы ствараеце-выдумляеце гэты сьвет. Не, ён існуе рэальна, Вы толькі дапамагаеце чытачу расплюшчыць вочы і пабачыць, і палюбіць яго. Дай Вам Бог усяго жаданага – як у буднях, так і ў музыцы душы! Буду радая падаванаму Вамі голасу – хоць зрэдку, як ужо выпадае. Усе мы вязьні, кожны па-свойму. Шчасліва!

*Ніна*

24 чэрвеня, 91
Белаазёрск

Галечка, галінка родная!

Ці моцнага трэба падтрымліваць? Трэба! І няхай і мая думка, маё гарачае жаданьне, каб разьвеялася, на сухі лес пайшла хвароба матулечкі тваёй, – хай далучыцца да тваіх малітваў і ўзмоцніцца, і – адолее! Няхай, няхай!

Я ўчора – за чатыры гады – зноў пабыла на мамінай магілцы. Прыязджалі Марыйка Новік і Валя Мароз зь Берасьця. Надвор’е сухое і гарачае было, і мы гулялі па гарадку, і дзяўчаты завезьлі мяне да мамы. Ледзьве-ледзь прапхаліся паміж магілкамі, гэтак вузка яны, цесна ляжаць адна каля адной. Сумна было ад таго, што няма каму даглядзець як сьлед той квадрацік зямелькі пад ясенем ды сасною. А маму бачу жывою. І веру, што яна Там сустрэне мяне, усіх нас, яе дзяцей і родных. Мы пазнаем адзін аднаго – усе, Там.

Дзякую за добрую згадку і пра сустрэчу, і пра вершы. Сьвірка ўлез са сваім густам: выцягнуў некаторыя старыя вершы, бо новыя не ўспрыняў. Пагаварыць зь ім не змагла, званіла, але ў рэдакцыі яго не аказалася. Зрэшты, усё роўна зьмяніць нешта позна. Бог зь ім. Іншым ён ужо ня зможа стаць.

Цалую цябе, галубка. Не зьнясільвайся празьмерна, давай магчымасьць аднаўляцца энергіі.

Цалую. *Ніна.*

30 верасьня, 91
Белаазёрск

Мілая Галечка!

Дзякую за вестку, за віншаваньне, Сьветлая! Радуюся Сутнаснаму твайму, якое моцна выяўляецца ў вершах, і чым далей, тым мацьней і ўразьлівей. Зірні яшчэ раз на другі верш (“Засціць, засціць...”): а мо апошніх двух радкоў і ня трэба?

А я толькі спадзяюся на свой прышлы творчы дзень. Падбадзёрваюць вось гэтыя радкі, што прыйшлі пазаўчора. Падзялюся імі з табою:

**Да сьвята**

На сьвеце, й праўда, роўных не бывае:
У нечым хтосьці першы, хтось другі.
Але няхай нас гэта не кранае,
Каб не казалі нашы варагі,
Нібы няма ні шчырасьці, ні згоды,
А добры лад ёсьць толькі напаказ.
Зла са сьвятлом змаганьне йдзе заўсёды.
Няхай сьвятло перамагае ў нас!
Бо толькі ў ім душа расьце крылата.
Хай не пакіне нас такое сьвята!

19 кастрычніка сябрына мяркуе наладзіць вечарыну памяці Багдановіча. Запрасіла С. Законнікава і М. Пшанічнага з Ровеншчыны, ён выдатна пераклаў сёе-тое з Максіма Кніжніка, але няма пэўнасьці, што прыедуць. Хочам, каб дало канцэрт і "Сьвята", а ці будуць?

Такія вось турботы. Цалую, галубка. *Ніна.*

2 кастрычніка, 91
Белаазёрск

Шаноўны Яне,
добрага дня Вам!

Нешта не адказалі Вы на мой ліст, пасланы ці не ў ліпені яшчэ. Галя Твaрановіч паведаміла мне новы адрас Ваш. Дасылаю два паасобнікі лірыкі Шымборскай у маім перакладзе: нарэшце дачакаліся гэтай кнігі!.. Зьвяртаюся да Вас з просьбаю: калі маеце такую магчымасьць, перадайце, калі ласка, адзін з гэтых паасобнікаў Пані Віславе Шымборскай. Яна, мусіць, нават ня ведае пра гэтае выданьне, бо не ўдалося мне зьлістававацца зь ёю. Ня ведаю я і адрасу Паэткі. Можа, паведаміце яго, тады б я і сама даслала ёй некалькі кніжак. Мабыць, змагла б я і сама прыехаць у Польшчу, пляменьніца прапаноўвае машыну і свае паслугі шафёра і памочніцы, але ж у мяне яшчэ нават пашпарту замежнага няма, бо, каб вырабіць яго, патрэбна падстава на паездку – запрашэньне ці выклік які.

Жыву я даволі сумна і нецікава, бо нічым не натхнёная. Рыхтуемся зь сябрынаю да вечарыны Багдановіча 19-га кастрычніка. Першага лістапада намячаецца паездка ў Лунінец на Коласавы дні, а ў пачатку сьнежня – літаратурны вечар, прысвечаны Багдановічу, у Брэсьце. Як усё будзе добра, прыму ўдзел.

Як Вы? Дабра і Сьвятла!

*Ніна*

9 лістапада, 91
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Дужа дзякую за ліст, за адрас пані Віславы. Я не паслала яшчэ ёй кніжак, бо зь 1-га па 4-ае вандравала з групай берасьцейскіх і валынскіх паэтаў па Лунінеччыне: ушаноўвалі памяць Якуба Коласа, адчынялі мемарыяльныя дошкі (на музеі ў Лунінцы і , там жа, на доме, дзе Паэт жыў і працаваў; дом захаваўся амаль у ранейшым выглядзе), мелі ажно чатыры сустрэчы (зь літаратурнымі выступленьнямі). Трохі стамілася, але адчуваньне патрэбнасьці такой працы і ўласнай лучнасьці зь сябрынаю пераважыла ўсё. На вялікі жаль, на гэты раз не было з намі Уладзіміра Андрэевіча: літаральна напярэдадні паездкі яго прааперыравалі (апендыцыт, але складаны, ляжаў У. А. у рэанімацыі). Усё яшчэ ў лякарні, але патроху папраўляецца.

Мілы Яне! Дзякую за добрае слоўка пра мае вершы. Вось ужо не падумала б, што яны могуць падтрымаць мужчын! У іх жа гэтулькі затоенага смутку... Па гэтай прычыне я ўжо і зусім адмовілася пісаць. Хочацца, каб высьпелі нейкія іншыя настроі. Але сітуацыя ўсё тая ж: пачуцьці, якія выглядаюць сапраўднымі, толькі – водбліскі Сапраўднага... Але ці варта адмаўляцца ад пошукаў Яго? Няхай пашчасьціць Вам – знайсьці!

Яне, я нават ня ведаю, ці патрэбна мне запрашэньне з польскага боку? Ці варта турбаваць гэтым “Белавежу”? Родных ці сваякоў у Польшчы ў мяне няма, Вы трохі ня так зразумелі, пляменьніца мая жыве тут, у Бярозе, яна толькі магла б на ўласнай машыне завезьці мяне ў Польшчу – пры патрэбе. Але ж той патрэбы пакуль няма. Як і замежнага пашпарта, які афармляюць толькі пры наяўнасьці запрашэньня. Такое вось бюракратычнае кола.

Пагодлівасьці душы Вашай, мілы Яне!

Адгукайцеся, буду, як заўжды, рада і рэху Вашага голасу.

*Ніна*

11. XII. 91 Шаноўны Яне!

З Новым Годам, з Раством Хрыстовым, з Калядамі!
Бачыце, як старанна сінічка выклікае Вам радасьць у заўтрашніх днях?
Няхай збудзецца!

*Ніна*

28.XII. 91 Дарагі Спадару Яне!

З Новым Годам! Хай Малпа не пераблытае Вашых добрых планаў і зьдзясьненьняў! Неяк Вы прапаноўвалі мне зрабіць выклік у Польшчу. Буду глыбока ўдзячна, калі атрымаю яго. Дайце, калі ласка, запрашэньне і на імя майго брата – Мацяша Мікалая Іосіфавіча (Брэсцкая вобл., Бярозаўскі р-н,

п/а в. Нівы, вул. Прытыцкага, 10) – як на суправаджаючага. Мы прыедзем на машыне зь ім пры нагодзе. Дзякую сардэчна загодзь.
*Ніна*

15 лютага, 92
Белаазёрск

Мілы Яне!

Вы папраўдзе вельмі мілы, – дзякую сардэчна за запрашэньне. Яго і сваю заяву паслала ў Саюз пісьменьнікаў, каб там памаглі атрымаць замежны пашпарт. А набыць яго звычайным, як я, людцам цяпер вельмі складана. Кажуць, што хіба ўкладным толькі выпішуць. Мяне ж такі варыянт ня дужа цешыць, бо атрымала я (ці пісала Вам пра гэта?..) і запрашэньне зь Бярліна прыехаць туды ў маі на Тыдзень беларускай літаратуры. За наш кошт (а запрошана 6 пісьменьнікаў) – толькі дарога ў два канцы, але ж яна цяпер – валютовая, а Саўмін наш адмовіў нам у валюце... Калі нават Быкаву ня ўдасца выпрасіць тыя пару соцень даляраў, дык усё тым запрашэньнем і абмяжуецца... Я ўпарта спадзяюся на радасьць, хоць і гатовая ўжо да найсумнейшага.

Сама ня ведаю, калі выбяруся ў Польшчу. Мяне яна цікавіць толькі творчымі сустрэчамі, магчымасьцю знаёмства зь беларуска- і польскамоўнымі літаратарамі. Добра было б і выступіць перад людзьмі і з уласнымі вершамі, і зь перакладамі з Шымборскай. Мае знаёмыя ў Польшчы – асабіста знаёмыя – толькі Вы ды журналістка Аня Сабецка з Гдыні. Вы ў бліжэйшым горадзе, дык я ўжо, мабыць, калі прыеду, буду шукаць Вас – дзякую за паведамленыя нумары тэлефонаў. Бо іначай я ня буду ведаць, куды там, за мяжой, і паткнуцца.

А брат мой хацеў бы скарыстаць нагоду і хоць трохі апрануць сыноў, – іх у яго трое. Цэны ў нас цяпер проста шалёныя – да абсурду, а польскі рынак, хоць таксама вельмі дарагі, усё ж нейкую выгаду абяцае нашым людзям, раз яны туды пруцца. Я ў гэтым нічога ня цемлю, дый ня трэба мне нічога.

Трохі працую, рыхтую ў раёнку (рускамоўную і жахліва пустую) беларускамоўныя старонкі асьветніцкага характару. Зрэдку-зрэдку і (неразборліва – *рэд.*).

У Калеснікаў усё даволі спакойна, хоць здароўе і ва Ўладзіміра Андрэевіча, і ў Зосі Міхайлаўны ня дужа моцнае. Але трымаюцца.

Трымайцеся і Вы, даражэнькі!

Смуткаў на сьвеце шмат, але ж і радасьці надараюцца! Будзьце шчасьлівыя! Ніна

16 лютага, 92
Белаазёрск

Галечка!

Я магу толькі радавацца тваім спробам замацоўваць у паэтычнай плыні такія рухомыя, зьменлівыя станы душы. Імпульсы іх энергіі дзейнічаюць, – прынамсі, на мяне, а ці ж я нейкае выключэньне?! Удачы табе і надалей, галубка! Маленечкая заўвага да вершанятка “Долі свае далакопы сляпыя...” Мо лепей было б “долі сваёй...” Бо ў першапачатковым варыянце атрымліваецца “свае далакопы”, а маецца на ўвазе “далакопы долі”, ці я памыляюся?

Захацелася і мне паказаць свой лютаўскі вершык. Вось ён:

**Паглядвайма ў неба**

Каб змрок не пасіліў да рук нас прыбраць,
Паглядвайма ў неба пры кожнай нагодзе:
Нам зоры сусьвету штоночы гараць,
Нам сонца сусьвету шторанку ўзыходзіць.
Паглядвайма ў неба, і вочы расьплюшчацца.
І вушы растуляцца, і морак растае:
Бо сэрца ня схоча стаць рэчывам тым,
Якое ні промніка не вылучае.
Паглядвайма ў неба.

Учора былі Грамніцы. Увечары мне прынесьлі грамнічную сьвечку, але я толькі сёньня запаліла яе: пагарэла толькі перад тым, як я пачала пісаць лісты, бо ўжо іх трохі і сабралася. Толькі што насунулася вялікая хмара, панеслася на зямлю белым-белая сьнежная крупка. Але ўжо выглядвае сонца, і зямля зноў пачарнее. Пад акном маім – бэз, і пупышкі на ім пачынаюць зелянець. Ранавата, бедненькія!..

Цалую цябе, Галіначка! Мацуйся! І – ня будзем старэць, я гэтага таксама не хачу!

Будзь! *Ніна*

3. 03. 92

Мілая Галечка!

Пахавала я пляменьніка, які і насіў, і вазіў мяне часта, адгукаўся на ўсе мае просьбы...Цяжка. Сёньня 9 дзён. Памілуй, Госпадзе, усіх, каго Ты паклікаў!.. На двары дождж. Для зямелькі гэта добра. А мы пачакаем сонца. Хай сагрэе яно, аблашчыць і пагоіць і тваю душу, галубка! Цалую – *Ніна*

14 красавіка, 92
Марэвіль

Дарагі Яне!

Адгукаюся да Вас зь лекарні ў вёсачцы Марэвіль, што ў нашым раёне, на Беразоўшчыне. Легла сюды на курс голкатэрапіі. Прабуду тут па 19-ае красавіка, у цэлым – 11 дзён. Удома чакае багата ўсялякіх спраў. А тут, у прамежку паміж працэдурамі, ёсьць магчымасьць пабыць адной (пакойчык асобны), і пачытаць, і падумаць, і ліст напісаць. Вось толькі ў Польшчу патрэбен даражэйшы канверт, а яго ў мяне тут не аказалася. Хіба давядзецца ўжо зь Белаазёрска адпраўляць гэты лісток.

Даехалі мы тады ў Чарэмшу добра, гаспадары – знаёмыя Валі – акурат удома аказаліся, і прынялі дужа гасьцінна і шчыра. Наступным ранкам паехалі ў Седлец, адтуль – дадому, і а першай ночы былі ў Белаазёрску. Я да гэтага часу з удзячнасьцю Вам згадваю свой ваяж, і яшчэ раз глыбока, шчыра перапрашаю за неспадзяванасьць майго прыезду, і ў сувязі з гэтым – за ўсе Вашы турбацыі. Пры нагодзе перадайце, калі ласка, усім у “Ніве”, хто аказаў мне гонар сустрэцца са мною, маё сардэчнае прывітаньне. Пасьля прыезду я на наступны ж дзень патэлефанавала Уладзіміру Андрэевічу, перадала яму і прывітаньні, і просьбу аб наладзе вечарыны-сустрэчы. Ён прапанаваў адразу ж сваю кватэру – пакой – каб спыніцца, бо гасьцініцы ў Брэсьце страшна дарагія. Але пра ўсё Вы дамовіцеся, пэўна ж, асабіста, 15 мая Уладзімір Андрэевіч зьбіраецца да Вас. Праўда, мяжу часова закрылі, але з 20-га красавіка зноў пачнуць прапускаць.

Званіла я і Дануце. Яна атрымала Ваш ліст. Казала, што паслала Вам усё ж абодва зборнікі – і Геніюш, і Чобата.

Ну вось, бадай, і ўсё на сёньня. Віншую Вас і маму Вашу зь Вялікаднем. Дай Вам Бог здароўя і радасьці. А яшчэ – маё найласкавае вітаньне і пажаданьне шчасьця [...]. Хрыстос уваскрос! *Ніна*

19 чэрвеня, 92
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Дзякую за добры ліст, шаноўны дружа. Добры – жывым пачуцьцём і клопатам. Ах, каб знацьцё, якія лекі мне патрэбны!.. Мабыць, ніхто ў сьвеце гэтага не скажа. Бо скрозь толькі рукамі разводзяць. І прапануюць, што найбліжэй, што пад рукою: агульнаўмацавальнае. Вось займела зараз метадычку, як разьвіваць і ўмацоўваць імунную сістэму. Нібыта гэты метад прыдатны пры любых хваробах. Заняткі псіхалагічнага характару, трэба да 5 гадзін у дзень трэніравацца, а дзе знайсьці гэты час, ажно гэтулькі?!. Працы іншай вельмі шмат. І найперш – трэба падрыхтаваць выбранае, выд-ва само паклапацілася ўключыць у план. Хачу перакласьці гісторыю хрысьціянства (з расейскай на беларускую, кніга падрыхтавана Менем). “Цытадэль”

Экзюперы (чаму Варыванюк упарта называе гэту рэч “Крэпасцю” ў інтэрв’ю?..) цярпліва паглядвае толькі з паліцы...

А была ж я, пане Янку, у Бярліне ў траўні! Ах, якая выдатная паездка, колькі сьветлых уражаньняў!..

Нататкі з Тыдня беларускай літ-ры ў Бярліне папрасіў зрабіць “ЛіМ”, дык напісала і паслала, можа, і ў Вашыя рукі трапіць, пабачыце.

Дзякую за дасланае інтэрв’ю. Ёсьць там пэўныя недакладнасьці, але to nic. Перадайце, калі ласка, маё сардэчнае прывітаньне ўсім у “Ніве”. Цяпер я разумею, чаму Янка Цялушэцкі тады, у час майго побыту ў рэдакцыі, сядзеў у іншым пакоі... Дай Бог “Ніве” маладой і незалежнай справіцца з усімі цяжкасьцямі!

І Вам асабіста – гэтаксама! Прызнацца, мне тады падалося, што, нягледзячы на ўсе складанасьці і неспрыяльныя жыцьцёвыя варункі, промнікі лірычныя ў Вашых буднях усё ж бываюць, надараюцца! Хай жа не абмінаюць, каб жылося хоць трохі сьвятлей і раскаваней!

Шчасьліва!

Сардэчна –

*Ніна*

З прывітаньнем і да Пані Чыквінавай.

5 жніўня, 92
Белаазёрск

Дарагі Яне!

[...] Я дагэтуль не адаслала ў выд-ва свайго рукапісу, хоць, нарэшце, праца ідзе да завяршэньня. Спадзяюся, нішто не перашкодзіць паставіць кропку над ёю ўжо на гэтым тыдні.

Галя Твархановіч ужо неўзабаве павінна вярнуцца ў Менск. Вясковага ж адрасу, апрача назова вёскі – Дараганава – я, на жаль, ня ведаю.

Загодзь удзячна за кнігі, якія Вы абяцаеце даслаць – Геніюш і Тэрэсы. Пані Тэрэса прыслала днямі мне жаданы ліст, я вельмі ўдзячна ёй. Перадавайце ёй маю сардэчнасьць. Неўзабаве напішу ёй, вось толькі з рукапісам разьлічуся.

А Калесьнік паехаў на радзіму, адведаць мачыху сваю старэнькую. І да Брыля: учора Івану Антонавічу споўнілася 75! Дай Бог ім здароўя! Уладзімір Андрэевіч стомлены, адсюль, відно, і лёгкая скарга на творчы спад. А Іван Антонавіч дзеліцца, баючыся сурочыць, добраю формай: пішацца! Дай Бог! Калі Беларусь умацуецца ў Духу, у годнай самасьвядомасьці – выжыве і закрасуе!

Будзьма!

Душэўна – *Ніна*.

8 лістапада, 92
Белаазёрск

Дарагі спадар Ян!

Спадзявалася на сустрэчу з Вамі і паняй Тэрэсай на Коласавым юбілеі: Міхноўскі меўся адвезьці Вам запросіны... Аднак Алесь Каско паведаміў, што Вы не прыедзеце, бо даглядаеце ў лякарні цяжка захварэлую матулю... Ня ведаю, якой часінай пішу гэты ліст, бо і сон нядобры сасьніла дні тры таму назад. А ўсё ж хочацца верыць і думаць, што пані Чыквіновай палепшала і ў Вас пасьвятлела на сэрцы. Хай гэтак яно і будзе!

Я сама тыдзень была ў лякарні вясковай – дзеля ўмелага масажу. Калі ўдасца, буду падтрымвацца ім штомесячна.

Навін асаблівых няма. На агульны пісьменьніцкі сход ня езьдзіла, не знайшлося бензіну. У нас зь ім апошнія тыдні бяда. Сход прыняў рашэньне аб поўнай незалежнасьці пісьменьніцкай суполкі. А ўвогуле абстаноўка на Беларусі трывожная і напружаная. Зноў узьнімаецца лямант за наданьне дзяржаўнага статуса расейскай мове. Калі гэта адбудзецца і на самай справе, Беларусь ужо ніколі ня ўстане з каленяў. Хай беражэ Бог зямлю нашу пакутную! Хай не адыме апошняга розуму ў людзей яе абнядоленых!..

Зычу Вам, дарагі Яне, усяго найлепшага. Буду радая вестачцы.

*Ніна*

20 сьнежня, 92
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Ці ў радасьці чалавек, а ці ў горы – час ўсёроўна не спыняе хады. Вось ужо і Народзіны Хрыстовы на парозе, і Новы год напагатове ў момант вока ўхапіць з рук старога эстафетную палачку і нязмушанай, мернай хадою рушыць далей. А зь ім – і ўсе мы, са сваім болем, трывогамі, радасьцямі, смуткамі, спадзяваньнем на ласку зямлі і неба. Як нерат з мора выбіраем: вось выбярэм – кожны свой уласны – і ўсё, завершым сваю зямную працу. І ўсё ў тым нераце будзе: і сякая-такая рыба, і твань, і водарасьці, і ракаўкі пустыя. Не знойдзецца толькі залатой рыбкі... Але пакуль жывыя, пакуль нерат – у моры, трэба яго выбіраць. Дай Бог Вам, дружа Яне, моцы і, наўсуперак смутку і апатыі, спадзяваньня на варты плён свайго жыцьця. Страту матулі я ўжо перажыла, апошні ўздых яе адляцеў да неба на маіх вачах дзесяць з паловай гадоў таму. А бацьку ўжо 90 гадоў 4-га сьнежня адзначылі. Пачынаюць адмаўляць ныркі ў 63-гадовай сястры найстарэйшай: пакуты і ёй, і ўсім вакол яе. Але нікуды ад гэтага болю не падзецца. Ня ўсімканавана лёгкая сьмерць. Але панітаваным тут канавана – усім – некалі сустрэцца зноў, хай і ў іншых абліччах. Я веру ў гэта. І гэта хоць трохі ды суцешвае ва ўласным бясьсільлі [...]

Была я ў лякарні зноў – чарговы тыдзень. А цяпер – як і дагэтуль: быт і

пісьмовы стол.

Пані Тэрэса даслала кніжку, дзякуй Ёй, буду чытаць патроху.

Добрага здароўя, мілы Яне. Не ўпадайце ў роспач, бо – трэба жыць. Сонейка ў Ваш дом!

*Ніна*

5 красавіка, 93
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Душой дзякую за дасланыя кнігі. З друку ведала, што яны выйшлі ў сьвет, вельмі хацелася пагартаць іх, і вось – маю, з Вашае добрае ласкі. Як зьбяруся з думкамі, пазнаёмлю зь імі і чытачоў раёнкі, хоць апошнім часам літаральна церазь сябе пераступаю, дасылаючы туды які-небудзь матэр'ял: такая пустая, шэрая і пракамуністычная гэтая газета, да таго ж – рускамоўная. Але зрэдзь часу, дзеля выкліку, што і на Бярозаўшчыне слова беларускае ўсё ж яшчэ – жывое, дасылаю якую-небудзь нататку пра тую ці іншую беларускую кнігу.

Смуткі ды смуткі, Яначку. 25-га сакавіка адышла ў лепшы сьвет мая сястра Марыя. У цяжкім, непапраўным стане яшчэ адна старэйшая сястра – Ганна. І бацьку ўжо 91-ы гадок... Цяжка. Сама ня ведаю, што трымае і ратуе мяне на гэтым сьвеце. Пэўна, тая боская моц, якая і адмерала мне маю ўласную мерку пакутаў і цярпеньня.

А ўжо ізноў вясна. За маім акном на галлі бэзу покаўкі зусім пазелянелі. Кажуць, яшчэ два тыдні таму назад буслы вярнуліся.

Дай Бог сонейка і Вам. А зь ім – і вясновага творчага настрою.

Віншую зь Вялікаднем і вельмі прашу перадаць і пані Тэрэсе маё віншаваньне. [...]

Дабра і сьвятла Вам!

*Ніна*

4 чэрвеня, 93
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Прашу выбачыць, што трохі затрымалася з адгуканьнем. Часопіс "Неман" замовіў мне напісаць прадмову да Вашых вершаў (у перакладзе на расейскую). Публікацыя іх намечана ў будучым годзе, у 2-ім нумары "Немана". Дасылаю і Вам прымернік майго слоўка, бо – калі яшчэ ён, той часопіс, выйдзе ў людзі?! Спадзяюся, што я не занадта суб'ектыўна ўспрымаю Вашу творчасьць. Калі што не так, – выбачайце.

Сёньня мяркую адгукнуцца і да пані Тэрэсы. Трэба прызнацца, абсяг майго ліставаньня значна звузіўся ў апошнія паўгоду: цэны растуць

неймаверным чынам. Шмат каму з маіх ранейшых адрасатаў ужо не па кішэні паштовыя выдаткі.

Тэлефаную часта Калесьнікам, бо Уладзімір Андрэевіч цяжка хворы: нібыта лейкемія ажно... З агульнай палаты перавялі ў рэанімацыю. Трывожна. І Зося Міхайлаўна, і ўсе мы жывём толькі надзеяй, што арганізм Уладзіміра Андрэевіча яшчэ мае запас трываласьці і выдужае. Хай будзе на гэта воля Боская!

У нас надвор'е неблагое, дык я цяпер даволі часта, амаль штодня, бываю на вуліцы, і дзе-небудзь у куточку нашага так званага "парку" дыхаю ветрыкам і сонцам. Хоць ад гэтага, на жаль, фізічных сілаў не дадаецца, аднак, можа, хоць трохі назапашу на зіму кіслароду.

Хай спрыяе Вам Вашае ваколле і прырода, і людзі!

Сардэчна –*Ніна*

15 снежня, 93
Белаазёрск

Дарагі Яне,
дабрыдзень!

Найперш глыбока і шчыра дзякую за сардэчнае павіншаванне з юбілеем: у даце няма радасці, аднак яна спрычынілася да перазоваў маіх светлых сяброў і, насупор усяму сумнаму ў маім жыццёвым адмежку, прынесла і суцеху. Было ўжо ажно 5 літаратурных вечарынаў – ад родных мясцінаў да Менску, – адбыліся ўсе яны з поспехам, але і натамілі, і ўжо даўно хочацца спакою, каб хоць трохі працаваць.

Вельмі перапрашаю, што дасылаю сваё выбранае толькі з прысвячэннем Пані Тэрэсе: твая, табе адрасаваная кніга ляжыць у Галі Тварановіч, падпісала яе на вечарыне ў Доме літаратара. Каб мела пэўнасць, што ты зможаш прыехаць, дык запрасіла б, аднак... паглядзі хоць на запрашальныя квіткі.

У верасні была 2 тыдні ў Бярліне. Запрашалі нямецкія сябры па каляску, але замоўленая не падышла, чакаю, што зробяць іншую. Здароўе далёка не стопрацэнтовае, але сяк-так трымаюся, і не толькі фізічна, ну бо што ж зробіш?

Сардэчнае прывітанне Пані Тэрэзе.

Здароўя і радасці – радасці!.. у Новым годзе.

Абнімаю –

*Ніна*

(на запрашэнні у Дом літаратара)

Спадзяюся, Яне, што Новы Год паруліцца на добрую нашу сустрэчу, хай сабе і не юбілейную.

Сонейка, утульнасці!

*Ніна Мацяш,* 16.XII.93

10.04.94
Белаазёрск

Яне, дарагі!

Не пабачыліся мы... Толькі ад сяброў чула добрыя словы пра вечарыну з Вашым удзелам. А сама ў гэты час, у той час, мусіла адлежвацца ў пасцелі: няўдала ўпала, надарвала звязкі ў калене. Дагэтуль пабольвае, але ўжо рытм жыцця амаль ранейшы, дзякаваць Богу.

Перакладаю Рансара ды іншых яго паплечнікаў па “Плеядзе”. Праца ідзе туга, сама ня ведаю, чаму.

Шчыра дзякую за добрае слова пра зборнік, пра маю творчасць. На жаль, вершы ня пішуцца. Добра, што маецца іншая дзялянка – пераклады. На бліжэйшыя два-тры гады, калі жыцьму, працы хопіць.

Ці прыедзеце на з’езд пісьменнікаў? Кажуць, ён намячаецца на 27—28 красавіка. Я яшчэ ня маю запрашэння, дык і ня ведаю дакладнай даты.

Як Вы? Ці даслала Галя кнігі, у тым ліку і маю? А мо ў Мінску пабачымся.

Як пані Тэрэса? Перадавайце ёй маё сардэчнае прывітанне.

Хай вясна будзе зычліваю і светлаю, багатай на радасць для Вас.

Хінуся сардэчна – *Ніна*

12 травеня, 94
Белаазёрск

Дарагі Яне,
дабрыдзень!

Вашу паштовачку атрымала, сардэчна дзячу.

І мушу прызнацца, што Ваш настрой душэўны даволі блізкі і мне. Адзінота – як радыяцыя: у вялікіх дозах папросту знішчае чалавека. Мяне ўсё часцей апаноўвае апатыя да ўсяго. А прычына, па сутнасці, толькі ў упадку фізічных сіл. З гадамі здароўе ўсё пагаршаецца, усё цяжэй абслугоўваць самую сябе ў хатніх маіх умовах, патрэбен чалавек, які заўсёды быў бы побач, але такой самаахвярнай істоты няма ні спаміж роднымі, ні спаміж сябрамі: усе сямейныя, ва ўсіх свае турботы, радасці і беды. І хоць двойчы на тыдзень прыходзіць сабесаўская работніца, прыносіць прадукты, прыбярэ ў кватэры, зробіць мне ванну, але дапамога патрэбна штодня. Канешне, забягаюць сяброўкі, суседкі ў мяне вельмі харошыя. А немцы зрабілі велікодны падарунак: прывезлі каляску з электрапрывадам, што значна аблягчае рух. І ўсё ж усведамленне таго, што нямогласць прагрэсіруе, а выйсця няма, вельмі прыгнятае. Адсюль і ўпадак творчых сіл. Але ж рабіць нешта трэба! Думаю пра Вас. Вы ўсё ж такі ў значна лепшым становішчы: Вы хоць фізічна незалежны чалавек! Вы прыгожы, не стары, інтэлігентны, мудры, – знайдзіце ж сабе хоць добрую каханку, калі не гаспадыню ў хату! Жыццё робіцца шэрым і нудным, калі не працуюць эмоцыі. Каханне, хоць і прыносіць горыч ды расчараванне, а ўсё

ж вельмі ўпрыгожвае жыццё! Няхай жа гэтак і станецца! Хай аясніцца свет вакол Вас, хай адступяць змрочныя думкі, хай будзе Вам светла і гожа! З днём нараджэння, дарагі Яне! Цалую Вас –

*Ніна*

6 снежня, 94
Белаазёрск

Мілы Яне,
Дабрыдзень Вам!

Даўно мы не перамаўляліся, яшчэ з лета не маю ад Вас вестак. А слота таксама не дужа спрыяе сумоўю. І ўсё ж – гукаю Вас: што ў Вас, як здароўе, якія клопаты. Спадзяюся, што не ўсё змрочна, што ёсць і нейкія святліначкі.

Мне смуткуецца – баліць ад пакутаў найстарэйшай сястры Ганны: адлёт у лепшы свет непазбежны, але нямоглая плоць усё яшчэ чэпка трымае душу, мардуючы і сябе, і яе, і ўсіх паблізных. Прыходзячы ў свет, спадзяемся радасці, а напрыканцы маем сапраўднае пекла...

Сама ж трымаюся зводьшага. Зборнік плеядаўцаў падрыхтавала і здала рукапіс у выд-ва. Цяпер перакладаю немку Хрысціну Лавант для ўласнай “Кнігі перакладчыка” (ёсць такая серыя ў “Мастацкай літ-ры”).

Як пажываюць беластоцкія літаратары? На старонках “ЛіМа” сустракалася з Сакратам Яновічам: ягоная пазіцыя мне вельмі блізкая. Прашу перадаць маё прывітанне ўсім знаёмым беластачанам. Адгукайцеся –

*Ніна*

27 снежня, 94
Белаазёрск

Родненькая Галіначка!

Не хачу, каб ты была зінелаю! Хай вакол цябе заўжды будзе ўдосыць Сьвятла і Цяпла, якое дазволіць душы тваёй быць прасветленай і ўзноснай! З Нараджэннем Хрыстовым, з Калядамі, з Новым Годам! Менавіта ў такім парадку, а не так, як, праз упартасць праваслаўнай царквы, змушаныя мы йсці насупор усяго свету.

Як ты, што ў цябе, мая харошая? Даўно не чула голасу твайго, хоць адчуваю лучнасць заўсёдную.

Для мяне канец гэтага году вельмі журботны і горкі. Пахавалі Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. І замены такому Волату не відно...

У цяжкім стане сястра Ганна. Ужо два гады як яна моцна пакутуе, а гэта, па ўсім відаць, ужо йдзе на дажыванне. Адмаўляюцца працаваць ныркі, не стымулююць іх ужо й уколы. Нанач колюць абезбольвальныя. Удзень яшчэ сядзіць за сталом, але зусім аслабелая. Нават голас глушэе...

Я перабіраю пераклады з Кастэнка, што магу – папраўляю. Трэба

перадрукоўваць. Скрутна з паперай, але мо дзе ў каго разжывуся. Работы процьма, а светлавы час кароткі. Увечары не друкую, бо лямпа не дасягае.

Так хочацца прытуліцца да цябе, мая разумніца!.. Гарнуся, цалую моцненька і з любасцю. *Ніна.*

20 лютага, 95
Белаазёрск

Дарагі, мілы Яне!

Чытаю, перачытваю Ваш верш, і такі ён блізкі мне, і зразумелы, і дакладны ў акрэсленасці *маіх* думак і пачуццяў. Чым больш сталею, тым болей душа шукае такіх твораў, дзе ўжо не душа, а дух грае першую скрыпку. Аднаму толькі радку Вашаму пярэчу: які прамаўляе пра *бескарыснасць* чалавека. Дазвольце не пагадзіцца: *не бывае бескарысных людзей.* Я гэта *ведаю*. Бо вельмі добра ведаю і хвіліны роспачы, безнадзеі, паняверкі.

Цяжка мне і сёння. Усё яшчэ цяжка. Развіталася з Уладзімірам Андрэевічам (Вы, мабыць, ужо ведаеце пра гэтую Страту). А 14-га студзеня пахавала і сястру сваю старэйшую. Хай светлы будзе іхні шлях далейшы!.. Каб і нам, хто ўсё яшчэ ТУТ, не згубіцца ў цемрыве марноты і смутку. Дзякуй Богу, што Ён дае нам паратунак! Вам – вершы, мне – працу над перакладам. Падрыхтавала, заўтра Алесь Каско адвязе ў выд-ва кнігу выбраных перакладаў. Стамілася ад гэтай працы, але і задаволеная, што пасіліла. Цяпер будзем чакаць кнігу. Плеядаўцы ж мае, мяркую, выйдуць ужо сёлета.

З сябрамі бачуся не часта. Ва ўсіх багата клопатаў, а здароўем – не асілкі, не волаты. Пры цяперашніх нашых сацыяльных варунках гэта пагатоў не дзіва. Пазаўчора завітала на гадзіну-другую Зіна Дудзюк. Яна родам з Белаазёрска, але прыязджае нячаста: у Брэсце сям'я, праца. Кантактуюся з сябрамі па тэлефоне. Ад Дануты Загнетавай і званка даўнавата не было. Трэба мне самой пагукаць яе.

Атрымала з месяц таму ліст ад Тэрэсы, напішу мо заўтра. Раней не змагла, рыхтавала зборнік, працу над якім не магла адкласці. Сардэчнае Пані вітанне маё.

І ўсім, хто мяне хоць трохі помніць, і асабліва, і асабіста Сакрату Яновічу. Хай часцей падае свой голас у "ЛіМе"!

Душэўнай раўнавагі Вам, мілы Яне! І не хварэйце, ні целам, ні душою. Хай будзе Вам добра!

Ваша *Ніна*

5 сакавіка, 95
Белаазёрск

Вясновінка дарагая!

Даруй, што я і гэтым разам не патрапіла сваечасова павітаць цябе ў дзень твайго нараджэння. Ды яшчэ з такім сталым гадавым колцам! Але ведаю, што ласкавая рука твая не будзе секчы маю пакайную галаву, бо душа твая знае, як я зычу табе Святла і Шчасця! Радуюся, што ты – з радасцю. Вось і "Крыніца" так хараша паказала цябе ў хвальцы сваёй: Ave Maria! Вось і ты сама пішаш пра "ўзрушэнне Споведзі", – значыць, душы тваёй дабраславіцца і шчырасловіцца: Ave Maria!

Дзякуй, ластавачка, за бандэрольку. Твая ўвага і кранае, і асвятляе.

Закончыла я, Галечка, працу над рукапісам выбраных перакладаў. "Адна – а з табою..." Калі рэдакцыя пагодзіцца з такім назовам, і дасць тры-чатыры аркушы да меркаваных 10-ці, будзе ёмістая кніга. Не ведаю толькі, у якім годзе. Спадзяюся на наступны.

Узялася за далейшы перадрук, а ўадначас і ўдасканальванне перакладу нарысаў па гісторыі хрысціянства. "Звязда" мяркуе даць кавалачак у адным з перадвелікодных нумароў. А дзе ўсяму рукапісу прытулак знайду, каб з яго кніга стварылася-выдалася, – няўцям. Працую сабе, дый годзе.

А за вакном і святлее, і пазеленьвае. Птушынага шчэбету не чую, а дзіцячага га́ласу ўжо дадалося. Ажно самой хочацца на дворышча, але, як кажуць, Бог не пускае. Ды можа прышле да мяне берасцейскіх дзяўчат – Машу, Свету, Валю – дык тады ўжо ўсе разам і прагуляемся.

Душа, як покаўка, набрыньвае нечым, – хочацца, каб гэта была паэзія. Але я ўжо, мабыць, так глыбока занямела, што і гаварыць з ёю, душою, развучылася.

Галубачка! Цалую цябе. Хачу, каб табе было ўтульна ўсюды.

Твая *Ніна*.

17 красавіка, 95
Белаазёрск

Дарагая Галечка!

Сёння ў мяне "день писателя": пішу лісты сябрам і знаёмым, у асноўным, у далёкае замежжа, бо ў блізкім замежжы ды айчыне часцей служыць сувяззю тэлефон. Табе, можа, і пазваню яшчэ Велікоднымі днямі, калі святкавацьму саматой. Але захацелася і кветкамі азваццa, хоць паштовачнымі. Вельмі спадзяюся, што неўзабаве (бо дні лятуць невераемна) мы й сустрэнемся. 31 травеня гётаўскі цэнтар запрашае мяне на сустрэчу з Эльке Эрб. Ці будзеш ты ў Мінску напрыканцы траўня? Я ўжо ведаю, што Галя Скарына не зможа паехаць са мной, бо 1-га ў яе школьны экзамен. Яшчэ не гаварыла з Машай Новік, і не бачылася даўно, спадзяюся, што адгукнецца днямі, дык пасэймуемся. Калі ж і Марыйка не зможа пабыць

дзень-два ў Мінску са мной, дык буду ўжо цябе прасіць па магчымасці ахвяраваць сабой, сваімі фізічнымі сіламі (сэрца твайго хапае на ўвесь свет...).

Перадрукавала нарысы па хрысціянству, аднак, трэба яшчэ вычытваць, правіць, сёе-тое дарабляць. Уключаю два твае вершы і адзін-два І. Багдановіч. Можа, да сустрэчы ў Менску патраплю прывезці і рукапіс, каб пашукаць і зацікаўленага выдаўца.

Зелянеюць дрэвы і трава. Зноў прырода кажа: я жывая!

Жывема ж і мы, галубка.

Цалую аддана. *Ніна.*

17 красавіка, 95
Белаазёрск

Дарагі, мудры, а смутлівы Яне!

Пішу на Велікодным святе, і вельмі хочацца, каб у Вас быў светлы настрой гэтымі Днямі. Не крыўдуйце на Алеся. Мы тут усе такія затурканыя і зняможаныя, што часцей за ўсё апаноўвае жаданне затачыцца ў які-небудзь глухі куток і не азывацца анікога. У Алеся шмат усялякіх праблемаў і асабістага, і грамадскага планаў. Апавяшчаць пра апошні збор да Прафесара меўся ўсім Пракаповіч. Пэўна, нешта склалася не так, як трэба. За ўсіх перапрашаю глыбока я. Хай дасць Бог нам усім яшчэ й радасць на вяку, – радасць жывых сустрэчаў і шчырых гамонак.

Сардэчнае прывітанне Сакрату. Апошнія рашэнні нашага так званага народнага парламенту, напэўна, вымкнуць з-пад ягонага таленавітага пяра яшчэ не адзін востры артыкул. Алесь Каско рытарычна, але з такім болем пытаецца: "Ці пакаецеся, Прэзідэнт?" А ў мяне і на гэта сілы няма: ад абсурду нашага жыцця і ментальнасці чынавецтва зашкальвае ўсе пачуцці і думкі...

У траўні (31-га) буду ў Менску: прыязджае нямецкая паэтка Эльке Эрб, якую я трохі пераклала па-беларуску, а яна мяне – па-нямецку. Плануецца цэнтрам Гётэ нашая сустрэча са студэнтамі Лінгвістычнага універсітэта.

Хай Вам светла думаецца і творыцца! Хінуся да Вас і да паэзіі Вашай.

*Ніна*

4 чэрвеня, 95
Белаазёрск

Мілы Яне, дабрыдзень!

Вялікі дзякуй Вам за паслугу: была ў Менску, Галя перадала пакунак ад Тэрэсы. Тэрэсе толькі што напісала. Пішу ёй па-польску, а можа – нібыта па-польску, бо напэўна ж, раблю ў лістах памылкі, але, спадзяюся, Пані разумее, бо не дакарае.

Ездзіла ў Менск дзеля дыялагічнай вечарыны з нямецкай паэткай Эльке Эрб. Хоць дужа я хвалявалася, бо не ўяўляла, як усё пройдзе і што ад мяне патрабуецца, аднак вечарына, па гарачых водгуках, удалася. Магчыма, цэнтр Гётэ выдасць друкам тую нашую размову, тое суразмоўе па радыёзапісу: прысутнічала карэспандэнтка і ўсё запісала.

Галя была са мной суткі тыя ў гатэлі, памагала мне (разам з маёй белаазёрскаю сяброўкай, дарэчы, таксама Галяю, Скарынай). Так мне добра, хораша, светла з імі, і з першай, і з другою! Тврановіч учора, ужо па тэлефоне, сказала, што мае запрашэнне на нейкую канферэнцыю ў Ольштын, так што вы пабачыцеся ў кастрычніку. А я і раней, калі ўсё зладзіцца так, як мяркуецца: з 31-га жніўня па 4-е верасня ПЭН-клуб збірае сваю канферэнцыю па пытаннях свабоды друку. Спадзяюся на жаданы побыт у Іслачы тым часам з Галяю – як чалец ПЭН-клуба і ўдзельніца канферэнцыі.

Пра смуткі з нагоды рэферэндума і ягоных наступстваў, якія ўжо праяўляюцца ў дачыненні да беларускасці ва ўсіх ейных іпастасях – маўчу: баліць страшэнна. Але трэба жыць і працаваць.

Зычу Вам моцы духу і ўмення радавацца жыццю ўжо сёння, бо яно, жыццё, дорыць нам не толькі смуткі, але й святло, і святы душы, якія не варта азмрочваць недаверам, бо – прамінуцца!

Абдымаю Вас сардэчна –

*Ніна*

23 жніўня, 95
Белаазёрск

Галечка, душанька зычлівая!

Дзякуй, што напісала мне з Дараганава. І так захацелася мне лістом сустрэць цябе ў Менску, што вось – пішу! Дзень добры, слаўная! Ты і стомленая зараз, і здарожаная: дай Бог табе фізічнай і маральнай палёгкі. Мару-мрою і я “Іслаччу”: мне добра былося там аднойчы з Марыйкай. Цяпер светлай зоркай лагоды і душэўнай раўнавагі свеціш ты. Я шчаслівая, я разумею гэта, і шчыра дзячу Богу за ўсе выпрабаванні: без іх ці мела б я такіх сяброў і сябровак? Ад хваробы я ўжо даўно не пакутую, хоць фізічная залежнасць ад чужой сілы і настрою почасту дапякае. Нясцерпна ж баліць за Беларусь, за ейную – нашую! – дзяржаўнасць, незалежнасць, культуру, духоўнасць. Страшэнна абражаюць, прыніжаюць, убольваюць антыхрыставыя “указы”. Упершыню ў жыцці адчула нянавісць да чалавека. Далей, як кажуць, ужо няма куды. Пакаялася. Вершам. [...]

Бачыш, да чаго дайшла: да лаянкі, да праклёну... Як жыць, калі рэчаіснасць выдзірае навонкі душы самыя цёмныя пачуцці? Ды так: перамагаючы іх, таймуючы, нейтралізуючы іх. Гнеў ці бывае праведны? Ці можа ён ствараць? Не можа. Стваральны толькі светлы ўздым. Мой

роспачлівы гнеў спарадзіў гэтыя вершаваныя радкі. А што народзяць у душы чытача яны? Смутак і боль. Але – ці ачышчальныя, светлаўзнослівыя смутак і боль? Не ведаю. Хоць хто б і надрукаваў яго? Ажно цікава.

А вось твае вершы дараганаўскія так хораша ляглі на душу! Радуюся за цябе і за тваё Дараганава, любімае ўжо і мною, так аддана, любасна апетае табою. Прыеду – пацалую цябе і за гэта.

А ты і ад майго імя пацалуй яшчэ раз Даніка: усцешана ягоным поспехам, віншую ўсім сэрцам з пачаткам студэнцтва, – хай шчасліўіцца сыну твайму, дый усім сябрам яго, цяперашнім і будучым! Балюча за Беларусь, але ж маецца й надзея на ейнае годнаснае зямное ўваскрэсенне – намаганнямі моладзі, такой, як твой Данік. Дай жа, Божа!

Пра пераклад мой ты не перажывай, галубка. Неяк яно будзе. Кожны з нас ужо зрабіў тое, што было патрэбна, хто што змог. Цяпер дзейных асобаў у гэтай справе дадалося і я мяркую, што гэта не той выпадак, дзе "сем нянек". Усё будзе добра, і калі кніга патрэбная Беларусі, яна выдасца. Будзьма цярплівыя.

Ну, а пра ўсё астатняе пагамонім пры сустрэчы. Яшчэ не ведаю, чым і а якой гадзіне я прыеду. На радню ўжо не разлічваю, закідвала вуду. У панядзелак, 28-га, сёе-тое раз'ясніцца. Пазваню табе, хутчэй за ўсё, 30-га.

Будзь, мая ластавачка. Прывітанне перадае табе Галя. Нам з ёю свеціць паездка ў Гановер у снежні, калі нішто не перашкодзіць. Раскажу пры сустрэчы.

Цалую цябе. *Ніна.*

6 верасня, 95
Белаазёрск

Галечка, дарагая!

Дарагая – і мне – дабратой невычэрпнаю, спагадлівасцю заўсёднай, светлынёю жывільнай. Дзякуй: добрага дня табе сёння, і ўзаўтра, і павек вякоў!

Дасылаю табе лісток з тваім вершам, пакрэмзаным мною, – даруй, – і з маім варыянтам паасобных радкоў. Памятай, што гэта толькі маё бачанне, і толькі прапанова табе глянуць на верш маімі вачыма. Успрымай мае заўвагі не як ментарства, а як зычлівы імпульс дзеля ўдасканальвання радка. Мы пра гэта ўжо гаманілі, і я ўсцешана тваім разуменнем.

Твая лімаўская падборка цікавая тым, чым і прыцягвае мастацтва: нетрафарэтнасцю, адметнасцю выяўленага аўтарам свайго духоўнага свету. Табе ёсць што сказаць – самой сабе і людзям. Хай жа дасканалым будзе тваё слова! З часам ты й сама выразна ачувацьмеш, дзе яно "гудзе" ад напругі, а дзе "правісае", "абясточанае". Глянь на гэты радок: "І болем боль пацісні": а мо лепш пасунь, ці адсунь? Паціснуць можна руку. А ты, як мне здаецца, укладала іншы сэнс. Мяркуй сама.

А пакуль – прымі сардэчнае прывітанне ад Галі. Яна аж вохкала ад жалю, што не была з намі. Ад сваёй паездкі ў Тураў не ў вялікім захапленні: патыхала афіцыёзам, нікога з пісьменнікаў-паэтаў не было, адны “вертыкальшчыкі” ды мноства міліцыянтаў: чакаўся, нібыта, і Галоўны Антыбеларус, але – не прыехаў. Цяпер разумею рэакцыю Карласа.

Я пакуль усё яшчэ ў атмасферы кангрэсу, бо даводзіцца расказваць сяброўкам пра тыя дні. Парадчу пісьмовы стол, завалены перыёдыкай. Трэба напісаць некалькі лістоў, у тым ліку і ў Польшчу, Чарнецкаму. Цалую цябе, ластаўка цёплакрылая! *Ніна.*

17 кастрычніка, 95
Белаазёрск

Залатая мая, светлая галінка!

Дзякуй, што адгукнулася, Галечка, і менавіта лістом, а не тэлефонным званком. Чытаючы радкі твае, усё роўна голас твой чую, а да ліста колькі хочаш звяртацца, чытаць-перачытваць можна. Дзякуй, родненькая, а перадусім – за давер. І зноў хачу паўтарыць: ты – паэтка, Галечка, сапраўдная, абдараваная Богам паэтка, і лісты твае хораша і грунтоўна сведчаць пра гэта. Веру, што будуць і вершы, як толькі ў хаосе спадзяванага і рэальнага ўтворыцца і пачуецца гарманічны гук, іхні голас.

...Працягваю гаманіць з табою 18-га: учора на тым радку мусіла спыніцца, бо прыехала Гэля з Лесяй, каб малую выкупаць і бялізну памыць. Так увесь увечар з імі і прабавіўся.

Верш Яна – сам Ян: магутны першастрофны пачатак і – вярэдлівае – зноў і зноў! – саматапельства ў нераце яўных і ўяўных самоты, болю, тугі. У кожнага чалавека ёсць свой балючы струп, які неабходна гоіць, а не бясконца калупаць ды калупаць. Ян баіцца жыцця, баіцца, што яно можа парушыць, а то й разбурыць ягоную ракавінку, і ўкіне яго ў вір вострых перажыванняў, рашучых учынкаў, нязвыклага рытму думак і пачуццяў. І чым гучней жыццё стукаецца да яго, тым глыбей ён запаўзае ў сваю ракавіну: там боль ужо такі салодкі, туга такая ласкавая, самота такая вабная і жаданая... Як усё, што прамінула. Але тых, хто занадта ўчэпіста трымаюцца мінулага, прамінае само жыццё. Ян, як ісцівы паэт, не можа не разумець гэтага. Праз тое яму “так складана з самім сабой”, як заўважыла ты. Дай Бог табе, сонейка, любасцю тваёю, каханнем, цярплівасцю тваёй памагчы яму падужэць і памудрэць! І ўсё ж, галоўнае залежацьме ад яго самога: ці захоча пакінуць сваю ракавіну “тугі па страчаным”, каб з радасцю, як мілату, як дар блаславёны, прыняць і “хмары атлантычныя”, і “філіпінскі вецер”?..

Сёння 18ае, сёння ў цябе зноў канферэнцыя. Ці прыехаў Ян? Не пакутуй, родная, калі не прыехаў. Яму патрэбен час, каб супакоіцца ад сустрэчы з табой, каб прааналізаваць свае паводзіны, каб упэўніцца, што ты не

пасягаеш ні на яго, ні на ягоную – сястрынскую – маёмасць, што няма ніякага замаху, ёсць толькі адна глыбокая і шчырая любоў, тое рэдкаснае пачуццё, у якім пераважае, магчыма, нота мацеркі, не толькі жанчыны. Не прыехаў, дык напіша. І сустрэчы яшчэ будуць, будуць!

Паведаміш, у якім нумары пойдуць вершы Яна. А можа, і набудзеш мне тое “Полымя”, бо ў нас яго няма ў продажы. Я й 8-га нумара са сваім водгукам на Алесева “Паляванне...” так і не набыла.

Нагу сваю менш-больш падлечыла, “начаваю”, як Леся яшчэ нядаўна казала, спакойна, без болю. Сяргей Сяргеевіч з 23 кастрычніка й да сярэдзіны лістапада будзе ў Мінску на курсах па су-джок-тэрапіі. Недзе кватэру-куток наймаць будзе нанач. Шкадую, што не магу яму памагчы (хоць ён і не просіць): ва ўсіх маіх менскіх сяброў малыя кватэры, а Разанава няма – у Фінляндыі.

Пазаўчора дастала з паліцы “Цытадэль” Экзюпеup і падключыла машынку: пачала першапачатны, па сутнасці, парадковы чарнавы пераклад. Лайдачыць ужо збрыдла, а фонд Сораса затрымліваецца са сваім заказам: як сказаў Анціпенка, чакаюць дагавораў з гаспадаром, як толькі атрымаюць, дашлюць працу і мне, бо іспыт я вытрымала паспяхова. [...]

Але ж, адгукнулася Венета з Габрава, даслала кніжку “Габраўскіх анекдотаў”. 14га па тэле паказвалі рэпартаж з кангрэсу, але я прапусціла, апамяталася, ды позна.

Цалую цябе, галубка. Адгукайся зрэдзьчас.

*Ніна.*

**PS** 26-га ў Карласа дзень народзінаў. Яму быў бы прыемны ў той дзень і твой голас.

**PPS** Чула, выйшаў пераклад Бібліі Сёмухі. Намякні яму пра маю зацікаўленасць, буду вельмі радая атрымаць з аўтографам.

23. XII. 95

[на паштоўцы] Дарагі Яне! Спазнілася я на Калеснікавы чытанні на два дні. Дзяўчаты расказвалі, як і што адбывалася, добрым словам згадвалі Вас. Не пабачыліся мы – што ж, няхай Новы год пашчодрыць на сустрэчы. Віншую Вас і зычу, каб былі ў здароўі і ўсміхаліся ўдзячна жыццю зямному, у якім ёсць месца й радасцям. Віншую Вас з публікацыяй у нямецкамоўнай анталогійцы беларускай прозы і паэзіі. Сустрэчы нашы ў Гановеры, Бярліне і Нойштрэліцы былі ўдалыя.

Перапрашаю, але буду ўдзячная, калі перадасце Пані Тэрэсе паштовачку. Збяруся з сіламі і напішу ёй болей ужо ў Новым годзе.

Ваша *Ніна*

12 траўня, 96
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Вітаю Вас – праз вёрсты і час. Віншую з днём нараджэння. Хай яшчэ доўга, доўга мужна б’ецца Вашае сэрца, хай жывяць душу Вашую светлыя, чыстыя крыніцы пяшчоты, любові, натхнёнасці!

Даўно мы не бачыліся, і нагоды такой не выпадае. Затое мы сустрэліся пад адной вокладкай – у гановерскім альманаху „Ostara 4”. Галя казала, што хутка ў «Полымі» будуць Вашыя вершы. Чакаю, мне вельмі блізкі Ваш свет душы.

Хай здаровіцца, хай творыцца!

Абдымаю – *Ніна*

11 ліпеня, 96
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Як гляну ў акно – а ў двары ўжо такія гарачыя рабінавыя гронкі: мінае лета!.. А я за гэтыя паўгода ўсяго тры публікацыі падрыхтавала (яны яшчэ не выйшлі на людзі, чакаюць свайго часу ў рэдакцыях «Крыніцы», «Полымя» ды «Культуры»): пераклады з Сільвіі Гайст, Роланда Бальцара ды Эльке Эрб. Уласнае ж недзе так глыбока ў душы выспявае, што гэты працэс нават для мяне самой няўхватны... Да таго ж, думкі часцей круцяцца вакол зямнога: даладжваецца мая новая кватэра, даладжваецца вельмі марудна, з «сырым рыпам», пераборы ўсё адкладваюцца й адкладваюцца, меркавала ўжо ў травені абжываць новы кут, а цяпер, як бачу, дай Бог, каб у верасні ўлазіны справіць. Шмат што – і з побытавага – купіць-набыць трэба, часта ж то грошай няма, то няма ў крамах патрэбнага. Але ж неяк яно будзе, гэта нават не драма, хутчэй – вадэвіль па-лукашэнкаўску. Перажывецца. Буду ўсцешана павітаць Вас ужо не па вуліцы Энергетыкаў, а па вуліцы – Леніна! А як жа, яна ж галоўная ў нашым мястэчку, без ленінскай магістралі яшчэ доўга лукашэнкаўскі свет не зможа абысціся!..

Пытаецеся ў мяне пра беларускіх эміграцыйных паэтаў. Я не дужа добра знаёмая з іхнай творчасцю. Чытала толькі Арсенневу, Салаўя, Бярозку ды Сяднёва (у перыёдыцы). Папраўдзе выбітная паэзія, вельмі блізкая мне, у Алеся Салаўя. Гэта вельмі тонкі аналітык душэўных станаў чалавека, паэт пранікае ў космас перажыванняў глыбока, выяўляе цэлыя светы дакладным, мудрым і росным словам. Багацце і мовы, і формаў наўздзіўнае. Гэтым адметная і лірыка Арсенневай, але паэтка паклікана бясконца нагадваць чалавеку пра хараство Прыроды і веліч Яе, веліч Стварцы ўсяго зямнога, у тым ліку і чалавека, і нястомна запрашае яго ўзняць галаву, – хоць на момант, – адарвацца ад будзённых вымогаў цела і ацаліць зрок душы вечнай красою: «Над шэрай краінаю тае апырсканы золатам дзень...».

Анатоль Бярозка – псеўданім Мацьвея Смаршчка. Ён жыве ў Мантысэла, зрэдзьчасу дасылае мне паштоўкі ці кароткія лісты. Прыслаў і зборнічак «Адзінаццаць вершаў», даволі слабенькіх у мастацкіх адносінах, але з выразнай тэмай тугі па Радзіме і пакуты самотніка. А Сяднёў прасветлены, і вершы ягоныя заўсёды – пра дух і Дух. З такім чалавекам напэўна добра і пэўна ў жыццёвай дарозе. Ён почасту бывае ў Беларусі, але я з ім не знаёмая так, як Галя. Дарэчы, з Галяю, магчыма, неўзабаве пабачымся: павінна прыехаць з Матрунчыкам і рэдактарам майго перакладу нарысаў з гісторыі хрысціянства, які рыхтуецца ў «Трох віленскіх пакутнікаў». Хай наспеліцца такая радасць!

Хай радасць будзе хлебам штодзённым і дзеля Вашай душы!

Адгукайцеся – па магчымасці. *Ніна*

14 кастрычніка, 96
Белаазёрск

Дарагая мая, даражэнечкая!

Люблю атрымліваць твае лісты – люблю быць з табою, і слухаць, і гаманіць, і маўчаць. Ты ды Галя Скарына – самыя блізкія мне галінкі, найнеабходнейшыя сэрцу майму, душы маёй жывінкі. Ведаю, што гэткае ж адчуванне роднасці са мною і ў вас абедзьвюх, – адсюль і ўдзячнасць Богу і лёсу за непакінутасць, за хараство жыцця. Дзякуй!

І за вершы твае – дзякуй. Мне з імі, як з табою, светла і думна.

Галечка, перабралі-перагарталі-ператасавалі ўсе паліцы з аўтографамі (кнігі): Янаў зборнік – як змаява́ла, няма. Я мяхоў 17 кніг параздавала ў час пераезду, аддала што ў школу нр 3, што сястры, і, магчыма, выпад-кова туды кудысьці трапілі і Янавы вершы. Без іх жа напісаць хоць што-небудзь я не магу. Дарэчы, і таго «Нёмана» я не маю. І цяпер вось што думаю: ты ж неўзабаве, спадзяюся, прыедзеш. То прывязі, калі ласка, і зборнічкі Яна, і тыя вершы (калі ёсць магчымасць лішні раз не аддрукоўваць), што чакаюць свету ў «Полымі», і той «Нёман». Калі Законнікаў апублікуе іх, у кастрычніцкім нумары? Пры нагодзе пацікаўся, калі ласка, у які нумар ён паставіў і мой пераклад вершаў немца Роланда Бальцара. Ці маеш ты нр 5 (травеньскі) «Полымя» з мініяцюрамі Брыля? Я дагэтуль не чытала, а ў бібліятэцы няма, і я ўжо не выпісваю больш (грошы!..).

Я ўсё яшчэ жыву нейкім раслінным жыццём. Усё ўтульваюся ў сваім гняздзе. Яно ўжо, можна пагадзіцца, абжытае. Далі газ, падключылі батарэі. Перабоі з гарачай вадой толькі, і не могуць знайсці прычыну, па якой яна «тахікардзіруе» ў нашым – скрайнім – пад'ездзе. За два месцы так ссумавалася-знудзілася па гарачай ванне!.. Калі гэтак яно заўсёды будзе, то – бяда. Але я ўсёадно радуюся кватэры, прасторнай, светлай. На двары зноў сонечна і цёпла, учора добрых паўдня каталася па мястэчку, спярша сама, потым з Галяю. У галаве пуста і ціха, нейкая бяздумная ідылія,

самарастапленне ў вакольным прыродным свеце, знітаванасці з якім, угрунтаванасці ў якім не здольны парушыць ніякія сацыяльныя закалоты, ніякія жыццёвыя мітрэнгі і бруд. Гэта было б добра, калі б такі стан спараджаў творчыя памкненні, аднак... Пераклала толькі з дзесятак вершаў украінскага прыяцеля Уладзіміра Барны. Ён просіць выдаць цэлы зборнічак у маім перакладзе, гатовы й выдаткі аплаціць, але я такая далёкая ад выдавецкіх справаў, што вельмі цьмяна ўяўляю, якім чынам гэта можна зрэалізаваць.

Маю даволі настойлівую прапанову-просьбу напісаць сцэнар дакументальнага фільма пра Белаазёрск, каб стварылася як бы візітка горада. Дык зноў-такі, яшчэ не цямлю, як падступіцца да гэтай тэмы.

Не бралася й за пераклад «Цытадэлі»: зноў-такі, не магу адшукаць самую кнігу (!). Нездарма кажуць, што перасяленне тоесна пажару ў хаце...

Яшчэ раз насалодна перачытала два твае апошнія лісты. Кажаш, варта было б і мне занатоўваць думкі. Каб жа яны былі!.. На некалькі старонак мо й набярэцца, бо неяк запісвала сёе-тое. Калі змагу аддрукаваць да твайго прыезду, нагадай, каб дала пачытаць, мне дарагая твая думка.

Цалую цябе ва ймя Айца, й Сына, й Святога Духа. Да сустрэчы, родненькая!

*Ніна*

14 кастрычніка, 96
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Складаю Табе ўдзяку сардэчную за паэтычнае віншаванне з маім вераснем ужо ў новай кватэры, куды ахвотна, і ў надзеі, што гэта спраўдзіцца, запрашаю на пагасціны. Цяперашні адрас: вул. Леніна, д.48, кв. 94, нумар тэлефона ранейшы. Ужо, можна сказаць, абжыла трохі й гэты куток. Радуюся большым зручнасцям, спуску-выезду ў двор. Вось ужо амаль тыдзень свеціць лагоднае сонца, дык я, карыстаючыся пагодаю, штодня выязджаю падыхаць свежым паветрам. А то ж гадамі сядзела ў чатырох сценах...

На душы ціха і пуста. Творчага свербу амаль не адчуваю, хоць ужо даўно знелюбіла сябе самую за тое, што адцяла сябе ад свету пачуцця, бо ў жаданні збавіцца ад пакутаў, збылася не толькі хмары, але й сонца за той хмараю. І цяпер есмъ аки пустыня пад начным небам – зледзянелая і бясплодная. Стамілі й пярэбары.

Чакаю Галечку, ужо даўно спее – ніяк не выспее ейны прыезд у Белаазёрск з Матрунчыкам. Люблю яе, дзівуюся ейнай душэўнай святлоце, шчодрасці, шчырасці, мудрасці і – ахвярнасці. Вось ужо хто папраўдзе Богам вядзёны!

Будзь, Дружа! Адгукайся. *Ніна*

14 лютага, 97
Белаазёрск

Дарагая і светлая!

Спадзяюся, што гэты лісток і мая пёркакветачка трапяць у твае ласкавыя ручанькі акурат у дзень твайго нараджэння: вельмі хачу хоць гэтым парадаваць цябе, мілая душа! Няхай усміхаюцца табе ўсе твае сонцы, хай жывяць цябе радасцю і паўнатой жыцця, шчасцем сэрца!

Меркавала, што перапішу табе й верш Багдановічу, але перадумала: неўзабаве, магчыма, ты яго разам з іншымі, ужо вядомымі табе, пабачыш і прачытаеш у “ЛіМе”. Гэтак будзе цікавей.

Увесь студзень і палову лютага рыхтавала перавыданне выбранага. Гэта ініцыятыва Марчука, дырэктара “Мастацкай літ-ры”. На тры дні мінулага тыдня прыязджаў Валодзя Васілевіч і вельмі дапамог дааформіць перадрук. Заўтра Галя едзе з вучнямі ў тэатр Купалы на нейкі спектакль, дык заадно завязе Валодзі й папкі з будучай кнігай, а той ужо адвязе Марчуку. Назвала яе – “Пяты сезон”, сезон душы і духа.

Заўтра грамніцы – палавіна зіміцы. Буду адпачываць: бяру на суткі Леську, мы ўжо засумавалі адна без адной. Леся патроху ўжо самастойна чытае, гуляе ў шашкі і вучыцца са мной у шахматы. Вялікая фантазёрка і шчырая мне памочніца. Уладзя Арлоў даслаў ёй кнігу “Адкуль наш род”, а Валодзя Ліпскі – “Нам засталася спадчына” з аўтографам усёй рэдакцыі “Вясёлкі”. Уручу 17-га красавіка, у дзень нараджэння: шэсць гадкоў стукне!

Цалую цябе, Галечка. Хай прадвесне шчодра атуляе цябе святлом і абдорвае радасцю!

Твая *Ніна*

**PS** Галечка! Мая пёркаграфія значна лепш – багацей, завершана – будзе глядзецца ў рамцы-асадзе і пад шклом (не будзе запыльвацца).

25. 06. 97

Галечка, у лісьце не сказала я нічога пра вершы, бо яны – глыбокія, і не на кожны слых, а гэта толькі адна з адзнак сур’ёзнай вартасьці.

Будзь! Хай творыцца – і ў смутку, і ў радасьці, якой і зычу!

Цалую. *Ніна*

20. XII. 97 Дарагі Яне!

Выглядае на тое, што гэты год, які паступова і няўхільна ссыпаецца ў неварачь, быў ня з горшых у Цябе. Цешуся ў душы гэтым, радуюся Тваім радасцям, пра якія магу здагадвацца, і набыткам: віншую з кнігай, Дружа! Яна вельмі цэласная, і вельмі блізкая мне духам і настроем. Так, гэта “свет першы”, бо непаўторны, але чаму – “апошні”? Хай творыцца! Зычу суладдзя думак і пачуццяў і ў годзе надыходзячым. Хай Святло ахінае Цябе сваім

жывільным крылом! З Калядамі! Абнімаю – *Ніна*.

4 студзеня, 99
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Глыбока ўдзячна Вам за паштоўку. Я ж і не ведала нічога пра Галю, бо сама з 14-га па 25-ае снежня была на прафілактычна-лячэбных кропельніцах у лякарні. Можа, і званіў хто, але ж у кватэры без мяне пуста, яна на замку.

Сёння, як толькі даведалася ад Вас пра няшчасце, адразу ж патэлефанавала ў Мінск. На маю ўдачу, удома быў Данік. Ён расказаў, што маме значна лепш, што, калі і далей так пойдзе, то чысла 10-га лютага яе выпішуць дадому, хоць, безумоўна, з паўгоду яшчэ давядзецца па-сапраўднаму ачуньваць і дужэць. Галя моцная духам, яна выкараскаецца! Давайце дапаможам ёй у гэтым найпершым нашымі светлымі, умацавальнымі думкамі, пасыланымі ёй – з верай, што ўсё будзе добра. Мы не надта ўмеем спраўляцца з нашымі эмоцыямі, але варта помніць, што страх, роспач, смутак – энергіі адмоўныя, а Галя цяпер, як ніколі, мае патрэбу ў душэўнай падзарадцы жыццесцвярджальнымі эмоцыямі.

Галя, мабыць, не паспела перадаць Вам маю кніжачку. Нічога, перадасць.

“Тэрмапілы” я атрымала, і грошы таксама, вялікі дзякуй. Часопіс атрымаўся мо і задужа сур’ёзным, але гэта не страшна. Адладзіцца! Віншую Вас, і дай Бог сілаў на наступныя нумары.

Я занята больш целам, як духам, хоць і разумею, што дысбалансу тут быць не павінна. Лячуся. Трэба збірацца на чарговы сеанс масажа ў Гародню, але гэта пасля 16-га недзе, бо 16-га студзеня трэба быць у Берасці: пісьменніцкі сход.

1-га віншавала Дануту Бічэль з днём нараджэння, а ў яе смутак таксама: больш не дазволілі апекавацца музеем Багдановіча. Разумею яе стан: як вырваная з жыцця... “І все на світі треба пережить...” (Кастэнка).

Трымаймася!

Хай святлее ў акне Вашым і ў сэрцы!

З Калядамі, з Новым годам!

*Ніна*

10. 04. 99

Дарагі Яне!

Дзякую за добрае слоўка пра “Палёт над жытам”. Цяпер не лятаецца... Дасылаю пераклады з нямецкай. Гэтая праца таксама даўняя ўжо, з 14-аркушавага майго тома перакладаў, падрыхтаванага для “Мастацкай літаратуры”. Ляжыць той том ужо гадоў пяць, як не болей: няма грошай на

выданне. Гэтаксама без руху там і “плеядаўцы” ў маім перастворы. Прычына ўсё тая ж – адсутнасць грошай.

Цешуся, што Галя памалу, але ўпарта папраўляецца. Жыццё яшчэ не вычарпалася ў ласцы да ўсіх нас! Шчаслiва!

*Ніна.*

11. 05.99 Дарагі Яначку!

Вітаю і сардэчна віншую з днём Тваіх народзінаў! Здароўя, творчага крылявння душы, шчасця бачыць зямны зеленасвет, кранацца яго рукамі, нагамі, вуснамі, абдымкамі, дыхаць ім і пяшчоціцца ў ім!

З Галяю яшчэ не перагуквалася. Сёння ў Менск паехала ў камандзіроўку Галя Скарына, яна сустрэнецца з Галяй, перадасць ёй маё куцае слоўка пра Лавант*, каб Дзіна змагла адразу набраць. А я дасылаю другі варыянт Табе дзеля азнаямлення.

Шчаслівая Галіным шчасцем: яна зноў на ўласных нагах! Светла ад вашага ўзаемнага Неба!

*Ніна*

* **Крысціна Лавант** адна з самых яркіх і значных нямецкамоўных паэтак. Крытыкі параўноўваюць творчасць яе з творчасцю Фэдэрыка Гарсія Лоркі ці мексіканкі Сор Хуаны Інэс дэ Ля Круз, якія, паводле Тобіяса Голіса, "сваёй лірыкай зваёўвалі ў начным змаганні сваіх дзманаў".

Дэманы фізічных пакутаў, неўявімага душэўнага болю і адзіноты бязлітасна выпрабоўвалі Крысціну Лавант да яе апошняй гадзіны жыцця (1915 – 1973). Яна была дзевятым дзіцем у беднай гарняцкай сям’і з вёскі Грос, што ў Лаванталі (Аўстрыя). Цяжка хварэючы ад самага малку, яна не мела магчымасці набыць ні адукацыі (скончыла толькі чатыры класы пачатковай і адзін асноўнай школы), ні прафесіі, не зведала ніякіх зямных радасцей, не пагрэлася ў сонцы ані кахання, ані мацярынства..

Але мова тут не пра тое. І нават не пра вечна напятую волю паэткі ("Мая воля змушае мяне трымцець..."). У духоўнай скарбніцы свету ёсць тры кнігі паэзіі Крысціны Лавант: "Кубак жабрака" "Калаўрот у месяцовым святле", "Крык паўліна". І найістотнейшае – гэта. Жыццё духу, а не варункі лёсу.

Хоць паэтка і сказала: "Мая творчасць гэта маё скалечанае жыццё".

Адэкватнасць уласнаму "я" – перадумова і грунт аўтарскай непаўторнасці.

І гарантыя ўразлівых перазоваў з душамі іншых.

Я не патраплю аналізаваць лірыку Лавант. "Не поверить алгеброй" мне ейны свет смутку і святла месяцовага.

Але вось я чытаю: "Кроваплын да бога полымя – кроваплын да бога сцюжы"..., і гэтая метафара, як код усяго зямнога жыцця чалавека, успышліва стаецца маім уласным кроваплынам.

І выглядвае з куста крапівы архангел...

6. 09. 99 Дарагая Галіначка!

Так радасна глядзець на цябе – прыгожую, стройную, азораную ўнутранай лагодай і светлым спакоем. Дзякуй за гэты – ціхамірна крынічны – здымак. І за ліст. Я выводжу гэтыя каракулі ў сваім улюбёным куточку пад рабінай у вучылішчыным двары. Ужо рознакаляровае, але яшчэ густое зяленіва, дрэвы, кустоўе і градкі з чарнабрыўцамі ды ўжо насеннымі кацярынкамі захінаюць мяне ад староннiх цікаўных вачэй. Я тут штодня, смакую сонца. Чытаю Кнута Гамсуна і Анні Эрно, дасланыя Кайсай, шведкай-перакладчыцай і маіх вершаў. Трэба напісаць і ёй, але ўжо за сталом, бо ёй цяжка будзе зразумець мае іерогліфы. Сядзець у хаце не хочацца, хоць ёсць пільная і цяжкая справа – да Новага года перакласці 170 стар. французскага тэксту для ARCHE. Калі патраплю, мо і для “Тэрмапілаў” падрыхтую нізку. Прывітанне Яну. Хай крыляецца вам. І шчасціць.

Цалую цябе, галубка.

*Ніна*

27 снежня, 99
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Калі б ні даляцеў да Цябе мой голас, а зычу, каб Табе было і светла, і цёпла, нават у завіруху! Пагатоў, што побач з табою гэты ласкавы і шчырасэрды праменьчык – Галя! Вітаю вас абаіх, зычу напярэдадні ўсіх Святых Дзён студзеня Нябеснага Апякунства, любові і кахання. А яшчэ хачу сустрэчы з вамі, дык мо Неба і таму паспрыяе.

Дзякую, мілы Яне, за «Лісце срэбнай таполі». Гэта Твая кніга, Твае тэмы – блізкія душы і родныя духу. Ёсць заўвагі па мове, бо заўжды мажліва дабраць дакладнейшае слова, я ведаю тое па ўласнай працы перакладчыка. Ёсць русізмы, хоць і няшмат. Можа, калі пры стрэчы пагартаем разам кнігу з маімі мецінамі на старонках. Ці Табе мус тое ведаць ужо зараз? Крыху стамляе аднастайнасць формы паэтычнага выкладу. А ў цэлым – кніга цікавая і вартая чытацкай увагі. Шчыра віншую!

Кажуць, у Менску прадаецца ўжо і «Душою з небам гаварыць». У мяне пакуль толькі «сігнал».

Працую (перакладаю). Стамілася. Мо ў лютым адпачну. Ваша *Ніна*.

10 лютага, 2000

Мілая, дарагая Галечка!

Праз тыдзень Дзень твайго нараджэння. Хай бы своечасова дапаў да цябе мой голас, святло маіх зычэнняў быць шчаслівай, у леце жаночага веку праймацца сонечнай ласкай прадвесня, мацавацца ў светлых пачуццях, думках, у грунце жыцця. Няхай здаровіцца! Я цалую цябе. І Яна цалую – з

удзячнасці за «лірычнае адступленне» пасля прагляду перадачы. Галя запісала яе на касэту і падарыла мне, хоць і не маю відэамагнітафона. Маёмныя бяруць на прагляд. Дзякуй, Яначку, і за запрашэнне ў хату. Наўрад ці гэта ўжо мажліва. Але ўсцешна, што душы нашыя прыхільныя адна да адной. Прыязджайце да мяне!

Цалую. *Ніна.*

29 сакавіка, 2000

Галіначка-пташыначка!

Дзякуй за «віртуальную гамонку», за ліст – шчыры і змястоўны, за ўразліва-метафарычную паштоўку! Я віншую вас з Янам! Я не ведаю, якое яно, жыццё ў па́ры. Але з гадамі чалавек і асцярожнейшы на ласку, і ўразлівейшы на яе, і, напэўна, больш цэніць душэўнае святло. Радуюся за вас абодвух, за ўзаемназбудаваны масток пяшчоты над прорвай самоты. Вам утульна, прытульна – і ў свеце пабольшала хараства!

Пішу табе на велікоднай паштоўцы: напярэдадні Свята, магчыма, не азавуся. У красавіку прадбачацца паездкі, 7-га ў Янава на сустрэчу з вучнямі ды інтэлігенцыяй у ДК падчас прэм'еры дзіцячай оперы па маёй казцы. І ў Берасьце: Алесь Каско ніяк не вызначыцца з датай прэзентацыі «Мелодыі срэбнае ночы» Вал. Барны ў маім перакладзе, з сустрэчай і з Барнам, які жадае прыехаць з Цярнопаля.

Буду радая тваёй новай кніжцы. Пры магчымасці гляну і «Полымя» № 4.

Мне не «вяршуецца». Напісала ў «Культуру» водгук на «Залатую жрыцу Ашвінаў» Іпатавай. Раман лёг дадушы, найперш плынню духоўнасці. І сюжэт вельмі драматычны, востры.

У красавіку ў Мінск збіраецца прыехаць Ярашэўскі, абяцаў прывезці зб-к франкамоўнай бельгійскай паэзіі, калі што выбяру – перакладу для «Тэрмапілаў».

Галі выдалілі жоўцевы пухір. Ужо працуе, але пачуваецца слаба. Вітае цябе і Яна.

Цалую вас – *Ніна.*

12. 05. 00 Дарагі Яне!

Хай у юбілейныя дні Твае светла і пагодліва будзе душы Тваёй. У зборніку артыкулаў пра Цябе ў маіх нататках прадублявалася ўчыненая «Нёманам» памылка ў радках Э. Дзікінсон. Трэба чытаць: «Хоць масло в лампу льют, необязателен фитиль – но фосфоричен Труд». Акурат тое я і хацела падкрэсліць – святлістасць, яскравасць, адметнасць Тваёй працы, творчасці Тваёй. Няхай шчырые душа, святло яе абавязкова заўважыцца некім у сутонні будняў чалавечых. Радуюся, што Ты не самотны, маеш не толькі кнігі, але і Галю! Шчасця!

Яшчэ напрыканцы красавіка прыязджаў да радні Міця Ярашэўскі, пакінуў

у Брэсце мне кнігу бельгійскай суч. паэзіі, але Марыйка Новік хварэе і ўсё ніяк не выбярэцца ў Белаазёрск з тым пакункам. Як толькі перачытаю ды зацікаўлюся, зраблю нізку перакладаў і ў Твае «Тэрмапілы».

Жыву звычайна, а дакладней, апатычна. Але мела і радасць 7-га красавіка – прэм'еру мюзікла па маёй казцы «Краіна Белы Свет». У цудоўнай інтэрпрэтацыі Янаўскага дзіцячага ўзорнага тэатра.

Адбымаю Цябе і Галю, цалую, зычу Крылаў!

*Ніна*

29 траўня, 00
Белаазёрск

Дарагая Галечка!

Не дзівуйся гэтаму бланку: здаецца, і на Беласточчыне, як на Берасьцейшчыне, зараз апантаная спякота, дык я вырашыла даслаць у якасці прахалоды гэтую заснежаную яловую лапку (на Крэмль не звяртай увагі)! Дзякую, мілая, за пададзены з Менску голас і за кніжку Ілакавічуўны. Глыбокая, вельмі блізка мне паэзія. Калі зарганізуюся, некалі перакладу з яе хоць вяночак вершаў, можа, нават і для «Тэрмапілаў», калі Ян ухваліць гэтую ідэю. Пакуль на стале франкамоўныя бельгійцы. Зборнік, перададзены Міцем, на жаль, адрасаваны перадусім школьнікам, але, памойму, можна выбраць з дзесятак тэкстаў, «всем возрастам пакорных». За лета нешта зрыхтую. Праўда, пакуль мне больш даспадобы пасвіць кузурак у траве, чым думкі ў галаве.

Прывітанне табе ад Галі.

Абдымаю, тулюся да цябе і Яна. – *Ніна*.

26 жніўня, 00
Белаазёрск

Мілы, слаўны Яне!

Шчыра перапрашаюся, што падоўгу маўчу, і нічога не дасылаю. За лета двойчы перамовіліся з Галяй па тэлефоне, дык быццам і з Табой пагаварыла. Пераклады з бельгійскай франкамоўнай паэзіі даўно зроблены, не даваўся, а я не ўмела настойваць, не налягала, толькі верш “Бяда” Карэма, а хацелася ўключыць у нізку і яго, праз тое і адтэрміноўвалася адсыланне. Хоць, вядома, прычына прамаруды маёй гэтай залягае значна глыбей. Мне стаецца нецікавай мая праца са словам. Нейкая стома, ці вычарпанасць. Не магу вызначыць уласны стан душы. Усё больш цягі да іншага, а перадусім – да “малявання пер’ем”, да пёркаграфіі, як назвала мае кветкавыя карцінкі Алена Васілевіч. Вершы сыйшлі ад мяне, негасціннай. Цяжэй даюцца пераклады. Ад замоваў напісаць водгук ці рэцэнзію папросту атрэсваюся, як няздатная на тое. Адным словам, несур’ёзны я літаратар.

Яначку, да перакладаў гэтых не даю ніякай прадмовы, бо самая не ведаю ні жыццёпісу, ні творчасці выбраных аўтараў. А Белаазёрск не тая мясцінка, дзе можна было б здабыць звесткі. Дай рубрыку “З сучаснай франкамоўнай бельгійскай паэзіі”, дый годзе, і няхай кожны чытач уяўляе сабе аўтара першаўзору і ягоны светагляд. Няхай кожны верш будзе для яго жывапіснай мініяцюрай ці карцінкай, як у мастацкай галерэі, дзе зазвычай варта пастаяць, угледзецца і падумаць, паслухаць, як той верш-карціна адгукаецца ў яго ўласнай, чытачовай, душы. І няхай будзе яму цікава.

Перачытала Тваю шчырую чэрвеньскую паштоўку. Хочацца верыць, што час, які праміну́ў з Твайго сумнага побыту ў Менску, злагодзіў Твае гаркавыя думкі і пад’ясніў настрой. Сумна, канешне, што грамадства, – а яно ж складаецца з паасобных, ведамых намі людзей-чалавекаў, – не ўмее Паважаць Чалавека. Не ўмее ўласна аддаць яму належную ша́ну. Бо ўсім нам хочацца і прызнання, і цяпла. Ну, але ўжо што ж... Свет халодны і абыякавы, жорсткі. Дык і спадзявацца на яго не варта. І не запанурвацца ад ягонай няўвагі. Бо ўсё тое – мірское, зямное, дачаснае. Не свет трымае нас, а тое святло і цяпло, якое мы вылучаем з душы ўласнай дзеля паблізных і каханых-любых нашых. Ды Ты і сам гэта ведаеш. Вось чаму і веру, што Ты даўно ўжо супакоіўся і паяснеў душою.

Няхай шчыруецца Табе светла і плённа і як выкладчыку, асветніку, і як Паэту!

Ласкава прыгортваюся, цалую Галю –

ваша *Ніна*.

16 лютага, 01
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Атрымала я з Брусэля стосік паэтычных і нават дзве літаратуразнаўчых кніг, дык спяшаюся сказаць Табе пра некаторыя мае пахібкі-недакладнасці. Галя абяцалася перадаць Табе пра Каміля, які ў мяне зафігураваў як Каміла. Па-французску імя гэтае і пішацца, і вымаўляецца аднолькава: Camille – Камій. А мо варта гэтак і перадаваць і беларускаю мовай? Адпрэчыць традыцыю? Звярні, калі ласка, увагу і на вось гэтыя прозвішчы: Ражэ Гасан (Roger Goossens) – я падавала раней як Гассанс. У франц. мове апошнія літары –s, –d, – r, –t амаль заўжды апускаюцца, не гучаць, але пішуцца, хоць бываюць і выняткі з гэтага правіла. У дадзеным выпадку я мяркую, што правільней будзе апусціць. Дык папраў, калі ласка: Каміль Гаман, Ражэ Гасан, Жак Ізаар, – хай гэтак будзе. Але мо варта параіцца яшчэ з кім? У Белаазёрску мне няма з кім раіцца. Я зараз выпішу Табе імёны ў дзвюх мовах, у Цябе напэўна знойдзецца мажлівасць удакладніць транскрыпцыю і пераклад.

Франсіс Андрэ (Francis André, 1897—1976), Мары-Клэр д’Арбэ (Marie-

Claire d' Orbaix, 1920), Жан-П'ер Верагжан (Jean-Pierre Verheggen, 1942), Мішэль Гаран (Michèle Garant, 1946), Ражэ Гасан (Roger Goossens, 1903—1954), Каміль Гаман Camille Goemans, 1900—1960), Эрнэст Дэлэў (Ernest Delève, 1907—1969), Францыа Жакмэн (Françis Jacqmin, 1929), Жак Ізаар (Jacques Izoard, 1936), Марыс Карэм Maurice Carème, 1899—1978), Норж (Géo Norge, сапр. імя Georges Mogin, 1898 – ?), Анры Фалэз (Henri Falaise, 1948), Ашыль Шавэ (Achilles Chavée, 1906—1969).

Можа, варта ў часопісе даць прозвішчы паэтаў у дзвюх мовах? Прыкладам, так:

Ашыль Шавэ
(Achilles Chavée, 1906—1969).

А можа гэтак будзе занадта грувастка, пагатоў, што перакладзена ўсяго па аднаму-два вершы? Глядзі сам.

У мяне пуставата і млява. Крыху пагартала томік Жакмэна, ягоная паэзія мне дужа імпануе. Можа, перакладацьму для "Крыніцы", якая просіць пасупрацоўнічаць.

Гарнуся з любасцю –
*Ніна*

16 сакавіка, 2001
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Дзякуй за сардэчна-ўзнёслае стаўленне да маёй творчасці, у прыватнасці, да перакладаў. Пра іх ніхто яшчэ дасведчана не азываўся ўвогуле. Зрэшты, у друку было толькі некалькі нізак. Дзве кнігі, выбраныя пераклады з розных моваў – 14 арк. – ды паэзія плеядаўцаў праляжалі ў "Маст. літ-ры" 10 гадоў (плеядаўцы ў 95-ым былі ўжо нават набраныя). Я забрала гэтыя кнігі з в-ва. Плеядаўцаў, магчыма, паможа выдаць "Вежа". Абавязкова дашлю, хай толькі хутчэй з'яўляецца!

Дасылаю тое, што Ты просіш. Мне падаліся гэтыя два вершы – Верагжана і Андрэ – занадта просталінейнымі, адзін дужа дыдактычны, другі публіцыстычны з гумарным – ці драматычным? – адценнем, яны, па-мойму, выбіваюцца з той нізкі. Глядзі сам. "Бяду" Карэма таксама параўнай з тым, што маеш, магчыма, я тут сёе-тое выправіла. Кажу, магчыма, бо передрукавала з такога скрэмзанага чарнавіка, што сама ўжо не ведаю, што дасылала Табе.

Пераклала 266 радкоў "Вясны" Жакмэна". Аддаю ў "Крыніцу". Перакладацьму астатнія поры году – "Лета", "Восень", "Зіму". Яшчэ не ведаю, дзе прытулю іх.

У травені мае адбыцца "круглы стол" у Скарынаўскім цэнтры па тэме літсувязяў з Бельгіяй. Запрасілі і мяне. Можа, бельгійскі бок паможа тады і выдаць асобнай кнігай гэтыя "Поры году" Жакмэна.

Настрой не дужа ўсмешлівы. Слабы бацька, 7-га было зусім кепска, мікраінсульт, але ўсё, і твар, і мова, адладзілася. Аднак – 99-ы гадок...

Самую таксама даймаюць перапады ціску. Учора дакторка навыпісвала жменішча таблетак, так што буду есці і здаравець.

Як Ты, як Галя? Хай усё будзе добра! Цалую вас абаіх.

*Ніна*

МАРЫС КАРЭМ

**БЯДА**

Прадалі сабаку, і ланцуг,
І карову, і камод стары.
А бяду сваю прадаць не здолелі
Выгнаныя ў свет гаспадары.
Тут яна, прысела на парог
Жытлішча спусцелага, й глядзіць,
Як над незачыненым хлявом
То сарока, то крумкач ляціць.

А пасля, уцямваючы зноў,
Хто яна, якую ўладу мае,
З яшчэ помнячага ў твар жыльцоў
Цьмянага люстэрка павымае

Адлюстроўкі мэблі стараветнай,
Ківача, і лямпы, і агменю,
І блакітнага абруса *ў* клетку,
Дзе, было, усмешку хлеб праменіў.

Ды йшчэ, можа, стомленая поўня
Назірацьме, сумная, да ранку,
Як яна спрабуе пападвязваць
Прошласці кароткія фіранкі.

ЖАН-П'ЕР ВЭРЭГЭН

**ПАЦАЛУЙ СПАДАРА ПАЭТА**

Пацалуй Спадара Паэта!
Выймі з кішэні руку! Скінь шапку!
Не май за цацку стралу!
Падай зычліва руку Спадару Паэту!
Павітайся шчыра!
Досыць назласці! Ну, давай!
У добры час!
Рушце! Рушце насустрач!
Праспявай што-кольвечы Спадару Паэту!

" Это есть наш последний
 и решительный бой..."

Не! Не гэта!
Не гэта! Няшчасны!

ФРАНСІС АНДРЭ

**НІКОЛІ НЕ ГРЭБУЙ**

Ніколі не грэбуй
Крокам, прастадушным крокам,
Які час-часам робяць насустрач табе
Істоты вакольныя:
Твае конь ці сабака, ці кот,
Ці збітая з тропу пералётная птушка,
Што залапоча ў тваё вакно.

Ніколі не грэбуй
Сціплым водарам, які прапануе табе
Зёлка ўквечаная на сцяжыне тваёй.

Ніколі не грэбуй
Паздароўкацца з чалавекам,
З якім стрэнешся на дарозе сваёй,
На адвечнай зямной дарозе.
Падумай: хто ён,
Скуль ідзе, з мораў-гораў якіх
Чалавек той ідзе? невядома,
Але тут ён твой брат.
Павітайся з ім на хаду,
Падай руку яму, глянь яму ў вочы
І шыбуй сабе далей, і ён пойдзе далей,
І размінецеся вы...
Але нешта ўжо сталася:
– Жыве людскасці хваля.

11 красавіка, 01
Белаазёрск

Галіначка, дзень добры!

Вясна?!. Вясна! Цёпла, небна, га́ласна. Заўчора выбралася на родны бацькаў падворак, паглядзела на тры выжылых за 20 прамінулых гадоў кусцікі крокусаў, уткнёных каля прызбы мамінай рукой. Пасядзела з гадзіну з бацькам, які, дзякаваць Богу, яшчэ выйшаў да мяне з хаты (сынавай, якую

сам будаваў Колі). І мне як адпусціла... І ціск трохі нармалізаваўся, і нырка перастала азывацца.

Давышывала блузачку. З аказіяй перадала ў “Крыніцу” жакмэнавы цыкл “Вясна”. Учора патэлефанавала Галя Дубянецкая: паставілі ў 5-ты, травеньскі нумар. Можа, (гэтак сабе думаю) да з’езда выйдзе. Спадзяюся на сустрэчу з вамі 29-га ў Менску. Хоць і нельга загодзь радавацца, а мне ўсцешліва ўяўляць, як мы павітаемся!

У Берасьці “Вежа” рыхтуе “Багаславі сустрэчу мне” – лірыку “Плеяды”. На будучым тыдні, Велікоднымі святамі, магчыма, прыедзе мастачка з макетам кнігі. Зноў – смакую заўтрашнюю радасць, рызыкантка!

Табе і Яну паважліва і сардэчна кланяецца Галя. Турботаў яна мае процьму: і ў гімназіі, і ўдома, бо й самой ня дужа здаровіцца, і свякруха ў лякарні, і свае бацькі занемагаюць, а ёй пра ўсіх паклапаціцца мус.

Галечка! Віншую цябе і Яна, і Даніка твайго з Вялікаднем. Ліст, канечне, спозніцца, але думка – даляціць у час, і няхай пасвятлее ў душах вашых, каб ступалася далей і ўпэўнена, і гожа.

Цалую прыхільна –

ваша *Ніна*.

9 траўня, 01

Дарагі Ян,

Прымі найшчырэйшыя зычэнні спакойнага самапачування і веры ў добрую, вагомую пладавіну Тваіх намераў і дзеяў. Хай добра думаецца і жадана творыцца Табе ў Тваёй аблашчанай глыбокім святлом хаце. Дасылаю адзін здымак, перададзены тадышнім нашым фатографам Янкам Шпаком, астатнія – праз 20 дзён, на з’ездзе аддам.

Рыхтуюся да “круглага стала” Беларусь—Бельгія, казацьму пра свае пераклады “пораў года” Жакмэна і пра дасланую Табе нізку.

Абдымаю, цалую дзенна-раджэнна! І Галю ж, вядома! *Ніна*.

27 чэрвеня, 01
Белаазёрск

Мілая Галечка, дзень добры!

Не вінуйся, не карайся! У тым пісьменніцкім збоі і немажліва было нагаварыцца, я дык і не павіталася з усімі, з кім хацелася. І здымкі тыя бясплатныя, гэта дарунак і мне, і ўсім, хто трапіў у кадр, ад Янкі Шпака, які здымаў нас у Берасьці.

Атрымала я запрашэнне на з’езд беларусаў свету, але не паеду, хоць Галя і гатовая скласці кампанію. Шмат перашкодаў, якія не хочацца адольваць: транспарт, сродкі на дарогу, на гатэль, на харчаванне. Лепей Галі падару што-небудзь, у яе 6-га ліпеня дзень нараджэння.

Заўтра чакаю званка ад Міці Ярашэўскага. Ён мяркуе прыехаць на з’езд, але яшчэ не вызначыўся, калі да мяне завітаць, ці па дарозе ў Мінск, ці па дарозе ў Нямеччыну. Можа які дзень ці два пабудзе ў Белаазёрску.

Я толькі-толькі пачынаю збаўляцца ад кашлю, калі паставілі чатыры кропельніцы ды стала прымаць анты-алергетыкі (тавегіл). Зусім не працавалася. Цяпер спадзяюся, што і спор пэўны выявіцца. Добра было б зрыхтаваць цыкл “Восень” Жакмэна ў вераснёўскі ці кастрычніцкі нумар “Полымя”.

З кніжкай Плеяды ўсё застапорылася з-за вокладкі: нешта там не склейваецца, не спрасоўваецца, дык вежаўцы шукаюць выйсце.

Я сяджу больш у хаце: няма пагоды. Тое ж, мабыць, і ў вашым Бельску. Ужо хочацца лагоднага, устойлівага цяпла. Хоць даждліва і даволі прахалодна, але ў садах ужо тыдні два таму спеюць трускаўкі ды чарэшні, а ў лесе з’явіліся першыя чарніцы. Прыносяць гэтыя ласункі і мне, то суседзі, то сябры.

Вось, бадай, і ўсе навіны.

Сардэчна гарнуся да цябе з Янам – сонейка і ўтульнасці!

*Ніна*

3 кастрычніка, 01
Белаазёрск

Дарагія Галіначка і Янку!

Дзякуй вам, мілыя ды ласкавыя, за шчырую пяшчоту. Віншаванні – і лістом, і паштоўкай, і “Тэрмапіламі” атрымала. Усё дайшло, знайшло мяне ў пару, і календарную, і псіхалагічную. 27-га жніўня мы пахавалі бацьку...

Бацечку родненькі, не галашу.
На роспач не маю дазволу, не маю.
Ад часу, як стаў ты сумотай па маме
Сушыць сваё сэрца, убольваць душу.
Не маю на роспач дазволу твайго.
Ты гэтага свету даўно ўжо цураўся.
Яшчэ пра зямныя навіны пытаўся,
Але ўжо далёкі быў ад усяго.
Ад часу, як сталася мама журбой,
Як ейны партрэт для цябе стаў іконай, –
Да свечкі ў руках, да жальбы падваконня
Імкнуўся ты ў вырай, каб бачыцца з ёй.
Сушыў сваё сэрца, убольваў душу,
Хоць догляду, ласкі было табе ўдосталь...
Суцешнае неба над цесным пагостам...
Бацечку родненькі, не галашу.
Гэтулькі знакаў давалася нам

Пра адыход твой і свята спаткання,
Столькі наўпроставых звеставанняў!..
І чорная птушка да ўнучкі ўлятала,
І мне безгалосая сойка дзівосна спявала,
І ў сне прыгажэнная, вясёлая мама цябе забірала,
І святло невымоўнае постаці вашыя авівала,
І ўжо аніштo не балела табе, не даймала...
Адно дзеля гэтага,
Нават каб і магла я ўтрымаць тут цябе, –
не трымала б...
Адлятай, мой беленькі голубе...
Не галашу.
Даўкі жаль свой на ціхія слёзы крышу...

Сёння акурат саракавіны. Вечарам збіраемся ў бацькоўскай хаце ўсім вялікім родам.

Золкі-золкі аказаўся сёлетні мой верасень. Сягоння пацяплела ў прыродзе.

Не ведаю, ці ўдасца сустрэцца ў Мінску. Хацелася б. І кніга маіх перакладаў з паэзіі Плеяды чакае вас. Пазвані, Галечка, адразу ж, як толькі прыбудзеш у Мінск. Калі не пасвеціць сустрэцца, то вышлю.

Цыкл “Восень” Франсуа Жакмэна ідзе ў № 11 “Полымя”. Жуковіч прыслаў раздражнёны ліст: яму страшэнна не падабаецца такая паэзія. Ад абурэння, што мне, паводле яго думкі, ”усё даруюць”(?!?..), нагаварыў усякага глупства. І нагадаў гэтым Хрушчова з яго загадам паслаць бульдозеры на выставу авангардыстаў...

Цыкл “Зіма” пачну рыхтаваць у лістападзе. Для “Тэрмапілаў”.

Цалую вас, промнікі мае.

*Ніна.*

7 снежня, 01
Белаазёрск

Мілая, дарагая Галечка!

Гэта я ў даўгах у цябе (і не толькі ў цябе...). Нейкая светлая, наўзвышальная пяшчотнасць апавіла мяне, калі ў далоні лёг твой дарунак – залаты крыжык. Дзякуй, ахоўніца мая. Цяпер я з ім не разлучуся...

Пра тую прэзентацыю “Тэрмапілаў” і ў “ЛіМе” неўзабаве прачытала, і Вярцінскі, яшчэ да твайго ліста, па тэлефоне прыгадваў. Шкадую, вядома, што не ўдалося прыехаць, асабліва яшчэ і таму, што прыязджаў і Жыдліцкі, а я не бачылася з ім ужо гадоў з 12. Мы не сябруем, не лістуемся, але пачуццё прыязнасці і ўдзячнасці да яго – жывое: за чыннасць прамацыйную беларушчыны.

Мяне кранулі, дапалі да сэрца Янавы вершы ў гэтым нумары “Тэрма-

пілаў”. У іх з’явілася магутная – сваёй бясспрэчнай, крышталёвай, зыркай яснотай – мудрасць. У шчымлівай плыні прамаўлення яна пацэльвае важка і ўразліва.

Ёмістае і тваё трапятлівае, неардынарнае эсэ пра Масея Сяднёва. Лепшага (пашанлівейшага і дакладнейшага), святлейшага пра гэтую Светлую Постаць я не чытала. Галя таксама ў захапленні.

Даруйце, што вокаўзам, але згадвалі мы пра вас літаральна заўчора, 5-га, у маёй хаце, зноў-такі – з Вярцінскім.Тэатр “Зьніч” Галіны Дзягілевай прыязджаў у кампаніі з Вярцінскім ды Жуковічам да нас, у прафтэхвучэльні зладзілася сустрэча з імі. Нагода – юбілей Вярцінскага, асноўная дзея-падзея – мона-спектакль па яго творчасці ў выкананні Галіны Дзягілевай. Прадалі 265 квіткоў, але былі, па ўсім, і безбілетнікі. Добра ўсё ўспрынялося. Вярцінскі, вядома, не аратар, сцэна вымагае эмацыянальнасці, запалу, і Паэт тут выглядаў больш бледна, як Актрыса. Аднак белаазёрцы засталіся ўдзячныя. Госці пасядзелі з гадзінку і пасля спектакля ў мяне, і а палове дзевятай увечары паехалі. Учора Вярцінскі ўжо азваўся, дарога, дзякаваць Богу, была няцяжкая ў абодва канцы.

Кажаш, Галечка, што ў маёй Плеядзе шмат мяне. Гэта праўда. І зусім натуральна. Бо і выбіраліся творы дзеля перакладу толькі тыя, якія пэўнай струной азываліся ў маёй уласнай душы. 28-га лістапада зладзілася вельмі ўдалая прэзентацыя гэтай кнігі ў берасьцейскім ліцэі № 1. Там атрымала запрашэнне на падобную сустрэчу і ў школе № 15, дзе вывучаюць французскую мову. Магчыма, цяплейшым часам і зладзім яе.

Але вярнулася з Берасьця я тады з траўмай: садзячы ў машыну, моцна звярэдзілі галенастоп, зачапіўшы нагу за дзверцу (было і цёмна, і слізка, і віны нічыёй тут няма). Двое сутак праляжала ў пасцелі, перажывала, што не змагу як след прыняць мінчан і ўдома, і ў вучэльні. Але дзякуючы нейкай цудадзейнай мазі, якою шмаравала нагу суседка, усё абыйшлося, хоць тугую абвязку яшчэ накладваю. Затое за час пасцельнага рэжыму напісала ажно 4 вершы паводле Чурлёнісавых “Стральца”, “Казкі”, “Вясны” і “Сяброўства”.

Вельмі ўсцешыў (у параўнанні з Жуковічавай ацэнкай) Вярцінскі сваім шчырым, захопленым водгукам на “Восень” Жакмэна ў 11-ай кніжцы “Полымя”. “Зіму” перакладу, як і дамаўляліся, вам, у “Тэрмапілы”.

З Новым Годам, мае дарагія сэрцу Людзі! Радасці і здароўя, Галечка ды Яначку. І спеву душы! Цалую – *Ніна*.

8 лютага, 02

Дарагая Галінка!

Цягнуся да цябе сёння з гэтымі ружамі, каб павітацца і павіншаваць цябе з днём нараджэння. Няхай шырэе светлая прастора вакол цябе: чыстага ўсё нячыстае баіцца! [...]

Ці будзеш у Мінску? А калі? Я пераклала “Зіму”, трэба яшчэ колькі радкоў уступных скласці. Няблага сказалася ў палымянскай публікацыі (№

11), а зараз не даюцца словы. Дый з каляіны выбітая, бо ўсё – смутку й смутку паляны... Але – ідзе вясна. І акрыяем і мы разам з прыродай.

Цалую цябе і Яна. *Ніна*

24 красавіка, 02
Белаазёрск

Яначку!

Даўно і кніжку Тваю атрымала з сардэчным аўтографам, і з Галяю Тваёй ажно двойчы перамовілася, і яна ўжо дадому, у Бельск, вярнуцца паспела, а я ўсё ніяк не гукнуся да Цябе. Не ведаю, як і перапрашацца, пагатоў, што і словы падбіраць дзеля таго не хочацца, – даруй. Твая кніга – люстэрка і маёй цяперашняй плыні жыцця, гэта і vita mea: “Замыкаецца кола лёсу, замяняецца кроў у вадзіцу”. Ці нехта, бы курыцу, замкнуў у “крэйдавым коле”, ці сама сябе туды загнала. “Бачыш толькі сябе, а далей – ні душы не відно”. Гнятлівы гэты стан, руйнотны, падточвае знутры, як іржа. Нельга патураць уласнай вяласці, вегетатыўнасці. Можа, гэта звычайны вясенні авітаміноз, як сёй-той суцяшае. Аднак, як сама разумею, вітаміны не целу майму патрэбныя, а душы і духу. Да жалю, задаўно ўжо іх не маю, вітамінаў тых. Мне вельмі блізкая інтэлектуальна-душэўная прастора Твайго “Крэйдавага кола”. Не толькі тонкаю смугой смутку заўсёды шчырага слова. І не толькі бязлітаснай ацэнкай свету і ўласнай прысутнасці ў ім. Калі б рэаліі Тваіх душэўных краявідаў зводзіліся адно да гэтага, мне было б паныла і няўтульна. Але Ты прамаўляеш: “Мы раслі, як святло ля святла. Мы жылі, як агонь ля агня” (агню) – і мяне працінае паўната выказу маіх пачуванняў. Твае вершы як ліхтарыкі на абшары чалавечай душы, як светлавыя, энергетычныя масточкі паміж палямі экзістэнцый паэта і чытача, што дазваляе апошняму прыгадваць самога сябе, а праз тое і глыбець, і ачалавечваць, ацепліваць сваю самоту. “О, каб была яшчэ жыцця палова – адну цябе жывую мець я рады, схаваўшы ў тры замкнёных словы, дзе жыва пнецца гронка вінаграда”!.. Цябе можна і хочацца цытаваць шмат і смакоўна. “Толькі вераб’і і вераб’іхі, быццам грэцкія арэхі, моцна ўбіўшыся у стрэхі, пазяхалі вельмі ціха” – цуд! Але скажу і пра “сучкі”: неапраўданнае ўжыванне, і занадта частае, у кароткага (ў) пасля зычнага (“з мосту ён зірнуў ў ваду”) ці напачатку сказа (“Ў прыбярэжным трысці...”), русізмы (кролік, паджараны, залікавала птушка). А яшчэ не ўпадабала Тваіх “Метамарфозаў”: ужо не ўспрымаю, не прымаю падобных “ужастиков”, свет і без таго недасканалы, вычварны, навошта ж яшчэ ўласнай фантазіяй пладзіць пачварнае ды замацоўваць яго ў жыцці – вершам, жывапісам, іншым мастацтвам?

Ах, Яне, з кнігай Цябе! Змястоўная, лірычная, філасофская, густоўная – як ні паглянь! Ажно самой заманулася займець нешта сходнае: мае вершы,

перасыпаныя маімі ж карцінкамі з пёраў. Глядзяцца яны вельмі добра, як і карціны ў Тваёй кнізе. Але патрэбна і папера адпаведная, фота-папера. А гэта дарага. Бо й карцінак шмат, пад 40–50. “Белавежа”, відаць, не пацягне. Як мяркуеш? Буду радая пачуць Тваю думку. Калі мажліва здзейсніць такое выданне, мне тут камп’ютарны набор зробяць, а не – дык не, бо тое ж не ад Цябе залежыць.

Будзь і будзьма, дарагі! *Ніна*

напярэдадні 5 травеня 2002 года.

Галіначка і Яначку!

Услед за абагрэтым, прасветленым ціхай а глыбокай, падзячлівай пяшчотай сэрцам паўтару – памалюся:

“Светлая Маці Божая,
Словам сваім багатым
Пару гадкоў прыгожых
Рассып над гэтай хатай”

пад святоўная лічбаю “7” [...]

З Вялікаднем, дарагія!

Прыміце маё сардэчнае хрыставанне і спадзяванне чарговых светлых сустрэч і духаўздымных падзеяў.

Ваша *Ніна*

19. 05. 2002.

Дарагі Ян!

Мой “сюрпрыз” Табе і Галі не ўдаўся: так і не здолела датэлефанавацца ні ўчора, ні сёння – 19-га траўня. То ніхто не браў слухаўку, то адказвалі не тыя людзі. Пры нагодзе ўдакладніце тэлефон. А пакуль – прымі (ужо запозненае, даруй) маё віншаванне з днём нараджэння. Хай будзе літасцівы Бог і вернаю Муза! Сардэчна гарнуся да Цябе і Галінкі – *Ніна*

25 чэрвеня, 02
Белаазёрск

Мілы Яне!

Дзякуй за адгуканне. Даруй, што дадала Табе скрушлівага роздуму ў ня лепшы Твой час: мела размову з Галінкай і крыху ведаю цяпер пра Твой чарговы смутак. Як я зразумела, стан сястры Тваёй трохі не гэткі ўжо адчайны. Спадзяюся, зараз ёй лепш, а Табе спакойней. Як бы ні было, усё ў руках Бога і – у кодзе зямнога побыту Тваёй сястрычкі, як і кожнага з нас. І мала толькі разумець ды ўсведамляць гэта, мусім прыняць яго яшчэ й

сэрцам-душою, з пакорай прыняць тое, над чым не нашая ўлада, робячы ўсё, што нам па сіле.

Яначку, колькі дзён таму Сяргей Сяргеевіч прывёз некалькі адбіткаў мяркуемага зборніка. Дасылаю Табе пару старонак – дзеля прыблізнага ўяўлення. Усё яшчэ будзе ўдакладняцца: і набор, і выбар карцінак, і іх размяшчэнне, і колькасць. Магчыма, іх будзе толькі дваццаць. На фотапаперы карцінкі будуць выглядаць значна лепш, па сутнасці, як арыгіналы (так тлумачыць кампутаршчык). Час маем. Мы ўсёроўна будзем рабіць тут гэты зборнік, хоць у адзіным асобніку. І на дыскеце. А калі-небудзь, можа, і выдасца, як знойдуцца грошы, ці ў Польшчы, ці ў Беларусі. Я і сама зрабіла б складку, знайшла б даляраў 200—300.

Ці чытаў Ты што-небудзь з Рычарда Баха? Мне вось трапілася ў рукі яго кніга ў перакладзе на расейскую “Мост через Вечность” (гадоў пятнаццаць таму была яго “Чайка па имени Джонатан Ливингстон»: вяртанне зроку...

Цалую Цябе і Галінку –

ваша *Ніна*

**PS** Дзякуй за тэлефонны нумар. Я гэтак і набірала, але чамусьці трапляла да іншых паноў. Пры добрай нагодзе як-небудзь паспрабую зноў прабіцца да вас.

2 жніўня, 02
Белаазёрск

Мілы Янка,
Мілая-мілая Галінка!

Дзякуй за вашыя антэны, скіраваныя і на мяне: я іх адчуваю, бо таксама люблю вас і заўжды радая вашай радасці.

Напраўду прыемна было пачуць вашу ўхвалу маіх вершаў, пагатоў што я “Свабоду” не слухаю, бо вельмі няякасны гук ідзе, дык і не настройваюся на тыя УКВ, каб не раздражняцца лішні раз. Вершы Ты, Янка, перахваліў, да шэдэўраў яны наўрад ці дацягваюць, мабыць, сілу ўдзеяння ўзмацняе чытанне. У любым разе, я радая, што і Табе, і, відаць, Галі, калі яна таксама слухала, тыя хвіліны прынеслі духоўную асалоду.

Твая праўда, Янка: найлепей будзе даць карцінкі застаўкамі. Зрабіць дзве застаўкі па 10 стар., г. зн. змесціцца 20 карцінак: пасля вянка санетаў і перад “чурлёнісаўскім” цыклам. Знаёмы кампутаршчык яшчэ ў адпачынку, але час ёсць, да Новага году кніжка набярэцца, макет цалкавіта зрыхтуецца, а там, будзем спадзявацца, і выдавец знойдзецца. Пакуль жа я нават і не шукаю яго: не тая сітуацыя з фінансамі ў Беларусі.

Чытаю “Новую Польшу” – з вялікай цікавасцю і карысцю, бо шмат якія рэаліі для мяне альбо цьмяныя, альбо зусім неўсведамляныя.

Законнікаў стварае свой часопіс, казаў, што ў жніўні ма́е выйсці ў свет. Назвы не ведаю, па тэлефоне Сяргей агучыць забаяўся: крадуць ідэі!

Першую назву ўжо скралі! Аддала яму пачутыя вамі вершы.

Ці абышла ваш падворак ліпеньская навальніца, дакладней, ураган, пра які нават ОНТ паведаміла: у Польшчы загінуў цэлы лес...

У нас, пад Белаазёрскам, прынамсі, праліваюцца ліўні даволі спакойна.

Няхай спакойна і ўтульна будзе душам і сэрцам вашым!

Цалую – *Ніна.*

30 верасня, 02
Белаазёрск

Дарагія Галінка і Ян!

Адгукаюся, каб не дужа зацягнулася маё маўчанне, каб сказаць вам абаім сардэчны дзякуй за радасьць трывалай повязі – душэўнай, духовай – з вамі. Міла і ўсьцешна было пачуць вашыя галасы дваццатага, а перад тым – атрымаць падарунак – публікацыю ў “Тэрмапілах”. Нумар зноў-такі цікавы, хоць не ўсё яшчэ прачытала, перадусім пра Калесьніка. Езьдзіла і я ў Берасьце, прысутнічала, і нават сказала, што змагла, і на адкрыцьці выставы ў Галерэі, і на літаратурнай вечарыне, дзе, спаміж усяго, паказалі і тэлеюжэт прыезду Уладзіміра Андрэевіча ў Белаазёрск і гамонкі са мной (у “Тэрмапілах” здымак той падзеі), і тут жа далі слова мне, а я ад узрушанасьці, ускалыху прыгадкі, святлоты і шчэму ледзьве патрапляла нешта казаць, чытаць вершы, на трэцім усё збівалася. Але публіка была інтэлігентная, дык усё выбачылі, бо – і разумелі, і падзялялі тую ўзрушанасьць.

Патрапіла я і на з’езд. Чамусьці ехала на яго нават спакойнейшай за лёс арганізацыі, чым летась, хоць падставаў для трывогі, здавалася б, значна болей было. Усё завяршылася разумна і годна. Іпатава зрабіла бліскучы даклад-справаздачу, і ўчыненая ёй авацыя ад пачатку сказала пра пісьменьніцкі настрой і грамадзянскую пазіцыю бальшыні прысутных.

Як ведаеце, канешне, абралі старшынём Алеся Пашкевіча (зноў-такі, прадстаўлены ён і ў вашых “Тэрмапілах”). Таленавіты, энергічны, годны малады інтэлігент з выразнай грамадзянскай пазіцыяй. Галасавала за яго.

Прывезла зь Менску часопіс “Дзеяслоў” – першы плод таго ж Алеся Пашкевіча, Эдуарда Акуліна і Барыса Пятровіча. Гожы, ахайны, важкі аб’ёмам і змесьцівам. Ці заўважылі (напэўна ж!) зьмены і ў маім правапісе? Душой прымаю рашэньне “дзеясловінцаў” пакрысе вяртаць беларускую моўную адметнасьць, пачаўшы з рэабілітацыі рэпрэсаванага мяккага знака. Гадоў колькі таму я ліставалася ўжо “мякка”, але звычка да наркамаўкі зноў узяла была верх. Цяпер, калі маю запрашэньне друкавацца ў “Дзеяслове”, час канчаткова аддаць перавагу тарашкевіцы.

У Менску (ідэя і спрыяньне Вінцука Вячоркі) набраная кніга маіх перакладаў з розных моваў і стагодзьдзяў “Перабіраю самацьветы”. Зараз вычытваю той набор. Памылак шмат. Афармленьня пакуль ніякага. Аднак, магчыма, да Новага Году мецьма гатовую кніжку.

З “Бабіным летам у Белаазёрску” пакуль ніяк: зборнік яшчэ не набраны, карцінкі не адзьнятыя.

Учора прагулялася, было даволі цёпла, а сёньня зноў хмарна, унурна. У хаце халадэча, ратуюся агравальнікам.

Самага-самага жаданага вам, дарагія.

Не хварэйце, мацуйцеся сонцам узаемнасьці. У “Дзеяслове” і Твае вершы – лепшыя! – Яне!

Цалую. *Ніна*

16. XII. 2002

Мілая Галечка, дарагі Яне!

Вітаю вас абоіх, вось-вось навагоднія сьвяты, дык няхай у будзённым тлуме пачуецца вамі і мой голас, які хоча прыўнесьці вам сьвятлінку найшчырэйшых зычаньняў здароўя і паболей доўгіх радасна-узьнёслых палосаў у напэўна ж пярэстым надыходзячым чарговым годзе.

Я прадаўжаю “гойсаць па сьвеце”: выступленьні. 12-га была ў Менску, разам зь берасьцейцамі брала ўдзел у літвечарыне ў абласной бібліятэцы. Радасьцю было сустрэцца там і зь Гілевічам, які сумысна прыйшоў, удзячны за маральную падтрымку (яго бессаромна ўгрызла ў “Звяздзе” Т. Бондар, гэтая подлая камунячка, якая строіць зь сябе сьвятую).

Бярозаўскія сябры ніяк не зьбяруцца зрабіць канчатковы макет кніжкі. Мабыць, выдам яе ў Менску, магчыма, у “Кнігазборы” і пры грашовай падтрымцы ПЭН-цэнтру. Але ўсё гэта яшчэ не гарантавана.

У процівагу ма́рам ява значна грубейшая і балючэйшая: моцна апарыла руку ў локцевым згібе пры няўдалай спробе паставіць коўшык з варам. Але – гоіцца.

Цалую – Ніна.

11.04. 2003

Дарагая Галінка,

як ты там, веснавееш? Квеціва на гольлейка душы тваёй! Вітаю, віншую цябе зь Янам зь Вялікаднем: хай жывіць, асяняе, аберагае вас сьвятло Любові!

Я патроху варушуся, вясна сьцеле і мне дарогі. Да людзей. Напрыканцы сакавіка езьдзіла ў Івацэвіцкі ліцэй на сустрэчу з навучэнцамі. 4-га красавіка наведвалася ў Янава (70 км ад нас) на прэмьеру музычнага сьпектакля “Маленькі прынц” па маім лібрэта. Музыку напісаў Валянцін Перапёлкін, гэта ў нас ужо другая сумесная праца. Сьпектакль атрымаўся добры, удаўся, я была і ўсьцешаная, і ўзрушаная і гульнёй школьнікаў, і ўспрыманьнем гледачоў, атмасьферай, якая панавала ў залі.

Сёньня патэлефанаваў Іван Антонавіч. Ён тыдзень таму як вярнуўся зь

лякарні, дзе яму лячылі сэрца, паставілі стымулятар, бо – арытмія, вельмі рэдкі пульс... Голас яшчэ слабаваты, але вось жа – затэлефанаваў...

Болей навінаў не маю. Прывітаньне ад Галі, яна не вылазіць зь гімназіі, там цяпер ідзе праверка дзеля пацьвярджэньня статусу навуч. установы.

Гарнуся да цябе, дарагая, і да Яна таксама!

*Ніна*

16 ліпеня, 03
Белаазёрск

Дарагі Яне!

Прыемна і цёпла ад Тваёй заўсёднай шляхетнай зычлівасьці: дзякуй!

Дасылаю нізку перакладаў зь Лесі Украінкі. Васіль Жуковіч ды Валер Стралко намерыліся выдаць выбранае гэтай паэткі. Умовілі й мяне падключыцца да працы. Дагэтуль я не перакладала яе, ды вось – узялася, атрымалася, па водгуках, няблага, дык дасылаю і ў Твае “Тэрмапілы”: калі яшчэ той зборнік будзе!.. Што ж да эсэ, дык нават і ў планах не маю пісаць нешта падобнае: няма навыку, ніколі, па сутнасьці, і не пісала ў гэтым жанры. Выбачай.

Зборнік усё яшчэ ў стадыі прыватнай ідэі. Размаўляла з Маруком, ён цяпер галоўны рэдактар “Мастацкай літ-ры”, напісала (па размове) заяўку на выданьне ў наступным годзе. Не адмаўляюцца выдаць, аднак пры ўмове наяўнасьці грошай, а іх, як сам разумееш, заўсёды бракуе. У райадзьдзеле культуры адкрыты рахунак па збору грошай на выданьне майго перакладу “Маленькі Нікаля” (зб-к апавяданьняў для дзяцей). Сабрана 1.5 млн. бел. руб., а трэба на 1000 асобнікаў хоць бы яшчэ гэтулькі.

А цяпер некалькі радкоў і да цябе, Галечка: вітаю, мілая! Быў у мяне суткі Міця Ярашэўскі, казаў, што тэлефанаваў да вас, што ты зьбіраешся ў Менск напрыканцы ліпеня. Значыць, пачую ў слухаўцы і твой пяшчотны голас. А пакуль тое, дык скажу, што Мар’я Новік яшчэ мо зь месяц, калі не болей, таму тэлефанавала мне пра перададзены ганарар і “чыкалядку”, але дагэтуль не можа вырвацца ў Белаазёрск. Яна папраўдзе ў даволі скрутных побытавых варунках. Але ж трэба спадзявацца, што прыедзе і мы разам зьямо тую “чыкалядку” і з удзякай прыгадаем цябе!

Была б вельмі радая табе ды Яну ў маім ціхім, а не дужа ахайным Белаазёрску (любоў мусіць быць патрабавальнай!). Няхай бы вашыя сьцежачкі разьвінуліся і ў гэты бок!..

Цалую сардэчна.

Ваша *Ніна*

27 ліпеня, 03
Белаазёрск

**ЛЕСЯ УКРАІНКА**

**СЛЁЗЫ -ПЕРЛЫ**

(Прысвячэнне Івану Франку)

Староначка родная! любы мой краю!
Чаму ўсё замоўкла ў табе, занямела?
Сям-там толькі птушачка ціўкне нясмела,
Нібы перад бурай у нерушным гаі,
Азвецца – і змоўкне... як глуха... як ціха...
Ой ліха!

Ох, дзе ж бо ты, воля, зараначка, дзе ты?
Чаму ты не выйдзеш, таемная, з неба?
Няшчаснай зямлі так святло тваё трэба!
Ты бачыш, якая ў нас ноч – ні прасвету,
Як праўду знішчае няпраўды паморак?
Ой гора!

О люд мой гаротны, мая ты радзіна,
Браты мае ўбогія ў ковах кайданных!
Гарацць незагойныя, страшныя раны
На ўлонні ў цябе, о мая Украіна!
Хто цяжкія ковы разбіць нам паможа?
Ой божа!

Калі ж засвітае?! Ці згінем без долі?
Праклясцце рукам, ападаным бязсіла!
Навошта радзіцца і жыць у магіле?
Як мусіма жыць у ганебнай няволі –
Няхай нас прыгорне зямелька сырая!
Ой краю!

Дарагі Яне!

Дасылаю – наўздагон – удасканалены пераклад першага верша са “Слёзаў-перлаў”. Зьвярні ўвагу на 2-ую страфу, а ў ёй – на перадапошні радок, дзе цяпер удалося – без калькі – захаваць вобраз арыгіналу з укладзеным у яго сэнсам. Гэтаксама і ў апошняй страфе “перайграліся” два апошнія – 5 і 6 – радкі, што дазволіла не толькі адмовіцца ад неўласьцівага бел. мове укр. “леле”, а нават узмоцьніла гучаньне, сэнсавую напоўненасьць і глыбіню.

Перайначыла і трэці радок у І-ай страфе 2-га верша гэтага ж цыклу. Цяпер ён гучыць так:

*Ці ж дзеля цябе здзею штось гэтай цяжкай журбою?*
(замест “Ці ж неяк пасоблю табе гэтай цяжкай журбою”). Улічы, калі ласка, калі прымаеш гэтыя пераклады да друку. Зь Днём незалежнасьці! Здароўя і жыватворнай волі ўва ўсім!

Сардэчна гарнуся да Цябе і Галі.

*Ніна*

3 верасня, 03
Белаазёрск

Мілая Галінка!

З удзячнасьцю паведамляю, што твая ды Янава перадача ўжо ў маёй хаце: і грошы [...], і ласункі, і напоі. Дзякуй, мае шчодрыя! Хоць усё тое і даўгавата затрымалася ў Берасьці, але канал гэты надзейны, можна карыстацца ім і ў будучым.

Галава мая заклапочана ўжо незабаўнай юбілейнай вечарынай (душы ж уся гэтая мітрэнга зусім непатрэбная). Сцэнар піша райбібліятэка, грошы зьбірае гарсавет. Маюцца прыехаць зь Менску, зь Берасьця, зь Янава і нават з Украіны: гэтыя прывязуць зборнічак вершаў у перакладзе на ўкраінскую. На пачостцы па папярэдніх падліках зьбярэцца чалавек сто. Палохвае і напружвае марнасьцю гэтае “вясельле”, але мушу ператрываць. Кажуць, што нешта наладзіцца і ў Берасьці, дык ма́ю патаемную надзею, што туды прыедзеце і вы, гэта ж недалёка, дый тлуму, спадзяюся, меней будзе, як у Белаазёрску. Таму сюды й не запрашаю, што не мецьму магчымасьці як сьлед прыняць вас і пабыць з вамі.

Гарнуся шчыра і зь любасьцю, цалую – *Ніна*

**PS**. Пра вечарыну ў Берасьці паведамлю, можа нават патэлефаную.

3 кастрычніка, 03
Белаазёрск

Дзень добры,
Дарагія Галечка ды Ян!

Дзякую сардэчна за віншаваньні, мае харошыя, і Янам дасланыя, і Брылём перададзеныя. Дваццатага адбылася мая вялікая (3.5 гадзіны доўжылася) вечарына ў Белаазёрску. Віталі і ўлады, і сябры, і знаёмыя, і незнаёмцы, і радня. Усім было ўтульна і сьветла (па водгуках, якія ідуць і дагэтуль), і гэта найгалоўнейшае. Можа, некалі я прычакаю ўсё ж вас у Белаазёрску, дык разам паглядзімо касэту з запісам той імпрэзы: паабяцаў Пракаповіч, заўчора ён даваў яго па БСТ. А, можа, прыедзеце ў Берасьце 16-га кастрычніка? Філфак наладжвае нейкую практычна-моўную канферэнцыю пад назовам “Душою з небам гаварыць”, запрашае і мяне. Пачатак недзе апоўдні, я не ўдакладняла яшчэ ў Мельнікавай. Прыехалі б –

падарыла б вам кнігу сваіх выбраных перакладаў зь еўрапейскай паэзіі ды аўдыёкасэту з маімі вершамі ды песьнямі: і першае, і другое сасьпелі да вечарыны, што было ўразьлівым сюрпрызам для мяне ад Вінцука Вячоркі, які прыехаў на імпрэзу, і ад белаазёрцаў. Зь Менску былі Гілевіч, Вярцінскі ды Жуковіч, прыязджалі і берасьцейцы, і янаўцы, так што сьвятка ўдалося.

Уразіла, Галечка, паведамленьне Брыля пра прычыну твайго прыезду ў верасьні ў Менск. Вось як яно сталася: зусім сышоў з дарогі...

Як тваё здароўе, мілая? А Ян як?

Дай вам Бог моцы!

Цалую вас.

Зь любасьцю – *Ніна*

29 кастрычніка, 03
Белаазёрск

Мілая Галечка!

Я ўсё “гастралюю”. Стамілася, але мушу. Пагатоў, што да сустрэчаў рыхтуецца і запрашальны бок. Хораша прайшла канферэнцыя ў Брэсьце. Падрыхтавалі ажно 30 дакладаў па маёй творчасьці. Мне праслухаць усе было немагчыма, але з добры дзесятак выступілі. Падрыхтавалі яны нават буклецік, які дасылаю.

24-га выступала ў Івацэвічах у СШ № 3. На чарзе Жабінка, Малеч і Менск. Выйшла ў “Кнігазборы” вельмі вабная кніжачка “Пораў году” Жакмэна ў маім і афармленьні – пёркаграфіяй. Ну проста цацачка! Пакуль не дасылаю вам, вельмі ж, cholera jasna, дарага. Можа, як будзеш у Менску, туды дашлю. У Доме літаратара ў біб-цы 12-га лістапада а 18ай Скобла наладжвае прэзентацыю і гэтых дзьвюх кніг маіх перакладў з магчымым распрадажам, і аўдыёкасэтаў зь вершамі ды песьнямі. Каб толькі надвор’е паспрыяла на дарогу, нам жа й вярнуцца трэба будзе ўночы.

Навінаў больш ня маю. Больш-менш трымаюся фізічна, хоць і “цыркачыць” ціск.

Мацуйцеся ж і вы, дарагія мае!

Цалую вас абаіх.

*Ніна*

10 траўня, 04
Белаазёрск

Дарагая Галечка!

[...] Два дні таму атрымала з “Мастацкай літ-ры” два асобнічкі “Адведзінаў лета”. Ці патрапіла ты набыць кніжку ў Менску? Яна сапраўды, як мне й казалі, прывабная, зь яркімі малюнкамі ды без памылак у тэксьце. Днямі, магчыма, давязуць выкупленыя за ганарар 100 асобнікаў (наклад

2000).

У летніх планаваньнях (вельмі й вельмі асьцярожных) – перастворы “Хвілі” Шымборскай. Назьбіралася і чытва, ажно тры нумары “Дзеяслова” яшчэ не гартаныя, дый апроч яго ёсьць што ўзяць у рукі. Шкада, прагулянкі мае пакуль – ад непагадзі – прыпыніліся. І ў кватэры няўтульна, сыра. Уключаю ацяпляльнік. Дасьць Бог, распагодзіцца.

Азваўся Іван Антонавіч: ён два тыдні быў у лекарні на прафілактычным, як сам кажа, лячэнні, якога вымагае сардэчны стымулятар. Мне зябка было чуць тое, а ў яго голас, як заўсёды, бадзёры. Які ж гэта Чалавечышча!

Што робіш, Галю?

Цалую цябе, галубка.

*Ніна*

10–18 .05. 2004

Дарагі Яне!

Няхай сьветлая энергетыка маёй касьмеі ў спалучэньні з паўсякчаснай падтрымкай Твайго анёла-ахоўніка ды з Тваім уласным жыцьцесьцвярджальным настроем умацоўваюць Твой далейшы рух па сьцежцы жыцця і творчасьці. Віншую, дружа, зь днём народзінаў! Гарнуся – ў надзеі на сустрэчу – калі-небудзь і дзе-небудзь.

*Ніна*

31 кастрычніка, 04

Белаазёрск

Дарагая Галіначка!

На двары ветрана і панура, але, кажуць, даволі цёпла. Я гэткай парою амаль не выпаўзаю з кватэры: напранацца трэба цяплей, а гэта дадае нязручнасьці ў кіраваньні возікам. Дык выязджаю хіба на ратонду пры магчымасьці. Але ма́ю й значнейшыя падарожжы. Заўчора была ў Дарагічыне па запрашэньню тамтэйшай райбібліятэкі. Сустрэча ўдалася, бо і людзі рыхтаваліся, чакалі мяне, і я, адпаведна, з удзячнасьцю дзялілася ўсім, што маю за душой. Мінулы тыдзень наогул выявіўся даволі плённым для мяне: “Адно з’явіліся раптам плады”, як сказаў быў Жакмэн. Тыя плады – у “Нашай Ніве”: тыдзень таму яна дала жменьку нашых дыялектных словаў, а ўчарашні нумар прынёс паўтары старонкі майго перакладу зь першага рамана Франсуазы Саган.

У лістападзе, спадзяюся, дагаблюю перастворы з кніжкі “Хвіля” Шымборскай. Папытайся ў Яна, калі ён зацікаўлены, то пад Новы год дашлю вершаў дзесяць у “Тэрмапілы”.

Дарэчы, прэзентацыя не адмянілася? Тады чакацьму вашых галасоў хоць па тэлефоне. А варта было б і сустрэцца!

Абдымаю, цалую – ваша *Ніна*.

16. XII. 2004

Мілая, таленавітая – ува ўсім! – Галінка! Дзякую за кніжку, віншую цябе зь ёю, бо – ёсьць з чым віншаваць! Тваe вершы цяперашнія, за рэдкім выключэньнем, вагомая, дакладная, даладная выява твайго душэўнага і, што важлівей, духовага вопыту. Ты навучылася прамаўляць сьцісла, значна і метафарычна, уцямна і даткліва для блізкай душы. Для мяне. І для Галі (яна шчыра дзякуе табе за падарунак). А ці ж толькі мы з Галяй блізкія Табе душы?!. І стоячы перад блізкім ужо чарговым парогам чарговага Новага Году зычу табе – каб здаровілася і стваралася яшчэ і яшчэ, плённа і вагома!

Я пакуль без навінаў. Але ўжо маю кампутар, асвойваю яго (яшчэ без выхаду ў Internet, пакуль што). Публікацыі былі (у "Н.Н." – Саган, будуць – у "Дзеяслове" (№ 12 і потым). Цалую – Ніна.

Дарагі Яне, дзякуй за ўсьмешлівую паштоўку з радком Шымборскай зь яе "Слухаўкі" (там, праўда, "Śni mi się", а не "Śniło mi.."). Што да адрэсы Паэткі, то, на жаль, я не маю яго, мы не ліставаліся ніколі, свой зборнік „Chwila" Пані Віслава передала мне з аказіяй. Менскія сябры пакуль не змаглі пасобіць мне. У Кракаве, дзе жыве Шымборска, нікога не маю. Давядзецца, дарагі дружа, Табе самому нейк адшукаць яе. Прашу прабачэньня, што гэтак склалася. Калі раптам знойдуцца яе каардынаты, адразу паведамлю. Буду ўдзячная і Табе за падобную паслугу, бо напэўна ж і «Нашай Ніве» і «Дзеяслову», куды я аддала часткі кнігі, спатрэбіцца згода Паэткі.

З Новым Годам, з Калядамі: здароўя і радасьці! – *Ніна.*

Дарагая Галечка,

віншую Цябе зь юбілеем! Гэта сонца, гэта толькі сонца азірае Твой багаты сад!.. Учора адпрынтавала пераклад першага разьдзела «Цытадэлі», і лепш, як сказаў Экзюперы, сказаць немагчыма. «Ты – гэта той, хто зьдзяйсьняецца. І калі ты ўмееш выяўляць сябе як гнуткая, моцна зрослая з камлём алівы галіна, ты ў сваіх парухах зьведаеш солодзь вечнасьці. І ўсё вакол цябе стане вечным. І песьня калодзежу, зь якога наталялі смагу твае бацькі, і бляск вачэй ад усьмешкі каханай, і начная прахалода. І час тады не гадзыньнік, дзе высыпаецца марны пясок, а жнец, які вяжа свой сноп».

Табе гэта ўдалося і ўдаецца. І сноп Твой важкі, іншаму не падняць.

Жыві, працуй, натхняйся!

Зь любасьцю цалую –

Твая *Ніна*

12 лютага 2005 году: спадзяюся, што гэтае маё слоўка птушачкай сядзе ў Твае прыгаршчы акурат 17 лютага! Паклон Яну!

24 красавіка, 05, Вербніца,
Белаазёрск

Дарагія Галінка і Ян!

На стале перада мною гарыць сьвечачка, прынесеная разам зь вярбовай галінкай суседкаю, я паглядваю на тое вяснова-зялёнае і сьвечна-залатое сьвятло і – дзялюся ім з вамі! Праз тыдзень – Вялікдзень, дык будзьце ж здаровыя, як вада, багатыя, як зямля і прыхільныя, як вярба! Сьветлага душэўнага – і творчага! – узрушэньня!

У мяне звычайна. Са звыклага выбіваецца паездка ў Менск 27га крас. на сустрэчу зь філфак. БДУ.

Гарнуся і цалую. *Ніна.*

11 .05. 2005

Дзень добры, Яне!

Бач, другая дэкада мая, а цяпла ўсё няма. Але можа да Твайго дня нараджэння высьпее, нарэшце, сонца. У любым разе, клопатаў-турботаў у Цябе ўдосыць, каб варушыцца і не ўпадаць у фізічнае здранцьвеньне, а душа надзейна падключана да сардэчнага сужэнскага цяпельца. Няхай гарыць яно няўгасна, каб зьдзеялася ўсё, што патрабуе ад Цябе ўвагі, натхненьня, любові. Гарнуся да Цябе і Галі, абдымаю – *Ніна.*

16 кастрычніка, 05
Белаазёрск

Дарагая Галінка, вітаю!

Парадчу карэспандэнцыю, азываюся да сяброў-прыяцеляў, чые лісты-лісточкі даўно крычаць да майго сумленьня. Перачытала Янаву, ажно 4-х месячнай даўнасьці прыгожую, працы Ірэны Янчэўскай, паштоўку. Як жа трапна і мудра сказаў Ян пра дзень нараджэньня (кожнага з нас!)! Пра мукі Маці і пра нашую “аўтаномнасьць” у дадзеным Ёю жыцьці. Мудрасьць паэта.

І тваю паштовачку, Галю, атрымала, дзякую сэрцам і словам.

Хацелі парадаваць мяне ўкраінцы зборнікам маіх вершаў украінскай моваю. Але пераклады, сабраныя там, у большасьці недасканалыя, адзін жа (П. Маха “Хрыстос уваскрос”) зусім укінуў у роспач, бо перакладчык перамаляваў нават сьцяг, зь бел-чырвона-белага зрабіў “біло-червоно-зелену” полотнину!.. Днямі атрымала тлумачэньне, што кніжка зроблена ў адным экземпляры, можна ўнесьці ўсе папраўкі, і зрабіць гэта на кампутары павінна я (дык з ахвотай – пасьля перажытага! – і зраблю) і пераслаць у Цярнопаль. Дарэчы, Галечка, я ўжо асвоіла электронную пошту, чытаю і адказваю па суботах-нядзелях, так што ты ці Ян можаце адгукацца і праз internet. Мой адрас: galena1@tut.by. Нінаў было зашмат, дык я ўзяла імя

почвы”[2]. А стваральнік эпапеі “Вайна і мір” высакародна дэклараваў, што абраў сабе ў героі “людей, не имевших тех недостатков, которые нужны для того, чтобы оставить следы на страницах летописей”[3].

Творчая праца Андрасюка ў гэтым рэчышчы ўжо сама па сабе – справа вельмі пачэсная і нялёгкая. Калі ж з ёю пасуюць і спалучаюцца высокі гуманізм, бездакорная інтуіцыя, глыбіня пастаўленых праблем, раскрыццё нацыянальнага характару ў яго перспектыве, то мусім з пэўнасцю сказаць, што тут да месца тэрміналогія са сфер класічнай літаратуры: гістарызм, народнасць, сацыяльны псіхалагізм, рэалізм. (І спецыяльныя манаграфічныя даследаванні ў такім плане і такой ступені абагульнення, мяркую, не прымусяць сябе доўга чакаць.)

Стылістыка  мастацкага вывучэння рэчаіснасці М. Андрасюком часам набліжаецца да этнаграфічнай замалёўкі, біяграфічнага нарыса або досыць рэдкага ў нашай літаратуры сатырычнага апавядання (як слушна нядаўна адзначыла Л. Алейнік[4]) ці зусім ужо рэдкага, так званага фізіялагічнага нарыса (да ўказанага можна аднесці “Вуліцу добрай надзеі”, “Бар "У Алеся"” і інш.).

Звяртае на сябе ўвагу і празрыстая архітэктоніка, сціслая, строгая паслядоўнасць развіцця сюжэта, абрысаў псіхалагічнага канфлікту ў кароткіх апавяданнях “Фірмы” і “Мясцовай гравітацыі”. Тут відаць неаспрэчнае майстэрства пісьменніка.

А скарыстанне цытатнасці становіцца вельмі плённым сродкам, які дапамагае “ўпісаць” герояў у ход гісторыі і шырокае ідэалагічнае палатно сучаснасці. У дадзеным выпадку лацінскае citare ‘прыводзіць, выклікаць, абвяшчаць’ зусім апраўдвае сваё значэнне. Бо ўвага да побыту “маленькага чалавека”, селяніна, местачкоўца, да прадметных, “адзінкавых” рэалій, нібы падкрэсленае апісанне з натуры зусім не з’яўляецца самамэтай, не азначае абмежаванасці, прыземленасці мастацкай думкі. Андрасюк ужывае згаданы сродак паэтыкі дзеля смелых абагульненняў і пражэктаў на будучыню (асабліва ў кнізе “Белы конь”). Апавяданні яго акумулююць магутны культуралагічны змест.

У дадзеным артыкуле мы імкнемся разгледзець мастацкае функцыянаванне аднаго са сродкаў раскрыцця гэтага зместу – інтэртэкстуальнасці[5]. Выдзеліць яе ў так званым вертыкальным кантэксце – як непасрэдны прадмет адлюстравання, у якасці аб’ектыўнай рэаліі пры

[2] Белинский В.Г. Собр. соч. : В 9 т. М., 1982. Т. 8. С. 603.

[3] Толстой Л.Н. Полн. собр. соч. М., 1949. Т. 13. С. 72.

[4] Алейнік Л. Традыцыі рускай сатырычнай прозы ў творчасці Міхася Андрасюка (“Белавежа”, Беласток) // Міфалогія – фальклор – літаратура: праблемы паэтыкі. Зб. авук. прац. Мінск., 2006. Вып. 4.

[5] Інтэртэкстуальнасць разумеем як актуалізацыю, адсылку да іншага, “папярэдняга” тэксту.

вобразным апісанні нашага грамадскага ўкладу. Таксама ж праяўленне яе ў мове аўтара-апавядальніка – прадстаўніка свайго часу, але найперш – скарыстанне ў выказваннях персанажаў дзеля раскрыцця абсягаў іх духоўнага свету.

Яны, знешне непатрабавальныя і сціплыя людзі, у сваіх будзённых дачыненнях, памкненнях, мадэлях паводзін нібыта мімаходзь выказваюць бескампрамісныя, адзіна магчымыя для іх, вельмі прынцыповыя жыццёвыя пазіцыі[6]. Пры гэтым – заўсёды суб’ектыўна вольныя ў сваіх учынках, абранні шляхоў пры вырашэнні канфліктных сітуацый. Цэласнасць натуры, здаецца, аднолькава дамінуючая прыналежнасць як фонавай большасці актантаў, так і лірычнага “я” пісьменніка. Іх ментальнасць мастацкі бездакорна вызначае псіхічныя рэакцыі, перажыванні, вобразнасць мыслення, практыку сацыяльных паводзін[7]. Пры гэтым нібы незнарок закранаюцца маштабныя актуальныя пытанні агульнаеўрапейскага кшталту, этычная праблематыка, пазначаюцца паралелі тыпалагічнай блізкасці матываў даўніны з сённяшнім днём, нязмушана ідуць разважанні пра вытокі нацыянальнай адметнасці беларусаў і т.д. Местачкоўцы, як жыццёва неабходнае дзеянне, недвухсэнсоўна рэалізуюць у сваіх учынках сімпатыі да прэзідэнтаў (пан Ціхапук са “Смутнай гісторыі з гадзіннікам фірмы "Патэк"”), выказваюць іронію да Генеральных Сакратароў кіруючых партый[8], або “ўжываюць” лацінскамоўныя выслоўі (каб перадаць канатацыю завершанасці і катэгарычнасціназіранняў, высноў[9]). Пры гэтым яны нязменна і тонка адчуваюць стылістыку цытаты, іншароднасць яе эмацыянальнай ауры, мастацкай сферы і найчасцей падкрэсліваюць парадаксальнасць, іранічнасць яе спалучэння з уласнааўтарскім тэкстам як “чужога слова” з атачэннем. Функцыя такога спалучэння ў Андрасюка, як правіла, максімальна змястоўная: “Жыццё прыгожае, – як ідавочны доказ банальнаму ўсё ж такі сцвярджэнню, Гжэсь расклаў здабытую на цесцях каўбасу. Сядзелі мы ва ўтульным закавулку за Старою Юдзянкаю і гулялі ў карты, папівалі цёплае піва, разважалі пра беспрацоўе, якое ў мястэчку пашыралася, бы інфекцыйная хвароба...” (“Колька, які лётаў над мястэчкам” [*Ф*: 85]). Увесь пералічаны антураж недвухсэнсоўна “спрацоўвае” як іранічны закід у бок ідэалізму, “высокага” рамантызму дактрын нямецкага кшталту. Колькі б ні ўслаўлялася абагуленая і ўзнёслая прыгажосць у пэўных ідэалагемах – рэчаіснай адэкватнасцю іх пафаса былі

[6] Гл. напр. сцэну з “ананімным ветэранам” у “Бары "У Алеся"” [*Ф:* 27 – 28] і мн. інш.

[7] –Zima wasza, wiosna nasza, – сказаў аднойчы пан Казік, паглядаючы ў замець за акном.
...Бацька паглядзеў на пана Казіка здзіўленым позіркам, задумаўся.
– Нашы, Казік, адно такарныя станкі. ... І зімою, і вясною. Круглы год (“Вуліца добрай надзеі” [*Ф*: 78]).

[8] “Міхась!” – дзядзька Кандрат шчыра раскідвае рукі, бы сакратар Ярузельскі, пабачыўшы сакратара Брэжнева [*Ф*: 22].

[9] “Нат цётка Варвара, прагуляўшыся па шырокіх прасцягах сваёй памяці, вярнулася з пустымі рукамі. – Абсалютная tabula rasa! – сказала” [*Ф*: 68].

беспрацоўе, здабытая каўбаса, закавулак, піва і г.д. А “ўзлёт” духу асобы над прагматызмам, побытам традыцыйна нараджаюць дысгармонію і адмаўленне[10]. Экспліцытная рэмінісцэнцыя тут надае апавяданню алегарычнае гучанне, нараджае ў свядомасці чытача паралелі з іншымі фактамі еўрапейскага быцця.

Аналагічна ў значнай ступені палітычнай алюзіяй (і зместам сваім, і нават загалоўкам) з’яўляецца апавяданне “Кароткая гісторыя Партыі кучаравых”. Колькі гадоў і сіл паклалі мы на вывучэнне таўсценных кніг са строгімі найменнямі “Гісторыя Партыі” або “Кароткая гісторыя Партыі”! І вось цяпер героі (што ўхапілі, відаць, крыху гэтага “задавальнення”) вырашылі, “каб перайначыць свет” [*Ф*: 55], утварыць партыю яшчэ больш “новага тыпу” (У. Ленін) – “не правую і не левую” [*Ф*: 56], а таксама “не лысуноў” [*Ф*: 66][11]. У тэкст апавядання ўключана мноства выразных экспліцытных рэмінісцэнцый з паэмы У. Маякоўскага “Владимир Ильич Ленин”. Параўнаем, напрыклад: “Адзінка – абсалютны нуль, – праўду, прыдбаную ў школьныя гады, падкінула Курапатка” [*Ф*: 56] –

Единица!...
Единица – вздор,
единица – ноль...

Услаўленне партыйнага калектывізму было даведзена паэтам да абсурднасці. Твор некрытычна выкладаўся і бяздумна засвойваўся. На жаль, гэты “механізм” спрацоўвае і сёння, ён стасуецца, бо мае аднолькавую прыроду з хаосам нашага жыцця.

Агульнавядомае гамлетаўскае пытанне набывае ў вуснах энергічнага антаганіста службы ў войску Мірэка (“Краявід без клямкі” [*Ф*: 41]) адпаведную сітуацыі карэктыроўку. Шэкспіраўскі тэкст у новай мадуляцыі “абслугоўвае” жыццёвыя праблемы “любіцеля "Мальборо", свабоды і прыгожых жынчын” [*Ф*: 39]: “Піць гэту каву ці не піць? Oto jest pytanie!” [*Ф*: 41].

Кожны з адзначаных вышэй прыкладаў інтэртэкстуальнасці, безумоўна, заслугоўвае ў перспектыве значна больш падрабязнага разгляду і аналізу. Цяпер жа мы маем на мэце сцвердзіць надзвычайную шматколерную множнасць гэтай з’явы. Мова герояў Андрасюка проста люстрыцца цытатнасцю (у родавым значэнні тэрміна). Дыяпазон іх надзвычай шырокі. Ад падкрэсленай цэльнай трапнасці як бы запазычаных з народнай мовы выказванняў, што мяжуюць з фальклорнымі выслоўямі (“пьяны як шавецкі

[10] Сумежнае несупадзенне і ступень узаемазалежнасці ідэальнага (узвышанага, духоўнага) з рэальным (матэрыяльным, зямным, прагматычным) як цэнтральная невырашальная супярэчлівасць нашага жыцця ўвогуле і кожнага чалавечага лёсу – гэта праблематыка ў розных ракурсах, але нязменна дамінуе ў творах Андрасюка.
[11] Нагадаем, што “Ленинский огромный лоб” (У. Маякоўскі) нязменна прыцягваў увагу дзеячоў мастацтва і іх аўдыторыі.

панядзелак" [*Ф*: 55]; "раз казе смерць" [*Мг*: 107]) – да біблейскай тэрміналогіі і супастаўленняў. Вось як аўтар перадае імпрэсіі знерваванага падлетка, які востра адчувае прыніжанасць асабістую і агульнанацыянальную:

"...пад абед прыйшоў пан Франак і адным спраўным рухам вызваліў... з няволі.

– Ідзі, – кажа, – душа грэшная, выпрастуй косці. І паслухмяная будзь. Паслухмяных не вяжуць.

– Калі сапраўды хочаш закурыць, скажы: камэрадэ.

...І сам сабе даеш адпушчэнне: бывае, для меншай карысці ідуць у... тыя камэрадэ... Тупаеш наўкол Кастра, у вочы зазіраеш... Танна прадаеш сябе і ведаеш аб гэтым. Праўда, можаш іначай, можаш крыкнуць: Я – беларус! Паглядзіце, там, за лесам – мая імперыя! Я не прашу, я патрабую!... Не зразумеюць" [*Ф*: 34, 35, 36].

Не толькі іншастылёвыя "душа грэшная", "адпушчэнне", але і свядома ўведзеныя гістарычныя недакладнасці рэзаніруюць, выклікаюць да супастаўленняў іншыя тэксты і паралелі з Бібліяй.

Адзначым, што Беларусь ніколі не была імперыяй, і "за лесам" (гэта значыць, – Белавежскай пушчай, 'у Еўропе') такой яе ніхто не лічыў. А вось за морам грамадзянін Рымскай імперыі быў зразуметы, калі гаварыў: "Я..., родившийся в Тарсе Киникийском... Разве вам позволено бичевать Римского гражданина, да и без суда?... Тотчас отступили от него хотевшие пытать его; а тысяченачальник... испугался, что связал его... Павел потребовал суда у кесаря"[12].

І хаця ў аўтарскім тэксце мы не маем непасрэдных, эксплiцыраваных адсылак да менавіта гэтага першаадраса, але да яго скіроўваюць адметныя рысы мыслення юнака-апавядальніка. Гэта – заўсёдная фрагментарнасць, асацыятыўныя сувязі штодзённых побытавых уражанняў з маштабнымі падзеямі, сусветнай гісторыяй.

Урэшце такое ж "праектуючае" мысленне ўласціва і самой аўтарскай манеры Андрасюка.

Гэтаксама няцяжка адзначыць і роднасць сюжэтных элементаў, перагукванне выслоўяў пісьменніка з вершаванымі творамі старэйшых калег па "Белавежы". Ва неўласнааўтарскай мове чытаем: "У пісьменніка было жаданне напісаць кніжку, важную і незвычайную. Ён... заходзіў у той час, калі дзверы ў чарговыя дні звужаюцца, а ноч расстаўляе густое сіта зор і трэба... адсеяць слова ад балбатні. Што ёсць быццё, што чалавек? Што справядлівасць, а што праўда? На такія пытанні яму хацелася даць адказ" [*Мг*: 142 — 143][13].

[12] Деяния Святых Апостолов. 22: 3, 29, 26, 32.

[13] Параўнаем: Зборнік Яна Чыквіна "Кругавая чара" адкрываецца вершам "Крык начны савы". Вось яго пачатак: "Што ёсць быццё? Што – чалавек? Што – Бог?" [Беласток, 1992.

Не менш прывабны ў гэтых адносінах і ўласнааўтарскі тэкст, дзе ў дапаўненне да аналагічных паралеляў лёгка адзначыць разлічаныя на пазнанасць чытачом вобразнай, матыўнай сувязі з іншымі творамі сучаснікаў (па прынцыпу падабенства або адштурхоўвання).

У сэнсавым полі такіх, безумоўна, ацэначных выказванняў, як "кумпясты купал сабора" [*Мг:* 47]; "трымцела пагутарыць з Усявышнім" [*Мг:* 49]; "зашавялілася чорная сукенка бацюшкі Рыгора" [*Мг:* 101], а таксама іранічных замалёвак "Даўно ж не аб'яўлялася ў павеце якая-небудзь святая постаць... А якая была сукенка ў Божай Маці? А прычоска якая? А што сказала? А на якой мове? Па-расейску ці па-польску? А можа на ангельшчыне?" [*Мг:* 101 – 102]; ""Госпадзі...", – за снеданнем шаптаў у вочы святому Мікалаю. Той глядзеў у малочную зацірку з вышыні іконы і маўчаў. А ўчора... азваўся тэлефон" [*Мг:* 93]; "Цёта Люба мела ў сабе адвагу сэрца святога Юр'я, які перамагаў пякельнага цмока, і ўпэўненасць рукі архангела Міхала, калі ён вострым мячом скідваў антыхрыста ў самыя глыбокія закавулкі пекла, і бесцырымоннасць першых крыжаносцаў, адпраўленых у чужы свет, каб вогнішчам добрай навіны асвятляць морак сярэднявечча" [*Бк:* 59, 60] – зварот пісьменніка да рэлігійнай паэзіі носіць хутчэй за ўсё імпліцытны, прыхаваны характар. І тым не менш сведчыць пра такі ж унутраны дыялог-пярэчанне ўзнёсласці матываў і тэм з жыццёвай практыкай яго персанажаў.

Відавочна, у эстэтычнай лабараторыі М. Андрасюка інтэртэкстуальнасць ахоплівае мноства вельмі разнародных і самастойных стыхій слова, дасканала выконвае сваю матывападпарадкаваную функцыю. Гэты мастацкі прыём у вуснах герояў арганічна пасуе адлюстраванню інтэртэкстуальнасці як рэаліі быцця – ужо выспеламу ў соцыуме спецыфічнаму сродку камунікацыі. Сродку, што ўзбагачае адценнямі праблематыку выказвання, пашырае дыяпазон скарыстання паэтыкі розных эпох і, што вельмі важна, уводзіць у сферу тыпалагічных супастаўленняў, геаграфічных і гістарычных паралеляў, пазначае дыялектычную сувязь часоў, падзей, характараў.

Прымаючы да ўвагі асаблівасці літаратурнага прэцэдэнта М. Андрасюка – творцы, які мысліць пераважна характарамі, – мэтазгодна засяродзіцца на наступных паказчыках уключэння "чужога слова" як сродка фармавання сэнсу, як яно актуалізуецца ў свядомасці чытача:

– які́м героем «чужое слова» ужываецца: змест яго жыцця як тыповага прадстаўніка пэўнай сацыяльнай сукупнасці ў пэўную эпоху; індывідуальна-

С. 7]; Пра начное размежаванне значнага ад легкадумнага ў Яна Чыквіна:

Ноч цячэ на схіле дня...
Сны прарочыя,
Але таксама й балбатня! [Чыквін Ян. Светлы міг. Мінск, 1989. С. 74].

псіхічная характарыстыка;

– у якой сюжэтнай сітуацыі гэта зроблена ці што вымагае зварот героя да іншатэксту;

– якая ацэначная пазіцыя пісьменніка ў дачыненні да ўведзенага інтэртэксту і сэнсу ўласна яго алюзіўных уключэнняў;

– да якога твора (твораў) робяцца "адсылкі";

– з якой ступенню лексічнай дакладнасці;

– чаму менавіта дадзеная інтэрпрэтацыя абрана, актуалізавана са шматслойнага зместу пратографа альбо "учытаная" героем у першакрыніцу.

Дзеля разгляду кампазіцыйных блокаў, у якіх аналізуюцца вытокі нацыянальнай свядомасці беларусаў, асаблівасці яе модуса ў сучасных умовах, звернемся да двух апавяданняў са зборнікаў "Фірма" і "Мясцовая гравітацыя".

У складзе апошняга "Зубр" вылучаецца нават сваім большым памерам (32 старонкі пры звычайных ад 5 да 11-ці), цэлай сістэмай нібыта самастойных, адасобленых сюжэтных ліній, аб'ёмам праблематыкі, што ў храналагічным плане ахоплівае некалькі вякоў (і гэтымі асаблівасцямі набліжаецца да аповесці "Белы конь"). Усе як быццам бы незалежныя адзін ад другога фрагменты тэксту набываюць цэнтраімклівыя якасці, яднаюцца ідэйна і кампазіцыйна вакол аднаго асяродка – сімвалічнага вобраза зубра. Ён увасабляе нацыянальныя патэнцыі Беларусі. Сучасны заняпад яе моцы скіраваў думку мастака да неабходнасці, калі не вычарпальнага тлумачэння, то ў якасці подступаў да яго супастаўлення гэтай з'явы з часамі гістарычнага ўзлёту.

І таму сон Паўлюка Палітуры пра "магутную, зачытаную ў кніжках далёкую мінуўшчыну" [*Мг:* 95 – 96], безумоўна, канцэнтруе ў сабе (хаця б і ў форме эмацыянальнага прадчування, асацыяцый) наспеўшую неабходнасць і пэўную ўжо мажлівасць асэнсаваць сітуацыю, зразумець яе прычыны, вытокі, былыя памылкі, каб з трывожнай надзеяй угледзецца ў будучыню. Гэта алегарычная замалёўка выконвае функцыю своеасаблівага эпіцэнтра ўсяго твора: "А пятай раніцы Паўлюка Палітуру разбудзіў **грукат Пагоні**. Яму снілася магутная, зачытаная ў кніжках далёкая мінуўшчына: вялікі князь Альгерд пад мурамі Масквы. **Сеўшы на каня, ён** якраз **пад'ехаў да Крамля і дакрануўся да яго дзідай**. Крэмль, як то ў сне, быў падобны на мястэчковы магістрат, а маскоўскі валадар Дзмітры Іванавіч меў, невядома чаму, твар бухгалтара Лявона Пупко. "**Памятай, што дзіда літоўская стаяла пад Масквою", – звярнуўся да Дзмітра**-Лявона **князь Альгерд.** "**Па-мя-тай!" – паўтарыў яшчэ і яшчэ раз, а затым, сціскаючы каленямі конскія бакі, кінуўся галопам у белую імглу. Дружына з** дзесяці **рыцараў пайшла следам. Грукат капытоў** разбудзіў Паўлюка Палітуру.

"Добра, што разбудзіўся ў час... Навошта здабываць нам тую Маскву. Славянская яна ж. І праваслаўная". А над галавою барабанілі пятамі ў столь

суседавы дзеткі” (*Мг*: 96 – 97) (выдзелена – *Л. З.*).

Форма сну ў дадзеным выпадку найбольш пасуе задуме аўтара, бо дазваляе перадаць сваё асаблівае “ўнутранае бачанне” душы персанажа. Яе глыбіня, веды, памяць – вольныя ад камуфляжу будзённай абачлівасці, кан’юнктурнай тэндэнцыйнасці. Апошняе асабліва важна. Бо наш герой мае “гаворачае” прозвішча “Палітура”[14], а імя Паўлюк – таксама з’яўляецца алюзіўнай лексемай. Яно – памяншальна-размоўная форма ад Біблейскага апостальскага Павел, якое, дарэчы, у перакладзе з латыні (paulus) – ‘маленькі’. Такім наборам намінантаў аўтар нібы падрыхтоўвае нас да сітуацыі, што ў падсвядомых трызненнях яго як выніку напружаных роздумаў-намаганняў і нават памылак можа з’явіцца нешта запаветна-ісціннае, пакутна-шукальнае. Бо народзіцца, нібы з мізэрнага зярнятка, скінуўшы сацыяльнае шкарлупінне (прозвішча), – каштоўны жытні колас.

Паўлюк глыбока перажывае за перспектывы нацыянальнага лёсу, сённяшні стан бацькаўшчыны, дух яе культуры. “Калі б вось не тое "цоканне-пшэканне"… Знікае наша Бацькаўшчына. Сто гадоў – і след астыне. Хіба ж цяпер, у пачатку трэцяга тысячагоддзя, яшчэ здараюцца цуды? – Такія вось думкі таўкліся ў галаве Паўлюка Палітуры, калі сумным вокам глядзеў ён у акно... "Куды ідзеце? На смерць ідзеце!" – захочацца крыкнуць. ...Адступіўшы ад акна, моўчкі прысядзе за сталом і закурыць. Захочацца плакаць” (*Мг*: 96 – 97). Адмаўляючы панаванне і пашырэнне польскага ўплыву (“цоканне-пшэканне”) ў беларускім асяроддзі, што ж дэкларуе спадар Палітура грамадзе, на якую перспектыву ўказвае? Свае надзеі на адраджэнне нацыі ён звязвае з магутнай Расіяй, яе дапамогай і бескарыслівай падтрымкай:

– Нашы, безумоўна, старэйшыя браты...

– Значыць – расіяне? – радасным воплескам выскачыў з натоўпу голас Паўлюка Палітуры. – А я так і думаў – ці не яны тут абдорылі нас? Золата ў Расеі, во, пад завязку. Усіх зуброў азалаціць у пушчы – тое, што і сплюнуць для Расеі (*Мг*: 106);

На маю думку, расіяне, зусім бясплатна абдорылі нас, – паспяшаўся з адказам Паўлюк Палітура (*Мг*: 111).

Такія спадзяванні ён выношвае і гаворыць гучна аб іх на людзях. Не лішнім будзе згадаць, што такія яго захады, мабыць, знаходзілі раней добрую падтрымку “з верху”, бо жыве ж ён у суседстве, нават на тым жа трэцім паверсе, што “ўсемагутны” Яўхім Гаворка, сакратар Партыі да 1998-га году .

[14] Палітура – спіртавы лак, які ўжываецца для паліроўкі вырабаў з дрэва; Разм. ‘глянец, бляск, наведзены паліраваннем’ // Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. Мінск, 1979. Т. 3. С. 635. Адзначым, што падзеі адбываюцца ў мястэчку каля Белавежскай пушчы, дзе ёсць толькі адно прадпрыемства – дрэваапрацоўчае. Таму “паліраваць” набывае канатацыю не столькі ‘прыхарошваць’, як ‘шкодзіць, пазбаўляючы натуральнага выгляду’ ўсю рэчаіснасць, жыццё людзей гэтага рэгіёна.

Але сніцца Паўлюку нешта неспадзеўнае, ад чаго ён рады абудзіцца "ў час", каб не "завялі" яго куды задалёка нечаканыя ўяўленні. Бо растрывожыў яго начны спачын зусім не бой крамлёўскіх курантаў, а – грукат беларускай Пагоні. "Яму снілася магутная... далёкая мінуўшчына", – скажа аўтар аб эмацыянальным уражанні героя, звязваючы гэты настрой-пачуццё з уласна беларускімі патэнцыямі. Сон Паўлюка ўяўляе сабой самастойную навелу, інкруставаную ў тэкст апавядання. Інтэртэкстуальнасць яе відавочная, ды і на гэта непасрэдна ўказваецца: "зачытаная ў кніжках", як і вектарнасць пошукаў магчымых пратографаў – "мінуўшчына".

Уласна прывіды Паўлюка (выдзелены ў фрагменце вышэй) сэнсава і стылістычна уяўляюць сабой неаспрэчную цытацыю з сярэднявечных твораў. Міжусобіцы, замірэнне, адпраўленне ў паход, дэманстрацыя вайсковай сілы, штурм гораду, княжацкая дружына, звышхуткасны рух у геаграфічных прасцягах, ахутаныя імглой чароўныя з'явы – распаўсюджаныя тагачасныя традыцыйныя сітуатыўныя формулы, г. зн. 'падобныя па выбару фактаў і сюжэтнай кампазіцыі фрагменты'. Апісваліся яны таксама ж у выглядзе клішэ – традыцыйнымі словазлучэннямі[15]. У нашым выпадку гэта: раптоўнае пераадоленне вялікіх адлегласцей, знікаючы ў засмужы; чароўна ахутвацца павалокай; дружына, неадлучна з'яднаная з князем; "сесці на каня", "дакрануцца дзідай", "дзіда стаяла". У дачыненні да літаратурных вытокаў гэты тэкст дае падставы гаварыць пра яго неаднастайнасць, гетэрагеннасць і дазваляе ў такіх адносінах вылучыць у ім тры часткі. Першая: "Сеўшы на каня, ён... пад'ехаў да Крамля і дакрануўся да яго дзідай... "Памятай, дзіда літоўская стаяла пад Масквою!", – звярнуўся да Дзмітра... князь Альгерд. "Па-мя-тай!" – паўтарыў яшчэ і яшчэ раз...". Другая: "...Сціскаючы каленямі конскія бакі, кінуўся галопам у белую імглу". Трэцяя: "...грукат Пагоні... Дружына з... рыцараў пайшла следам".

Для першай часткі ўласціва насычанасць указанымі формуламі. Па сутнасці, яна ўвабрала ўсе традыцыйныя словазлучэнні, што прысутнічаюць у сне. Эмблематычнасць малюнка нагадвае прынцып адлюстравання тэксту ў старажытных мініяцюрах, што чытаўся як разгортванне формул, занатаванне іх аўталагічна. Другая – у гэтых адносінах уяўляецца штучна пабудаванай, як і першая. Бо хаця выраз "сціскаючы каленямі конскія бакі" не адзначаны як моўная формула ў медыявістыцы (прынамсі, мне не ўдалося сустрэць), але ж як метанімічны выраз азначае 'борздка, энергічна, напружана скакаць на кані'. Вартае ўвагі, што ў дадзеным фрагменце слоўная формула не вымагае пераважнага аўталагічнага, літаральназрокавага прачытання, як скажам, "сесці на каня" – 'выправіцца ў паход'. У гэтым сэнсе яна нават "больш" формула, чым папярэднія "сапраўдныя".

[15] Гл.: Лихачев Д.С. Литературный этикет древней Руси (к проблеме изучения) // ТОДРЛ. Т. XVII. М.; Л., 1961; Он же. Литературный этикет // Он же. Поэтика древнерусской литературы. М., 1979; Творогов О.В. Задачи изучения устойчивых литературных формул Древней Руси // ТОДРЛ. Т. XX. М.; Л., 1964.

Трэцяя – мае апасродкаваныя дачыненні да "далёкай мінуўшчыны". Бо яна "зачытаная" з іншых кніжак – ужо не далёкай мінуўшчыны, а стылізаваных пад яе рамантычна-фантастычных пасажаў новага часу ("Кінуўся галопам у белую імглу. Дружына з... рыцараў пайшла следам").

У адпаведнасці з пазначанай вышэй схемай характарыстыкі інтэртэксту зараз нам трэба адказаць на пытанне, ці маем мы тут прыклады літаратурных клішэ, агульных месц, да якіх прызвычаілася чытацкая аўдыторыя, альбо патрабуецца верыфікацыя зусім пэўных пратографаў? Апошняе падаецца найбольш мэтазгодным.

Апісаныя ў сне Паўлюка гістарычныя падзеі – паходы на Маскву (Вялікі князь Альгерд, другая палова XIV ст.) – былі занатаваныя ў многіх аналах як рускага, так і беларускага паходжання. Кардынальна розняцца яны найперш па вектарнасці патрыятычных сімпатый. Таму беспамылкова можна сцвярджаць, што вытокам трызненняў Паўлюка сталі беларускія гістарычныя крыніцы, дзе пазітыўна ацэньваецца ваяўнічасць князя Альгерда[16].

Сярод вядомых сёння помнікаў з інфармацыяй пра яго экспансіі вылучаецца паўнатой выкладання гістарычнага матэрыялу і мастацкімі якасцямі "Хроніка Быхаўца". Яна, дарэчы тут нагадаць, набыла ў нашы дні пэўную пашыранасць, што ўвогуле не часта здараецца з летапісамі.

Гэтаму садзейнічалі доўгачаканы, пасля рускага і літоўскага, пераклад на сучасную беларускую мову, некалькі навукова-папулярных перавыданняў і выхад у свет грунтоўнага навуковага даследавання Ліліі Цітко “"Kronika Bychowca" na tle historii i geografii języka białoruskiego”[17]. Глыбокія назіранні над старажытнабеларускім маўленнем дапоўнены ў ёй кірылічнай рэканструкцыяй і слоўнікам твора. Даўнія пісьмена "асвяжыліся" ў сваім новым грамадскім жыцці. Таму зусім верагодна, што менавіта іх эмацыянальныя пасажы найперш маглі стаць штуршком (альбо адным з іх) для замалёўкі Андрасюка.

Складзеная як летапісны звод у першай палове XVI стагоддзя (дайшла ў

[16] Параўнайце, напр.: Московский летописный свод конца XV века // Полное собрание русских летописей. М.; Л., 1949. Т. 25; Гл. таксама: Творогов О.В. Древняя Русь: События и люди. СПб., 1994. С. 57 – 58, 61. ("1315 – Великим князем Литовским становится Гедимин (ум. 1341). Происходивший в годы его княжения процесс переподчинения Литве исконно русских княжеств (к Литве отошли Витебск, Минск, Волынь, Друцк, Берестье) ни в коей мере нельзя рассматривать как завоевание: князья – частично Рюриковичи… становились вассалами Гедимина в ходе каких-то не до конца нам известных (по скудости источников) событий… На поддержку Литвы неизменно опирались, соперничая с Москвой, тверские князья, на Литву зачастую ориентировались Псков и Новгород… 1345 – Великим князем литовским становится сын Гедимина Ольгерд, один из авторитетнейших и могущественнейших литовских правителей. При нем продолжалось территориальное расширение Литовского княжества".)

[17] Lilia Citko, "Kronika Bychowca" na tle historii i geografii języka białoruskiego, Białystok, 2006.

спісе XVII – пачатку XVIII стст. лацініцай) “Хроніка Быхаўца” ўвабрала важнейшыя мастацкія асаблівасці літаратуры свайго часу. Гэта – выразная аўтарская ацэнка падзей, нават тэндэнцыйнасць у падачы матэрыялу, вобразаў палітычных дзеячоў. У лексіка-стылістычным плане назіраецца пэўная эклектыка і разбурэнне сістэмы літаратурнага этыкету, заканамернай падпарадкаванасці канону. Толькі апошнім можна патлумачыць, што летапісец, ухваляючы пераможны паход на Маскву, з мноства воінскіх формул падкрэсленую і адвольную перавагу надае выразу “узяць горад кап'ём” – ‘авалодаць, заваяваць’ гэтае паселішча-крэпасць. Яго карэляты сустракаюцца ў аўтарскай і простай мове, ускладнёныя вызначэннямі, прадметна-літаральнай канкрэтызацыяй, канатацыйнымі адценнямі.

**Мова аўтара**:
…i wszedszy sam na koń, y kopije wzemszy w ruku, y pryiechawszy ko horodu y kopie swoie k steni prysłonił[18].

**Мова Альгерда**:
Z Bożyiu pomoczyiu k horodu ieho Moskwe kopie swoie prysłoniu; …muszu pod horodom twojm Moskwoiu kopije swoie prysłonity; …tuiu sławu wczynity, szto weliki kniaź Litowski y Ruski y Żomoytski Olgierd, kopije swoje pod Moskwoiu prysłonił; …rekł tak welikim hołosom: “…Pamietay to, szto kopije Litowskoie stoiało pod Moskwoiu”[19].

Але ў гэтым жа кантэксце храніста словазлучэнне “wszedszy sam na koń” неаспрэчна ўжо згубіла сваю ідэаматычную злучанасць, значэнне ‘адправіцца ў паход’.

Адзначым, што гістарычны помнік мае і мноства іншых бліскучых фрагментаў вайсковай тэматыкі (напр. “…kniaź weliki Olgierd… zapaliwszy hubku dał posłu a rek tak, day to hospodaru, y powiday iemu szto u nas w Litwe ohoń iest… na welikdeń… pocałuiu jeho krasnym jajcom, czerez szczyt sulicoiu»”[20] і да т. п.), якія таксама імпануюць беларускаму рэцыпіенту, але ж засталіся па-за ўвагай пісьменніка (і Паўлюка). А невялікі па аб’ёму расповед літаральна “зазвінеў” гэтай формулай (у суправаджэнні шматлікіх новых абертонаў) згодна з “учытаным” у яе сэнсам. Найбольш як увасабленнем патэнцый гегемоніі, узлёту магчымасцей, а не апісаннем батальнага працэсу. У “Хроніцы Быхаўца” відавочна аддаецца перавага больш вайскова-“пасіўнаму” варыянту: у аўтарскай мове скарыстаны выказнік “прысланіць” (які ўвогуле адсутнічае ў аўтарскай мове сучаснага твора). А ў мове Альгерда ў дадатак да яго ж – тройчы і выказнік “стаяць”. У сукупнасці яны вычарпальна перадаюць магчымасць пагрозы, упэўненасць у перавазе і пераканаўчую для інспіратараў (персанажаў і аўтара) дастатковасць зробленага. (М. Андрасюк развівае ў сне Паўлюка менавіта

[18] ПСРЛ. М., 1975. Т. XXXII. С. 140.
[19] Там жа.
[20] Там жа.

гэты канцэпт семы старажытнай формулы – ваяўнічая, чытай, "жыццёдзейная" энергія пры адсутнасці выразнай агрэсіўнасці, але, як пабачым далей, пераадольвае нейкую нелёткую, стылёва грувасткую эмпірычнасць апісання таго, што адбываецца.)

Апошняе цалкам стасуецца з нетаропкім эпічным расповедам завяршэння сюжэта ў "Хроніцы". Чытаем: "Azatym… kniaź weliki Moskowski… dary mnohimi bezczyślenne, zołota srebra, i dorohim żemczuhom, y sobolmi, y innym dorohim a dywnym zwerem mochnatym, kniazia welikoho Olgierda darował, y szkodu kotoruiu on pryniał w zemlu ieho iduczy iemu zastupił. ...A zatym kniaź weliki Olgierd zo wsimi wojski swoimi y z welikoiu czestiju, i z mnohim połonom, y z newymownym dobytkom zwojowawszy, y horody mnohii pobrawszy, y hranicu wczynił po Możajsk, a po Kołomnu, y mnoho ludey popleniwszy, y zo wsimi ludmi swoimi w całosty wo swoiu si otide"[21].

У тэксце Андрасюка замалёўка сну развіваецца і завяршаецца прынцыпова інакш як у ідэйна-сэнсавым, так і стылістычным плане. Яна мае процілеглы гістарычна-"мадэрнізаваны" вынік: выключна рыцарскарамантычны, напрэч пазбаўлены прагматызму прыдбання. Больш таго, як паведамленне пра перамогі, звязаныя з рабаўніцтвам маёмасці, людскога палону, ухваленне ўдалага "торгу" з Маскоўскім князем – усё гэта канцэптуальна не магло прыцягнуць станоўчую ўвагу М. Андрасюка. Нават і дзеля мастацкага адмаўлення, бо ён заняты перш за ўсё пошукам перспектыўнага пазітыўнага пачатку ў нацыянальнай гісторыі, усхваляваны заняпадам духоўнасці. Пры гэтым выразна іранічна ставіцца да такіх хваравітых сімптомаў, як імпэт "здабыць", "разжыцца".

Віртуальная рэальнасць трызнення Паўлюка багатая шмат якімі фарбамі і мастацкімі рысамі, што знаходзяцца па-за межамі тэксту "Хронікі Быхаўца" і відавочна маюць сваімі вытокамі іншыя старажытныя літаратурныя крыніцы. Напрыклад, паказальная замена графем храніста "stena" на "муры" і "horod… Moskwa" на "крэмль": "вялікі князь Альгерд пад мурамі Масквы... ён пад'ехаў да Крамля..."[22]. Гістарычна гэта зусім апраўдана, бо якраз у 1367 годзе напярэдадні паходаў Альгерда адбылося збудаванне белакаменнай агарожы крамля замест драўлянай – першае такога роду мураванае ўмацаванне на Суздальскай Русі.

Уласцівая М. Андрасюку канцэптуальнасць, імкненне асэнсоўваць сучаснасць на глебе глыбіных гістарычных супастаўленняў і сувязяў з мінулым дзеля пошуку пазітыўных перспектыў, даюць падставы для наступнага тлумачэння трэцяй, заключнай часткі сну. Эскізнасць яго выявы, сумарнасць, абагуленасць апісання, іманентная невытлумачальнасць мэт, учынкаў, абсалютная адсутнасць эмпірычнай карысці зробленага, крэатыўная "прыродная" моц персанажа фармуюць уяўленне пра пэўную

[21] Там жа, с. 140
[22] Там жа.

інспірацыю, скіраваную нам ад далёкай мінуўшчыны. І мы павінны здолець яе атрымаць, засвоіць, каб адрадзіцца, наноў узвысіцца. Гэтыя матывы і паэтыка адлюстравання нараджаюць асацыяцыі, фармуюць у сённяшняга чытача алюзіі з іншым легендарным і неўміручым героем нашай гісторыі – Усяславам Полацкім. Ён таксама, як эфемерны прывід, ужо быў увасоблены не непасрэдна, а праз згадкі ў сваю чаргу безыменнага генія далёкага XII стагоддзя. І цяпер адзываецца ў нашай свядомасці нейкім сваім асаблівым лексіка-стылістычным "духам" у прысвечаных яму фрагментах. Ад іх зыходзіць невытлумачальная энергетыка, звязаная з уяўленнем аб фізічным фармаванні нацыі ў імгле вякоў.

Даверымся магіі супастаўлення мастацкіх рэальнасцяў, у якіх лёгка адзначыць агульна-роднасны вербальны і семантычны субстрат (ён падкрэслены мной – *Л.З.*):

**"Слова аб палку Ігаравым"**

Тъй (Усяслаў Полацкі – Л.З.) клюками подпръся о кони, и скочи къ граду Кыеву, и дотчеся стружіемъ злата стола кіевскаго;
Скочи отъ нихъ лютымъ звѢремъ въ плъночи, изъ БѢла-града, обѢсися синѢ мьглѢ[23]

**"Зубр"**

…Вялікі князь Альгерд пад мурамі Масквы.
Сеўшы на каня, ён якраз пад'ехаў да Крамля і дакрануўся да яго дзідай.
…а затым сціскаючы каленямі конскія бакі, кінуўся галопам у белую імглу.

Аб'ядноўвае гэтыя сюжэтныя блокі і пратаганістаў вельмі многае. Абодва яны – землякі, г. зн. пазначаны пэўнымі роднаснымі псіхічнымі рысамі, асаблівасцямі мадэляў мыслення як перадштуршкоў паводін. І схемы разгортвання падзей амаль ідэнтычныя. Адзіны рэгіён вытокаў вайсковага паходу, як і палітычны статус аб'екта (Кіеў, Масква), аднолькавая ж і "непаўната" экспансіі. Персанаж не мае на мэце здабыць, падначаліць поўна і стабільна чужы стольны горад, вабяць яго не перспектывы ўлады і праўлення або рабаўніцтва. Не, яму дастаткова пачуцця задавальнення ад самой такой мажлівасці, памкнення, волі да перамогі без рэальнага здзяйснення. Аб'ектыўна гэта – пагроза праціўніку, гатоўнасць памерацца сілаю, вартасць быць роўным, а не слабейшым і пакрыўджаным побач з заведама больш моцным візаві.

Як полацкі князь Усяслаў толькі часова, у выніку імпульсу, стаўся кіеўскім князем і тым (як галоўным учынкам сярод іншых) набыў сабе ў аналаг своеасаблівы брэнд[24], таксама ж для вызначэння, цэнтральнай характарыстыкі князя Альгерда найважнейшае, што ў выніку ўсплеску

[23] Слово о полку Игореве. Л., 1985. С. 9.
[24] На думку гісторыка Э.М. Загарульскага, "сваёй незвычайнай папулярнасцю Усяслаў абавязаны не толькі і не столькі асабістым якасцям, колькі акалічнасцям, якія зрабілі яго кіеўскім князем". Увогуле ж гэтая фігура сярэднявечча вывучана недастаткова: не толькі ў мастацкай літаратуры, але і ў працах даследчыкаў сустракаем цяжка сумяшчальныя

падзей яго “дзіда літоўская стаяла пад Масквою”. Адзначым і не менш важкую характарыстыку менталітэту: абодва героі не былі ініцыятарамі сітуацыі, яны ў ёй хутчэй удала для сябе праяўляліся і па мажлівасці развівалі яе ў сваіх інтарэсах.

Апошняе – не выпадкова і не магло застацца па-за мастацкай увагай М. Андрасюка, бо ўказанымі акалічнасцямі сугучнае ўсёй сістэме яго нацыянальных тыпажоў. Гэтае палажэнне і непасрэдна вербальна дэкларавана ў аўтарскіх разважаннях на старонках аповесці “Белы конь”: “Не нарадзіўся тут ні адзін геній, але і не прыйшоў на свет таксама ні адзін дарэшты злы чалавек, за якога трэба было б саромецца доўга” (*Бк*: 119).

У “Зубры” кампаратывісцкі роднасныя гістарычныя рэаліі і характары асацыіраваліся ў свядомасці Паўлюка і мастацкі сінтэзіраваліся ў алюзіях на шырокавядомы твор. Сёння ён не проста “на слыху”, але сам стаў увасабленнем, як бы сімвалам даўніны. Таму пісьменнік зусім слушна скарыстоўвае не дакладную цытацыю, а нібы “размытую”, алюзіўнасцю “выклікае”, апеліруе да “Слова”.

Адзначым таксама ў дадатак да вылучаных вышэй (падкрэсленых) паралеляў некаторыя ўскосныя дадзеныя і канстатацыі сучасных навукоўцаў. Калі ў параметрах фармальна-лагічных яны, зразумела, не могуць быць прызнаны неабвержным доказам звароту пісьменніка да “Слова”, то ў сферы эстэтычнага мыслення апошняе выступае як зусім верагоднае.

Мэтазгодна тут нагадаць назіранне прадстаўніцы маскоўскай семіятычнай школы Т.М. Мікалаевай. Яна піша: “...значение слова *мгла*, которое совмещается с употреблением облака и тумана, обычно иллюстрируется в "Словарях" примерами из "Слова о полку Игореве"… Слово *мгла* и эта лексема [туман, воблака – Л.З.] оказываются связанными с одним из наиболее ярких и функционально нагруженных образов – князем-волхвом Всеславом Полоцким”[25].

Таксама ж у адной з абагульняючых прац Пушкінскага Дома, грунтоўным артыкуле Л.В. Сакаловай “Образ князя Всеслава Полоцкого в "Слове о полку Игореве"” чытаем аналагічнае завяршэнне лагічных выкладак: “"обѢсися синѢ мьглѢ"… это образное выражение, смысл которого можно передать современными устойчивыми сочетаниями "повис в воздухе", оказался "в подвешенном состоянии", "между небом и землей". … Всеслав "повис в синем тумане" – оказался в подвешенном, неопределенном положении, без пристанища”[26]. Прыстанішча не толькі лакальнага, дзе ён

ацэнкі. Напр.: “слава і вядомасць... агульнарускага героя” (Э.М. Загарульскі) – “дзейнасць скіравана найперш на кансалідацыю... у межах тагачаснай Беларусі (С.В. Тарасаў)” // “Слова о плъку ігоревѢ” ў асвятленні дзеячаў беларускай навукі, літаратуры і культуры. Мінск, 2000. Адпаведна сс. 100, 100, 229. А таксама сс. 227, 96.

[25] Николаева Т.М. “Слово о полку Игореве”. Поэтика и лингвистика текста; “Слово о полку Игореве” и пушкинские тексты. М., 2005. 2 изд. С. 220.

бы валадарыў. Гэта значыць таксама, што пакінуўшы Кіеў, як кантрапункт здзейсненага, Усяслаў для Аўтара ў якасці аб'екта адлюстравання нібы пераходзіць у лагічна-эмацыянальнае "сумбурнае", "ценевае" поле расповеду, губляе выразнасць, дакладнасць абрысаў. Інфармацыя пра Усяслава ў сюжэтных перыядах Ноўгарад–Няміга–Дудуткі рацыянальна непаслядоўная, асацыятыўна-фрагментарная, таму яны і лічацца сёння цьмянымі месцамі[27].

І на старонках "Энциклопедии "Слова о полку Игореве"" А.В. Тварагоў згодна з сілагізмамі XIX – XX стст. даводзіць: у інтэрпрэтацыі вядомых па летапісах фактаў біяграфіі Усяслава ёсць "много странного"[28].

Па сутнасці, агульную распаўсюджанасць атрымала думка аб выразнай сімптаматычнасці і знакавасці як слова-сігнала лексемы "імгла" ва ўсеслававым фрагменце. Яна выразна засяроджвае на сабе ўвагу чытача і таму, што зрокава-прадметна арганізуе завяршэнне лагічна паслядоўнага "кіеўскага" звяна. Менавіта ў гэтых лексіка-семантычных межах апошняе цалкам і вычарпальна знаходзіць сабе паралель у "Зубры".

У пазначанай сістэме каардынат мастацкіх супастаўленняў "Слова" і "Зубра" звяртае на сябе ўвагу адно несупадзенне, адрозненне. Маецца на ўвазе абранне іншага каларатыўнага атрыбута да слова "імгла": "белая імгла" як альтэрнатыва "сіняй імгле" ў "Слове". Паролевая проціпастаўленасць гэтых словазлучэнняў падкрэсліваецца сваім праяўленнем на фоне падабенства пераважнай большасці тэкставых паказчыкаў: у бінарным атрыбутыўным словазлучэнні аднолькавае галоўнае слова – "імгла". Унутраная сінтаксічна-семантычная еднасць лексічнай пары дапоўнена яе завяршальным, акцэнтным месцам у сказе і перыядзе выказвання ў абодвух творах. Дэнатацыя паведамлення таксама агульная: "коннік хутка знікае з відавоку".

Адзначаная замена аднаго кампанента не толькі дадаткова (па прынцыпу прыцягнення-адштурхоўвання) замацавала сувязь усяго эпізода са "Словам", але і высвеціла яго псіха-эмацыянальную карэляцыю пад пяром Андрасюка.

У "Слове" актант характарызуецца семантычным полем суседніх лексем "лютымъ", "звЂремъ", "скочи", "въ плъночи", "синЂ", "мглЂ", "обЂсися" (яно не ўзнёслае да станоўчага, хутчэй зніжанае) у сваім руху "изъ БЂла-града" (г. зн. ад нейкай "асветленай" прасторы). У тэксце ж Андрасюка інтэнцыя выказвання набывае іншую скіраванасць: рух персанажа

[26] Соколова Л.В. Образ князя Всеслава Полоцкого в "Слове о полку Игореве" // ТОДРЛ. Т. LIII. СПб., 2003. С. 37, 39.

[27] Каментарыі Л.В. Сакаловай носяць рэальна-гістарычны характар і не распаўсюджваюцца на яе заўвагу адносна змены паэтыкі адлюстравання.

[28] Творогов О.В. Всеслав Брячиславич // Энциклопедия "Слова о полку Игореве". СПб., 1995. Т. 1. С. 258.

пазначаецца ў агульна-пазітыўную перспектыву (“белая імгла”). Яна лакальна няпэўная, абагулена-сумарная рэалія, але яе “светлая” вектарнасць – бясспрэчная.

Вобраз “белай імглы” з такім жа эмацыянальна-сэнсавым напаўненнем знойдзе сваю прысутнасць і ў наступнай кнізе “Белы конь”. Там аналагічна з разгледжаным у “Зубры” пераплятуцца матывы сна-небыцця (у дачыненні да эмпірычнасці) і мінуўшчыны як небыцця (у дачыненні да сучаснасці). Абедзве гэтыя разнавіднасці аднолькава актыўна звязаны з рэальным жыццём персанажаў. Бо ўсе падзеі, адыйшоўшыя ў гісторыю, іманентна і сёння вызначаюць іх асабістыя лёсы. Разрыў сувязяў нараджае трагізм. У гэтым – асноўны прынцып дынамікі мастацкага зместу аповесці. А вось прыклад такога сну – art-рэчаіснасці, якая ўтвараецца з “белай імглы”, нібы з плазменнага стану свайго даіснавання: “Ноччу сасніўся цётцы... сон... Потым краявід запоўніўся імглой. Белая імгла – як звычайна ў снах – з’яўляецца з нябыту, прымае любые формы і імёны – так і цяпер выйшла з ніадкуль, разгарнулася над пушчай. Пераўтварылася ў постаць прыгожай незнаёмкі” (*Бк*: 71). Гэты эстэтычны кантрапункт знаходзіць своеасаблівае дыалектычна-эстэтычнае развіццё ў рэалізацыі процілегласці: калі тое, што мела месца быць калісьці, не ўздзейнічае на сённяшні наш дзень – то яно ў стане чорнага небыцця. Апошняе вербальна “матэрыялізуецца” ў формах менш падатных да змен па волі чалавечай думкі-ўяўлення – гэта не імгла (бязважкія, напаўпразрыстыя туман, воблака ды інш. пад.), а больш шчыльнае і самазамкнёнае “чорнае палатно”. Яно не ўтрымлівае ў сабе і не ўтварае з сябе выявы і з’явы сусвету, а антаганістычна “загортвае” іх – гэта значыць абмяжоўвае і пазбаўляе дыялектычных зрухаў, уплываў, любых у аснове сваёй жыццедайных кантактаў. Усяго, што завецца развіццём, перспектывай. Асуджае на сон-небыццё: “Яшчэ не разгадаліся ўсе загадкі, дрэмлюць яшчэ ў далёкай мінуўшчыне справы, загорнутыя ў чорнае палатно забыцця, і калі зараз не разбудзіць іх, не вывесці пагуляць на свежае паветра, застануцца там назаўсёды” (*Бк*: 107).

У вызначанай намі маніфестацыі супастаўленняў вартая ўвагі яшчэ адна паралель: чорнае палатно – сон-смерць. У “Слове аб палку Ігаравым” кіеўскаму князю трызніўся “мутенъ сонъ” – абрад уласнага пахавання: “… одѢвахъте мя… чръною паполомою”[29]. Апошняя лексема – ад грэцкага πέπλψμα – ‘платье, покрывало, плащ’. У значэнні ‘погребальное покрывало’ яно двойчы сустракаецца ў “Слове” і заўсёды з вызначэннем колеру: чорнага (гл. вышэй) і зялёнага (“зелену паполому постла”)[30]. Як пабачым далей, апошняя мадыфікацыя прадстаўлена ў апавяданні “Краявід без

[29] Слова о полку Игореве. Л., 1985. С. 7.
[30] Там жа, с. 5.

клямкі”.

Такім чынам, мы назіраем цэлую серыю ўзаемазвязаных рэмінісцэнцый са “Слова”, якія нібы ў ланцуговай рэакцыі нараджаюць новыя прадуктыўныя вобразна-матыўныя сістэмы. Першапачаткова чужародныя, яны “ўжыўляюцца” ў ідэйна-мастацкую прастору Андрасюка, самаразвіваюцца ў ёй і становяцца неад’емнымі састаўляючымі кампанентамі, нават іманентнымі адзнакамі. Уяўленне пісьменніка нязмушана, спантанна на ўсіх узроўнях – праблематыкі і паэтыкі – звязвае, асацыятыўна і разумова дыялектычна аб’ядноўвае даўніну з сучаснасцю.

Паказчыкам гэтага ўяўляецца таксама асаблівасць ужывання выразу “сціскаючы каленямі конскія бакі”. (Такі рух робяць вершнікі, каб больш энергічна, нібы зліўшыся з канём, скочыць або перайсці ў галоп.) І хаця нельга адзначыць для яго непасрэднай калькі-пратографа ў “Слове”, але сувязі пазначаюцца і ў дадзеным выпадку не менш выразныя. Вытокам яму, мяркую, стаўся адзін з варыянтаў перакладу фрагмента “клюками подпрѧся о кони” – “сжал коня бедрами” (перад тым, як скочыць да Кіева). Тлумачэнне гэтае ўпершыню зарэгістравана Ус. Мілерам у працы 1877 года “Взгляд на Слово о полку Игореве”[31]. Сваё распаўсюджанне яно атрымала значна пазней, верагодна, дзякуючы працам медыявіста і аўтара шматлікіх падручнікаў (1906 – 1930-я гады) В.А. Келтуялы. У апрацоўцы апошняга гэта цьмянае месца “Слова” набывала логіка-мастацкую стройнасць: “Сжалъ он бедрами коня, поскакалъ къ городу Кіеву и коснулся копьемъ золотого престола Кіевскаго. И кинулся онъ лютымъ звѢремъ о полуночи отъ кіевлянъ, изъ БѢлграда, повисъ въ синей мглѢ. А на утро ударилъ шпорами коня, отворилъ ворота Новгорода…” (Эмацыянальна-выяўленчыя сыходжанні з прыведзеным вышэй фрагментам М. Андрасюка падкрэслены мной – *Л.З.*).[32] Такое прачытанне старажытнага сюжэтнага блока мае пад сабой глыбінныя фальклорныя ўяўленні, алегарычную сістэму ўзаемадзеяння вобразаў, што яшчэ ў належнай ступені не прыцягнула ўвагі даследчыкаў. І сёння, на жаль, яно знаходзіцца на перыферыі Словазнаўства. Таму падобна да ісціны, што менавіта ў інтэрпрэтацыі А.В. Келтуялы – цытаванага непасрэдна або з пазнейшых перайманняў – расповед пра Усяслава Полацкага зрабіў эмацыянальны ўплыў і занатаваўся ў памяці беларускага пісьменніка.

Высокая ступень ідэйна-эстэтычнага абагульнення, псіхалагічнага майстэрства, якімі вызначаюцца творы Андрасюка, амаль заканамерна вымагаюць прысутнасці ў іх мноства сувязяў, паралеляў, дыскурсаў з іншымі літаратурнымі сістэмамі, канкрэтнымі з’явамі. Глыбіня ўласнага мыслення непазбежна надае дадатковае ўзбагачэнне створаным характарам

[31] М., 1877. С. 232 – 233.

[32] Келтуяла В.А. Курсъ исторіи русской литературы. Пособіе для самообразованія. Ч.1.СПб., 1906. С. 595 – 596.

сродкамі амаль падсвядомага пранікнення і "вертыкальнага" напаўнення інфармацыяй іншых моўных прэцэдэнтаў. Прыкладам апошняга можа служыць зварот да паэтыкі таксама ж беларускага пасажа "Слова аб палку Ігаравым" у апавяданні "Краявід без клямкі".

Кульмінацыйнае ядро ў ім – апісанне трагічнай гібелі юнака як выніку неадступнага жадання пазбавіцца дысгармоніі соцыумнага быцця. Абсалютная абсурднасць апошняга і татальная несвабода асобы падкрэслена алегарычнай назвай твора. "Краявід без клямкі" – гэта значыць замкнёны, абмежаваны антураж, якому суб'ект падпарадкаваны і пазбаўлены волі выйсці з яго, змяніць сваё становішча ў такой ступені, што балюча пачувае сябе ўжо аб'ектам. Самазгубства героя нараджае думку пра непазбежнасць ахвяры, прынесенай бязлітаснай надчалавечай сіле: "Збышак... ляжыць у трыццаці метрах ад адміністрацыйнага будынка, нерухомы ўжо, а яшчэ некалькі хвілін таму назад падрыгваў, біўся ў смяротных канвульсіях, згартаючы пад сябе змёрзлы снег..."[*Ф*: 40].

Гэта замалёўка фіналу пабудавана ў плане проціпастаўлення жыцця (у самым першародным, іманентным яго праяўленні – руху) нерухомасці. У гэтай жа парадыгме "працуе" і ахутванне холадам, пераход рэалій у стан мерзлаты. Пра снег сказана "змёрзлы" – вызначэнне само па сабе нібы залішняе, таўталагічнае, бо снег і ёсць крышталікі замарожанай вадкасці. Але ў дадзеным выпадку словазлучэнне ўтрымлівае інфармацыю папярэдніх метамарфоз. Снег перш быў растоплены і мяккі ад крыві, а ўжо потым заледзянеў. Але аўтар тут, на апошняй мяжы жыцця, "не бачыць" фарбаў, яны нібы зніклі, ужо не існуюць. Надыходзіць аняменне і адчужанасць, зямная існасць страчвае вабнасць разнастайнасці і шматколернасці.

Расповед пабудаваны так, што за гэтай выявай даецца апісанне ранейшага па часе непасрэднага акта фізічнага ўздзеяння. І тут галоўную выяўленчую ролю выконваюць менавіта каларатывы. М. Андрасюк у пэўным сэнсе мастацкі кантрастна ў дачыненні да папярэдняга фрагмента вырашае гэту замалёўку ў зелені і чырвані (традыцыйныя ўяўленні пра рост і буянне флоры), хаця падзея мела месца ў зімовым наваколлі. Ды белы, воляю аўтара, як бы "прыглушаны", ператвораны ў нябачны фон. А ўжо на ім "успыхваюць" зялёны з чырвоным: "Збышак нырнуў у белую сцежку... [затым працяглы тэкст – Л.З.]; цяпер на стаптанай сцежцы [неназваны прыглушаны белы – Л.З.]..., а з-пад зялёнай Збышкавай курткі выпаўзае ўсё яшчэ жывая кроў [неназваны яркі чырвоны – Л.З.]. Распаўзаецца далей і далей..., а снежная [неназваны белы – Л.З.] агромная губка вып'е цёплую чырвань да апошняй кроплі [*Ф*: 40].

Архітэктоніка кампазіцыйнага блока такая, што ўласна бель фігуруе толькі аднойчы як перадумова, знешні штуршок псіхічнаму парыву да згубы: "Збышак нырнуў у белую сцежку...". Непасрэдна сюжэтнае развіццё заключана ў халодную, снежную, але бясколерную ў дачыненні да белага,

раму: “Змёрзлы снег” – пачатак; “снежная, агромная губка” – завяршэнне. Кульмінацыя, сутнасць дзеяння пададзена ў кантрастах колераў-сімвалаў: юнацтва як яшчэ нязздзейсненага, нерасквітнелага, перарванага чалавечага жыцця (зялёны) з паўнатой і моцай, энергіяй яго першаасновы (чырвоны).

Відавочнае “гвалтоўнае” прытушэнне белага на карысць зялёнага і чырвонага насуперак трагічнаму развіццю сюжэта з’яўляецца па сутнасці аўтарскім адказам-вырашэннем (сродкамі паэтыкі) на пытанне “быць ці не быць?”. Яго, нібы блазнуючы, уводзіць у тэкст апавядання Мірэк: “Піць гэту каву [з бромам – *Л.З.*] ці не піць? Oto jest pytanie!” [*Ф*: 41].

У разгорнутым выглядзе адказам на яго завяршаецца апавяданне – панаваннем зялёнага: “Свет нанава стае на свой звычайны, раней прадбачаны шлях і, толькі добра напружыўшы зрок, на Збышкавай падушцы ўгледзіце далікатную ўгнутасць, след ад ягонай галавы. Дык і ён, хвіліна за хвілінай, падымецца, выпрастаецца, закругліцца, як закругляецца і зарастае травою наш шлях і наш час.

За кругаглядам, з новымі рэзервамі зелені стаіць вясна” [падкрэслена – *Л.З*. *Ф*: 41].

У “Слове аб палку Ігаравым” пра маладога (бо ён прадстаўлены як парастак свайго роду – сын і ўнук) беларускага князя чытаем: “Единъ же Изяславъ сынъ Васильковъ позвони своими острыми мечи о шеломы Литовскія; притрепа славу дѢду своему Всеславу, а самъ подъ чрълеными щиты на кровавѢ травѢ притрепанъ… а звѢри кровь полизаша… единъ же изрони жемчюжну душу… [падкрэслена – *Л.З.*]”[33]

Роднаснасць кампанентаў паэтыкі гэтага эпізода і навелы пра Збышка проста ўражвае. Іх немагчыма прызнаць выпадковым супадзеннем. Гэта: сюжэтныя варункі, сацыяльна-псіхалагічная першааснова ўчынка, матывы пакуты ў трагічнай сітуацыі, адзіноты, нібы звышпрадказанай непазбежнасці, абранасці самаахвяры – заўчаснай смерці юнака, таксама як і інтэнцыя абодвух пасажаў (выклікаць спачуванне, патрэбу абараніць, жаданне ўплываць на аб’ектыўныя абставіны, змяніць іх – актывізацыя чытача), ідэйна-эмацыянальная праблематыка разам з еднасцю сімвалічна-колеравага яе вырашэння. Самота неназванай белі – сімвала небыцця, растання з жыццём – жамчужная душа, што пакінула цела князя. Зрокава яна ўяўляецца падобнай па колеру да белага каменя, які нараджаецца не ў звыклых для чалавека ўмовах і прыналежыць сутнасцю сваёй не айкумене.

Такія вынікі дае асобна прадстаўлены аналіз колеравай палітры. Калі ж разглядаць замалёўку ў традыцыйных параметрах выяў прадметаў і іх суадносін (прадмет як комплекс колера-абрыса і ўзаемадачыненні гэтых комплексаў), то “зялёная Збышкава куртка”, што нібы стрымлівае расцяканне “ўсё яшчэ жывой крыві”, якраз і выконвае тую функцыю, што і

[33] Слово о полку Игореве. Л., 1985. С. 9.

“зелена паполома” ў князю Барысу Вячаслаўлічу. Аб’ектывізавана прызначэнне і “дзеянне” зялёнай курткі-папаламы ёсць мераўпарадкаванне працэсу, захаванне, зберажэнне сусвету ў яго існуючых, усталяваных формах будовы, іманентных сэнсах і сістэмах – ад раскладання, прынцыповага татальнага разбурэння. Смерць у тэксце Андрасюка разумеецца як хаос, які ўласнавольна ў форме пратэсту ўрываецца ў арганізаваную архітэктоніку прасторы жыцця. І абмяжоўваецца ў сваіх памкненнях, перапыняецца жыццём, бо яно як пануючая субстанцыя мае іншыя шляхі пазбаўлення адмоўнага.

Гэты філасофска-глыбінны давер да моцы аб’ектыўнасці зямнога быцця нараджае мінорнасць, звязаную з асэнсаваннем нацыянальных гістарычных шляхоў, прагнасць пазнаць іх са “Слова”. Там Аўтар устрывожана гаворыць пра ўсплеск ваяўнічай энергіі, бітвы, якія, на жаль, не далі ўзлёту перамог, прынеслі сум. Чаму так? І што патрэбна цяпер, каб будучае падаравала іншыя перспектывы? З такімі пытаннямі і спадзяваннямі сёння ўсе мы апелюем да старажытнага помніка:

Ты – адзіны запаветны ключ
Нашае спрадвечнай таямніцы…
Славу ты мяча перажывеш[34]

Цытаваны верш Васіля Віткі “Чытаючы "Слова аб палку Ігаравым"” напісаны быў у 1984 годзе, а праз два гады перакладзены на рускую мову Навумам Кіслікам. Звяртаемся да гэтага факта таму, што ў новым варыянце ён набыў у адрозненне ад арыгінала каляровыя ўкрапленні. І яны ў аднолькавых з мастацкім мысленнем М. Андрасюка ідэйна-эстэтычных асацыяльных палях ствараюць сцісла-сумарную яўнасць заўчаснай смерці пераможанага ворагам маладога воя. Бітва, узлёт сіл, пачатак жыцця, парыў да высокіх мэт – зялёны колер. Але недасягненне паўнаты росквіту, моцы, ранняе старэчае бяссілле, горыч ад няздзейсненых імкненняў – бясколернасць, сівізна. “Тьму столетий пронизавший луч” (атрыбутыка “Слова”) высвяціў нярадасную пераемнасць і будучыню – “бесславья боль”:

Символ единенья и пароль
Перехода из одной души в другую,
Из зелено-отрочьей – в седую,
С поля бранного – в бесславья боль[35]

У такіх варунках выказваецца надзея на несмяротнасць апошняга нашага скарба і надзеі – слова (апошняя графема і ў тэксце арыгінала, і ў перакладзе ўжыта без косак, не з вялікай літары, атаясамліваецца з ‘увасабленнем мовы, думкі, духу нацыі, ідэі-спадзявання’).

Падкрэслім, непасрэдна пішучы пра “Слова”, Н. Кіслік (гэта асабліва

[34] Вітка В. Чытаючы “Слова аб палку Ігаравым” // Полымя. 1984. № 8. С. 95.
[35] Витка В. Роза и штык: Лирика / Пер. с белорусского. Минск,1992. С. 125. Першадрук: Витка В. Читая “Слово о полку Игареве” // Неман. 1986, № 5. С. 3.

выразна назіраецца менавіта ў перакладзе) у пачатковай частцы мае прадметам сваіх роздумаў зусім не Ігараў паход. Бо, у прыватнасці:

– Найменне “душа... отрочья” нельга дапасаваць да князя Ігара. Ён – не падлетак, мае жонку і сына ва ўзросце жаніха, удзельніка пахода.

– Увядзенне зялёнай “падсветкі (“душа... зелено-отрочья”) таксама не пасуе Ноўгарад-Северскаму рыцару, бо вобраз яго ў “Слове” вырашаецца хутчэй у кантрастах сонечнага святла і цемры.

– Неабгрунтавана ўжываць як фон для Ігарыды менавіта зелень. На думку большасці даследчыкаў, каларыт “Слова” ў цэлым (з улікам непасрэдных каларатываў і тых выказванняў, што нараджаюць імгненныя асацыяцыі з колерам) – сіні[36]. Ён пераважае ў агульнай гаме.

Ні В. Вітка (“з маладое – у старую / З поля славы – у бясслаўя боль”), ні тым больш Н. Кіслік (“Из зелено-отрочьей – в седую, / С поля бранного – в бесславья боль”) у гэтым фрагменце не мелі на ўвазе галоўнага героя “Слова”. Ці ж можна прызнаць, што ў знакамітым помніку апісваецца як “малады” герой з “поля славы” (г. зн. “Съ заранія въ пяткъ потопташа поганыя плъкы Половецкыя...”[37]) змог састарэць да часу свайго “бясслаўя” – паражэння і палону, якія адбыліся “другаго дни велми рано”[38]? Нават пры самым фігуральным тлумачэнні падзей гэта не стасуецца з постаццю Ігара.

У свядомасці перакладчыка “поле славы” адпавядае словазлучэнню “поле бранное”, што можа ідэнтыфікавацца, калі сам выхад на бітву незалежна ад яе вынікаў, ужо разумець як славу ў процілегласць пасіўнасці[39].

Мяркую, што ў пачатковым катрэне В. Віткі і перакладзе Н. Кісліка падсвядома, не дэкларатыўна прадметам роздумаў, становяцца падзеі беларускай вайсковай гісторыі. І найперш той фрагмент, што калісьці быў апеты М. Багдановічам.

Пра князя Ізяслава Васількавіча мы ведаем толькі са “Слова”. (У Віткі адпаведна “адзіны...ключ нашае спрадвечнай таямніцы”.) Верагодна, ён – малады, бо ўспамінаюцца са сваякоў толькі браты (Брачыслаў, Усевалад), бацька (Васіль), дзед (Усяслаў). Ён неабачліва адважны, бо “единъ… позвони своими острыми мечи о шеломы Литовскія”[40]. Яго жыццё ахвяравана роднаму краю і рытуальна-паэтычна аплакана грамадою (“Унылы голоси, пониче веселіе. Трубы трубятъ Городеньскіи”[41]). У замалёўцы смерці юнака (“подъ чрълеными щиты на кровавѢ травѢ притрепанъ...

[36] Гл.: Моисеенко Л.Н. Еще раз о цвете и цветовых символах в“Слове о полку Игореве” // Слово и цвет в славянских языках. Melbourne, 2000. С. 150 – 154.

[37] Слово о полку Игореве. Л., 1985. С. 4 – 5.

[38] Там жа, с. 5.

[39] Блізкая да гэтай пашыраная маніфестацыя тлумачэння-перакладу тэксту Дз.С. Ліхачовым “Лучше ведь зарубленным быть (в битве), чем пленным (бесславно дома)” (Лихачев Д.С. “Слово о полку Игореве”: Историко-литературный очерк. М., 1982. С. 54) не вытрымлівае крытыкі. Яна разбураецца сюжэтнай лініяй Ігара палоннага, усёй ідэяй твора, апроч таго “быць у палоне” – значыць ‘не дома’, а ‘ў ворага-захопніка’.

[40] Слова о полку Игореве. Л., 1985. С. 9.

[41] Там жа.

мечи...[42]”) уражвае спалучэнне колеравых уяўленняў семантычнай групы чырвонага і кантрастнага зялёнага, скарыстаных у дачыненні да поля бітвы, побач з лексікай “шчыт”, “меч”, “шалом”, “харобры” і т.д.

Так мы назіраем аналагічнае таму, што і ў апавяданні Андрасюка, увядзенне старажытнага пратографа (сюжэтная сітуацыя, аўтарская ацэнка, паэтыка). Пры чым рэалізавана яно ў вершы з дэкларатыўнай для нашай тэмы назвай “Чытаючы "Слова аб палку Ігаравым"”. Паралель гэтая, хаця і ўскосна, пацвярджае правамернасць нашых папярэдніх меркаванняў.

* * *

Зразумела, што верыфікаваць у якасці твора-першакрыніцы менавіта і толькі “Слова”, відаць, справа немагчымая. Бо, як слушна адзначае Т.М. Мікалаева, “при определении перекличек и сходств литературных текстов, особенно если речь идет о текстах, разделенных довольно значительным временем, возникают проблемы, решить которые с абсолютной достоверностью не всегда возможно”[43]. Але ж і не прыняць да ўвагі выразныя сыходжанні, якія адзначаны ў “Краявідзе без клямкі”, а таксама вышэй у “Зубры”, было б зусім нерацыянальна. Тым больш, што яны “дзейнічаюць” на такім высокім глыбінным і спецыфічным узроўні мыслення літаратара, як паэтыка. І менавіта пры стварэнні характараў, што не без падстаў могуць быць названыя нацыянальнымі, у сувязі з кардынальнымі светасузіральнымі праблемамі.

Апошняе знаходзіцца ў прамой узаемаабумоўленасці з актыўным лідзіраваннем інтэртэкстуальных знакаў, адзначанай вышэй (мова дзеючых асоб і апавядальніка, архітэктоніка сюжэта, нават каларатывы антуража ды многія іншыя выяўленчыя сродкі). Зусім верагодна, што для гэтага існуюць нейкія яшчэ непазнаныя першапрычыны аб’ектыўна-рэальнага і суб’ектыўна-аўтарскага плана[44]. А ўдалае спалучэнне, рэзананс іх і нараджае той высокамастацкі індывідуальна-творчы эфект, які мы маем у прозе

[42] Там жа.

[43] Николаева Т.М. “Слово о полку Игореве”. Поэтика и лингвистика текста; “Слово о полку Игореве” и пушкинские тексты. М., 2005. 2-е изд. С. 286.

[44] Аналагічна на думку аднаго з вядучых сучасных даследчыкаў “Слова” А.А. Залізняка, а таксама яго папярэднікаў М.М. Пецярсона, А.А. Зіміна: “Одна из особенностей СПИ ("Слова аб палку Ігаравым" – *Л. З.*), которая нередко создает у нынешнего читателя ощущение, что перед нами скорее современный текст, чем древний, – необычайное обилие предложений, вводимых бессоюзно. В этом отношении СПИ… противоположно берестяным грамотам… и сильно отличается… от большинства древних книжных текстов”. Меркаванне гэтае, магчыма, у параўнанні з нашам разважаннем, уражвае мацней, бо абапіраецца на лічбы. Па А.А. Залізняку, адпаведных сінтаксічных з’яў у “Слове” – 66,9 %, “Аповесцях Белкіна” А.С. Пушкіна – 75 %, “Героі нашага часу” М.Ю. Лермантава – 78 % (А.А. Зализняк “Слово о полку Игореве”: Взгляд лингвиста. М., 2004. С. 147). Але ж пераканаўчага грунтоўнага тлумачэння такім і падобным сыходжанням мы яшчэ не маем. Зразумела, гэту сур'ёзную праблему нельга зводзіць да “легкадумнага” пытання пра падробку “Слова” або нечага іншага авантурнага.

Андрасюка.

Ён адразу ж і на працягу ўсіх трох кніг замацаваў за сабой своеасаблівы маркер пісьменніка з надзвычай моцным пачуццём гістарызму і сацыялогіі. Кожны персанаж інфармацыйнай прасторы беларускага "дэмаса" тыпова належыць да грамадскага ўкладу пэўнай паласы часу, ідэалагемы, разумова-вербальнай дзейнасці членаў соцыуму, псіха-эмацыянальных суадносін – шматаспектнай сферы мыслення, разумення сусвету і сябе ў ім. У апавяданні "Ветэраны" так і сказана, нібы дэкларавана, пра "жалезныя абдымкі часу, цяжкія яго ланцугі, што звязваюць чалавека з канкрэтным месцам, канкрэтнымі абавязкамі" [*Мг:* 81].

У гэтым майстэрстве раскрыцця належнасці духоўнага свету асобы да гісторыі, здаецца, роўных Андрасюку сёння няшмат. Прынамсі, у цытаваным ужо апавяданні "Ветэраны" пісьменнік, народжаны ў 1959 годзе, абсалютна бездакорна (бо сэрца адзываецца болем, калі чытаеш твор) перадае многія дэталі паводзін, самараскрыцця герояў. Яшчэ больш шматстайна прадстаўлена сялянскае жыццё – у кожнай сваёй іпастасі часу, незваротных зменах інварыянтаў. Таксама і разбуральнае ўздзеянне местачковай "мясцовай гравітацыі" – усё гэта мае сваю лагічную "ланцуговую прывязку" да адзначаных кантрапунктаў. Пераход у іншы, новы локус, прыстасаванне да змен – немагчымае, яно ўздзейнічае разбуральна і пагражае нават фізічнаму існаванню індывіда [гл.: *Бк*]. Для мастакоўскага светапогляду, паэтыкі М. Андрасюка ўласціва першаснасць аб'ектыўных умоў, абставін і другаснасць, залежнасць і падпарадкаванасць ёй – характараў. У сувязі з гэтым трэба адзначыць высокую ступень неардынарнасці (бо ў наш час пашыраны і прэваліруе суб'ектывізм) і глыбінную перспектыўнасць такой пазіцыі пісьменніка. У аснове яе – увага і "давер" мастака да рэальнасці. Усё напісанае ім на сённяшні дзень з'яўляецца своеасаблівым трохтомнікам, дзе "Фірма" і "Мясцовая гравітацыя" складаюць панараму сённяшняга дня. Гэта ў асноўным сатырычныя кнігі з моцнай сацыяльна-псіхалагічнай асновай.

М. Андрасюк адчувае і сыходзіць у сваім адлюстраванні сучаснасці (чалавечага універсуму) з пастулата аб яе "шматукладнасці". Сыходзіць са шчыльнай спрэсаванасці ў ёй адасоблена існуючых, нават ізаляваных па сваіх тыпажах эпох. Можна не пагадзіцца, што ў гэтым назіранні ёсць многа пэўнага, важкага. Адсюль і вельмі шматстайныя, у сваёй сукупнасці нават калейдаскапічныя ўключэнні іншатэкстаў. Як уяўляецца, яны не ўтвараюць значнага суцэльнага і сістэмнага поля.

Калісьці структурна падобную панараму В. Бялінскі апісаў у гісторыі расійскай літаратуры: "Новое являлось, не сменяя старого, и старое и новое дружно жили друг подле друга, не мешая одно другому". Крытык назваў у сувязі з гэтым пачатак XIX стагоддзя "странным"[45]. Аналагічна жыццё

персанажаў адбываецца нібы ў машыне часу: індывід з'явіўся на свет і адбыўся як такі ў адной, сваёй парадыгме стасункаў, але пры гэтым пастаянна адчувае прысутнасць іншых, акаляючых. Таму кожны яго адвольны, можа проста "незграбны" ўчынак, рух, нават жэст, скарыстаная лексема, сінтаксічная будова выказвання, а тым больш намёк, рэпліка альбо нейкі эківок нараджаюць уяўленне аб іншай соцыумна-гістарычнай айкумене, цэласнай сістэме добра знаёмых грамадскіх характарыстык у жыцці і літаратуры.

Такая існая рэальнасць можа стаць глебай для актывізацыі або нават фармавання новых прыёмаў, сродкаў яе адлюстравання ў мастацтве. (І так не раз ужо адбывалася ў гісторыі літаратуры.) "Аб'ектыўная" ж мастацкая рэальнасць Андрасюка пазбаўленая якасці кантынуума, у выніку сваёй часава-прасторавай дыскрэтнасці з неабходнасцю нараджае інтэртэкстуальнасць як прывязку да адпаведнага ў гістрыка-культурным плане іншабыцця. Бо цалкам адпавядае задачы адлюстравання прысутнасці чужароднага. Яна становіцца спосабам функцыянавання актанта ў камунікацыйнай прасторы. Таму самым удалым жанрам для Андрасюка, відаць, можна лічыць апавяданне і цыклы з іх пэўнай фрагментарнасцю. Калі ж творчы эксперымент сягае за межы асвоенага узуса з мэтай стварэння нечага накшталт сямейнай хронікі, пошуку станоўча-перспектыўнай нацыянальнай асобы, то, на жаль, гэта пісьменніку менш удаецца. (І ў гэтым, зразумела ж, няма віны аўтара, бо дыктатарам з'яўляецца само жыццё.) Ідэя пазітыўнай перспектывы не вытрымлівае судакранання з сучаснай праблематыкай, а магчымыя гістарычныя вытокі жаданых аптымістычных даляглядаў недастаткова пераканаўча стасуюцца з фальклорнымі рэмінісцэнцыямі (вобраз Сонькі).

Пісьменнік, як падаецца, знаходзіцца ў пошуку (а ў дачыненні да інтэртэкстуальнасці – першакрыніцы, прадтэксту) нацыянальна станоўчага тыпу. Бо калі народ – сапраўды глеба, што жывіць сваіх геніяў, калі менавіта ў ім выспявае як магчымае тое, што праз іх знаходзіць сваю рэалізацыю, то дзе ўсёй гэтай з'явы беларускія першатэксты?!

Перад гэтым вялікім пытаннем, якое надзвычай шматаспектна мастацкі фармулюецца ў творах Андрасюка, мы ўсе ў чаканні. І праўду сказаць, у вялікім даўгу. Бо з таго мноства гістарычных крыніц, што даносяць высокія, узнёслыя постаці і праблематыку, толькі "Слова аб палку Ігаравым" у пэўнай станоўчай ступені вывучана і навукова-папулярна сістэматызавана. Але ж не забудземся, што гэты <u>літаратурны</u> твор нават у пяцітомнай энцыклапедыі не мае артыкулаў тыпу "Вобраз князя...". А прыведзеныя гістарычныя характарыстыкі нашых прашчураў не даюць падставы для аптымістычных зрухаў у гэтым накірунку. Сумна, што на Беларусі пасля

[45] Белинский В.Г. Собр. соч.: В 9 т. М., 1981. Т. 6. С. 198.

грунтоўнага (на свой час – пачатак XX ст.) артыкула Дз.С. Леанардава пра Усяслава Полацкага няма навуковай працы, якая паставіла б нас тут на чале словазнаўства. Толькі ў 2007 годзе, дзякуючы намаганням І. Саверчанкі, мы змаглі пабачыць у друку больш-менш поўную і кампактную падборку летапісных звестак пра нашага слаўнага продка[46]. (Якое выданне "Слова" ні возьмеш, усюды прыводзяцца Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі фрагменты пра паход Ігара.)

Шматвяковыя абагульненні сёння надзвычай неабходныя, бо яны падрыхтоўваюць ідэйна-эстэтычныя адкрыцці, працуюць на будучыню.

Звычайна, калі мы спасцігаем новыя творы сапраўды высокага таленту, то знаходзім у іх тканіне водгукі многіх мастацкіх крыніц, інтэнцый. У дадзеным выпадку інтэртэкстуальнасць надзвычай стасуе сваімі мажлівасцямі ўсім запатрабаванням. Яна сведчыць пра шматстайнае багацце духоўнага вопыту, магутнасць нацыянальных традыцый, характараў і маралі. Яна дапамагае (а не разбурае ў якасці прысутнасці "чужыніцы") выкладу ўласнай думкі. І што асабліва важна, замацоўвае ідэйна-эстэтычнае адзінства новага творчага прэцэдэнта як самадастатковага славеснага корпуса. Па неаспрэчнай думцы М. Бахціна, прызнанага як стваральніка новай тэорыі, "наша речь, то есть наши высказывания, ...полна чужих слов, разной степени чужести и разной степени освоенности…, и выделенности"[47]. Адлюстроўваючы рэаліі нашага сацыяльнага жыцця, тэорыя гэта (часам насуперак пераемнікам асноватворцы) дбае найперш пра "нашу речь", нашу думку і ісціну, якую сцвярджаем у нашым свеце дзеля пэўных нашых мэт.

Так і ёсць у творчасці М. Андрасюка, а таму слушна чакаць ад яго новых твораў шырокага абагульнення.

[46] Саверчанка І.В. Рарытэт нацыянальнай гістарыяграфіі і мастацкай літаратуры // Беларускі гістарычны часопіс. 2007. № 11; Аповяды пра Усяслава Чарадзея / Перакл. І. Саверчанка // Там жа.
[47] Бахтин М.М. Проблема речевых жанров // Литературно-критические статьи. М., 1986. С.460.

# СЯРОД КНІГ

## Прамова вышняе спадзевы

Ян Чыквін, **Жменя пяску,**
*Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", Беласток 2008*

Боскае тварэнне працягваецца і сёння. Мастацтва – адно з пацвярджэнняў таго. Усявышні выбірае чалавека-крэатара, надае яго асабістай душы статус душы ўсясветнай і прамаўляе да паэта ідэю любові. Чалавек увасабляе гэтую ідэю ў матэрыял людской мовы. Так што метафізічны пласт самадастаткова прысутнічае ў кожным мастацкім вобразе; "перадаўтарам" літаратурнага твора (як і ўсяго, што выходзіць з рук чалавечых) з'яўляецца Вышэйшы Пачатак.

Сёння небасхіл духоўнага жыцця чалавецтва зацягваецца злавеснымі хмарамі нязгоды. Па чыстых росах міласэрнасці ідуць ідалы пякельнага свету. Носьбіты агрэсіўнай цямносці. І Бог дае Паэту моц да выказвання:

*Гадоў мінае новых чарада.*
*Зноў ідалаў паставілі на варце...*
*Не, спадары хтанічнага жыцця,*
*Маім жыццём вам не ўладарыць!*

*Іграе музыка святла й нябёс,*
*Якую заглушыць – кароткі вашы рукі!*
*Няхай здаецца вам, што ён не ўваскрос*
*І што гармоніі няма ў душэўных муках.*

*А ўсё-такі калі заляжа ноч наўсцяж*
*І лекар не пакіне вам надзеі,*
*Не срэбнікаў і золата ўчэпіцца душа,*
*А вышняе спадзевы.*

Гэты апостальскі напал сугестыі адчуваем мы ў паэтычнай кнізе Яна Чыквіна "Жменя пяску", якая выйшла ў Беластоку ў 2008 годзе. Так, верш паўстаў дзякуючы таленту, творчым намаганням Майстра – паэта Яна

Чыквіна. Але – ці толькі яго? “Музыка святла й нябёс” амаль што матэрыяльна ўваходзіць у прамаўленне чалавека, гарманізуе апраметную яго душэўных мук – дзеля таго, каб словатворца здолеў годна супрацьстаяць нашэсцю “спадароў хтанічнага жыцця” – усялякіх упёраў пекла і штукароў “падземнага” капання пад кожнага прыстойнага чалавека.

“Вышняя спадзева” прыходзіць да мяне, чытача, рэальным апірышчам духа, дорыць уваслед за паэтам крылы ўсясветнай душы і мне, дае шчасліўцу зразуменне, што стварэнне паэтычнай кнігі і самая мая сустрэча са “Жменяю пяску” – вынік дзеяння тых сілаў дабра, рацыянальна аблічыць якія не дадзена – ні стваральніку вершаў, ні рэцыпіенту. Але вось полымем душы... Нездарма на вокладцы кнігі віруе расплаўленай чырванню бураполымя.

І ўжо ўдвух – стваральнік паэтычнай кнігі Ян Чыквін і я – адзін з мноства чытачоў зборніка – ніякавеем перад субстанцыяльнаю Боскай прамоваю, наталяемся яе ўсюдыіснай выратавальнасцю. Наталяемся, але не адчытваем да канца. Бо як адчытаеш надчалавечае?

Назва кнігі – “Жменя пяску”... Яна зачароўвае і палохае, як усё незвычайнае і неапрабаванае. У чыёй руцэ – жменя пяску? Ці не ў Гасподняй, часам? Калі так, дык маленькая наша планета са ўсімі яе трагедыямі і камедыямі, пытаннямі і адказамі – адно жывая жменя пяску ў бясконцым сусвеце. А можа, размова ідзе пра момант, калі я, назаўсёды развітваючыся з блізкім, кідаю жменю пяску на яго труну? Назва кнігі нагадвае мне гарачы прыдарожны пыл з майго далёкага сонечнага дзяцінства. Але як бы я, чытач, ні меркаваў, усе гэтыя версіі маюць агульны сэнс: яны звязваюць космас майго ўнутранага жыцця з космасам знешнім у адносінах да мяне. Так што назва зборніка – і чалавечая, і Боская.

Праз тытул кнігі Яна Чыквіна да мяне прабіваецца першаіснасць, загадка ўсіх загадак і адгадка ўсіх адгадак. Яна прыводзіць нас, чытачоў, у асаблівае вымярэнне светаўспрыймання, у якім чалавек аказваецца ўжо недасягальным для “спадароў хтанічнага жыцця” і размаўляе сам-насам з “Вышняю Спадзеваю”. Таму да зборніка Чыквіна ідзеш не з цікавасці, не дзеля эстэтычнага замілавання толькі, а як да надзейнай абароны ў хвейным гайданні паўсядзённых здарэнняў. Але тут ёсць адна непахісная ўмова: трымайся не знешняга сэнсу выразу “жменя пяску”, а яго наканаванай Госпадам глыбіні. І чым глыбей падыйдзеш, тым больш надзейна дапаможа табе назва кнігі. З ёю адправішся ў жыццядайныя прасторы паэзіі (а, можа, уласнага твайго, чытач, жыцця).

Прасторы гэтыя – хоць і жыццядайныя, але напружана высокавольтныя па ступені перажыванняў. З імі ў мімаходную гутарку не кінешся. Паэт гэтай высокавольтнасці ад нас і не хавае. Ды і не мог бы схаваць – так Бог распарадзіўся. Ну, што ж, дакранемся да надзвычайнай нескладанасці складанейшага:

*Вечар плыве па двары лодкай Харона.*
*Перавозчыка вёслы*
*мерна бягуць па вадзе жыцця.*
*Мілая, што гарыць там*
*і разгараецца ў нашых сэрцах такое,*
*што чым болей згарае яно,*
*тым больш застаецца згараць?*

Дык хто ж вызначае сэнс быцця: Перавозчык, які няўмольна перапраўляе жывых у краіну, з якой няма вяртання, ці адвечная Мілая, у імя якой жывем, квітнеем рабінаю, забываючыся на вёслы Харона? Пры Мілай разгараецца тое, чаму скону няма. Але ж і Харон... Не бывае бязмежнай радасці, як і не сустрэнеш усюдыіснага гора. Асоба чалавека – гэта любоў да Мілай, пранітаваная прадчуваннем другога берагу ракі...

Верш не вучыць мяне, не дае аніякіх рэцэптаў. Ён сам ператвараецца ў мае патаемныя грахі, у цёмнае перажыванне і адначасова – ва ўчынкі мае светлыя. Ужо я – верш. Мне толькі застаецца чытаць – пра сябе (адкуль паэт даведаўся пра мяне, патаемнага?).

*Час паўзе за вакном нібыта змяя,*
*ноч вісіць над зямлёй, як той авадзень.*
*Мілая, як нам у цемры паняць*
*гэты сонечны блік, што плыве па вадзе?*

Дык які ж гэта сонечны блік, калі размова ідзе пра ваду жыцця, па якой мерна бягуць вёслы Харона? Адказ знайсці немагчыма: вядомы ён толькі Мілай, бо яна – умясцілішча ўсяго таго, што значнейшае за лодку панурага Перавозчыка ў свет ценяў, за сонечны блік; яна – Боскае наканаванне і адвечная ранішняя дапамога вечару душы. Мілая – стан улюбёнасці. У гэтым стане прыхаваныя ўсе адказы на ўсе пытанні. Агульнае правіла гэтых адказаў такое: за набліжэнне да Мілай душа павінна плаціць паскарэннем лодкі Харона:

*За вакном і ўва мне разліваецца хорамі сум,*
*светлы сум, што ўмее душы вянчаць.*
*Я пайду, каб вярнуцца, і табе адтуль прынясу*
*вестку, што смерці нельга пазбегнуць і нам, відаць.*

Перад намі – апошнія радкі верша. Неверагодныя яны, як здаецца, на першы погляд. Як гэта? Прыйсці ў краіну памерлых, вярнуцца і паведаміць Мілай, што ад смерці няма паратунку? Дзе ж тут логіка? А хто сказаў, што Мілая і Харон – Іпастасі, якія можна інвентарызаваць ці ўвесці ў лагічную сістэму каардынат? Толькі ахоплівае душу светлы сум быцця; вечар сэрца

перапоўнены і несупыняльным ходам лодкі міфалагічнага Старога, і ранкавай надзеяй, якую нясе ў сабе Мілая.

Затрымаемся над радком “Светлы сум, што ўмее душы вянчаць”. (Затрымаемся не позіркам турыста; папросту такой Боскай напружанасці пачуцця сэрца без адпачынку не вытрымае). У радку – прамова субстанцыі, першасутнасці, Вышняй Спадзевы. Гэтая прамова – аснова, духоўная матэрыя, філасофская “жменя пяску”, якая дае чалавеку неадольныя крылы веры ў Боскае наканаванне яго, чалавека, на гэтай зямлі.

Вершы ў зборніку Яна Чыквіна – пацвярджэнне таго, што паэт – гэта прарок сілы значна вышэйшай за яго. Гэтая сіла дае абранцам моц несці крыж сваёй творчай фантазіі на галгофу грамадскага суда. Стан святога наканавання дае мажлівасць літаратару павесці размову з першасутнасцю, а нават выказацца ад імя гэтай субстанцыі.

КАМЕНЬ

*Камень на дне ракі,*
*чырвоны, як вока рыбы,*
*нярухам плыве праз вякі*
*навечна рухлівым няплывам.*

*– Вымі мяне з глыбіні,*
*з вечнасці мяне выкінь;*
*дай мне маё імя,*
*вырві з бясконцай плыні,*
*каб мог я ў неба ўзляцець,*
*лёгкі, як пух лебядзіны! –*

*Камень плыве па вадзе*
*і вечнасць глытае вокам рыбім.*

Ах, Ян Чыквін! Што ні верш, то сустрэча са светам знаёмым і абсалютна незнаёмым! Ідзеш ад радка да радка і адчуваеш сябе маладым лоцманам, які згубіў карту і спрабуе весці карабель (свайго жыцця!) навобмацак. Кожны ўдалы рух успрыймаеш як падарунак лёсу, адчуваючы, што наперадзе – новыя нечаканыя павароты неміласэрна міласэрнага фарватару...

Глядзі ты, чаго захацелася каменю: пра сваё імя даведацца! Дык гэта ж жаданне амаль што не блюзнерскае: усе імёны ўжо прагучалі і ўсе лёсы вызначаны. Ды і навошта каменю ведаць сваё імя? Ён жа яго сам дакладна ведае: камень – гэта “той, хто глытае вечнасць”.

Дзе гэтае імя я ўжо чуў? Ці не ад маці, якая спявала самаробныя песні над маёю калыскаю і ўсёю сваёю жаноцкасцю спадзявалася, што прывяла на свет таго, адзінай “духоўнай ежаю” якога стане адвечнасць? Можа, тая

матчына песня ператварылася для мяне ў раку, у камень, у першасутнасць быцця? Так, безумоўна: углядаюся ў верш (цуда! Дык гэта ж я – у – сябе, гэта значыць, у душу Бога ўглядаюся!). І адчуваю сябе несканчонасцю быцця, Вышняю Спадзеваю, светлым сумам, які ўмее душы вянчаць.

Па вершу пра камень ідзеш такім шчасліва вольным, такім адораным музыкай нябёс, што зноў пераконваешся ў непахіснай выснове: зборнік “Жменя пяску” – гэта нешта такое, што і трэба ацэньваць з вышыні ўсяго вопыту літаратуразнаўства, і зусім немажліва: які сэнс аналізаваць мора, калі ты ўжо плывеш, а берагоў – не распазнае зрок? Тут хоць бы якую дошку ад жыццёвага караблекрушэння адшукаць! І ўсё ж адчуванне шчасця не праходзіць, бо выразна адчуваеш: зборнік “Жменя пяску” – гэта ўвасобленая ў словах прамова Вышэйшага Пачатку, які дае адвечна кожнаму з нас сваю частку зямнога быцця ў поўнае ўладанне. Жменя пяску... Многа гэта ці мала? Адказ відавочны: якраз столькі, колькі трэба для шчасця.

Зборнік Яна Чыквіна – кніга і вызваляльная, і пазбаўляючая волі. Камень у вершы падпарадкаваны адвечнасці і адчувае невыноснасць гэтага падпарадкавання. Дваістасць кожнага імгнення быцця (шчаслівае гора і гораснае шчасце) прамоўлена ў зборніку са ўсёю непахіснаю шчырасцю і адказнасцю. Менавіта таму можна з пэўнасцю адзначыць, што “Жменя пяску” – рашуча, да непераноснага болю, – кніга сучасная. Вядома: тут не расповед пра якіясь гістарычныя канкрэты (жыццё ж увогуле – не падзея, а стан духу). У зборніку – не аналітычным розумам, а сумесным з лірычным героем перажываннем Боскасці свету – адчуваеш супадзенне ўстрывожанасці вершаў з хваляваннямі людзей пачатку XXI стагоддзя. У кнізе ёсць насцярожанасць, нават змрочнасць. Бачыць у гэтым толькі рэалізацыю паэтычнай задумы Яна Чыквіна было б не адказна: якая сучаснасць, такая і паэзія.

Але мы вядзем размову не пра сучаснасць, якая – паўсядзённы чалавек, а пра сучаснасць, якая – Адвечны Бог. Менавіта такая сучаснасць вадзіла рукою стваральніка “Жмені пяску”. Яна не дала чалавеку Чыквіну застацца толькі на настроях насцярожанасці і змрочнасці. Мітрэнга лірычнага героя ў кнізе – творчая, стваральная, светланосная. Да нас прамаўляе апостал, прарок, філосаф, мысляр, мудрэц, гусляр. Словы яго – выраз Ўсявышняй любові. Паэтычныя прыклады, якія былі прыточаны вышэй, – прамы таму доказ. Лірычны герой “Жмені пяску” – гэта індывідуум, які знаходзіцца ў стане субстанцыйнага ўзнясення над паўсядзённасцю, і ў той жа час – увесь гэтай паўсядзённасцю пранітаваны.

Нездарма ж гэтай паэтычнай усясветнасці адкрываецца Боская гармонія тых душэўных мук, у выніку якіх асоба атрымлівае моц пайсці за перавозчыкам Харонам і вярнуцца на зямлю да той самай простай і звыклай жмені пяску, якая ніколі звыклай не была і ніколі звыклай не будзе. Толькі да чалавека ў такім узнясенні клопату пра лёсы ўсяго існага можа звярнуцца

камень (ён – стварэнне Бога ці сам Бог?) з просьбаю надаць яму імя.

У прысутнасці такіх апакаліптычных пытанняў, такой звышрэальнай сугучнасці з сённяшнім станам Ўсявышняга – асабліва адчуваеш, што прыйшоў час згадзіцца з тым, што ў развіцці літаратуры ўдзельнічаюць не дзве творчыя асобы (паэт, увасоблены ў слоўныя вобразы, чытач), але і Усявышні (“перадаўтар” мастацкага вобразу). Якую размову можна весці пра цэласнасць аналізу літаратуры, калі аналіз гэты не распачынаць з “перадаўтара”?

Удзел “трох асоб” у быцці мастацтва дае мажлівасць адчуць яшчэ адзін сэнс біблейскага трохадзінства. “Богам Айцом” выступае (у дадзеным выпадку – у “Жмені пяску”) Вышняя Спадзева; “Бог Сын” – гэта паэт: яму выпала ўвасобіць Спадзеву ў словы; “Богам Духам Святым” праяўляе сябе чытач: наталіўшыся праз словы паэта Вышняю Спадзеваю, ён атрымлівае сілу даваць імёны ўсім імёнам свайго жыцця. Так што само чытанне паэзіі аказваецца заняткам небяспечным, рызыкоўным і, можа, нават пакутлівым. Але пры ўсім гэтым – патрэбным і выратавальным.

Чытач у размове з лірычным героем кнігі “Жменя пяску” павінен паднесціся да метафізічнага ў сабе. Інакш не выстаіш перад агрэсіяй “спадароў хтанічнага жыцця”. Толькі ў такім высокім палёце душы можна адчуць незгасальнасць Боскага тварэння, перадаць людзям пульсуючую ў зборніку думку пра тое, што шчасце чалавечае – гэта адзінства паўсядзённай руціны з субстанцыяй, першасутнасцю ў сабе, у яднанні асобы з тою жменяю пяску, з якой чалавек паўстае і ў якую ператвараецца.

У час, калі губляюцца цывілізацыйныя арыенціры, паэзія, якая ідзе ад арыенціру адвечнага (а менавіта такую мы сустракаем у кнізе Яна Чыквіна), набывае статус слова адзіна патрэбнага. Вядома: паэтычны радок павінен супадаць з сённяшнім настроем Боскай прамовы да нас. Кніга “Жменя пяску” з гэтым настроем, безумоўна, супадае. Да такой высновы прыходзіць эмпірычны розум даследчыка, падтрыманы згаданай вышэй трохадзінай літаратуразнаўчай эмпатыяй, якая будуецца на суперажывальнай сустрэчы “прадаўтара”, аўтара і чытача. Кожны, каму пашчасціць пазнаёміцца з кнігай “Жменя пяску”, адчуе невыпадковасць і наканаванасць такога знаёмства. А адчуўшы, зразумее, што ён, чытач, не самотны ў сваім супрацьстаянні пякельным ідалам сучаснай невыкрутнасці чалавечай. Выйсце – ёсць! Трэба толькі навучыцца ўсяму таму, чаму ў стане навучыць нас найзвычайнейшая жменя пяску. Урок ужо ідзе. Яго распачаў паэт Ян Чыквін. Паслухаем жа прамаўляючага! Праз яго словы звяртаецца да нас Вышняя Спадзева.

Юрый ПАТАЛКОЎ

# Спавяданне роднасці

Юрый Баена, **Бераг надзеі,**
*Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", Беласток 2009*

За літаратурнай творчасцю Юрыя Баены сачу даўно, бо вельмі мне даспадобы яго паэтычныя радкі, вершы, кнігі. У іх ёсць усё: і зямля, і свет, і дрэвы, і кветкі, і людзі. Ды і дыханне яго паэтычнага слова не губляецца ў кагорце беларускіх паэтаў Польшчы. Наадварот, паэт дасягнуў мастацкай сталасці і спеласці, філасофскай навізны і сапраўднага творчага ўзросту. А эпіграфам да яго паэзіі могуць быць радкі:

*Веру — жывым перадай.*
*Веру жывую — пакінь!*

Гэтыя радкі да эпіграфа я ўзяў з новага паэтычнага зборніка "Бераг надзеі" Юрыя Баены, куды ўвайшло ўсё лепшае, напісанае паэтам за 52 гады яго жыцця і за 18 гадоў творчасці (улічваючы час, калі выйшаў першы зборнік вершаў "Лісты блакітных успамінаў"). Але верыцца, што самае найлепшае яшчэ напішацца.

"Бераг надзеі", які я ўважліва прачытаў, пакідае прывабнае, свежае, хоць крыху і супярэчлівае ўражанне. Кніжку амаль цалкам складаюць свабодныя вершы (верлібры). Жанр гэты ўжо досыць абжыты ў нашай паэзіі. І ўсё ж па -ранейшаму як бы малады, вуглаваты, ёмісты ў важкай хадзе. З намёкам на шматсказальнасць, філасафічнасць, што выступаюць як бы "пробным каменем" нашай паэтыкі. У маёй памяці яны высякаюць адмысловыя іскры ("крэмень аб крэмень"), роднасныя падабенствы з творча-узорнага скарбу Максіма Танка ("Шыбы старой камяніцы"), Сяргея Дзяргая ("Сляза заўсёды горкая") і іншыя. Раўняцца ёсць на каго. Хоць самае адказнае раўненне — гэта на самога сябе, на свой вопыт і важкі змест, што просіцца з жыцця ў верш, у змест, прапушчаны праз сэрца.

У зборніку Юрыя Баены невыпадкова: сэрца, душа – паняцці кроўна-набліжаныя. Радкі праграмнага верлібра адразу настройваюць на лад сур'ёзны, узвышана-спавядальны:

*З глыбіні адкрытай душы*
*Неспакой струменіцца.*

І далей – мовіцца важка: "гусцеюць словы", яны – нібы "раны-маршчыны"... З першых радкоў уражвае менавіта разгорнуты вобраз размовы са сваім вершам. Размова аб самым жыццёва-істотным, рэчыўным і запа-

ветным:

*Берагам надзеі іду,*
*Дзе зямля,*
*Вада і паветра.*

Паэтызацыя – як бы ў духу рэчыўнага пералічэння танкаўскага верлібра. І была ж просьба-перасцярога. Мальба і варажбітная замова, прамоўленая ў бяссонную ноч. Заклінанне. Ідуць важкія пералічэнні паняццяў, нібы рэальных рэчаў:

*Ад голаду,*
*Ад холаду,*
*Ад агню і ветру,*
*Ад бяздушша свету —*
*Засцерагай мяне, верш...*

Аднак, калі зазірнуць у некаторыя іншыя вершы, то няцяжка заўважыць, што ў гэты ж падмагучны ход размовы ў часе яе, як бы далейшага працягу, сям-там нечакана ўрываецца агульна-вяшчальнае, досыць вядомае: “Верш мой – споведзь душы”. Ужо залітаратурызаванае. Падобныя дэкларацыі павісаюць у бязважкасці, калі іх не пацвярджае сапраўды асабіста пера-жытае (“з глыбіні адкрытай душы”!). Або і ў тых выпадках, калі дэкла-ратыўная ўяўная гучнасць збіваецца на загадкавую шматзначнасць. Як скажам: “Паэзія – кроў маёй душы”! Зрэшты, аўтар гэтага выслоўя, што падобнае на самаатэстацыю, ведае, дзе жывая кроў яго паэзіі:

*Таму на тваю*
*Дапамогу разлічваю —*
*Сэрца!*

Разбіўка красамоўная. Але ж яно, сэрца, назыўное і бясконца паўторанае, пачынае траціць паўнату пачуццёвай каштоўнасці. Даверу. І ў вершы ўжо не радуе моц паэтызацыі.

У Юрыя Баены рэдка які вобраз абыходзіцца без гэтага ўлюбёнага слоўца (вершы “Сэрца”, “Словы мае...” і іншыя). Сярод іх, падобных “сардэчных” вершаў, нельга не разгледзець істотна-значныя радкі, якія паслужылі пачаткам і канцоўкай запамінальнага верлібра:

*Край мой — крык дзікай ружы.*
*Спадчына — боль майго сэрца.*

Пераклічка з вядомым вершам Уладзіміра Дубоўкі відавочная: “Беларусь – мая шыпшына”. Тая ж дзікая ружа. І яе крык у Юрыя Баены выкліканы

менавіта лёсам спадчыны (“боль майго сэрца”). Гэты крык не менш балючы, чым беды-трывогі, прароча разгаданыя Уладзімірам Дубоўкам, пра “вецер дзікі” Чарнобыля. Эпітэт “дзікі” – як асацыятыўная пераклічка двух нашых паэтаў – старэйшыны і паэта маладога пакалення.

*Сярод руін*
*Шукаю жывых і мёртвых,*
*Збіраю абломкі памяці.*

Усё перакрыжавалася: Спадчына, Чарнобыль. “Лёс такі?”. Пытанне амаль роспачнае.

*Праз імглу*
*Вобмацкам іду*
*Да роднага дому.*

Верлібр Юркі Баены, нягледзячы на наследаванне, не губляе самастойнасці. Ён – адзін з лепшых у набытку паэта. Радкі – суцэльная асацыяцыя. Трэба сказаць, што тут, як і ў многіх вершах паэта, акрэслілася з добрым плёнам ужо сталая рыса яго ўмоўна-асацыятыўнага мыслення, якое надзвычай характэрнае для свабоднага верша.

*Цёмная рака*
*З пакалення ў пакаленне плыве.*
*Выбірае пясок з-пад ног,*
*Падмывае бераг.*
*Час правальваецца…*

На вачах глыбее, напаўняецца трывожным зместам вобраз, які даў назву кніжцы паэта “Бераг надзеі”. Цяжка ўтрываліцца надзеі на падмытым беразе і правальваецца час!

Юрка Баена арганічна валодае асацыятыўнасцю вобразнага мыслення. Без гэтага дару многія верлібры не дабіралі б ёмістасці зместу, філасафічнасці (“Я – камень”, “Справядлівасць спазняецца”, “Маяк”, “Паміж зямлёй і небам” і іншыя).

Таямніца асацыятыўнасці запрашае чытача роздумна прыпыніцца, прыпасці ўважна да радкоў, шукаць разгадкі, заглыбіцца ў разгалінаванне шматзначнасці. Не ўсё, вядома, паддаецца сэнсаванаму прачытанню, знойдзенай адпаведнасці з уласна перачытаным, дадатковаму акрыленню таямніцы закладзенага сэнсу ў глыбінях вобраза. Здараюцца, на жаль, і відавочныя выдаткі, калі радкі, не сцэментаваныя скразной думкай, запісваюцца штучнай разбіўкай, разрыхлена, а то і ў празаічнай манеры, у выглядзе асобных сентэнцый, далёкіх ад дыхання паэзіі, як напрыклад,

гэтыя радкі: *Многае зямное адбываецца//Па-за нашым прадбачаннем,//Без ніякай патрэбы//І без дазволу і г.д.*

Кампенсуе тое, што ў паэзіі Юрыя Баены з прыемнасцю ўсё ж выяўляецца душа паэта-лірыка, улюбёнага ў Бацькаўшчыну, у родную мову. Вершы ўражваюць спавяданнем роднасці. Не губляючы сваёй мудрай сузіральнасці, зліцця з усім светам, яны дыхаюць унутранай адухоўленасцю:

*Калі памяць твая*
*жыве,*
*Калі кліч Айчыны*
*нясеш!*

Часам можа здзівіць роднаснасць светаадчування як бы розных па прыродзе таленту паэтаў. Напрыклад, верлібр "Трава" выклікае прыемнасць пераклічкі, па сваім як бы наіве вытанчанага лірычнага дапушчэння, якое знаходзім у дзівоснай паэтызацыі танкаўскага сужыцця і адзінства з жывой прыродай. Гэта рэдка, калі ў сэрцы паэта прырода здолее так загняздзіцца, што наіў задзіночання перарастае ў сапраўдную паэзію. Тое ж сталася і ў вырашэнні задумы свабоднага верша Юрыя Баены "Трава", у якім таксама ёсць бясспрэчнае наследаванне Максіму Танку. Гэта яго вытанчанасць успрыняцця прыроды здольная на паэтызацыю запытання: чаму лятаюць птушкі? Аказваецца, ім проста балюча таптаць "вочы лотаці", нечапаную раскошу вясновага красавання траў. Наіў далёкі ад наіўнасці, калі ў ім дыхае паэзія. Гэтаксама зажадалася і Юрыю Баену прымерыць сваю задуму верлібра на жывую адчувальнасць травы ў квецені, на якую ажно боязна ступаць. А ў жыцці аўтару даводзіцца ці не раз і самому стацца патаптанай травой з падобным лёсам.

Цікава, што поруч з "Травою" сэнсава блізкая і задума верлібра "Камень". А яму, каменю з бруку, ці лёгка "голасна" маўчаць?

*Мажліва, што і я*
*буду маўчаць, як камень,*
*калі стануць таптаць*
*мяне, як брук.*

Повязь асацыяцый аналагічная. Просяцца на спасылкі адметныя радкі верлібраў — іх мноства, якія маюць годнасць выслоўяў, знешне шурпатых, як бы не абчасаных, і тым не менш запамінальных, ударна-выбуховых сваёй спрасаванасцю сэнсу. Асацыятыўная вобразнасць як бы кампенсуе іх недастатковую рытмічную арганізаванасць ("Свежым бунтам бінтуйце думкі…", "Мой унутраны голас — гэта крык белых сцен…"). Аднак мне больш даспадобы не знешняя замысловатасць, калі яе аж занадта. А спавяданне роднасці і нават зусім апраўданага болю:

*Паэзія – жменька матчыных слоў*
*у дні пагарды і здрады…*

Аўтару выбраных вершаў, пераважна верлібраў, вельмі няпроста знаходзіць іх унутраную рухомую моц, іх мабільнасць, якая непаслабна трымала б думку ў напружанні. Паэт ці не зачаста выбірае простую форму руху свайго героя (“Іду да вас”, “Хаджу ад вакна да вакна, ад дзвярэй да дзвярэй”, “Папацёмку ідзём”, “Бягу туды”). Імітацыя руху стварае толькі знешні антураж. Калі, па прызнанні аўтара, “няма патрэбы ісці за далягляд сэрца”.

Сутнасць удумнай сцішанасці і лірызму мне бачыцца ў трохі іншай іпастасі, у глыбокай спавядальнасці і мальбе, нават у драматызме сутыкнення радкоў аднаго і таго ж верлібра (“Вачыма радкоў у даль бягу…”), а менавіта:

*Найвышэй падымаюся,*
*калі на каленях стаю…*

Кніга Юрыя Баены “Бераг надзеі” – кніга філасофіі жыцця, чалавечая смага лепшай радасці і высокай раскошы шчасцем. Сама душа (не як метафара, а як паняцце метафізічнае) для паэта – скарб, матчын дар. Любоў да маці, да Айчыны, да зямлі, да людзей – старонка беларуская, якой шчыра прысягае аўтар на вернасць сваімі вершамі, сваім чулліва-шчырым “Берагам надзеі”.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Паміж самотай і дажджом

Юрка Буйнюк. **Самота дажджу,**
*Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, Беласток 2009*

*Я*, маё, ува мне, вакол мяне – гэтак мінімальна звужае і адначасна імкнецца пашырыць, паглыбіць межы свайго паэтычнага свету малады беластоцкі творца Юрка Буйнюк. У анатацыі да яго другой кнігі “Самота дажджу” рэдактар Галіна Тварановіч выразна патлумачыла сутнасць гэтага працэсу, зазначыўшы, што аўтар, “верны бацькоўскай духоўнай спадчыне, паслядоўна развівае экзістэнцыяльную тэму чалавечага лёсу, надалей засяроджваецца на ўнутраных праблемах уражлівай асобы, якая імкнецца абараніць сваю аўтаномію, нацыянальную тоеснасць перад разбуральным

уздзеяннем кантрастнай і часам непрыязнай да чалавека рэчаіснасці” [2, с. 49]. Так, “лінія лёсу маладога паэта Юркі Буйнюка толькі вымалёўваецца” [1, с. 81], але асноўныя арыенціры гэтага творчага працэсу-вымалёўвання ўжо вызначаныя: ад сябе, ад свайго асабістага, інтымнага, да свайго (роднага, нацыянальнага, спрадвечнага), і далей – да высокіх ісцін, якімі ёсць вера, сіла, праўда.

Кніга складаецца з трох раздзелаў, якія якраз і вызначаюць тры асноўныя спосабы існавання і суіснавання ў свеце: я і маё, я і ты, я і тыя, хто перада мною ці побач са мною. Таму ў першым раздзеле найбольш выразна гучыць матыў адзіноты, смутку, у другім – пераадоленне яго праз каханне, у трэцім – выхад да шырэйшых шляхоў-даляглядаў.

У кожнай з дзвюх строфаў зачыннага верша – вобразы, што маюць сваёй асновай цяпло, агонь. Гэта сэрца і свяча. Ад агню сэрца і загараецца другое сэрца – свяча, і яны ажываюць у адзінай веры, здольныя замяняць адно другога: у самотнай святыні свеціць не свяча, а сэрца:

*адзінокае сэрца*
*напаўняецца бальзамам веры*
*вячэрнім артасам ачышчэння душы*
*свеціць яснай надзеяй у самотнай святыні* [2, с. 7].

У вершы “Каханне паэтаў” Юрка Буйнюк “даследуе” адметнасць гэтага высокага пачуцця ў тых, хто далучаны да Неба праз талент бачыць і адчуваць, прамаўляць, каму падуладнае Слова. Каханне здольна ўзносіць іх да неба, але адтуль абавязкова вяртаць да зямлі, бо толькі тут – аснова, на якой узрастае ўсё. Таму і будуе аўтар вобразы на спалучэнні з’яваў прадметнага, зямнога і пачуццёвага, узвышанага:

*каханне паэтаў –*
*агароды надзеі*
*дажджы ўраджайныя*
*верасы ўчарашніх дзён*
*паляны ўспамінаў* [2, с. 8].

Кампазіцыйная адметнасць многіх вершаў – няроўнавялікія дзве страфы, што гучаць то гарманічным дуэтам (“Каханне паэтаў”), то працягам -дапаўненнем (“Лістападаўскі дождж”), то дысанансам (“Фенікс”).

У аснове верша “Турэмшчык адзіноты”, які ёсць сэнсавым цэнтрам, кульмінацыяй экзістэнцыяльнай тэмы, – пачуццёвая “градацыя”, на вяршыні якой – каханне. Гэта крэскі-пазнакі шляху, якім ідзе чалавек у няпростым пошуку выйсця з адзіноты, уведаўшы, аднак, праз няпросты жыццёвы досвед, што такога шляху няма, што марна шукаць кахання: яно няздзейсненае, свабоды: яе крылы *даўно паламаныя*, і ўсё гэта пакідае балючыя

раны:

*Кожная дробная хвіліна адкрытай ранай*
*За наіўнасць*
*За цікавасць*
*За дабрыню сэрца*
*За вернасць*
*За зразуменне*
*За адданасць*
*За чаканне*
*За каханне* [2, с. 11].

У вершы “Мая самота запісана…” лірычны герой імкнецца знайсці прычыну болю, самоты, аглянуўшыся навокал. Адна з такіх, знойдзеных у блізкім свеце, прычынаў, – лёгкая адмова маладога пакалення ад веры дзядоў:

*Праваслаўнае дзявочае пакаленне*
*Пакідае святыя сцены малітвы*
*Для халодных муроў схізматычнай готыкі*

*Іх сэрцы запісаны дзейнай лацінкай* [2, с. 12].

У апошнім радку гучыць паэтычны перазоў з, не пабаімся гэтага слова, знакамітым матывам з лірыкі паэта з Бельску Юрыя Баены. Паэтычная апазіцыя да таго, што бяздумна прынята *праваслаўным дзявочым пакаленнем*, вырвалася з сэрца героя Юрыя Баены, хваляй адбілася ў вершы Юркі Буйнюка, бо гэта і ягонае:

*Мой твар запісаны кірыліцай* [3, с. 11].

А шлях адмовы доўжыцца, захапляючы ўсё новыя тэрыторыі, пашыраючы кола неўсвядомленай здрады: адмова ад роднага карэння, ад пошуку тых духоўных лабірынтаў, да чаго заўсёды схіляла наша класіка (у Юркі Буйнюка гэты вобраз трансфармаваны ў “катакомбы”):

*Гіне святы вобраз катакомбаў*
*Нашай падляшскай спадчыны*
*Паміраем падрэзваючы самі сабе карані* [2, с. 13].

Арыгінальны паэтычны партрэт ідэальнай асобы ў вершы “Мае вочы…” намаляваны аўтарам праз вызначэнне асноўных функцый вачэй, вуснаў, рук. Неабходна зважаць на тое, што ідэальныя памкненні могуць быць ажыццёўлены толькі ў ідэальным свеце, дзе існуе выключна найпрыгажэйшае, найсаладзейшае, найдабрэйшае і дзе няма пачварнага, горкага, гідкага. Але і

свету такога – няма. Тры страфы, якія кампазіцыйна маглі б паўтараць адна адну, аднак жа шторазу розняцца праз перанос дзеяслова *створаны*, праз розную выбудову радка, праз тое, што ў кожнай страфе бачыцца галоўным. Чалавек і ўсё тое, праз што ён судакранаецца з светам, – гэта твор па ўзору, найдасканалейшаму вобразу і падабенству, таму ён і мае права заяўляць пра імкненне да дасканалага:

*мае вочы*
*створаны каб бачыць*
*найпрыгажэйшае*

*мае вусны*
*створаны*
*каб цалаваць найсаладзейшае*

*мае далоні створаны*
*каб дакранаць*
*найдалікатнейшае* [2, с. 16].

Калі б паэт захацеў даць назвы тром раздзелам сваёй кнігі, то другі, відавочна, меў бы назву "Табе".

Ты – гэты вобраз паўстае ў вершах Юркі Буйнюка ў розных іпастасях. Гэта вясковая дзяўчына, занесеная лёсам на гарадскі брук. У вершы, які так і называецца – "Вясковая дзяўчына", воблік гераіні, яе пачуцці адлюстраваны праз фларыстычны матыў, калі яна параўноўваецца то з дзікай ружай (*Ты – дзікая ружа, // Прабіваешся праз гарадскі тратуар да сонца*), то з блакітным васільком, які прыўносіць у *вазон горада* свежасць фарбаў і абрысаў, але больш арганічна, натуральна ўспрымаўся б у родным асяроддзі, між залатой нівы:

*На блакіце пагодлівага неба тваіх вачэй*
*Плывуць аблокі шчырых васількоў,*
*Сарваных з поля маладосці*
*І пастаўленых у вазон горада* [2, с. 25].

У вершы "Жанчына" гераіня малюецца ў розных вобліках: гэта і егіпецкая жрыца, і грэчаская багіня, і *калыска сялянскай прыроды*.

Праз усю кнігу назіраем за імкненнем героя да прыгожага, гарманічнага. Так, у вершы, які можна назваць "Частаванне", бо ў аснове лірычнага сюжэта якраз і ёсць незвычайнае частаванне, што здольны прапанаваць паэт *ёй* у прыгожым часе (чэрвеньскім вечарам), калі адбываюцца прыгожыя дзеі (чытаюцца вершы), якія выклікаюць прыгожы водгук (гарадь вочы):

*чароўна чэрвеньскім вечарам*
*чытаць зачараваныя вершы*
*у задуменні гараць дзявочыя вочы*
*чарада дум рачных*
*чыстых ручнікоў*
*зачараваных вачэй*

*частуйся маімі лірычнымі радкамі* [2, с. 16].

Адзначым адметнасць гукапіснага малюнка, у якім дамінуюць насычаны, густы *ч* і дрыготкі *р*, што плаўна саступаюць далікатным *в* і *л*. Праз гукапіс падкрэсліваецца непаўторны чар і светлае хваляванне, што пануюць у душы героя.

Верш "Твае вочы" – яшчэ адна сучасная Песня Песняў, у якой жанчына ўзнятая да нябёс сілай кахання, што засланяе ўсё і ўяўляецца неразгаданай таямніцай. І няхай гэтае параўнанне (вочы–зоры) сустракаецца мноства разоў у літаратурных творах, у вершы Юркі Буйнюка яно прагучала адметна, свежа:

*Твае вочы,*
*як дзве зоркі серабрыстыя*
*на начным небе рассыпаныя,*
*гараць таемнай усмешкай* [2, с.25].

У позірку вачэй-зораў бачыцца герою адвечная загадка жаночай усмешкі, што праменіцца з вачэй Моны Лізы. У вобразе гераіні, створанай беластоцкім паэтам, гэта яшчэ і закляцце:

*А ты маўчыш – ва ўсмешцы вачэй заклята*
*ўся, неразгаданая і незразумелая,*
*як воля жаночая* [2, с.25].

Адметна прагучаў матыў прадзіва, ткацтва ў вершы-мініяцюры Юркі Буйнюка "Круціцца калаўротак лёсу…". Праз гэты матыў беларускія паэты традыцыйна ўвасабляюць чалавечы лёс. Увесь працэс прадзіва, ткацтва ў вершы апрадмечаны, рэчы (калаўротак, нітка, палатно, кросны, матэрыял) далучаюцца да трансцэндэнтных паняццяў: лёс, жыццё, шчасце з мэтай выказаць вечнае памкненне чалавека ведаць тое, што ведаць не дадзена: якім будзе жыццё, ці будзе ў ім месца шчасцю, ці доўгім будзе шлях:

*Круціцца калаўротак лёсу*
*бяссільны чалавек каб ведаць*
*як доўгая нітка жыцця*

*якое будзе палатно шчасця*
*калі кросны закончаць работу*
*ці матэрыялператрывае час* [2, с. 30].

У трэцім раздзеле найбольш поўна выявілася “спроба вызначыць сябе, свайго героя ў гістарычным часе – не тое, каб у пэўныя, храналагічна вызначаныя моманты, але ў пэўны гістарычны перыяд – са сваімі сацыяльна -эканамічнымі тэндэнцыямі, свядомасцю, мастацкай свядомасцю, культуровымі адзнакамі” [1, с. 80]. Найбольш удалыя вершы тут – “Стары паэта” і “Спадчына”. У першым вобраз творцы спалучае ў сабе рысы Багдановічавых летапісца і песняра. Відавочна алюзія да зместу апавядання “Аб іконніку і залатару”:

*быццам каваль –*
*акоўвае форму свечніка*
*запальвае свячу праўды*
*якая пакажа дарогу пакаленням*
*да дзвярэй вечнасці* [2, с. 33].

Верш “Спадчына” кранае асабліва, бо традыцыйныя вобразы папярэднікаў: дзед, бабуля, бацька, маці, набываюць абагульнены змест. Яны – носьбіты спрадвечнай беларускай ментальнасці, ладу жыцця і іх спадчына прыкладна аднолькавая для ўсіх, хто ўзгадаваны ў вясковым асяроддзі. Месца творцы ў гэтым працэсе відавочнае, наканаванае: *А я мабыць пакіну // Гэты верш-эпітафію…*

Што да вершаў “Псеўдагероі”, “Сцяг на ветры”, то яны не сталі творчай удачай паэта з-за празмернай пафаснасці, дыдактычнасці, публіцыстычнасці. Наогул, яны дысанансам гучаць у гэтай лірычнай кнізе.

Асобнае месца адведзена ў кнізе вобразу дажджу. Стварыць храм, каб схавацца ад дажджу, і ўвайсці ў дождж, як у храм, каб ачысціць душу – такім бачыцца шлях героя.

Скразны вобраз дажджу факусіруе, збірае ў адно іншыя вобразы, то паўстаючы ў цэнтры твора, то мільгаючы ў сэнсавым шэрагу як адна з магчымых іпастасяў яго – для яе:

*Кім я табе?*
*Сонцам,*
*Ветрам,*
*Даждом,*
*Недапісаным вершам*
*Ці празрыстым паветрам?* [2, с. 25]

Паэтычная імпрэсія “Лістападаўскі дождж” уводзіць чытача ў незвычай-

ны свет, дзе гучыць музыка, у ролі выканаўцы якой выступае суладнае трыо: дождж, вецер, самота. Над усёй сцэнай пануе пачуццё бязмежнага смутку:

*слязьмі плача лістападаўскі дождж*
*пальцамі струменяў вады*
*іграе піяніст-вецер*
*свой мінор у сваім сэрцы*
*выводзіць настальгічная самота* [2, с. 10]

Ва ўсёй кнізе не знойдзем ні іскрынкі гумару, аўтару характэрна празмерная засяроджанасць на экзістэнцыяльных праблемах, што часам здольна прывесці не да самапаглыблення, а да самакапання, да паўтарэння руху па бясконцым коле самоты, пакутаў. Жыць паміж самотай і дажджом – ці такім чынам не ўзнікае небяспека абмежавання сябе? Застаючыся ў адной плоскасці, цяжка знайсці іншыя шляхі. А дождж усё ж змяняецца сонцам і не заўсёды выстуквае толькі мінорную мелодыю.

Вершы Юркі Буйнюка – гэта адпушчаныя ў вырай, да чыйгосьці сэрца, думкі-мроі ці іх водгулле, не сцэментаваныя рыфмай, не падраўняныя, адно далікатна звязаныя рытмам пачуцццяя. Ствараецца ўражанне, што яны нязмушана кладуцца на ліст паперы або, адпаведна назве, стукаюць кроплямі дажджу ў чыёсьці вакно, каб там, за шыбамі, іх пачулі, прынялі.


1. А. Сямёнава, *Спроба адчуць духоўную рэальнасць неадчутага // Шлях па прамой часу. Да гісторыі беларускай літаратуры Польшчы 1958 – 2008 гг.* / Пад рэд. Я. Чыквіна. – Беласток, 2007. – С. 73–94.
2. Ю. Буйнюк. *Самота дажджу*. – Беласток, 2009. – С. 49.
3. Ю. Баена, *Крык дзікай ружы* – Беласток, 2003. – 50 с.


Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

# АнаТацыі

**Сакрат Яновіч, *Хатняе стагоддзе,***
Villa Sokrates, Krynki 2008

Кніга “Хатняе стагоддзе Сакрата Яновіча (як і “Запісы веку”, 1999) сваёй назваю імкнецца ўхапіць падзеі, якія адбываліся на працягу значнага, як бы завершанага этапу гісторыі – ста гадоў: недзе ад пачатку XX ст. да нашых дзён. Праз прызму сям’і сваіх бацькоў, людзей простых, іх біяграфіяў, а таксама аселянелага маламестачковага асяроддзя аўтар у этнаграфічных дэкарацыях таго свету і часу стварае ўражлівыя замалёўкі побыту сацыяльных нізоў, з іх ментальнасцю, ладам жыцця, іхняй шкалой іх жа маральных ды эстэтычных патрэб і каштоўнасцей. Гэтым кніга цікавая і, пэўна ж, застанецца своеасаблівым і важкім дакументам гісторыі крынкаўчан.

***Запіскі янычара. Хроніка аб турэцкіх справах Канстанціна, сына Міхайла Канстанцінавіча, серба з Астровіцы, які быў узяты туркамі ў янычары.***
Пад рэдакцыяй Яна Чыквіна,
Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku,
Беласток 2008

Упершыню надрукаваны на беларускай мове адзін з найцікавых празаічных твораў славянскай пісьменнасці канца XV – пачатку XVI стст. Аўтар яго, серб Канстанцін Міхайловіч, пасля шматгадовай прымусовай службы янычарам у туркаў, патрапіў у Вялікае княства Літоўскае, на заходнія землі яго, магчыма, у шматвяковы і слаўны па тым часе Бельск. Аўтар прадмовы праф. Галіна Твардановіч развівае гіпотэзу, што менавіта тут і была напісана *Хроніка.* Серб з Астровіцы імкнуўся прыцягнуць сваім творам увагу моцных свету гэтага да бядотнага стану славянскіх Балканаў. “Запіскі янычара” захаваліся ў старапольскай і старачэшскай рэдакцыях, якія хутчэй за ўсё з’яўляюцца перакладам з кірылічнага арыгіналу. Пераклад на сучасную беларускую мову зроблены Янам Чыквіным і Галінай Твардановіч.

**Міра Лукша, *Гісторыі з белага свету,***
Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа”,
Беласток 2008

Зборнік “гісторый” складаюць 40 кароткіх (у сярэднім па дзве старонкі) абразкоў, замалёвак, рэфлексій, “копій” з натуры сацыяльнага жыцця і акасцянелага прастамоўя, калажаў, маргіналіяў, кавярняных нівалёнгаў, бутафорскіх мізансцэнаў ды іншых жанравых журналісцка-паэтычна-празаічных мадуляцый. У іх тым не менш імгненна люстрацца складаныя сучасныя праблемы простых людзей “белага свету” у іх самаперажываннях. Значэнне ўсіх малюнкаў кнігі затрымліваецца на ўзроўні самой іх вобразнасці, як у шматлікіх жывапісных карцінах Лявона Тарасэвіча.

**Дзмітрый Шатыловіч, *Гронкі надзеі*,**
Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа”, Беласток 2008
**Дзмітрый Шатыловіч, *Ліхтар уражанняў*,**
Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа”, Беласток 2008

Дзмітрый Шатыловіч выклікаў, як ніводзін “белавежац”, асабліва вялікую цікаўнасць у чытачоў сваімі рэфлексіямі з экзатычных падарожжаў (у гэтай тэматыцы ён шмат чым падобны да Рыгора Крушыны і яго лірычных захапленняў чужой культурай). Вершы, якія ўвайшлі ў яго два новыя зборнікі, прадаўжаюць іншую, грамадзянскую лінію паэта, у якой выяўляюцца адносіны да краёва-злабадзённай рэчаіснасці, а прытым шчырыя аўтарскія сацыяльна-нацыянальныя сімпатыі, ідэалы ды надзеі.

**Віктар Швед, *Смяшынкі,***
Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа”, Orthdruk,
Беласток 2009

“Смяшынкі” – кніга для дзяцей. Яна працягвае тую “шведаўскую” тэматычную лінію, якую паэт абазначыў выразна ўжо ў першых сваіх зборніках: “Жыццёвыя сцежкі”, “Дзяцінства прыстань”, “Дружба” і якой застаўся верны да сённяшняга часу. В. Швед настойліва, сістэматычна і свядома, не зважаючы на аб’ектыўныя і суб’ектыўныя неспрыяльныя яго творчаму працэсу акалічнасці, дае наймалодшым беларусам духоўную спажыву і мацунак, безупынна ўмацоўваючы – па сваіх магчымасцях – фундамент нашай нацыянальнай свядомасці.

# ТЭРМАПІЛЫ

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji Ministra
Spraw Wewnętrznych i Administracji**

**Да ведама аўтараў**

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.

Адрас: 15-420 Białystok, Pl. Uniwersytecki 1

Skład: „Prymat” Mariusz Śliwowski, Białystok, ul. Zwycięstwa 26C lok. 7
Druk: Offset-Print, Białystok, ul. Broniewskiego 14